# Маладосць

# 12

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(721) СНЕЖАНЬ, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

## У НУМАРЫ:


З А Г А Д

ПА РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСА "М А Л А Д О С Ц Ь"

№ І

Ад І сакавіка 1953 г. г.М і н с к

§-І

Згодна рашэнню ЦК КПБ ад 24 лютага гэтага года з красавіка 1953 года у рэспубліцы будзе выдавацца штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс "Маладосць" /орган ЦК ЛКСМ Беларусі/.

Абавязкі адказнага рэдактара гэтага часопіса рашэннем бюро ЦК КПБ ускладзены на мяне, КУЛАКОЎСКАГА Аляксея Нікалаевіча.

Прыступаю да выканання сваіх абавязкаў з І-га сакавіка 1953 года.

§-2

Намеснікам адказнага рэдактара і загадчыкам аддзела літаратуры і публіцыстыкі часопіса "Маладосць" рашэннем ЦК КПБ прызначаны з І-га сакавіка 1953 г. БРЫЛЬ Іван Антонавіч.

-3

асопіса "Маладосць" рашэннем ЦК КПБ 1953 года ГРАМОВІЧ Іван Іванавіч.

ЧАСОПІСА /А.КУЛАКОЎСКІ/

*Тут змешчаны скан дакумента, які адлюстроўвае самы пачатак «Маладосці»: Аляксей Кулакоўскі прызначаецца галоўным (у першапачатковай версіі — «адказным») рэдактарам. Сёлета «М» шэсцьдзясят, Кулакоўскаму — сотка. І гэты апошні нумар за юбілейны год — найлепшая нагода ўспомніць першага. У рубрыцы «Эпісталярый» можна прачытаць некалькі лістоў, а на фота з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ўбачыць занятага раздачай аўтографаў некалі паспяховага і таму цяпер незаслужана паўзабытага пісьменніка. Калядным вечарам чытайма Кулакоўскага!*

# Калядныя чытанні

- **З якой кніжкай вы б правялі калядныя вакацыі?**
- **Хто, на вашу думку, самы зімовы пісьменнік?**
- **Які твор вы лічыце самым зімовым?**



*Алёна Беланожка:*

— Л’юіс Кэрал! Усё ж такі Каляды — час казачны, неверагодны. Таму казачнік Кэрал. Чытаць яго, каб забаўляцца, захапляцца, смяяцца!



*Андрусь Такіндамг:*

— Язэп Германовіч — самы зімовы для мяне аўтар. Ёсць у яго творы, дзеянне якіх адбываецца ў Сібіры. Мабыць, пры чытанні пра Сібір будзе здавацца, што ў нас не так халодна.



*Алёна Ланская:*

— Прафесія артыста — гэта адсутнасць вольнага часу. Але, калі выдаецца гадзінка, то я заўсёды стараюся чытаць. Не так даўно перачытала «Майстра і Маргарыту». На калядных вакацыях часу не будзе, бо працы зашмат. Але ў планах «Лаліта» Набокава.



*Іван Саверчанка:*

— Сам дзіўлюся, але ж бліжэй да Новага года цягне чытаць Кірылу Тураўскага. Яго малітвы. Я часам перакладаю іх на сучасную беларускую мову. Здаецца, ёсць нейкая сувязь паміж каляднымі днямі і духоўнымі творамі Кірылы Тураўскага.



## *Сяргей Мацін:*

— Для мяне Пушкін — вельмі зімовы аўтар, нягледзячы на тое, што большасць з яго твораў — восеньскія. Перад Калядамі хочацца цуда! Перачытваць Гогаля, Баршчэўскага. Асабліва «Шляхціц Завальня». А яшчэ Мележа. У яго сапраўды суровая, цяжкая зіма ў «Завеі. Снежань».



## *Людміла Рублеўская:*

— Самая калядная кніга для мяне — «Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага. Нічога лепш за гэта не прыдумаць: ноч, камін, Баршчэўскі, снег. Вершы таксама добра чытаюцца ў калядную ноч. Іх трэба падбіраць вельмі тонка, асцярожна. Але для мяне лепшымі заўсёды будуць вершы, якія напісаў мой муж, паэт Віктар Шніп.



## *Міхаіл Сенін,*

***выпускнік факультэта эканомікі і фінансаў Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта эканомікі, статыстыкі і інфарматыкі:***

— Хм… Гэта павінна быць нешта камфортнае, цёплае. Можа, «Шэрлак Холмс» Конан-Дойля? Значную частку апавядання яны сядзяць ля каміна і цэдзяць віскі. А пакуль чытаеш дыялогі, так і чуецца мімаволі хрыплы голас Ліванава. Атмасфера ствараецца такая, што выклікае жаданне правесці халодны зімовы вечар гэтаксама ўтульна.



## *Яна Ааб,*

***студэнтка факультэта журналістыкі Паўночна-Заходняга інстытута друку Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта тэхналогіі і дызайну:***

— Для мяне зімовая кніга — гэта «Доктар Жывага», хоць Пастарнак увогуле не такі ўжо і зімовы. Памятаю момант, калі Жывага бяжыць з партызанскага атрада. Ён бачыць дрэва рабіны, прыпарушанае снегам, і называе гэта «рабіна ў цукры». Наогул, там шмат апісанняў менавіта зімовых пейзажаў, а героі яшчэ і гурбы адкопваюць, каб цягнік праехаў… Я чытала раман некалькі гадоў таму, не ўсё дакладна памятаю, але адразу падумала менавіта пра гэты твор. Мне было нялёгка яго прачытаць. Не магу сказаць, што была ў захапленні, але цэласнае асэнсаванне прыйшло з часам.



## *Сафія Сянюшкіна,*

***студэнтка факультэта замежных моў Уладзімірскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Сталетавых:***

— Асабіста для мяне зімовым пісьменнікам з’яўляецца Хэмінгуэй. Будзь у мяне час, то ўзімку з задавальненнем перачытала б «Свята, якое заўсёды з табой». Па-першае, апісваецца восеньскі, зімовы і, здаецца, вясновы Парыж, па-другое, адлюстроўваецца марудлівае і рамантычнае жыццё пісьменніка 20-х гадоў ХХ стагоддзя. Думаю, узімку кубак кавы, мяккае крэсла і гэта кніга дапамогуць хоць на некаторы час забыцца на дрэннае надвор’е і ўзняць настрой. Бліжэй да Новага года перачытала б «Добра быць ціхоняй», асабліва той момант, калі дзеці арганізоўваюць «Таемнага Санту». Зіма часам выклікае настальгію, таму, магчыма, я перачытала б аўтарызаваную біяграфію The Beatles, кнігу Сінціі Ленанці «Мэй Пэнг». А з новага прачытала б (ці нават прачытаю) Джэка Керуака «На дарозе».



## *Дар’я Шэўчэнка,*

***студэнтка факультэта журналістыкі Паўночна-Заходняга інстытута друку Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта тэхналогіі і дызайну:***

— Джордж Оруэл, «1984». Заўсёды здавалася, што гэта вельмі халодная кніга, ад яе мурашы па скуры. Таму ў мяне яна гарманіруе з марозам за акном. Грымнуць халады — захутаюся ў плед і перачытаю. Люблю параўноўваць тое, што пісалі даўно пра будучыню, з тым, што ёсць сёння. Калі чытаю гэту кнігу, то думаю: ці надыдзе оруэлская рэальнасць, а калі надыдзе, то як хутка?



## *Таццяна Якаўлева,*

***студэнтка факультэта архітэктуры Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага архітэктурна-будаўнічага ўніверсітэта:***

— Франц Кафка, «Замак». Менавіта ён, таму што зіма асацыюецца ў мяне са сном, а «Замак» да яго падобны. Зіма, на маю думку, — гэта смерць, а я проста жадаю спаць.

***Запісалі Віялета РЫЧАГА (Мінск) і Наталля ЛЕНСКАЯ (Санкт-Пецярбург)***

*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*



# VI *

***Прысвячаецца Мінску***

Мінск, скажы праўду, што было паміж намі?

Ты выйшаў з метро, ішоў між людзей, спрабаваў злавіць хоць адно знаёмае пачуццё. Ты верыў, што ўсё яшчэ магчыма: вярнуць да жыцця тое, ад чаго ты так адмаўляўся, чым пагарджаў (вядома, толькі рабіў выгляд, што пагарджаў), але што на самай справе так моцна любіў. І чаму, мабыць, быў верны заўсёды. І вось цяпер, калі ты ўсвядоміў, што гэтага больш няма, тваё сэрца патухла, растала ў восеньскай імжы...

Мінск,
Горад у тумане,
З ахрыплым лёсам,
З іржавымі нервамі,
Адчыненым насцеж блюзам,
Горад мой, станцыйны наглядчык,
Махне ў тумане сваім сівым семафорам...
Дасць «дабро» і ты пакрысе пачнеш
шлях дадому —
І сэрца тваё, дружа мой,
патухне ў начным купэ
з in a sentimental mood[1] на дваіх...

Ты раз за разам прыязджаў у горад, блукаў па старых букіністычных крамках, па выставачных залах, скверах і парках... Потым знаходзіў сябе ў пустых кінатэатрах на фільмах, якіх не бачыў, таму што пазіраў скрозь экран. Ты заходзіў у піцэрыю, замаўляў сабе падвойную каву… Купляў «Галуаз», вінілавыя («фірменныя») дыскі з Дэйвам Брубэкам, Соні Ролінсам, Лестэрам Янгам[2]... Адкрываў маленькі томік Поля Элюара... Даставаў свой пісьменніцкі нататнік...

На жаль, ніштo цябе ўжо не цешыла. Спектакль быў скончаны, і ты разумеў, што працягваеш выконваць сваю ролю ў пустой зале. Нават не так. Ты вярнуўся іграць, спазніўшыся на 15—20 гадоў. Усе ўжо даўно разышліся, ды і тэатр ужо ў іншым месцы; а цяпер тут ужо не тэатр, а рэстаран; і не сцэна, а нейкая посудамыйная. А ты не хацеў у гэта верыць, чагосьці шукаў, на нешта спадзяваўся. Крыўдзіўся на тое, што ніхто не хоча зразумець цябе. Але што тут разумець? Ты спазніўся, хлопец. Твой час сышоў. Ты

* *Працяг. Пачатак у № 6, 7, 8, 9, 11 за 2013 г.*

[1] «У сентыментальным настроі» (англ.) — вядомая джазавая вакальна-інструментальная тэма.

[2] Усе гэтыя музыкі — адны з лепшых прадстаўнікоў джазавага стыля «cool» (прахалодны).

занадта позна зразумеў, што ўсе «высокія катэгорыі» з'яўляюцца толькі прыкрыццём, звычайным ашуканствам, своеасаблівым якарам, які чалавек кідае ў вобласць духу, каб не звар'яцець. Усе твае сябры былі падобнымі да страусаў, што пагрузіліся з галавой у сваю творчасць, між тым як сапраўднае жыццё заключаецца не ў пяску. Пясок сыплецца між пальцаў, плынь пяску — сімвал часу. Але час — самы несумленны ігрок, бо заўсёды здраджвае.

Ты занадта позна зразумеў, хто аўтар гэтай драмы. Драмы, якая пішацца ўсё жыццё і апошняя кропка якой стане апошнім цвікам, убітым у вечка тваёй труны; апошняй жменькай зямлі на тваю магілу; апошнім сном пра цябе той адзінай, хто, магчыма, любіў цябе ў тую далёкую зіму дваццаць год таму... Можна тысячу разоў заяўляць, што свет творчасці больш рэальны для мастака, чым само жыццё, але ўсе сны калі-небудзь канчаюцца, мары вычэрпваюцца, любімыя старэюць, а сябры паміраюць... І скончыцца ўсё, як звычайна: аўтабіяграфічным раманам «Люстэрка». Альбо «Люстэрка для героя». Альбо «Каралеўства крывых люстэркаў». Час пераважыве ўсіх. Час нас пераможа.

Ты адчайна спрабаваў злавіць цень шчасця, спрабаваў урваць адзінае імгненне гэтай шчаснай ілюзіі: «I'd like to have another kiss, another flashing chance at bliss…»[1] Ты прачынаўся і разумеў, што зайшоў занадта далёка: ты бачыў сябе сярод гіганцкай сметніцы

***А ты не хацеў у гэта верыць,***
***чагосьці шукаў, на нешта спадзяваўся.***
***Крыўдзіўся на тое,***
***што ніхто не хоча зразумець цябе.***
***Але што тут разумець?***
***Ты спазніўся, хлопец***

***Можна тысячу разоў заяўляць,***
***што свет творчасці больш рэальны для***
***мастака, чым само жыццё,***
***але ўсе сны калі-небудзь канчаюцца,***
***мары вычэрпваюцца,***
***любімыя старэюць,***
***а сябры паміраюць...***
***І скончыцца ўсё, як звычайна:***
***аўтабіяграфічным раманам***
***«Люстэрка»***

ўспамінаў. Прыходзіў сябра, угаворваў спыніцца, намякаў на тое, як агідна смярдзіш ты ад гэтых начных шпацыраў па сметніках... Урэшце, вы ставілі адзін з фільмаў ці то Олівера Стоўна, ці то Копалы і засыналі за сталом.

Назаўтра ты спускаўся да туманнай Свіслачы, кідаў у ваду абрыўкі ўспамінаў, а яны дробнымі каменьчыкамі танчылі на мутнай вадзе... Колькім рэкам, колькім дарогам ты прызнаваўся ў каханні!.. «How many roads must a man walk down, before you call him a man?»[2] Усе яны ў выніку станавіліся адным вялікім шляхам у нікуды. «The answer my friend is blowin in the wind…»[3]

Ты хацеў неяк вырвацца з гэтага рабства, але не мог прыдумаць назвы новаму жыццю.

Ты сядаў у аўтобус, спрабаваў з'ехаць у іншы горад, але там было непараўнальна горш і прыходзілася вяртацца. Ты спрабаваў вярнуцца. Але гэтая здрада легла на тваё сэрца і цяпер усё, што б ты ні зрабіў, назаўжды будзе цурчэць у грудзях ранкай здрады... Ты адчуваў, што Мінск табе не даравае усе твае дурныя фантазіі, усе тыя недарэчныя строі, у якія ты час ад часу прыбіраў яго: то ў Берлін 30-х, то ў Парыж 50-х, то ў Сан-Францыска 60-х, то ў Піцер 70-х...

[1] «Я хацеў атрымаць яшчэ адзін пацалунак — яшчэ адзін міргаючы шанец на шчасце» (англ. — Джым Морысан «The Crystal Ship»).

[2] «Колькі дарог павінен прайсці чалавек, каб можна было назваць яго чалавекам?» (англ. — Боб Дзілан «Blowin in the Wind»).

[3] «Адказ, сябра мой, павіс у ветры» (англ. — Боб Дзілан).

А ты таксама не мог выбачыць усю яго абыякавасць: за тое, што ён табе мог бы даць амаль усё; прынамсі ўсё, што табе тады трэба было — дваццаць год таму... Дый ён і гатовы быў даць, але толькі за грошы. А грошай у цябе, як у кожнага «юнага паэта», не было. Затое заўсёды напагатове былі каханне, новае прысвячэнне, трагедыя і смерць!.. Мы гатовыя былі аддаць гэта ўсё табе адзінаму, але ў адказ атрымлівалі толькі маўчанне. Ах, Мінск, Мінск... Ну як было не выдумляць? Трэба ж было неяк жыць... Мы сумленна спрабавалі зразумець тваю даматканую праўду, колькі разоў мы прызнаваліся табе ў любові на шырокіх праспектах і плошчах. Але ў адказ атрымлівалі толькі новае жлобства... Што ж ты не ўбачыў нас, не пазнаў, дазволіў проста так сысці са цэны, нават не дагледзеўшы да канца шмат чыіх жыццяў тваіх нелюбімых пасынкаў... Цяпер, канешне, я разумею, якімі недарэчнымі былі мы ў сваіх рамантычных самапальных «любовях». І чым усё скончылася? Калі я прыязджаю і бачу твае новыя шмоткі... Ох, ты па-ранейшаму здзекуешся з нас, але раней ты рабіў гэта больш шчыра... І ўсё ж такі мы з табой адной крыві, родны Мінск, забудзем старыя крыўды, расстанемся лёгка...

Я адмаўляюся ісці ва ўгатаваны мне кінатэатр для састарэлых пад адкрытым небам, я

***Ах, Мінск, Мінск...***
***Мы сумленна спрабавалі зразумець***
***тваю даматканую праўду,***
***колькі разоў мы прызнаваліся табе***
***ў любові на шырокіх праспектах***
***і плошчах. Але ў адказ атрымлівалі***
***толькі новае жлобства...***

***Мінск, Мінск!..***
***Дзякуй табе за добрыя намеры,***
***але лепш я выпʼю глыток чыстай вады***
***і адпраўлюся ў ноч.***
***Каб зноў весці доўгія начныя размовы***
***з сястрой Бессанню.***

адмаўляюся садзіцца за гэты столік, накрыты на дзве персоны — «толькі ты і я». Ты хочаш зладзіць мне вочную стаўку з уласнай душой. Але ты спазніўся, дарагі мой горад, мы ўжо даўно разам, хоць часам і не разумеем адно аднаго. Мінск, Мінск!.. Дзякуй табе за добрыя намеры, але лепш я выпʼю глыток чыстай вады і адпраўлюся ў ноч. Каб зноў весці доўгія начныя размовы з сястрой Бессанню. Яна прымае мае пакуты, бярэ гітару і выконвае старую знаёмую калыханку. І мяне адпускае...

У тваім доме, Пʼеро,
Стаката дажджу,
У тваёй галаве —
«Kind of blue»[1],
На тваіх руках, дарагі,
Пацалункі смерці,
У тваёй галаве —
Пустата.

Ад станцыі метро «Плошча Незалежнасці» да станцыі «Плошча Леніна» — некалькі жыццяў. І ты праехаў сваю, ты праехаў сваё… Так і не пазнаўшы… Праехалі, мілы мой дружа... А цяпер застаецца рабіць выгляд, што нічога і не было ў тваім старым доме, мой мілы Пʼеро.

Дабранач, душа.
Спакойнага сну, мой родны Мінск...

[1] «Крыху сумна…» (англ.) — вядомая джазавая тэма.



Віялета РЫЧАГА

# Ціхі шорах сыходзячых з тэатра крокаў

Пастаноўка рэжысёра з Кіргізіі Шаміля Дыйканбаева па п'есе беларуса Дзмітрыя Багаслаўскага была створана спецыяльна для «ТЕАРТ-2013». Але спектакль не мае заган заангажаванасці і прымеркаванасці.

Асноўную тэму «Ціхага шораху...» цяжка вызначыць адным словам ці фразай. Гэта недасканалы, непаслядоўны, бурны свет свядомасці галоўнага героя — кожнага з нас — ідэальная ірэальнасць душы. У спектаклі шмат лейтматыўных сцэн і рэверсаў. Імя галоўнага героя — Сасіка.

Што значыць смерць бацькі для сына? Што значыць смерць дачкі для бацькі? Што значыць продаж любімага бацькоўскага дому бяздушнымі сёстрамі?

«Усе кажуць, што жыццё працягваецца, але ж ніхто не крычыць, што гэта дрэнна», — разводзіць філасофію псіхолаг-экстрасэнс Альберт, па сумяшчальніцтве — альтэрэга галоўнага героя Сасіка.

Гісторыя беларускага тэатра праходзіла розныя этапы: ад зараджэння і ўсплёску да згасання. Сітуацыю сучаснай беларускай тэатральнай прасторы не возьмуцца вызначыць эксперты, бо наяўнасць яркіх, самабытных аўтараў, добрых акцёрскіх труп, абсталяваных пляцовак не дае пладоў класічнаму тэатру. Кожны з гэтых складнікаў дзейнічае паспяхова, але аўтаномна. Добрыя беларускія аўтары запатрабаваны, але не на Бацькаўшчыне. Добрыя акцёрскія трупы не знаходзяць новых таленавітых п'ес і канцэнтруюцца на тых творах, што застраглі ў мінулым дзесяцігоддзі. Пляцоўкі тэатраў выкарыстоўваюцца ў поўнай шматграннасці толькі альтэрнатыўным тэатрам. Усе гэтыя эпізоды чаргуюцца, знаходзячы ўсё новыя сэнсы і бяссэнсіцы ў спектаклі.

У гэтай пастаноўцы дакучліва і свята паўтараецца адно і тое ж настаўленне памерлага бацькі сыну: «Пачысці калодзеж». Зноў і зноў прыходзіць да Сасіка, які змагаецца з жыццёвымі рэаліямі, гэта ўстаноўка. Усё ніжэй і ніжэй сыходзіць яго свядомасць у глыб студні. З кожным сеансам экстрасэнса, што апускае яго ў гіпнатычныя сны-ўспаміны.

«Ты мяне любіў?» — крычыць Сасік бацьку са слязамі на вачах, начышчаючы раз за разам жалезнае вядро. А бацька яму ўсё пра калодзеж.

Тэатр б'ецца ў сутаргах жаху перад тым, калі апусцеюць залы. Крычыць, што мода выводзіць гледача з партэраў і балконаў. Крыўдзіцца, сезонамі не мяняючы рэпертуар.

«Ты мяне любіў?» Сасік зноў пытаецца пра бацькоўскую любоў. Гэта адзінае пытанне, якое рухае яго істотай, пагружанай у глыбіні свядомасці. А бацька яму пра калодзеж.

«А ты пачысціў калодзеж?»

Калодзеж у вёсцы — самае важнае. Вада павінна іскрыцца, не мутнець, сценкі — не пакрывацца глеем і мохам. Гэта проста і складана адначасова апусціцца ў яго слізкую трубу да цёмнай, засмечанай лісцем і гадамі вады.

Ачысціць калодзеж, значыць, ачысціць душу. Развітацца з мінулымі крыўдамі і калісьці важнымі, але абыякавымі цяпер людзьмі, упусціць новых людзей, пачаць новае жыццё — уліць свежай вады.

Галоўнаму герою яго альтэрэга, экстрасэнс Альберт, дае скрутак грошай на выкуп бацькоўскага дому ў родных сясцёр. Сасік пакрыўджаны на дзвевак, але задаволены сваёй асобай, пасадай і грашыма ў кішэні. А калі прыходзіць час іх аддаваць, то ў скрутку апынаюцца старыя фотаздымкі. Пакуль Сасік не раскрыў нікому скрутак, там знахозіўся скарб, у каштоўнасці якога ён быў упэўнены.

З нашым тэатрам адбываецца падобная гісторыя. Патаемны беларускі прэм'ерны блок спектакляў на «ТЕАРТ-2013» апынуўся слабым, варта было толькі разгарнуць скрутак гледачам.

Дык, можа, пара ачысціць калодзеж?

Людміла Рублеўская

Пані.

Чаго ж ты плачаш,
 княжна, дзівачка?
Хацела мнішкай стаць —
 дык расхацела.
Таму цяпер не абуджарвай плачам
Зямное неспатоленае цела.
Не толькі Бог — твой
 гаспадар суровы,
Але і князь, які не любіць песень.
Часцей за вышываннем каляровым
Ты бавіш час у залачоных
 крэслах.
Ты — гаспадыня?
Вось насмешка лёсу!
Вершы чытала і Тацыта,
Стварала для сябе высокі востраў,
Цяпер з прыслугай
 сварышся сярдзіта
Дзіця хварэе. Муж на паляванні.
У моль мяціць
 ад вусцішных кашмараў.
Аб чым ты плачаш?
 Аб зямным каханні?
Ці аб нябесным,
 што праходзіць міма?

05.11.2013

# Рэжысура свята



«Мост дружбы» злучыў выспы сучаснай рускай і беларускай літаратур. Сёлета конкурс ладзілі ўпершыню. Абраны пераможцы-першапраходцы, за якімі пацягнуцца іншыя маладыя пісьменнікі. Сярод лепшых аказалася рэжысёр і літаратар Алёна Беланожка.

**— У вас вельмі паэтычнае прозвішча. Яно нейкім чынам на вас уплывае?**

— У творчасці — не. А ў жыцці — ногі ніколі не загараюць *(з усёй сур'ёзнасцю, але ў вачах скачуць чорцікі).*

**— Вас прадстаўляюць як музыку, рэжысёра, драматурга, мастачку. Ці можна яшчэ штосьці дадаць?**

— Згодна з усім, акрамя музыкі. Я толькі супрацоўнічаю з кампазітарамі, рэжысёрамі, але музыку не пішу. У дзяцінстве, калі бацькі вырашалі, куды мяне аддаць, у пакоі не хапіла месца для фартэпіяна, затое размаляваныя шпалеры навялі на думку, што варта аддаць у мастацкую школу. Да апошняга я спадзявалася знайсці сябе ў дызайнерскай справе. Пасля 11 класа скруціла работы ў тубус і паехала паступаць у Акадэмію мастацтваў. А педагог паглядзеў іх і прапанаваў пайсці на танцы. Тады я накіравалася ў Інстытут культуры. Там вырашылі, што, магчыма, штосьці атрымаецца на народных рамёствах, але я не дабрала 1 бал і адправілася ў Магілёўскае вучылішча культуры на завочнае аддзяленне рэжысуры забаў, абрадаў і свят. Там былі лепшыя педагогі і студэнты.

**— А завочнае навучанне не пазбавіла радасці ад студэнцкага бестурботнага жыцця?**

— Маю прафесію можна засвоіць толькі на практыцы. Калі ты гэтым не займаешся, а толькі 5 гадоў сядзіш ва ўніверсітэце, то пасля, калі прыязджаеш на месца, бывае так цяжка, што без валакардыну не абысціся.

Мне па душы рэжысура свята. Ты робіш відовішча.

**— Але ж вы вельмі эмацыйная, мне здаецца, вам пасуе акцёрская прафесія…**

— Немагчыма засвоіць усё. У літаратурнай дзейнасці рэжысёрская адукацыя дапамагае добра выбудаваць сюжэт, зрабіць якасную драматургічную структуру. А рэжысёр — чалавек больш галоўны за акцёра. Таму мая прафесія мяне цалкам задавальняе. Не магу дазволіць, каб мне хтосьці штосьці загадваў.

А наконт паэзіі… Найлепшы камплімент я атрымала ад аднаго дарослага дзядзечкі. Ён сказаў, што я добра рыфмую.

Мы з сяброўкай Сашай у дзяцінстве гулялі ў рыфму, альбо называлі тое, што бачылі, а пасля ўзгадвалі песні, дзе ёсць гэтыя словы. Добрая трэніроўка.

**— У вас ёсць уласныя кнігі?**

— Так. Адзін зборнік, напалову рускамоўны. Цяпер я цалкам перайшла на беларускую. Нядаўна мне сказалі, што гэта мова мне пасуе.

**— Хочацца выдаць беларускамоўны зборнік?**

— Безумоўна. І матэрыялу ёсць ужо не на адну кнігу. Мне і прозу падабаецца пісаць. Дарэчы, аповесць «Чамадан з кракадзілавай скуры» друкавалі ў «Маладосці».

**— З якімі складанасцямі, акрамя грашовых, сутыкаюцца маладыя літаратары, калі хочуць выдаць кнігу?**

— Напэўна, асабліва і няма нейкіх цяжкасцей. Проста трэба разумець, для чаго робіш кнігу, з якой мэтай. Калі хочаш сябе задаволіць, то ці варта тады? А калі ёсць патрэба сказаць нешта вельмі важнае, палепшыць свет…

Я буду шчаслівай, калі хоць адзін чалавек знойдзе ў маім тэксце для сябе рэцэпт вырашэння складанай сітуацыі. Тады мая місія будзе выканана.

**— Ці збіраецеся ў хуткім часе выдаваць новую кнігу?**

— Я гады ўжо са два перастала хваляваццa наконт гэтага. Усяму свая чарга. Добра, калі ёсць матэрыял, каб проста дастаць яго і аддаць у друк. Да кожнага шанца трэба быць падрыхтаваным. А мітусіцца не варта, бо ўсё роўна адбудзецца тое, што мусіць адбыцца.

**— А ёсць у вас мэта на мяжы з марай?**

— Ёсць. Я пра яе ўсім кажу. Хачу атрымаць «Оскара» за лепшы кінасцэнарый. Таксама мару ўзяць Нобелеўскую прэмію па літаратуры.

Пакуль я бліжэй да Нобелеўскай прэміі *(пасміхаецца гарэзліва).*

Гэта жарты. Але хочацца напісаць добры сцэнарый, каб фільм стаў папулярным, каб на яго з задавальненнем хадзілі. І кнігу карціць стварыць вялікую і добрую. Мяркую, дачакаемся гэтага.

**— У дзяцінстве ў вас былі гульні, звязаныя з літаратурай? Калі бацькі зразумелі, кім стане дачка?**

— Спачатку я размалявала шпалеры і парэзала нажніцамі фіранкі. Мама падумала: будзе дызайнерам. Але ў той жа час я напісала першы верш пра 1-е мая: «Людзі ідуць, шалом махут». Гэта не па-яўрэйску. Гэта значыць: шарыкамі машуць. Бацькі вырашылі, што будзе пісаць.

Тата быў акцёрам у тэатры лялек. Прывёў туды мяне. Пакуль артысты рэпетыравалі, я ўбачыла фартэпіяна, села і стала іграць. Праз дзесяць хвілін за маёй спінай сабраўся натоўп з татавых супрацоўнікаў, якія проста стаялі і слухалі. Тады з’явілася пагроза стаць музыкантам.

Яшчэ думала, буду перакладчыцай, бо падабаліся мовы. Нават па алімпіядах хадзіла. А яшчэ біялогія вабіла. Я і цяпер падчытваю літаратуру па генетыцы.

**— Няма адчування, што нічога сёння ў літаратуры і кіно не ўражвае?**

— Па-праўдзе, я вельмі сярэдні чытач. І не маю прэтэнзій, каб звацца папулярнай пісьменніцай. Я люблю якасныя сюжэтныя творы, дзе можна падглядзець вырашэнне розных жыццёвых сітуацый. Трэба, каб тэксты былі аптымістычнымі. Чытачу мусяць даводзіць, што ўсё будзе добра. Пішыце, каб гэта было чытэльна, лёгка і зразумела.

У нас шмат добрых літаратараў, але яны пішуць для ідэальнага чытача. А яго не бывае. Многія мае знаёмыя не грэбуюць Данцовай. Я сама люблю пачытваць такога кшталту раманчыкі.

**— Беларускія пісьменнікі спрабуюць пісаць падобныя тэксты. Але ж па-ранейшаму не маюць масавага чытача.**

— Нічога, хай трэніруюцца. Па законе Гегелеўскай дыялектыкі, калі-небудзь колькасць пяройдзе ў якасць.

**— Чыя творчасць вам блізкая?**

— Перш за ўсё Яўгеніі Янішчыц. Я бяру яе верш і бачу, якая там сітуацыя. Мне патрэбна ўяўляць абставіны, калі тэкст быў напісаны. Там у кожным вершы мастацкі вобраз. «Цытадэль» Антуана дэ Сэнт Экзюперы. Гэту кнігу параіла ва ўніверсітэце наш куратар. Настолькі глыбокі і прыгожы твор, у ім ясныя, зразумелыя вобразы. Лічу, кожны мусіць яе прачытаць.

Люблю тэксты Ігара Губермана. Чатыры радкі — і зразумела, што аўтар хоча сказаць. Некалькі гадоў таму на вечары суполкі «Літаратурнае прадмесце» мне падарылі зборнік Басё, каб я вучылася лаканічна выказвацца. Дык я па ім варажу. Выдатна атрымліваецца! Увогуле кніг, якія паўплывалі на мяне, вельмі многа, асабліва выданні па гісторыі, тэксты пра піратаў. Падабаюцца творы Ігара Мажэйкі. Цяпер чытаю «Тысячу і адну ноч». Гэта ідэальны тэкст для хатняй гаспадыні: і рэцэпты, і аповеды катаванняў… Шмат карыснага.

**— Давайце складзём для пачаткоўцаў рэцэпт выдатнай прозы.**

— Па-першае, займець добрага рэдактара. Немагчыма быць кшталту «сам іграю, сам пяю, сам кветачкі прадаю». Рэдактар добра адчувае мову і дапаможа «вылізаць» твор. Па-другое, пісаць сюжэты. Па-трэцяе, тэкст павінен быць пазітыўным. І пішыце пра тое, што ведаце. Не трэба расказваць, як вырошчваць бегонію, калі яна пастаянна ў вас сохне. Не кажыце пра каханне, калі ніколі не кахалі.

**— А як жа пішацца фантастыка?**

— Яна ж таксама бывае рознай. Тут варта чытаць міфалогію. Я не ведаю ніводнага фантастычнага твора, які не абапіраецца на міфалогію.

Думайце пра людзей, абірайце зручную і прыгожую форму для твора. Ёсць цудоўная кніга «Кіно паміж пеклам і раем» Аляксандра Міты. Яна навучыць працаваць з прозай, як і ўвогуле добрыя выданні па кінадраматургіі.

Каб лепш пісаць вершы — працуйце са слоўнікамі.

Беражыце здароўе: спіце, ешце. Беражыце сябе! Стомленыя і някормленыя вы нікому не патрэбны.

*Зміцер ЗАХАРЭВІЧ*

# СІВЫ ПАН МЯНЕ ДАБРАСЛАВІЦЬ



***Зміцер Захарэвіч нарадзіўся 20 сакавіка 1980 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ, пагранічнік, маёр запасу. Цікавасць да вайсковай гісторыі паспрыяла з'яўленню немалой колькасці арыгінальных твораў. Вершы друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Беларуская маладзёжная», «Белорусская военная газета» і іншых.***

* * *

Дзе галлё бурштынавых хваінаў,
Плыўка зыбае ў далонях небасхіл.
З рытму мернага збіваюцца гадзіны,
Компас не знаходзіць палюсы.

Я, нібы пазычыў чуйнасць, ціха
Крочу зноўку сцежкаю, якой
Асцярожна праз вякі ласіха
З гадаванцам йдзе на вадапой.

Ахінуты гольчастым скляпеннем
Растаю ў сутонні пакрысе —
Сэрца ацiхае ва ўтрапенні,
І амшарыны няўзнак скрадаюць след.

Павуцінне ніткай Арыядны
Абвівае на зваротны шлях крысо.
Рву — і застаюся падуладным
Валадарству станістых лясоў.

І натхнёны пугачовым смехам,
Сівы Пан мяне дабраславіць,
Каб зрабіўся водгаласам рэха
У сакральным нерушы-жыцці.

**ЗАГІНУЎШЫМ
У 1831 І 1863—64 гг.**

Прымглёны туманом світанак.
Бывай, стары бацькоўскі дом!
У засень паркаў ды альтанак
Ці вернемся мы са шчытом?

І развітальны пацалунак
На ганку вусны апячэ.

Мной падагнаны ўжо рыштунак —
Мы вернемся не на шчыце!

За шаблі, штуцары і косы
Узяцца вымушае годнасць,
У бой ісці святы і жорсткі
За нашую і вашу вольнасць!

Апоўначы атакай дзёрзкай
Прарваны карнікаў заслон —
Благаслаўленнем у нябёсах
Штандар з Пагоняй і Арлом.

Не адысці нам у пасцелях
І на чужыне не змарнець —
Мы гінем пад агнём прыцэльным —
Альбо свабода, альбо смерць!

Жывыя кветкі на магілах,
Дзе спяць героі вечным сном,
Хай сведчаць Бацькаўшчыне мілай —
Вяртаемся мы са шчытом!

**ГРАМНІЧКА**

Роспачна галосіць у змерлым законні
Вецер, заблукалы ў вершалінах нот.
Я святла пялёстак ахінуў далонню —
Пахітоску веры засціў ад нягод.

Усё было, васпане, — воля, шал і праца,
Знакам таўраваная дзёрзкай барацьбы,
І радкоў раенне шыхтаваў зацята,
І асіп мой голас з мольбаў ды кляцьбы...

Аджыло, пакінула па сабе назолу —
Спраўджваць безупынку
спадкаемцаў гарт,
Не зракацца ў гонар зыркіх жырандоляў
Ціхмянага агеньчыка ў навалачы хмар.

І для тых, хто змогся ўшчэнт
начою золкай,
Хто, надзею страціўшы,
трызніць небыццём,
Палымней, грамнічка, бачная здалёку,
Веры непагасным збаўцам-маяком.

**ВЯРНУЎСЯ САКАВІК**

Да нас вярнуўся сакавік
Сумётамі падталымі,
Загаласілі капяжы —
Зіма адгаспадарыла.

Таго не ведаючы сам,
Я развітаўся з ёю —
Не вераю календарам,
А зменаю настрою.

На чарках сябрукоў маіх
Іскрынкі прамянёвыя,
Мы за спачын п’ем першых крыг,
Услед пайсці гатовыя.

Наўкола неяк неўпрыкмет
Халодная напятасць,
Як футра, знікнула з кабет
І з маладых дзяўчатак.

Іх спробы кволыя яшчэ,
Ды хутка прыйдзе смеласць —
Якраз, каб даць нам зразумець,
Што час ісці на нераст.

Ужо даўно пакінуў страх —
Дарогу хмельнай вольнасці!
І не ўтрымацца ў абцугах
Дазволаў і прыстойнасці.

Бо набрынялая зямля
Жывымі водамі адліг
Адчула — разам з ёй і я —
Да нас вярнуўся сакавік.

* * *

Забруілася восень па шыбах
паводкай-залевай,
Шкуматае й дзярэ сівер лісце дварамі.
Нежывою вадой набрынялі спрэс зухі-арэлі,
Спруцянелі ў прыгадках,
каго сёлета не прычакалі.

Захінула ў плашчы,
па-над дахамі ўкленчыўшы, неба
Мінакоў, знерваваных
цераз рацыю збаўнай прынукі,
А ў разгразлых калюгах
дзесь стары намагаецца ўгледзець
Калі ж тыя вакацыі,
калі зноўку прыедуць унукі.

На гаўбец завітаў галубок —
Кроплі целам не ўзважваў.
Распавёў па-сакрэце гарышчавы гадунец:
Нямаведама хто засмучоную хмару абразіў
І таму дзень пры дні
скверы помсліва хвошча свінец.

Чорны, сверблівы шнар
да прадонняў у крыўдзе разверзся,
Гэтым слотным усхліпам,
здаецца, гучаць без канца,
Ды на шал дажджавіцы
пазірае, нібыта ў люстэрка,
Душа.

*Аляксандр ДАМЕНІКАН*

# ТВАРЫ

*Апавяданне*



***Аляксандр Даменікан нарадзіўся 27 мая 1995 года ў Мінску. Вучыцца на біялагічным факультэце БДУ. Паспяхова ўдзельнічае ў навуковых канферэнцыях. Піша музыку, грае на гітары ў інструментальным гурце. Імкнецца данесці да людзей хоць некаторыя свае думкі, эмоцыі і ідэі.***

Пакой быў светлы. Не, сонца яшчэ нават не ўстала, але яно ўжо шчыра абвясціла пра свой прыход: мяккае святло світанку ахінала сонныя і цяжкія сцены, а больш тут асвятляць не было чаго.

Неўзабаве першы сонечны промень павольна ўліўся ў пакой. Але ён быў не адзіны, хто ўвайшоў сюды: у гэты ж самы момант прыйшоў і Чалавек. Ён зайшоў падумаць і перачакаць надыходзячую спёку, якая падавалася жудаснай пакутай, пакутай за нейкае вусцішнае злачынства, якое здзейснілі людзі так даўно, што ўжо ніхто і не ведаў, ці было тое злачынства на самай справе.

Чалавек не ведаў дакладна: якім чынам трапіў ён сюды. Гэта бянтэжыла яго настолькі, што ён пачаў сумнявацца ў мэце свайго прыходу, якая, першапачаткова, была яснай і зразумелай, як тое сонца, што ззяла ў акно. Не, вядома, ён разумеў, што зайшоў сюды праз дзверы, нават бачыў іх на свае вочы, але што знаходзілася за імі — заставалася таямніцай, бо, канешне, дзверы гэтыя былі зачыненыя. Пасля шматлікіх спроб адамкнуць іх, Чалавек стаміўся і яму абрыдла гэтая бессэнсоўная справа, хоць думка, а хутчэй надзея, што за дзвярыма хаваецца нешта прыемнае, цяплілася прысакам у ягонай галаве.

Але цяпер, калі ён застаўся сам-насам са сваімі думкамі, пакоем, які цяпер ён цалкам лічыў сваім, найвялікшую цікавасць Чалавека выклікалі блакітныя сцены. На першы погляд гэта былі самыя звычайныя сцены... і так яно насамрэч і бачылася: простыя, бетонныя, аблепленыя бледна-блакітнымі шпалерамі з дзіўнаватым хаатычна-адцісным узорам. Менавіта гэтыя самыя ўзоры выклікалі маўклівую зацікаўленасць «гаспадара» пакоя: сярод выгнутых у розныя бакі ліній, якія то збягаліся, то зноўку разбягаліся ў розных напрамках, Чалавек бачыў твары. Яны здаваліся жывымі: варушыліся і, нават, маглі размаўляць, хоць мова іхняя была мала зразумелая Чалавеку. У кожным з іх, гэтых «жартаў» уяўлення, Ён бачыў нешта... Але, што гэта за нешта?

I. Вось і першы твар. Яго вузкаватыя і вострыя рысы імкнуліся ўверх, адчувалася нястомнае намаганне караскацца вышэй і вышэй. Высачэзная, наўмысна залітая лакам ці нейкім гелем, фрызура толькі падкрэ-

слівала гэтую прагу. Але ва ўсім гэтым нездаровым жаданні штучнай вышыні толькі позірк і куткі вуснаў былі далікатна апушчаны ўніз. Але гэта былі зусім не выключэнні, наадварот, нібы спецыяльна, яны крыху затрымаліся, каб яшчэ лепей уцяміць наколькі «высока» забраліся ўсе астатнія рысы твару, ім усім хацелася адчуць сваю велічыню. Твар гэты, напэўна, мог бы належаць чалавеку, які караскаецца па Лесвіцы Якава, і ў гэты самы момант, ён глядзіць уніз, на маленькіх людцаў, якім ніколі не хапіла б адвагі і нахабнасці, каб кінуць выклік Нябёсам. Як далёка ён зойдзе?

II. Другі твар не прымусіў сябе чакаць, хутчэй ён так і жадаў, каб на яго кінулі позірк. Сапраўды, не заўважыць яго было немагчыма: манатонная блакітная сцяна ці то пад уплывам нераўнамернага святла, ці то проста ўяўленне Чалавека зноўку «смяялася» з яго, але, без сумненняў, твар быў літаральна забруджаны колерамі. Яскрава-пунсовыя вусны, якія быццам здзяйснялі млявы пацалунак, ружовыя вейкі, высока намаляваныя (гэткае лёгкае здзіўленне) бровы і чырвань — усё было прыкра-надакучліва, ненатуральна і нават груба. Позірк застыў у неадназначнай прапанове, але, як бы другасным слоем, ляжала на твары і звар'яцелая стома. Гэты твар гандляваў. Ведаеце чым?

III. Чалавек адвёў свой позірк убок і адразу трапіў у эпіцэнтр «выбуху».

Ён адступіў, бо спалохаўся гэтага твару. На нейкі момант яму падалося, што твар гэты выскачыць з бетонна-шпалерных пут і праглыне яго цалкам сваім велізарным ротам, які застыў у жудасным лямантце. Чалавек мог паклясціся чым заўгодна, што чуў яго, але ён быў няяўны, далёкі і блізкі адначасова... Ён крычаў: «Правальвай адсюль! Пустое месца! БЫДЛА! НЕНАВІДЖУ! » Чалавек адвярнуўся і горка зарыдаў. За што гэткая нянавісць?

IV. Баючыся зірнуць на сцяну і зноў убачыць ды «пачуць» твар-нянавісць, Чалавек доўга не адважваўся азірнуцца і стаяў, цяжка дыхаючы, закрыўшы вочы далонямі, у здранцвелай цішыні. Але цікавасць усё ж пераадолела страх і ён здолеў паглядзець на сцяну, дзе ўбачыў, на першы погляд, значна больш прыемны твар. Ён усміхаўся ўсімі зубамі ды выглядаў даволі паспяхова. Усё ў гэтым твары было выкшталцона і дасканала: прыгожыя бліскучыя вочы, высока падняты падбародак, нават зморшчынкі на ілбе, што ўтварыліся ад высока паднятых броваў, глядзелі вельмі дарэчна. Але, захапляючыся і здзіўляючыся гэтай прыгажосці, Чалавек адчуў дзіўнае, але знаёмае пачуццё. Такое можна адчуць, седзячы дзе-небудзь на бульвары вечарам, калі да вас, з тэатральнай тугой на твары падышла б жабрачка і, не саромеючыся моцнага паху алкаголю, пачала выпрошваць грошы на ежу для сваіх маленькіх дзетак. «Жаль і агіда». Так, твар менавіта «выпрошваў» кампліменты, выклікаючы ў Чалавека гэткія пачуцці. Уся гэтая дасканаласць была нібыта наведзена толькі дзеля ўсхваленняў... А ці сапраўды ён заслугоўвае іх?

Чалавек стаяў і глядзеў... Назіраў, як лініі зліваліся зноў і зноў у гэтыя твары, ён не мог адарвацца, нават калі б вельмі пажадаў гэтага. Вось і новы твар.

V. Чалавеку зрабілася адразу няёмка, як толькі ён зірнуў на яго. Твар глядзеў таксама на Чалавека, але... нібы збоку. Такое магчыма, калі ставіш перад сабою некалькі люстэркаў, і бачыш сябе, быццам глядзіш на зусім іншага чалавека. Заўважалася, што твар хавае свой позірк і намагаецца глядзець толькі тады, калі Чалавек не мог яго ўбачыць. Але Ён усё ж такі бачыў яго... Ад гэткай парадаксальнасці чалавек адчуваў пякучы галаўны боль, яго ванітавала, але Ён працягваў глядзець. Вузкі рот твару скрывіўся ва «ўсмешцы», а ў вачах чыталася пагарда і крыўда, тупая, бессэнсоўная. Урэшце пачуццё «залюстаркоўя» знікла, і цяпер твар глядзеў прама ў вочы. Ён усміхаўся даволі ветліва, зусім не так, як яшчэ якую секунду таму. Вочы блішчэлі

нібыта і радасна, але ледзь улоўнае рэха крыўды ўсё яшчэ раздавалася недзе глыбока ў іх... Ці засталося там яшчэ хоць штосьці?

VI. Гэты твар быў ніякі. Чалавеку спатрэбілася некалькі хвілін, каб разгледзець яго цалкам. Ён не варушыўся і не глядзеў на Чалавека, таму што не хацеў глядзець. Дасканала гладкая, без якой-кольвек зморшчынкі, скура бледна-белая. Вочы былі крыху расплюшчаны, падавалася, вось-вось зажмурацца і твар абрынецца ў сон... але не, ён так і заставаўся. Чалавек падумаў нават, што твар мёртвы, калі такое наогул магчыма. Але раптам ён зварухнуўся — зусім крышачку: адвёў свой млявы і абыякава-стомлены позірк ад Чалавека, які, відавочна, не выклікаў аніякай зацікаўленасці ў твара. У гэты момант у ягоных вачах чыталася ці то абыякавасць, ці то спачуванне, што прыйшлося змарнаваць сваю найкаштоўнейшую моц на нейкага там чалавека. Твар так і застаўся, не праяўляючы аніякіх эмоцый і прыкмет жыцця. А ці быў ён наогул «жывы»?

VII. На сцяне з’явіліся кроплі. «Што гэта?» — пытанне Чалавека засталося без адказу, і ён назіраў, як маленькія кропелькі з'яўляліся па чарзе і каціліся ўніз па сцяне. Чалавек доўга разглядаў іх, не разумеючы, але раптоўна ўбачыў, што гэта слёзы новага твару. Ён не румзаў, а проста бязгучна плакаў, і слёзы струменіліся з вачэй, якія былі апушчаны нізка і глядзелі ў нішто. Чалавек збянтэжыўся, бо нічога не мог зрабіць, нават спытаць не мог, а дапамагчы тым больш. Ён проста стаяў, як зачараваны, і глядзеў. Смутак ахапіў душу і да горла падышоў камяк. Ні крыкнуць, ні заплюшчыць вочы, каб не бачыць гэтай безвыходнасці, якая падавалася больш рэальнай, чым усё вакол. А твар, сумны і безнадзейны, глядзеў у «нішто». Гэта канец?..

Промень сонца ціха пракраўся ў пакой і асляпіў вочы Чалавека, які адразу ж іх павольна заплюшчыў. «Як дзіўна, — падумаў Ён. — Сонца ўзыходзіць і заходзіць у адным месцы?» Але здзіўленне было нямоцным і нядоўгім, Чалавек падсвядома разумеў, што гэта «правільна». Ён адчуў жудасную стому і жаданне сысці з пакоя, сысці назаўсёды і не вяртацца сюды ніколі, збегчы ад гэтых твараў. Падавалася, што час пачаў бегчы хутчэй, а Чалавек усё стаяў з заплюшчанымі вачыма. У пакоі было так ціха і пуста, што можна было адчуць, як апошняе святло павольна лілося сюды. Расплюшчыў вочы.

— Яшчэ адзін? — убачыўшы твар, знямогла вымавіў Чалавек і змоўк, разглядаючы. Здзіўлены, з глыбокімі зморшчынамі, са стомленымі вачыма, у якіх чыталася неверагодная самота. Хвіліны цяжка завіслі ў паветры. Ён не пазнаў адразу, але гэта быў менавіта Ён. Ён сам. Цяпер Чалавек убачыў, што на сцяне, насупраць яго, вісела люстэрка.

Сонца зайшло, а Чалавек сышоў і замкнуў дзверы.

*Наста КУДАСАВА*

# НЕМАГЧЫМАСЦЬ РАССТАЦЦА

* * *

Адзіноты затоены віскат,
быццам нітку, перакушу
і пайду па-жабрацку, па-мніску
гадаваць самазванку-душу,
каб дарогамі нас і трыпутнік,
і сунічнік мядовы люляў,
каб, на сцежках радзімы распнутая,
узрасла гадаванка мая.

* * *

А водар твой мяне вядзе
туды, дзе ў пушчы бездарогай
шукае ноты ў барадзе
і грае Пан касматаногі,
дзе столькі вечнасці ў гудзьбе,
што ўжо не страшна ведаць — хто ты…
і хочацца любіць цябе
да самай незваротнай ноты.

* * *

Дарогамі жыццё мярэжыцца,
нязведаным на раны дзьме,
і я лячу адчайнай вершніцай
насустрач зоркавай гудзьбе,
боль вызваляючы атрамантам,
бо слова — лек, і слова — сыць,
і паўстаюць муравы храмамі,
і кожны гімнамі звініць...

**АНАСТАСІЯ**

Уваскрэсла. Імя спраўдзіла.
У далонях тваіх смарагдзінай



***Наста Кудасава нарадзілася 25 мая 1984 года ў Рагачове. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і магістратуру пры ім. Друкавалася ў газеце «ЛіМ», часопісе «Маладосць» і калектыўных зборніках. Аўтар кнігі вершаў «Лісце маіх рук». Творы перакладаліся на рускую і балгарскую мовы.***

заяснела — няхай скрадзенай!
Толькі б гэты агонь не згас…
Ажыванне ж — і Лазар не выдаў бы!
Быццам новы Эдэм бясхібавы
Госпад у захапленні выдыхнуў,
каб сусвет распачаць з нас.

* * *

Вершы —
каб вымяраць вяршыні
ці, выміраючы
ў горы вершавым,
высвабадзіцца ў разлог птушыны,
туды,
дзе гняздуюцца сэрцам шырэйшыя,
дзе я не буду вачмі ліслівіць,
рук абцяжарваць нішчымнымі
ласкамі —
словы развешу лупатымі слівамі
і абярнуся
ластаўкай.

* * *

Калі старты абернуцца старасцю,
выйдзе ўрэшце запас пачаткаў
і захочацца бурбалкай-карліцай
вонкі вылецець з целавай хаткі,
і захочацца паху аблочнага,
дзьмухаўцовага лётнага раю,
каб забылася тлумная вотчына
і знайшлася сцяжынка старая…

* * *

Адцалуй і вярні імя мне,
ужо восень пад рэбрамі смягне,
просіць водаў і замеці ліставай —
вымыць нас ад пяшчоты дачыста,
быццам існыя толькі вершы
ад бязмор’я да безбярэжжа,
быццам мы не спасціглі на пальцах
немагчымасць расстацца.

* * *

Кінь мяне,
і так — закамянелая —
моўкну я шляхоў тваіх наўзбоч.
Тысячы гадоў Сівілай пела я
сераду твайму —
вярні мне дождж!
Каб абмыцца вольніцай самотнаю
там,
дзе мы — нязбытныя — прайшлі,
як праходзіць слава пустаротая,
як усё
праходзіць
на зямлі.

**КУДАСА**

Выдзьму твае спадзевы,
дзеі прыцерушу,
вусцішнай каралевай
выстуджу ўсю душу.
Лепей адразу здайся
і не хавай ключы:
ад варажбы кудасы
моўкніку не ўцячы.
Выцалую ўсе вершы —
заледзянее рот,
будзеш, жабрак бязвешні,
стыць халастым нутром.
Я на кавадлах віру
лёс твой перакую —
будзеш насіць як вырак
злую любоў маю!

* * *

Гэта клінапіс маўкліні
муліць, коле,
абдае неспакоем дні
ўтульных роляў,
гэта концасці напамін,
злы і просты,
прама ў вочы глядзіць —
нямы —
дзідай вострай.

## НА РАЗВОДДЗЕ ДНЯПРА

Лусні крыгамі,
у бераг плясні,
размачы зачарсцвення нуду!
Бачыш,
стомлены змрочны саньясін —
я
пустымі шляхамі брыду,
бо
зрываюцца людзі,
як ноты,
на паўспеве
і ў горле стаяць
незагойным гаркавым налётам,
што не выкашляць
і не назваць.

## ДРЭВЫ

Бязногія, тысячарукія.
Заўсёды ў абдымках у неба.
Цярпліва стаяць у бязгукаўі
й расці —
так вучылі мяне вы.
Сталець, набрыняючы верай,
каб,
згубіўшы лісты без астачы,
штовесну ўздымацца над шэранню
зялёнай зарніцай гарачай...

## ПРАРАСТАННЕ

Прарастаем праз тугія расстанні,
праз нялітасцівых дзён чарназём,
бо магутнае, як смерць, прарастанне:
выпрастаць сябе жывымі лістамі,
абтрасаючы бытнечы рыззё.
Бо не трэба ні пяшчоты, ні ласкі
дыхаіснаму, як ветразь, лісту.
зняўшы цела баязлівую маску —
яварам сівым ці кедрам ліванскім —
я з любой зямной раллі прарасту...



*Ганна ЧАКУР*

# У ЧАКАННІ ЭКСТРАСЭНСА

*Аповесць*



***Ганна Чакур нарадзілася 21 сакавіка 1959 года ў Астраўцы Гродненскай вобласці. Па адукацыі агранам, працуе журналістам раённай газеты. Піша вершы, казкі, апавяданні. Вершы ў перакладзе на польскую мову друкаваліся ў часопісе «З-над Віліі».***

**АП-ЧХІ…**

— Паспрабаваць варта — гэта я табе гавару…

Мая сяброўка Ленка збірала ў сваім садзе чырвоныя парэчкі.

— Але кажуць, што зварот да экстрасэнса — гэта гульні з Богам, — я паспрабавала ўставіць свае «тры капейкі».

Лена паціснула плячыма… Яшчэ адна гронка чырвонай парэчкі ўпала ў місу.

— Як хочаш.

— А яна, гэты экстрасэнс, пра мяне нічога не ведае? Можа, ты ёй расказвала пра мяне?

— Нічога я пра цябе ёй не гаварыла, я наогул не ведала, што ты сёння будзеш… Яна прыйшла да мяне «сэканд» глядзець…

Мая сяброўка Алена прадавала «сэканд», які ёй прывозіў колішні каханак з Германіі. Немец даўно жыў з іншай жанчынай, а Лена працягвала прадаваць паношанае адзенне, маючы з гэтага невялікі прыбытак.

Я ўсё яшчэ сумнявалася:

— А можа, ты проста хочаш, каб я ёй заплаціла за сеанс, тады ў яе будуць грошы на «сэканд»?

— Не, ну ты хоць сама разумееш, што вярзеш?

— Добра, добра. Не злуйся, гэта я так няўдала жартую... Як завуць тваю экстрасэнсіху?

— Сямёнаўна. І яна такая незвычайная! Яна… Яна нават з травой размаўляе!

З травой… Са мной бы хто паразмаўляў… Вось так сеў бы насупраць і паразмаўляў. Ці проста паслухаў ціхенька і шчыра… Дазволіў бы выплюхнуць усе гэтыя «гульні розуму»… Знайшоў рэальнае тлумачэнне страшным знаходкам, што ўсё мацней замыкаюць вакол мяне містычнае кола: чайнік поўны загуслай крыві, пятля шыбеніка ў салоне маёй машыны, ашчэраная морда невядомага мне звярка на дыванку прыхожай… Пазбавіў бы сілы жудасныя сны, што зноў і зноў навальваюцца на мяне ў начной цемры. Усе яны падобныя адзін да аднаго: да мяне звяртаецца даўні сябар, ён просіць дапамагчы, схаваць ад пераследнікаў, ад жорсткіх, начных забойцаў,

якія не ведаюць літасці. І кожны раз я згаджаюся ратаваць яго. Мы доўга бяжым цёмнымі калідорамі, трапляем у пустыя закінутыя кватэры з падцёкамі іржы на ваннах, у бяссільнай спробе схавацца затойваемся ў пыльных — не прадыхнуць — закутках, але нас усё адно знаходзяць. І кожную раніцу пасля чарговага кашмару я падключаю інтэрнэт і бачу: у сацыяльных сетках гэты мой даўні сябар піша пра мяне непрыстойнасці. Цынічныя, ілжывыя непрыстойнасці, хавацца ад якіх — гэткая ж безнадзейная справа, як і ад начных пераследнікаў…

— Ты разумееш, што апынулася тут і цяпер выпадкова? — працягвала наступаць Лена. — Ніхто не ведаў, што ты прыйдзеш. І ўвогуле, Сямёнаўна не з тых, заклапочаных выключна матэрыяльным. Яе, калі можна так сказаць, паслугі яшчэ заслужыць трэба.

Заслужыць… Шчыра кажучы, самае меншае, чаго мне хацелася б, гэта паспрабаваць што-небудзь заслужыць. А самае большае? Вось так, з разбегу, не раздумваючы? Самае большае жаданне — не чуць… Не бачыць… З галавой пад коўдру… У бярлогу… У будан замяральніка паказчыкаў надвор'я Антарктыды… Падалей ад пакутніцкіх сноў, ад слоў, што пакідаюць амаль што бачныя шнары… Каб без людзей… А яшчэ лепш, каб… без самой сябе…

— Добра, Лена, — праявілі самастойнасць мае вусны. — Вядзі мяне да тваёй цуда-Сямёнаўны…

…У яе знешнасці не было анічога з прыстаўкай «экстра» — звычайная жанчына: шэрыя вочы, фарбаваныя, не асабліва чыстыя валасы, абвіслыя падбародак і грудзі…

З відавочнай неахвотай яна спыніла ператрасанне сэкандаўскіх лахманоў, выпрамілася (аказваецца, экстрасэнша высокага росту!) і кінула ў мой бок злёгку раздражнёны позірк. Потым схамянулася і празмерна прыязным тонам залапатала:

— Дапамагу, канешне ж, дапамагу. Чаму ж не? Мой жа дар — ад Бога. Як жа не падзяліцца ім з людзьмі. Падыходзь жа бліжэй, дзяўчына…

Чамусьці гэтыя «ж» і «жа» ў кожным сказе непрыемна рэзалі вуха. І прычым тут Бог, калі, локцем адсунуўшы ўбок лахманы, Сямёнаўна пачала раскладваць на стале абтрапаныя карты?..

— Здымі тры карты. Левай рукой. Да сябе. Ага, вось так. Не паказвай мне, пакладзі ў калоду.

Варажба была ахавая: «бубновы валет з прапановай сустрэчы», «сардэчная тайна ад пікавай дамы», «нечаканае падарожжа ў казённы дом», «магчымы буйныя грашовыя траты праз чырвовага караля»…

Вельмі хутка мне зрабілася сумна. Настолькі, што гэта адчула нават варажбітка. Пункт «чым сэрца заспакоіцца» яна спусціла на тармазах, сабрала карты і паспешліва стала хаваць іх у свой рыдыкюль.

Ага! А вось рыдыкюльчык у яе сапраўды вядзьмарскі, — убачыўшы, як Сямёнаўна шчоўкае металічнымі загагулінамі пузатай сумкі са старой чорнай скуры, я ажывілася.

— Можа, давай паспрабуем паваражыць яшчэ па руцэ, — прапанавала яна.

— Давайце, — раўнадушна згадзілася я. — Варажбой больш, варажбой менш… Якая далонь патрэбна? Левая?

Сямёнаўна паднесла маю руку бліжэй да вачэй. Зноў завучана забубніла, што лініі жыцця і розуму, якія ў мяне перапляталіся неяк не так. Стараючыся ўпэўніць мяне ў сваім дары, яна падняла твар і ўпершыню глянула мне ў вочы.

І… Нібы закараціла аголены провад… Нібы цела Сямёнаўны наскрозь працяла нябачная маланка… Твар жанчыны неяк раптам абцёк: падбародак, шчокі, нават лоб

апалі, падаўжэлі ледзь не ўдвая. Кроў адхлынула ад скуры, зрабіўшы яе мярцвяцкі белай. Вусны настолькі станчэлі, што шэрыя зубы агаліліся, па-драпежніцку высунуліся наперад…

— Сённяшні дзень… Сённяшні дзень… — голас Сямёнаўны загучаў адстаронена, пайшоў аднекуль знізу, нараджаючыся хіба што ў страўніку. — Сённяшні дзень… Ён стане для вас…

— Якім? — не вытрымала я. — Дагаворвайце! Якім для мяне стане сённяшні дзень?

— Для вас ён стане ап… — варажбітка ўсхліпнула неяк па-дзіцячы і зайшлася ў кашлі.

Ды ў такім, што, здавалася, яе лёгкія ў імгненне разарваліся на шматкі. Паветра не магло прабіцца скрозь прыступы кашлю — твар Сямёнаўны стаў фіялетавым. Марудна, як у запаволеным кіно, жанчына пачала спаўзаць на падлогу.

А я… А я сядзела побач з няшчаснай — руку працягні — дапаможаш — і моўчкі назірала за яе пакутамі. Шурпатым жалезным ланцугом маё цела скаваў першабытны жах: я была не ў стане нават лыпнуць вачыма. Адчувала толькі, як нехта нябачны набліжаецца да мяне, дыхае ў патыліцу марозным паралізуючым дыханнем, цягнецца да шыі кіпцюрастымі доўгімі пальцамі…

— Ленка-а-а! Ты дзе? — Уваходныя дзверы з грукатам расчыніліся, і чародка дзяўчат з інтэрната насупраць з вясёлым гвалтам уварвалася ў пакой. — Ленка! Пастаянныя кліенты прыбылі — раскрывай сэкандхэндаўскую «каробачку»…

…Кіпцюрасты адступіў і знік. Нібы і не было ніколі. Разам з кашлем Сямёнаўны. Экстрасэнша зрабіла нарэшце глыбокі ўдых і агаломшана агледзелася. Асэнсаваўшы, відаць, нядаўнія падзеі, не па гадах шпарка ўскочыла на ногі і, не забыўшы прыхапіць свой чорны рыдыкюль, подбегам кінулася да дзвярэй.

— Хвіліначку! — наперарэз ёй выскачыла я. — А што ўсё ж такі са мной? Вы не закончылі…

— Бачу вас у першы і апошні раз, — стараючыся не глядзець на мяне, на хаду агрызнулася Сямёнаўна.

І з такой сілай ірванула дзверы, што ледзь не збіла з ног Ленку — міса з парэчкамі выпала з рук сяброўкі, і сотні чырвоных, як кроў, ягад заскакалі па прыхожай…

Варажбітка пашыбавала па парэчках.

— Што здарылася, Сямёнаўна? — спрабавала спыніць яе разгубленая Ленка, але за той ужо з грукатам зачыніліся ўваходныя дзверы.

— Ды што тут у вас адбылося? — недаўменныя вочы Ленкі спыніліся на мне.

— А! — паспрабавала аджартавацца я. — Нічога асаблівага. Проста «Аннушка уже разлила масло»…

— Якая Аннушка? — атарапела Ленка.

— Не бяры да галавы — жартую, — паціснула плячыма я і выйшла, не развітваючыся.

**ПРЫПЫНІЦЦА-АЗІРНУЦЦА…**

— «Аннушка разлила масло… Аннушка разлила масло… Аннушка разлила масло…» — мае крокі самі сабой клаліся на рытм булгакаўскай фразы. — Ап… Гэта апошні? Хутчэй за ўсё. Ну не апетытны ж! Самы-самы апошні? Але мне няма яшчэ і трыццаці… Чаму менавіта я?..

Затое нарэшце знікнуць гэтыя пакутніцкія сны, — і ў крытычнай сітуацыі небарака-розум спрабаваў намацаць пазітыў. — Інтэрнэт-лаянка былога сябра больш не пакрыўдзіць, няхай сабе гаўкае…

Апошні дзень… Апошні светлавы? Ці ўсё ж дадуць дацягнуць да поўначы? Колькі цяпер? Ого! Ужо восем, значыць, у любым выпадку засталося няшмат… Ну і што далей? Куды мне цяпер? Каму прынесці свой страх? А можа, паспрабаваць схавацца? Падбегчы да чыгуначнай касы, купіць білет і затаіцца ў вагоне ўсё роўна якога цягніка. Абы як мага далей… Дурнічка! Калі лёсу захочацца, любая дарога прывядзе цябе ў загадзя вызначанае ім месца…

…Цёмна-зялёная «японачка» рэзка прытармазіла перад самым маім носам. Ого! А я, аказваецца, стаю на пешаходнай «зебры»… І як даўно? Давай, тэпай, нецярпліва замахаў рукой дысцыплінаваны вадзіцель. І я паслухмяна, амаль на аўтапілоце, патэпала. «Аннушка разлила масло… Аннушка разлила масло…» — сам сабой вярнуўся рытм крокаў…

Спалохацца я не паспела. Наогул не зразумела, што адбылося — надсадны роў матора, незразумелы бліскучы рух і ўдар тугой хвалі паветра… Усё адбылося імгненна, вось толькі падала я чамусьці доўга-доўга. Прайшла цэлая вечнасць, пакуль маё цела нарэшце грымнулася на асфальт, і стомленая свядомасць правалілася ў выратавальную цемру...

— Дзяўчыну збілі… Байкер… Пайшоў на абгон на пешаходным пераходзе… Сволачы! На вуліцу з-за іх хутка не выйдзеш… Як яна, бедная?.. Міліцыю выклікалі?

Вяртацца ў рэальнасць не хацелася, якое ўсё ж такі шчасце мець магчымасць не думаць… Але хтосьці настойліва, хоць і не моцна, шлёпаў мяне па шчоках. Так што вярнуцца давялося.

…Частакол людскіх ног адгарадзіў перспектыву. Мая галава ляжала на чыіхсьці каленях.

— Жывая? — незнаёмыя вочы колеру добра запаранай кавы паглядалі на мяне з трывогай.

— Жывая… Не турбуйцеся… Пусціце… Дазвольце, я пайду…

— Якое «пайду»! — абурыўся мой ратавальнік. — Ды вы так грымнуліся, што на асфальце, пэўна, умяціна засталася… У вас палова касцей пераламана — няйнакш. Проста ў шоку боль не адчуваецца… Зараз прыедзе «хуткая». І міліцыя. Ну і дзянёк у вас сёння!

Дзянёк? Госпадзі! Успаміны вярнуліся і стоп-кадрамі замігцелі ў свядомасці: фіялетавы твар экстрасэншы, раздаўленыя парэчкі…

— Не трэба «хуткай», — узмалілася я. — І міліцыі не трэба. Прашу вас. Я не магу… Не маю часу… Мне зусім мала засталося… Адпусціце…

Наўрад ці на выратавальніка падзейнічала гэтая няскладная просьба. Верагодна, у маіх вачах ён заўважыў штосьці такое, што прымусіла яго змяніць рашэнне.

— Сядайце ў машыну, падкіну вас дадому, — хлопец адкрыў перада мной дзверку сваёй іншамаркі. — Сядайце-сядайце. Смялей…

Натоўп відавочцаў пачаў расчаравана расцякацца адразу ва ўсіх накірунках. Гукі ДАІшнай сірэны набліжаліся.

— Хутчэй, прашу вас, — я амаль што плакала.

— Не пытанне!

Мой ратавальнік націснуў на «газ», і яго аўтамабіль паслухмяна ўліўся ў бліскучую стужку сабе падобных.

— Куды загадаеце? — наўмысна жартаўлівым тонам спытаўся ён.

— Не ведаю… Праўда… Вы не падумайце, я ў норме… Проста такая сітуацыя… Я не хачу дамоў… Мне страшна застацца адной… — я больш і не спрабавала стрымліваць слёзы. — Высадзіце мяне вось тут, на праспекце… Я пайду… Прабачце… Я сама…

— Гэ-э-эй! А ну супакоіцца! — гаспадар машыны на хаду нахіліўся і выцягнуў з бардачка пакецік сурвэтак. — Прапаную вам наведаць адну кавярню. Утульную. Маю любімую. У гэты час у ёй не бывае шматлюдна.

…У прыбіральні я паспрабавала «пачысціць пёркі». Куды там! Чырвоныя ад слёз вочы, распухлы нос, шырокая — на ўсю шчаку — драпіна… Так, джынсы можна паспрабаваць замыць… Вось чорт, не адмываюцца! А што рабіць з парванай майкай? Стоп, у сумачцы павінен быць шалік…

— Ну вось! — узрадаваўся мой ратавальнік. — Зусім іншы выгляд… Прысаджвайцеся, я ўжо зрабіў заказ…

Праз пару хвілін на стале з’явіўся бакал чырвонага віна. Яшчэ праз імгненне да яго далучыліся два кубачкі кавы і талерка з піражнымі.

— Вам трэба крыху выпіць, — адказаў на маё нямое пытанне візаві. — Шчыра кажучы, не зашкодзіла б і мне — урэшце ўсё адбывалася на маіх вачах… Але я за рулём… Давайце, не саромейцеся. Дарэчы, як ваша імя? Паралелімся з вамі ледзь не гадзіну, а ўсё інкогніта…

— Майя. А ваша?

— Дзяніс. Ну што, самы час адзначыць знаёмства?.. — ён чокнуў кубкам кавы ў мой бакал з віном.

Віно было нечакана добрым. Церпкім, вяжучым, аксамітным.

— Амброзія! — ад асалоды я закаціла вочы.

— Ну, давайце, — у вачах колеру добра запаранай кавы нарадзілася пытанне. — Што здарылася? Адкуль расце гэта вашае «зусім мала засталося». Расказвайце-расказвайце. І майце на ўвазе, я — чараўнік, які ўмее разагнаць любыя хмары. Нават самыя абложныя і свінцовыя. Ну…

І пра што я магла яму расказаць? Пра ідыёцкую варажбу нейкай Сямёнаўны? Ці пра ўласны ідыятызм, з якім я купілася на гэты старанна разыграны спектакль?

— Глупства, пане дабрадзею, — паспрабавала аджартавацца.

— Папярэджваю: адмаўчацца не атрымаецца, — скорчыў наўмысна грозны твар Дзяніс.

За акном, ля якога стаяў наш столік, пайшоў дождж. Густы і спакойны. Грыбны. А ў кавярні ненавязліва загучала музыка: I was here... I lived, I loved. I was here[1]... Здаецца, Беёнсэ…

Віно сагрэла і разняволіла. І, шчыра кажучы, размаўляць не хацелася зусім. Нават на прыемныя тэмы. «I want to say I lived each day, until I died. I know that I had something in, somebody's life. The hearts I have touched, will be the proof that I leave that I made a difference»[2], — спявала Беёнсэ.

І калі спявачка зноў пачала паўтараць прыпеў, нечакана для самой сябе я загаварыла. Спачатку саромеючыся, стараючыся падбіраць найбольш адпаведныя словы. Пра трагічную смерць бацькоў, пра ўласную адзіноту. Пра куленепрабівальную сцяну, якой адгарадзілася ад мяне жыццё (ці я ад яго?). Пра няўменне не пакутаваць ад бясконцых

[1] Я была тут… Я жыла, я любіла. Я была тут (пераклад з англ. мовы).

[2] Я хачу сказаць, што я пражыла кожны дзень свайго жыцця да самай смерці. Я ведаю, што я нешта значыла ў чыімсьці жыцці. Сэрцы, да якіх я дакранулася, будуць доказам таго, што, адыходзячы, я змяніла гэты свет.

думак і пра стому жыць. Пра сон, які вяртаецца зноў і зноў. Пра былога добрага сябра, што аніяк не спыніцца выліваць на мяне бруд толькі таму, што аднойчы нашы дарогі разышліся. Пра свае страхі. Пра Сямёнаўну і яе дзікую варажбу…

На вітрыне крамы насупраць дагараў дзень. Кавярня паступова запоўнілася людзьмі, і музыка ў яе дынаміках пагучнела. А я гаварыла. Глядзела ва ўважлівыя вочы колеру кавы і гаварыла, не думаючы, пра ўсё. Словы сыпаліся з мяне самі, нібы ў нейкай унутранай прасторы, дзе яны, нявыказаныя, назапашваюцца, ад перапоўненасці прарвалася дзірка…

**БЯРЫ ШЫНЕЛЬ…**

…Дзяніс падвёз мяне да дому. І нават праводзіў да ўваходных дзвярэй. На развітанне ўзяў за руку, і мы доўга стаялі моўчкі. Нарэшце ён лёгкім пацалункам дакрануўся да маіх пальцаў:

— Ты не адна. Цяпер не адна… Разумееш, Майя, якімі б адзінокімі мы сябе ні лічылі, побач з намі заўсёды ёсць нехта, гатовы падзяліць нашы радасці і боль. Трэба толькі азірнуцца, каб яго ўбачыць. Лёс паслаў табе сёння гэтага байкера, можа, толькі дзеля таго, каб ты змагла азірнуцца…

У кватэру я зайшла шчаслівай. Вось так. Вось так! Я сказала гэта, я выплюхнула. І ён не высмеяў, не адвярнуўся. Ён зразумеў. І я цяпер не адна!!!

Ну і куды падзяваліся ўсе мае страхі? Не, гэта ж трэба дайсці да таго, каб паверыць нейкай там Сямёнаўне! Майя, самы час падарослець!

«I was here... I lived, I loved. I was here…» — спявала я, стоячы пад душам і змывала са скуры ўласнае мінулае, якое стала раптам зусім не патрэбным.

…Клац-клац… Ад дотыкаў маіх пальцаў камп'ютар прачнуўся і выдаў інфармацыю: прыйшлі тры новыя лісты і ў сацыяльных сетках шмат абнаўленняў. Зноў ты, Адаме? Усё яшчэ пенішся злосцю? Ну і Бог з табою! Шнары ад тваіх слоў загаіліся! Ты больш не маеш нада мной аніякай улады!

Так, традыцыйная шклянка малака нанач, здаецца, яно пачало пракісаць. Грымаса ў люстэрку — і я з разбегу заскочыла ў ложак. Як звычайна, пачытаць нанач? Не сёння! Я стамілася…

«І гэтая стома шчаслівая!» — яшчэ паспела падумаць я і правалілася ў сон. У глыбокі-глыбокі сон без аніякіх мучыцеляў і праследаванняў.

Разбудзіў мяне грукат. Абсалютна неверагодны. Нібы нехта молатам біў у стальную рэйку…

Аўтаматычна зірнула на электронны цыферблат — 2.08. Дрыжачай рукой намацала кнопку начніка і ўключыла святло. Біў насценны гадзіннік. Стары. Ён перадаваўся ў нашай сям'і з пакалення ў пакаленне. Быў свайго роду сямейнай рэліквіяй. І… І ён ніколі не «ішоў» — прынамсі, нават мая бабуля не памятала гэты гадзіннік спраўным. Грамавыя ўдары ніяк не змаўкалі, білі, здавалася, па галаве. А стрэлкі сышліся на лічбе 12. Няўжо ў тэрміна, вызначанага нам лёсам, свой адлік?

Не панікаваць, не панікаваць! Нельга! Мала ці што бывае. Ох, Майка, ну і баязліўка ты ўсё ж такі.

Але, нягледзячы на браваду, страх не адпускаў. Да вачэй нацягнуўшы коўдру, я сядзела ў ложку і тупа глядзела на гадзіннік. Дзяніс! Трэба патэлефанаваць Дзянісу. Ён жа дазволіў. Сказаў: у любы час дня і ночы…

— Ох, прабач, Дзяніска, што пераб'ю твой сон, — каб адагнаць страх, я пачала размаўляць услых.

Усё яшчэ не адводзячы вачэй ад гадзінніка на сцяне, пацягнулася да начнога століка, на які перад сном заўсёды клала мабільнік. Рука натыкнулася на нешта іншае. Значна большае. І… Баючыся паверыць ва ўласную здагадку, я марудна павярнула галаву: на начным століку ляжаў рыдыкюль Сямёнаўны. Той самы. Вядзьмарскі. З пацёртай ад шматлікіх дотыкаў чорнай скурай.

Сцены пакоя закруціліся ў вар'яцкім рытме, але замест адчайнага крыку маё горла змагло нарадзіць толькі тоненькі мышыны піск.

Затое літаральна праз імгненне ва ўсю моц заенчыў дзвярны званок. Нехта з таго боку і не думаў адпускаць ягоную кнопку — цiснуў і цiснуў, пакуль мне не стала ўсё роўна: хопіць! Чуеце вы, пачвары! Наваліцеся на мяне ўсе адразу, разарвіце на часткі, выпіце кроў! Мне ўсё роўна. Я стамілася вас баяцца…

Нават не падумаўшы накінуць халат, як была, у адной піжаме, я шчоўкнула замком і наўсцяж расхінула дзверы.

— Вы не спыталіся, хто там. Вас не здзівіў начны візіт? Вы чакалі кагосьці? — з гэтай тырадай у прыхожую ўваліўся мужчына ў шэрым пінжаку з гэткага ж колеру вачыма. За ім увайшоў яшчэ адзін у джынсавай безрукаўцы. Потым тры міліцыянеры, двое з якіх трымалі рукі на кабуры. І нарэшце мая сяброўка Ленка.

Наўрад ці позні візіт гэтай кампаніі мог парадаваць мяне, але сам факт, што побач са мной жывыя людзі, прынёс палёгку.

— Ваша імя? — спытаўся ў мяне «шэры пінжак» — ён паспеў ужо адкінуць край прасціны і ўсесціся на канапе.

— Майя.

— Поўнасцю, калі ласка.

— Майя Радзевіч. Па бацьку Мікітаўна.

— Адрас пражывання?

— Думаю, вы і самі ведаеце, раз вы ў маёй кватэры.

— Адрас… — метал у голасе пінжака не пакідаў шанцаў на жарты.

Я назвала свой адрас.

— Дзе вы знаходзіліся у перыяд з 19.40 да 20.00?

— Дайце падумаць… А што, уласна кажучы, здарылася? — я паспрабавала перахапіць позірк Ленкі, якая, так і не прайшла ў гасцінны пакой, а прытулілася да сцяны ў прыхожай і не адрывала вачэй ад падлогі.

— Адказвайце на пастаўленае пытанне, — металу ў голасе «шэрага» паболела.

— Не ведаю дакладна. А… Я была ў Лены. Памагала збіраць парэчкі. Потым…

Я запынілася, не ведаючы, ці можна агучыць перад міліцыянерамі Ленчын «сэкандхэндаўскі» бізнес. Ды і экстрасэншу таксама. Не хапала, каб з-за мяне ў беднай узніклі праблемы…

— Дык што было потым? — высокім, амаль жаноцкім голасам спыніла мае разважанні «джынсавая безрукаўка».

— Нічога… Мы размаўлялі. Потым…

— Потым ты пайшла ў дом, а я засталася дабіраць парэчкі, — па-ранейшаму, не адрываючы вачэй ад падлогі, падказала Ленка.

— Што вы рабілі ў доме грамадзянкі Хаменка? — зноў заскрыжацеў металам «шэры».

— Ды глупствы… Лена ўгаварыла мяне паваражыць. Да яе зайшла варажбітка. Сямёнаўна. Не падумайце — усё гэта глупствы. Дзеля жарту…

— Дзеля жарту… — шматзначна паўтарыў мае словы «пінжак». — А вось у нас ёсць зусім іншы, вельмі сур'ёзны погляд на вашы жарты. Работніцы камвольнага

камбіната, якія жывуць у інтэрнаце, паказалі, што калі яны зайшлі ў дом грамадзянкі Хаменка, грамадзянка Краўцэвіч была пры смерці. А вы спакойна назіралі, як яна курчыцца ад удушша. Як вы можаце патлумачыць іх паказанні?

— Я не ведаю… Усё здарылася так нечакана… Я… разгубілася…

— Добра. Пасля таго, як грамадзянка Краўцэвіч развіталася, праз які час вы рушылі за ёй услед?

— Яна не развітвалася… Ленка, ну скажы! Чаму ты маўчыш? Яна выйшла, не развітваючыся. Нават парэчкі патаптала…

— Іншымі словамі, пасля кантакту з вамі грамадзянка Краўцэвіч пакінула дом грамадзянкі Хаменка ў стане моцнага нервовага ўзбуджання. — Запішы гэта даслоўна, — звярнуўся «шэры пінжак» да самага маладога з міліцыянераў, які, прымасціўшыся за маім камп'ютарным столікам, штосьці старанна запісваў.

— Што канкрэтна выклікала настолькі глыбокі стрэс у вашай субяседніцы?

— Яна… Яна варажыла мне. І нешта ўбачыла… Пачала задыхацца, кашляць… — спрабавала растлумачыць я, з кожным словам усё глыбей асэнсоўваючы, што нясу лухту. Прынамсі, з пункта гледжання маіх няпрошаных гасцей. — Але што ўсё ж такі здарылася?

— Пытанні тут задаю я, — гэтую фразу «пінжак» прамовіў з помпай кіношнага следчага, але мне ўжо было не да весялосці.

— Пра што пайшла размова пасля таго, як вы дагналі грамадзянку Краўцэвіч? — працягваў допыт «шэры».

— Ды не даганяла я яе. Нават не бачыла, у які яна бок пайшла, — у маім голасе пачалі прабівацца істэрычныя ноткі.

— А грамадзянка Хаменка паказала, што вы пакінулі яе дом літаральна праз хвіліну пасля грамадзянкі Краўцэвіч. Гэта праўда?

— Не ведаю дакладна… Можа быць… Так, я сапраўды выйшла неўзабаве пасля Сямёнаўны. Памятаю, нават здзівілася, што яе ўжо не бачна. Нават падумала, ці не на машыне яна прыязджала?..

— Іншымі словамі, вы мелі намер яе дагнаць? — метал у голасе «шэрага пінжака» знік, саступіўшы месца відавочнай палёгцы. — Што ж… Вы павінны ведаць: у 23.19 у прыватным сектары, у кустах непадалёк ад дому грамадзянкі Хаменка быў знойдзены труп грамадзянкі Краўцэвіч. Згодна з медыцынскай экспертызай…

— Не можа быць! Госпадзі! — не вытрымала я.

— Не перабівайце. Згодна з медыцынскай экспертызай, забойства адбылося паміж 19.30 і 20.00 гадзінамі.

— Дзе вы былі ў гэты час? І хто можа пацвердзіць вашы словы?

— Я… Была… Ніхто… Я не ведаю, — мне не ўдалося стрымаць слёзы. — Я проста ішла па вуліцы. Я думала… Не заўважала нічога…

— А хто такая Аннушка? — амаль задушэўным тонам спытаўся следчы.

— Якая Аннушка? — зніякавела я.

— Аннушка, — Ленка нарэшце здолела адарвацца ад сцяны. — Памятаеш, ты сказала мне, што Аннушка ўжо разліла масла?..

— Гэта не я… — як магла, спрабавала апраўдацца я.

— Наколькі я разумею, у справе ўзнікаюць новыя дзеючыя асобы, — мяркуючы па выразе твару, «пінжак» узяў след.

— Гэта фраза з «Майстра і Маргарыты». З рамана Булгакава… — да істэрыкі мне заставалася чвэрць кроку.

Аднак Ленка мяне апярэдзіла. Размаўляючы, яна зайшла ў гасціную, зрабіла некалькі крокаў да канапы. Нечакана яе вочы спыніліся на чорным прадмеце, які

валяўся на падлозе ля майго ложка… На чорным скураным прадмеце з металічнымі загагулінамі. Мая сяброўка пазнала яго і забілася ў канвульсіях:

— Сумка… Сумка Сямёнаўны тут… Ты… Ты насамрэч яе забіла!!!

— Я не забівала. Не забівала. Нікога і ніколі. Гэта мяне забівалі. Часта. Кожны дзень, — у бездапаможнай спробе растлумачыць, прадзерціся скрозь нагрувашчванне фатальных супадзенняў, зноў і зноў паўтарала я.

«Пінжак» загадаў мне збірацца.

— У якім сэнсе? — перапытала я.

— У літаральным, — ён амаль усміхаўся. — Забойцаў трэба ізаляваць ад грамадства. Вы згодны з гэтым правілам?..

І атрымаўшы мой сутаргавы ківок галавой, дадаў:

— Рады, што хоць у гэтым пытанні ў нас з вамі паразуменне… Так што апранайцеся — не ў піжаме ж вас забіраць. Куртку не забудзьце прыхапіць… Ну і што, што лета… Думаю, ваш візіт да нас зацягнецца. Гадкоў гэтак на добры дзясятак.

З уладкаванай у сцяну шафы я выцягнула джынсы і зялёную майку з лагатыпам фірмы, на якую працую. Потым з камода дастала камплект бялізны і зялёныя шкарпэткі. Прыхапіла красоўкі і накіравалася ў пакой бацькоў.

— Стоп! Куды? — растапырыў рукі «шэры». — Давай тут, няма чаго саромецца, у турме будзеш корчыць з сябе лэдзі. Перад наглядчыкамі.

— Ды хопіць ужо, Барыс, — не вытрымала «джынсавая безрукаўка». — Не перагінай палку. Дай дзяўчыне спакойна пераапрануцца. Сёмы паверх. Куды яна падзенецца? Або вы, сведка, можаце паназіраць за ёй, — звярнуўся ён да маёй сяброўкі Ленкі.

— Нізавошта! — завішчала Ленка. — Я не застануся ў адным пакоі з забойцай. Вы хочаце, каб яна і мяне…

— Добра, ідзіце, — махнуў рукой «шэры пінжак». — Даю вам роўна пяць… ён глянуў на свой гадзіннік, — добра, роўна сем хвілін. Усё, адлік пачаўся.

Я зайшла ў пакой бацькоў. Пасля іх раптоўнай смерці я анічога ў ім не мяняла. Хіба што кветкі. Раз на тыдзень. Другі год запар…

Адзела бялізну, нацягнула джынсы і майку, зашнуравала красоўкі і выпрасталася. Насупраць на тумбачцы з «мамінага» боку ложка стаяла фатаграфія. На ёй мы былі ўтраіх. Тата-мама-я — шчаслівая сям'я… Ад якой сёння застаўся адзін аскепак...

— Гэтага не здарылася б, калі б вы былі побач, мае родныя, — прашаптала ім.

Тата крыху павярнуў галаву і зірнуў на мяне з дакорам:

— Ты сабралася здацца без барацьбы? Майка, нас, Радзевічаў, вось так проста не зламаць… Дзейнічай!

Далей усё стала адбывацца амаль што без майго ўдзелу. Нібы нехта вёў мяне, як гульнёвага Марыа з дапамогай камп'ютарнай мышкі. У імгненне вока я выслізнула на балкон, нават не паспрабаваўшы глянуць уніз, пералезла на сумежны, зайшла ў кватэру майго адзінокага суседа, глухаватага Пятровіча (о дзякуй табе, жнівень, за адчыненыя дзверы!). І трапіла ў абдымкі любімага крэсла старога — ён любіў сядзець ля балконных дзвярэй і, як сам казаў, прывыкаў да неба. Крэсла з рыпеннем, ад якога маё сэрца правалілася ў левую красоўку, праехала па паркеце — стары на імгненне заціх, перавярнуўся набок, па-дзіцячы зацмокаў і зноў захроп. На дыбачках пракраўшыся ля яго тахты, я дабралася да ўваходных дзвярэй, асцярожна павярнула ключ, выйшла і ціхенька, без шчаўчка прыкрыла іх за сабой. Спускалася вялізнымі — і не падазравала, што так умею — скачкамі. Сэрца злоўленай птушкай білася аб рабрыны, лёгкія гатовыя былі ўзарвацца ад лішку паветра…

Калі мінала трэці паверх, стала ясна, што мой пабег выкрыты, бо наверсе заляпалі дзверы, раздаліся крыкі, нехта націснуў на кнопку ліфта і той паслухмяна папоўз уверх, чыесьці крокі, не спадзеючыся на ліфт, спрабавалі дагнаць мяне па лесвіцы...

Пралёт, яшчэ адзін, яшчэ… — у вушах выразна чуўся голас бацькі:

— Давай, давай, пасля аддыхаешся! Маланкай па асветленым двары. Праз арку. Налева, за будынак былой майстэрні. Не спыняйся — небяспечна блізка. Квартал. Яшчэ адзін. Спакойна, ідзі размераным крокам. Бачыш, ты не адна на вуліцы. Цяпер направа. Глядзі ўважліва, дзесьці тут у агароджы павінна быць дзірка… Правей, правей… Ну вось жа яна — застаецца праслізнуць у парк. Усё, Майка, ты адарвалася ад праследу, — сказаў голас таты і змоўк.

…Галінкі ліп чапляліся за капялюш завязанай на таліі футболкі, раз-пораз хвасталі па твары, дзерлі за валасы — не зважаючы на ўсё гэта, я працягвала ісці па зарослай алеі старога цяністага парку. Неба на ўсходзе пачынала ружавець. Насуперак варажбе Сямёнаўны мой новы дзень нараджаўся…

## СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

Паступова мае крокі пачалі запавольвацца… Супакоілася, перастала быць усхліплівым і дыханне. Хваля неймавернага напружання спакваля адступала, пакідаючы на пяску рэчаіснасці непад'ёмныя камяні адчаю.

Я прысела на вільготную ад ранішняй расы лаўку. Перадсвітальныя дрыжыкі заскакалі па спіне амаль адразу. Каб хоць неяк сагрэцца, падцягнула да сябе ногі і рукамі абхапіла калені. Не дапамагло. Побач з лаўкай у сметніцы ляжала газета — накінула яе на плечы, нібы пуховы шалік. Як ні дзіўна, але дрыжыкі паслабелі.

«Ну і што далей?» — пытальна зазірнула мне ў вочы самота.

Далей? Не ведаю… Хаця… На свеце ёсць Дзяніс! Дзяніска! Дзянісачка! І як я магла забыцца?! Ён зразумее! Ён паверыць… Ён жа сам казаў: у любы час дня і ночы… Дастаткова толькі набраць яго нумар…

Звыклым рухам мая рука пацягнулася да задняй кішэні джынсаў і застыла на паўдарозе, бо тэлефон, я памятала гэта дакладна, застаўся ў кватэры… І грошы, здаецца, таксама.

На імгненне я зніякавела… Потым пачала ліхаманкава ляпаць па кішэнях. Уф, здаецца, нешта ёсць. Няхай бы буйная купюра… Хаця б у 100 тысяч… Дрыжачымі ад нецярпення рукамі я разгарнула знаходку. Скупога ранішняга святла хапіла, каб разгледзець: гэта быў рахунак за камунальныя паслугі…

Значыць, ні грошай, ні тэлефона…

«...ні сяброў, да якіх ты магла б звярнуцца па дапамогу», — паслужліва падказала самота.

Я і не спрабавала з ёй спрачацца. Сціснула скроні кулакамі і заплюшчыла вочы: карцінкі перажытага заскакалі па аголеных нервах…

Хто? Хто ненавідзіць мяне да такой ступені? У містычнасць усёй гэтай гісторыі я больш не верыла. У сляпое супадзенне, зрэшты, таксама, бо не бывае такіх супадзенняў…

Хто-о-о-о-о?..

…Некалі, тысячу гадоў таму, я была шчаслівай — не жыла, як цяпер разумею, а бесклапотным матыльком лунала над квітнеючым лугам. Бацькі, сябры, цікавая праца…

Канешне, і тады існавала нейкая незадаволенасць. Юнацкія прэтэнзіі на незразумеласць — непазбежнае наступства захаплення рускай класікай. Гэткая тургенеўская паненка з бледным адухоўленым тварам… Цяпер нават смешна ўспомніць…

Працаваць пасля ўніверсітэта пайшла ў прыватную фірму. Праграмістам. Спачатку радавым. Потым вядучым. Праз паўтара года савет дырэктараў прызначыў мяне начальнікам аддзела.

Вось тады і давялося ўсур'ёз усвядоміць, што на маім лузе растуць не толькі кветкі…

Канешне, кожны лічыў неабходным павіншаваць мяне з прызначэннем. Усміхаючыся, больш ці менш шчыра, паціскаючы руку, прыязна паляпваючы па спіне. Але варта было нечакана азірнуцца, каб перахапіць на сабе чыйсьці нядобры позірк. А гэтыя шушуканні за спінай!

Зрэшты, не толькі шушуканні. Аднойчы, прыпыніўшыся на імгненне перад адчыненымі дзвярыма, я пачула:

— Людзі дзесяцігоддзямі ў вядучых сядзяць, а гэта… — звыкла пырскала слінай Роза Якаўлеўна — яна прыйшла на фірму адной з першых.

— Узначаліць аддзел павінен быў Мацвей Сідаровіч. Я на 100 працэнтаў была ўпэўнена, што начальнікам стане менавіта ён… — падала голас Верачка, даўно і безнадзейна закаханая ў Мацвея.

— Сідаровіч сапраўды заслужыў гэтае месца, — пацвердзіў голас, здаецца, Генрыха.

— Ён-та заслужыў. А яна зарабіла… Гы-гы-гы... Передком… — гэтая сентэнцыя, безумоўна, належала Жоржыку.

— Дакладна… Я на свае вочы бачыла, як Майка з машыны генеральнага вылазіла… — тут жа знайшлася Верачка.

«Няпраўда, я працавала! — хацелася крыкнуць. — Заставалася, калі трэба было, амаль да раніцы… Дома ночы навылёт шукала рашэнні складаных задач...»

Крыкнуць, надаваць кухталёў… Трэба было. А я зачынілася ў прыбіральні і ледзь не гадзіну прахліпала носам. Потым, старанна хаваючы чырвоныя вочы, папярэдзіла, што дрэнна сябе адчуваю, і паехала дадому. Балазе, ведала, што бацькі на працы…

Мацвей не мог не бачыць, што адбывалася ў аддзеле.

— Бабізм… Звычайны бабізм, — падышоў ён аднойчы падчас кава-паўзы. — Не звяртай увагі, Майка.

— Дзякуй, Мацвейка. Я пастараюся…

Потым у нашым аддзеле з'явіўся новенькі. Адам. Высокі, светлавалосы мужчына далёка за трыццаць. Не з прыгажуноў, але нешта ў ім адчувалася. Нешта такое, што жаночая частка фірмы аднадушна ў разы павысіла сваю боегатоўнасць.

Амаль з першага дня Адам пачаў заляцацца да мяне. Адкрыта і рамантычна. Кветкі, мяккія цацкі, білеты ў тэатр, прагулкі па начным горадзе пад соннае падміргванне жаўтавокага святлафора…

Маці Адам спадабаўся, тата паставіўся да яго крыху насцярожана.

— Раўнуеш! — кпіла з яго мама. — Шкада аддаваць адзіную дачушку чужому чалавеку.

— Не ў тым справа, — не прымаў жартаў тата. — Проста я не давяраю людзям, якія пры размове адводзяць вочы ўбок.

Калі я сказала пра гэта Адаму, ён стаў апраўдвацца. Маўляў, цэлымі днямі даводзіцца ўзірацца ў экран камп'ютара, у вачах зашкальвае ад выпраменьвання, а тут яшчэ выпраменьванне людское…

І я яго разумела. А як не зразумець, калі на мяне ён глядзеў, прычым, такімі вачыма, што я адчувала сябе каралеўнай…

Менш як праз год Адам прапанаваў мне руку і сэрца. Я прыняла заручальны пярсцёнак.

— Толькі давай пакуль пачакаем з вызначэннем канкрэтнай даты вяселля, — папрасіла нарачонага я. — Ты ж ведаеш: праект года ў самым разгары. Пакуль мы яго не завершым, нават і думаць не варта пра мядовы месяц.

Адам разумеў сітуацыю, бачыў, колькі сіл і часу мне прыходзіцца ўкладаць у справу, і без пярэчання згадзіўся.

Урэшце праект быў завершаны. Кіраўніцтва ацаніла зробленае аддзелам на «выдатна», і на нашы галовы абрынуўся сапраўдны прэміяльны дождж. Памер майго матэрыяльнага заахвочвання падаўся мне неверагодна шчодрым.

— Вы яго цалкам заслужылі, — сказаў генеральны. Уручаючы мне канверт з «зялёнымі», ён галантным рухам паднёс маю руку да вуснаў. — Я сачу за ходам спраў і ведаю, хто чаго варты ў нашай фірме.

Пацалунак, няхай сабе і ў руку, не застаўся незаўважаным — новая хваля плётак накрыла мяне з галавой…

— Хопіць самаедства, Майя, — паспрабаваў супакоіць Адам. — Яны табе проста зайздросцяць. А за прэмію ты, між іншым, можаш купіць сабе добрую іншамарку.

— Магу, — хітнула галавой я. — Але ў мяне ёсць іншая ідэя…

Яна тычылася маіх родных.

Мае бацькі былі настаўнікамі: тата выкладаў фізіку, мама — літаратуру і мову (маё захапленне класікамі — справа яе рук!). Выдатнымі педагогамі, якія працавалі не за грошы (хіба зарплату настаўнікаў можна назваць адэкватнай?!), хутчэй — за ідэю.

Я ведала, што яны даўно мараць пра падарожжа, але… Спачатку трэба было вывучыць мяне, потым вырашылі набыць лецішча, затым машыну, каб да яго дабірацца…

…За прэміяльныя я купіла бацькам турыстычную пуцёўку на Мальдзівы. Пасля доўгіх угавораў тата з мамай усё ж згадзіліся прыняць мой падарунак і, яшчэ не верачы ва ўласнае шчасце, адправіліся ў падарожжа. Каб ніколі з яго не вярнуцца…

…Мне не давялося ляцець за целамі мамы і таты. Страхавая фірма выканала свае абавязацельствы і прывезла ўсё, што ад іх засталося пасля начнога пажару ў гатэлі.

— Маланка… — бездапаможна развёў рукамі іх прадстаўнік. — Гатэль чамусьці не быў абсталяваны маланкаадводам. Вы маеце права праз суд запатрабаваць кампенсацыю…

…Я амаль не памятаю пахавання. Па-мойму, яно адбывалася ў іншым вымярэнні. У тым, дзе існавала я, мае тата і мама па-ранейшаму былі са мной...

Былі… Яны і сёння са мной…

…А сонца паднялося ўжо, тысячамі ўласных адбіткаў зайграла на расістых травах.

Недзе там, за гушчынёй старога парку, горад старанна рабіў выгляд, што заснуць яму сёння зноў не ўдалося…

Працягваць сядзець на адным месцы больш не ставала сіл. Але і ісці зусім не было куды…

**ВОЛЬНАМУ — ВОЛЯ…**

Я паднялася і пабрыла па алеі. Наўздагад. Куды прывядуць ногі.

Яны прывялі мяне да невялічкай сажалкі.

На беразе ў зблытаных космах парыжэлай травы валялася забытая кімсьці бейсболка з выявай Беёнсэ. Добра, палічым гэта за знак. Прымерыла. Потым передумала, зняла кепку, сцягнула з плячэй футболку і нахілілася да вады. З люстраной паверхні яе пакуль яшчэ сонных вод на мяне ўзіралася незнаёмка з чорнымі правалами замест вачэй…

Спаласнуўшы твар, я выцерла яго левым бокам футболкі і нахлабучыла кепку. Цяпер бы кубачак кавы… І булачку цёплую, з густой прысыпкай з карыцы. А яшчэ лепш — дзве…

Апошні раз я ела… Так-с, калі не лічыць бакала віна ў кавярні, апошні раз я ела ўчора раніцай: бутэрброд з сырам, кава і кавалачак шакаладкі…

Успамін пра ежу адазваўся ў страўніку спазмам.

— Добра-добра, не хлебам адзіным, — сказала сама сабе. — Не зацыклівайся — ёсць куды больш надзённыя справы. Вось дадумацца б, хто… Хто стаіць за ўсімі гэтымі жахамі! Ну думай, Майка, думай…

…Першы званок раздаўся вечарам пасля пахавання бацькоў…

Калі памінальная вячэра скончылася, госці пачалі разыходзіцца. І кожны на развітанне лічыў неабходным падысці да мяне са словамі спачування. Я глядзела, як варушацца вусны людзей, і не магла зразумець ані слова. Бу-бу-бу, спагадлівы позірк, падбадзёрваючы дотык да рукі… Наступнае бу-бу-бу… Канвеер людской спагады. Можа, і шчыры, але невыносны — адпусціце мяне. Не сёння…

Калі б не рука Адама, якой ён абдымаў мяне за плечы, я б, напэўна, не вытрымала і збегла б з кавярні без аглядкі. З удзячнасцю азірнулася на яго і асеклася: на твары майго нарачонага чыталася нейкая гаспадарскасць. Ён пачуваў сябе ў сваёй талерцы: прымаў спачуванні, паціскаў працягнутыя далоні, падкрэслена бездапаможна разводзіў рукамі, маўляў, Бог даў — Бог узяў... З месца ў кар'ер увайшоў у ролю гаспадара. І відавочна ўпіваўся гэтай роляй…

— Прабач, сёння я хачу пабыць адна. Не трэба мяне падвозіць. Я злаўлю таксоўку.

— …

У першую хвіліну Адам нават не знайшоўся, што адказаць. Потым апамятаўся, загаварыў нешта пра падзяленне болю…

— Пастарайся мяне зразумець, сёння я нічога не магу дзяліць. Ні з кім…

Ляснула дзверца таксоўкі. Стоячы на краі тратуара, Адам разгубленым позіркам праводзіў мой ад'езд.

Дома, так і не здолеўшы зняць плашч, я доўга сядзела на канапе. Потым паднялася, наліла ў пузатую чарку крыху каньяку — татавага любімага, ён так і не паспеў яго дапіць. Падняла чарку ўгору:

— За вас, мае любыя!

І ў гэтую хвіліну забарабаніў тэлефон. Я не збіралася падымаць трубку, але ён званіў, званіў, званіў…

— Алё, — нарэшце не вытрымала я.

На тым канцы адкашляліся:

— Ну як?

— Што як? — не зразумела я.

— Задаволена? Забіла сваіх бацькоў уласнымі рукамі і сядзіш цяпер шчаслівая? Дык каб не ты… Каб не твае грошы…

З таго дня званкі сталі рэгулярнымі. Яны даганялі мяне ўдзень, прабіваліся ў свядомасць сярод ночы. Здзеклівы жаночы голас электрычным разрадам біў па нервах…

Я перастала падымаць трубку. Адключыла мабільны.

Тады на змену званкам прыйшлі запіскі. Я знаходзіла іх у шуфлядах рабочага стала, у сумачцы, у сваіх кішэнях.

— Ты, сучка… Забойца ўласных бацькоў…

І аднойчы я не вытрымала… Я здалася. Так, татка, твая дачушка аказалася слабаком.

У той дзень мяне выклікаў генеральны. Праз сакратарку, вядома. З такога роду выклікамі не марудзяць, я націснула на «захаваць» і адарвалася ад камп’ютара…

У прыёмным пакоі было нязвыкла нешматлюдна. У ім знаходзіліся ўсяго двое — сакратарка і мой нарачоны. Яны цалаваліся.

— Усё не так, як ты думаеш… Пад уплывам хвіліны… Ты так аддалілася ад мяне за апошні месяц, — спрабаваў апраўдацца Адам. І пры гэтым старанна адводзіў вочы ўбок. Відаць, з нейкіх часоў і мой позірк стаў для яго «апраменьваючым»…

У той жа дзень я сышла з працы. А на наступны — Адам размясціў у сацыяльных сетках свой першы пасквіль…

Адам? А чаму б і не? Магчымасць у яго была: ён меў доступ да маіх кішэняўшуфлядаў, ды, у прынцыпе, і да кватэры… Яму дастаткова было наняць жанчыну, якая даймала б мяне званкамі… І ведаў мяне мой экс-жанішок куды лепш за іншых — націснуць на мае балявыя кропкі яму было нескладана…

Я мушу з ім пагаварыць. Я павінна зазірнуць яму ў вочы…

— Гэй, пацан! Як клёў? — нечы гучны воклік вырваў мяне з глыбіні разважанняў.

— Вы мне? — палахліва азірнулася я.

— А каму? Хіба тут яшчэ хто ёсць? — лысаваты дзядзька за маёй спінай разматваў вуду. — Як клёў, пытаюся.

— Я не рыбачу… Я так сяджу…

— Ага, — чмыхнуў дзядзька. — Значыць, няшчаснае каханне. Люцікі-кветачкі? Прыдурак, плюнь і разатры! Будзе ў цябе яшчэ гэтых лялек…

Я нацягнула казырок бейсболкі ледзь не па самы нос, мармытнула нешта кшталту: «Угу, сам ведаю» і амаль бягом кінулася прэч…

Цяпер я ведала куды ісці. Я пайду да Адама.

## НА КРУГІ СВАЕ…

Парк адпусціў мяне не адразу. Перш, чым дрэвы згадзіліся растуліць свае калматыя абдымкі, давялося паблукаць па ягоных крываватых сцежках добрых дваццаць хвілін.

Вяртанне ў горад не прынесла палёгкі. І тым больш не дадало пачуцця бяспекі.

Я ішла па цэнтральнай вуліцы, цішком назіраючы, як па бясконцым лабірынце магазінных вітрын крок у крок за мной бяжыць хударлявы падлетак у джынсах з вострымі каленямі і ў нацягнутай на нос бейсболцы.

Ля прадуктовых крам хлапчук прытарможваў, любаваўся бляскам сакавітых паляндвіц, аблізваўся на геаметрычныя горкі гародніны, давіўся слінай перад

выстаўленым печывам, сквапна, у самыя лёгкія, уцягваў апетытную кіслінку свежаспечанага хлеба…

Дабірацца давялося ледзь не праз увесь горад. Пешшу, канешне. Я не магла дазволіць сабе раскошу паездкі на грамадскім транспарце, бо сустрэча з кантралёрам магла скончыцца фатальным прыводам у міліцыю…

І ўсё ж я абагнала былога нарачонага больш як на дзве гадзіны. Ягоны «фольксваген» падруліў да пад'езда толькі пасля шаснаццаці гадзін.

Адам быў не ў настроі. Са змрочным выглядам дастаў нейкі пакет, празмерна гучна бразнуў пры гэтым дзверцай багажніка. Не адказаў на вітанне суседкі, што корпалася на кветкавай клумбе…

Перш, чым увайсці ў пад'езд, я пачакала. Мне не хацелася спяшацца, няхай распранецца, скіне з сябе браню дзелавога касцюма. Я ведала, якое моцнае ўздзеянне аказвае на Адама яго знешні выгляд… І звычкі яго я таксама ведала. Нязменныя звычкі закаранелага халасцяка…

Дзесьці праз хвілін дваццаць я націснула на дзвярны званок. Казырок кепкі закрываў мой твар.

— Хто?

— Дастаўка піцы…

— Так хутка? — крыху здзівіўся Адам, адчыняючы дзверы.

— Стараемся… — сказала я і, абмінуўшы яго бокам, увайшла ў кватэру.

— Майя… — сківіца былога нарачонага папаўзла ўніз. — Гэта немагчыма… Да мяне сёння прыходзіў следчы… Напэўна, за мной назіраюць… Майя, ты ж не магла забіць тую жанчыну, праўда? Ну прызнайся, Майя… Ты ж не такая, праўда? Ты ж добрая… Я ведаю, помню…

Адрывіста вымаўляючы словы, Адам паціху адступаў у глыбіню кватэры. На гэты раз ягоныя вочы не бегалі, глядзелі на мяне ва ўпор. І ў іх біўся жах. Нічога, акрамя жалю, яго выгляд выклікаць не мог...

Не, гэты слізняк не можа быць забойцам. Яго смеласці хопіць хіба што на інтэрнэтныя непрыстойнасці.

— Яшчэ адно брыдкае слова ў сетках — і наступным станеш ты, — гэтую фразу, здавалася, прамовіла не я — столькі непрыкрытай пагарды прагучала ў ёй.

— Прабач, не хацеў пакрыўдзіць, — замітусіўся Адам. — Гэта ад непадзеленага кахання… Майя…

Але я ўжо не слухала, прыхапіла са стала вялікі яблык і, не аглядваючыся, накіравалася да дзвярэй.

Яшчэ і дзверы не паспелі за мной зачыніцца, а былы нарачоны ўжо набіраў тэлефонны нумар. Куды ён мог звaніць? У міліцыю?

Аддаліўшыся, як мне падалося, на бяспечную адлегласць, я ўзялася за яблык. Праглынула яго за два ўкусы. Заглушыць голад не ўдалося, хутчэй наадварот, яблычны сок толькі мацней раздражніў страўнік.

Эмацыйны пад'ём спадаў, нараджаючы ў сутарэннях свядомасці бяздонную пустату.

І куды цяпер? Назад, у стары парк?

Божа мой! Як так здарылася, што нікога побач?.. Што адна… У цэлым свеце адна… Што нават мая адзіная сяброўка Ленка баіцца застацца са мной сам-насам…

Калегі? Пасля таго, як я дома пачала працаваць рэдактарам вэб-сайта, у мяне не стала нават калег…

Праўда, ёсць на свеце яшчэ Дзяніс… Мужчына з уважлівым позіркам. Які ўмее слухаць. Перад вачыма стаяла карцінка: Дзяніс «забівае» ў мой мабільны нумар свайго тэлефона…

Калі б здарыўся цуд, і мой мабільнік аказаўся раптам у кішэні…

І што? Ты вось так наўпрост узяла б і пазваніла незнаёмцу: «Здрасьце, вас турбуе забойца»?..

У парк… Іншай дарогі няма. Як няма і сіл на яе адоленне: ногі дрыжэлі ад слабасці, ад галоднага галавакружэння «вадзіла» ў бакі. Не, дабрацца да парку самастойна шанцаў не мелася, і я, дачакаўшыся «чацвёрку», увайшла ў тралейбус. Ух, ты! Якія ўтульныя сядушкі, аказваецца, у грамадскім транспарце…

— Апошні прыпынак. Вызваляйце салон! — узмоцнены мікрафонам голас вадзіцеля ўбіўся ў мой сон, але разбудзіць не змог.

— Малады чалавек… — бабулька ў белым карункавым берэціку трэсла мяне за плячо. — Прыехалі, малады чалавек! Ой, дык гэта ж дзяўчына…

## ПІКНІК НА ЎЗБОЧЫНЕ

Як хутка, аказваецца, з’яўляюцца ў чалавека неабходныя навыкі. Бамжую ўсяго другую ноч, а ўжо ведаю: чым больш набяру паперы днём, тым менш буду мерзнуць ноччу…

Перасоўваючыся ад сметніцы да сметніцы, я старанна вышуквала выкінутыя газеты. На жаль, іх было няшмат. Затое знайшоўся вялізны поліэтыленавы пакет — вось гэта пашанцавала! Улічваючы тое, што неба пад вечар пачало хмурыцца...

Знайсці б яшчэ што-небудзь з ежы…. Хоць што-небудзь… Хоць агрызак…

Пасля пэўнага роздуму я наблізілася да раскідзістай ліпы, сарвала пару лісточкаў і запіхнула іх у рот. Пажавала. Прэсна і слізка, ніякага смаку. Цьфу… Канешне. Цьфукай, не цырымонься! Закажаш іншую страву… Закончы збіраць газеты і можаш паклікаць шэф-повара! Злуючыся сама на сябе, я звярнула ў бакавую алею…

— Папалася! — нечая рука нечакана схапіла мяне за локаць. — Нават не спрабуй — ад мяне не вырвешся… Марудна павярнула галаву і ўбачыла, што рука належала сярэдніх гадоў мужчыне з выразна адутлаватым тварам. Апошні фактар, мяркуючы па «амбрэ», якое ад яго сыходзіла, вызначаўся добрым падпіткам.

— Ды не трапячыся ты так, — без злосці сказаў ён. — Не з’ем. Ты з тых, што за грошы? Не? Тады што тут робіш адна ў такі час? Зрэшты, калі б і за грошы… Усё роўна ў мяне ні ка-пей-кі, бо ўсю наяўнасць уклаў у тавар. Вось бачыш?

На другой руцэ мужчыны боўталася поліэтыленавая торба з надпісам: «Дзякуем за пакупку!»

— Жэнтэльменскі набор… Запрашаю цудоўную даму раздзяліць са мной… ік… вячэру.

Ён пацягнуў мяне да бліжэйшай лаўкі.

— Сядай! Вось так. Цяпер бяры тару і займіся сервіроўкай. Хто з нас дваіх дама, га? Ды не трасіся ты так, ік… — не зраблю я табе нічога кепскага…

Ад сумкі пахла ежай. Раскрыла: літровая бутэлька вермуту і пакет з беляшамі.

Першы я знішчыла яшчэ да запрашальнага жэсту «жэнтэльмена». Заглынула, як калядны індык клёцку, амаль не перажоўваючы. Другі ела ўжо значна марудней, хаця магчымасць адчуць смак ежы вярнулася да мяне толькі на трэцім піражку.

Падобная, як выказаўся мой візаві, пражэрлівасць яго не збянтэжыла. Хутчэй за ўсё неафіцыйны падзел меню, у адпаведнасці з якім яму дастаўся вермут, а мне беляшы, цалкам задавальняў гаспадара вячэры.

Ён шмат гаварыў. Цяжка сказаць пра што, бо асалода ад пачуцця сытасці зрабіла мяне няўважліва-соннай. Выцягнуўшы ногі і абапёршыся на спінку пар-

кавай лаўкі, я амаль драмала. Падобна, што мой міратворны настрой перадаўся і «жэнтэльмену» — паступова ён стаў «тармазіць» у размове, потым, у чарговы раз прыклаўшыся да вермуту, ікнуў пару разоў і захроп, не выпускаючы з рук напаўпустую бутэльку.

Я паднялася, прыхапіла раней сабраныя газеты і пайшла да сажалкі: мне хацелася піць.

Папіла. Прывыкаю да балацянага смаку… Спаласнула твар.

Ну і дзянёк, падумалася мне крыху пазней, калі, уладкаваўшыся ў газетным кокане, я паспрабавала падвесці вынікі перажытага. Недзе ў горле пускаў парасткі страх: а што будзе заўтра? Вось заўтра пра гэта і падумаю...

Мяне разбудзіў боль. Нутро літаральна выварочвала ад спазмаў. Жывот моцна выдуўся… Беляшы… Яны, відаць, былі нясвежымі… І як можна было столькі з’есці на галодны страўнік?..

Я паспрабавала стаць на ногі і выпрастацца. Але павяло ўправа, я ўдарылася плячом аб дрэва, пахіснулася, і, каб не ўпасці, абхапіла рукамі яго ствол. Чарговы спазм працяў наскрозь, і мяне званітавала.

Страўнік, здавалася, сцяўся ў капейку, але боль крыху адступіў.

У роце стаяў мярзотны прысмак. Нясцерпна хацелася піць. Хістаючыся, дабрыла да сажалкі, плюхнулася на калені ў гразь, набрала поўныя прыгаршчы вады і паднесла яе да вуснаў…

Не паспела зрабіць і трох глыткоў, як узнік новы спазм, і рэшткі беляшоў вылецелі з мяне са стогнам. Назад, да свайго папяровага ложка, я дабіралася паўзком. Біла моцная ліхаманка, косці, здавалася, выскачылі з суставаў і цяпер выкручваліся, як ім хацелася. Непаслухмянай рукой паспрабавала нацягнуць на сябе пакамечаныя газеты. У мяне не было сіл нават на тое, каб заплакаць.

Магчымасць памерці вось так, у зарасніках старога парку, не палохала, успрымалася як палёгка. Як самы даступны спосаб вырашыць усе праблемы. Далучыцца да мамы і таты… Вось толькі Дзяніска… Шкада, што так позна…

Газеты не дапамагалі: мяне калаціла так, што ляскаталі зубы. Холад зямлі высмоктваў з цела апошняе цяпло. І я стамілася супраціўляцца…

Потым прыйшоў Дзяніс, узяў мяне на рукі, прытуліў да сябе, адагрэў сваім дыханнем, і мне зрабілася цёпла. Ды што там! — мне стала горача.

…Я апрытомнела мокрай ад поту. Мяркуючы па сонцы, дзень пераваліў ужо на другую палову. Ад слабасці не хацелася варушыцца. Нарэшце я выпаўзла з-пад дрэва на сонца, каб прасохла адзенне. Потым, крыху ачуняўшы, расклала на прасушку вільготныя газеты.

Наступная ноч прайшла больш-менш спакойна: я засынала, прачыналася ад холаду, падтыкала пад бок раскіданыя газеты, зноў засынала... У мяне не мелася сіл думаць пра сітуацыю, у якой апынулася, проста хацелася выжыць. А раніцай… Я ўжо ведала, што зраблю раніцай… Татка, твая дачушка сапраўды слабак…

## У ЛЮДЗІ…

Сонца знайшло прарэху ў ліставым шатры і заказытала мой твар: час прачынацца. Я расплюшчыла вочы. Вось і яшчэ адзін дзень, заход якога я змагу ўбачыць хіба што з-за кратаў. Я вырашыла… Як гэта называецца? З’явіцца з павіннай.

Не, я разумела, што шанцы апраўдацца ў мяне па-за воссю каардынат. Але і жыць вось так, на ўзбочыне, я ўжо не мела сіл.

Да яўкі я вырашыла падрыхтавацца як след. Распранулася і памыла ў сажалцы бялізну. Расклала яе на траве прасушыцца. Замыла брудныя плямы на джынсах, вычысціла красоўкі. Потым, каб не дрыжаць ад холаду, з разбегу «салдацікам» скокнула ў ваду.

Я люблю плаваць. Я — Рыба па сузор'і. Адсюль, пэўна, і мая слабасць. «Самы вялы са знакаў Задыяку, — узгадалася прачытанае некалі ў інтэрнэце. — Са схільнасцю да падпарадкавання і містыцызму…»

Ну і добра! Якая ёсць — такой і досць, як некалі любіла паўтараць мая бабуля. Не ўсім жа быць энергічнымі рэалістамі…

Я выбралася на бераг і разлеглася ў густой траве. Лагоднае сонца жнівеньскага поўдня пяшчоціла скуру, ветрык над маёй галавой забаўляўся з мяцёлкамі траў. Жыццё, ты ўмееш быць добрым. Шкада, што нядоўга…

Я апранулася. Пальцамі расчасала валасы, балазе, яны ў мяне картокія — «падхлопчыка». Сабрала пакамечаныя газеты і аднесла іх у бліжэйшую сметніцу. Агледзелася. Усё. Дзякуем гэтаму дому, пойдзем да другога. Да казённага….

Па вуліцах я ішла без страху. Не халадзеючы пры сустрэчы з міліцыянерамі, не пазбягаючы выпадковых позіркаў. Ішла спакойным крокам чалавека, які не баіцца свайго «заўтра». Ад слабасці, праўда, пахіствала, але есці мне больш чамусьці не хацелася.

Цікава, а куды трэба з'яўляцца з павіннай? У цэнтральнае аддзяленне міліцыі? Ці можна ў любое? Зайсці і вось так з парога: падазраюся ў забойстве…

У роздуме я спынілася перад кіёскам. Прадавец раскладвала толькі што прынесеныя газеты. У вочы кінулася аб'ява, узятая ў двайную рамку: «Сведкаў, якія ў панядзелак пасля 20.00 бачылі аварыю на рагу вуліц (дык гэта ж тое месца, дзе на мяне ледзь не наехаў байкер!) прашу пазваніць па прыведзеным ніжэй нумары. Дзяніс».

Хваля надзеі ледзь не збіла з ног. Гэта ж адрасавана мне! Дзяніс!!! Шукае!!! Мяне!!!

Я некалькі разоў паўтарыла надрукаваны нумар, пакуль не ўпэўнілася, што запомніла яго правільна, потым падышла да дзяўчыны, што непадалёк ад кіёска сядзела на каменнай агароджы і пісала СМС-ку.

— Прабачце, калі ласка, я трапіла ў няёмкую сітуацыю. Скралі мабільнік і грошы. Вы не дазволіце патэлефанаваць мне з вашага? Я літаральна на паўхвілінкі…

— Бывае… — адгукнулася дзяўчына. — Званіце.

Ад хвалявання мне ніяк не ўдавалася патрапіць на патрэбныя лічбы. Нарэшце нумар набраны, зялёная кнопка, выклік пайшоў.

— Алё, слухаю вас, — раздаўся знаёмы голас. — Алё!

— Дзяніс, гэта я...

— Майка! Ты дзе?

— Ля газетнага кіёска, — адказала я. Потым, сцяміўшы, што іх у горадзе добрая сотня, дадала: — Непадалёк ад Цэнтральнага ўнівермага. Ля падземнага перахода…

— Стой там, Майка! Я хутка буду. Я пабач. Прашу цябе, дачакайся…

Ён і сапраўды пад'ехаў хвілін праз дзесяць. Выскачыў са сваёй машыны. Высокі. Шыракаплечы. Расхваляваны. Агледзеўся. Убачыў мяне і кінуўся насустрач.

І тут ужо стрымаць мяне было б не пад сілу ўсёй міліцыі разам. З апошніх сіл я таксама рванула яму насустрач…

## ЗА ПЛЯЧЫМА

Напэўна, трэба было б заплакаць. Я б і заплакала, але сіл хапіла толькі на тое, каб дабегчы. Дабегла, дакранулася да ягонай рукі і… стала асядаць. Апошняе, што памятаю, разгубленыя вочы Дзяніса…

Апрытомнела ўжо ў машыне.

— Нічога-нічога, — угаворваў ён мяне, прышпіляючы рэменем бяспекі. — Усё самае горшае засталося за плячыма. Паедзем дадому… Ты крыху адпачнеш… Ты проста моцна стамілася, праўда, Маечка?..

«Вельмі моцна», — хацела сказаць я, але язык адмовіўся слухацца.

Мая рэчаіснасць разбілася на фрагменты: бачу-не-бачу, памятаю-не-памятаю… Колькі мы ехалі? У якім раёне яго дом? Як дабраліся да кватэры? Правалы…

Потым стоп-кадр: я — у пахкай язмінам ванне, і Дзяніс, як дзіцяці, шаруе мачалкай мае плечы… Я — на канапе, а хлопец падтыкае канцы пледа мне пад спіну… Не прачынаючыся, п'ю духмяную травяную гарбату… І гэтак жа — з лыжкі — ем цёплую аўсяную кашу… «Ты спі, спі, — гаворыць (у сне ці на яве?) голас Дзяніса. — Я сыйду на пару гадзін. Трэба высветліць сёе-тое…»

Я праспала амаль суткі.

— Ну ты і пажарнік! — засмяяўся Дзяніс, убачыўшы, што я прачнулася. — Я пачаў ўжо непакоіцца, ці не ўпала ты ў летаргію… Як пачуваешся?

Ягоныя вочы назіралі за мной са старанна прыхаваным непакоем.

Я адказала ўсмешкай і, з асалодай пацягнуўшыся, села. Дзяніс тут жа апынуўся побач, абняў за плечы:

— Слухай, ты ўчора мяне напалохала, Майя. Ты была, як здань…

І тут жа сам сябе перабіў:

— Пад'ём, соня! Шагам марш на кухню! Там цябе боршч даўно зачакаўся. Ты ўяўляеш, Майка, на які подзвіг ты мяне падштурхнула?! Не, ты спытайся, калі я апошні раз варыў сабе боршч…

Дзяніс падхапіў мяне на рукі разам з пледам, занёс на кухню і ўсадзіў на крэсла паміж сталом і халадзільнікам. У дзве загадзя прыгатаваныя талеркі плюснуў па лыжцы смятаны, зняў з каструлі ватную «бабу» і апалонікам наліў чырвонага навакрыстага баршчу.

— А дабаўкі прасіць дазволена? — спыталася я хвілін праз пяць, калі мая лыжка забарабаніла па донцы талеркі.

— Ну і нахабны госць пайшоў, — закаціў вочы Дзяніс. — Можна-можна. Але ці застанецца ў страўніку пекнай паненкі месца для катлеты?

— Катлеты?! Няўжо ты і іх самастойна насмажыў? — здзівілася я. І атрымаўшы ў адказ ківок галавы, тоненькім галаском заканючыла: — Дзядзечка Дзяніс, вазьміце мяне, Хрыста дзеля, за сябе замуж…

— Драбнаватая будзеце… — заважнічаў повар. — Мне патрэбна жанчына мажная. Каб і «каня на скаку», і ў «ізбу»… Але магу ўдачарыць. Як вам такі варыянт?..

…А я і не ведала, што так бывае. Што побач з мужчынам, які падабаецца, можна не дзеравянець ад няёмкасці, не старацца выглядаць прыгожа, не думаць пра грацыёзнасць рухаў… Я не ведала, што побач з мужчынам, які падабаецца, можна быць нячэсанай, соннай, смешнай, апранутай у ягоную на тры памеры большую кашулю... Што можна проста быць самой сабой…

Недзе там, за сценамі кватэры мяне вышуквалі па падазрэнні ў забойстве. І я не магла прад'явіць аніякіх доказаў маёй невінаватасці... Чорныя пагрозлівыя хмары

засланілі маю будучыню, а я, па самы падбародак захутаўшыся ў плед, піла кампот і мяне распірала ад шчасця…

…Абед завяршыўся, агульнымі намаганнямі мы памылі посуд і перайшлі ў гасцінны пакой. Дзяніс, сказаўшы: «На канапе ты зноў заснеш», усадзіў мяне ў мяккае крэсла, сам прымасціўся побач:

— А цяпер, Майя, давай сур’ёзна. З самага пачатку. Па хвілінах. Не прапускаючы аніводнай дробязі.

І я пачала. Па хвілінах. У колькі прыйшла, дзе стаяла, што здарылася з Сямёнаўнай падчас варажбы, праз колькі хвілін яна выйшла, праз колькі я, па якой вуліцы пайшла… Потым неяк неўпрыкмет, Дзяніс перавёў гутарку на справы былой фірмы. І зноў я адказвала на бясконцыя пытанні: хто мог мяне ненавідзець, каго я абышла па службовай лесвіцы, як паставіўся да нашага развітання Адам…

— Але пачакай хвілінку, я таксама хачу задаць табе пытанне… Як ты дадумаўся даць аб’яву ў «Вячорцы»? Як ты наогул даведаўся, што са мной здарылася?

— Ну… Даведацца, што з табой здарылася, было нескладана, бо ў аўторак раніцай, праглядаючы падзеі мінулых сутак, я пазнаў тваё прозвішча… Пазней прыйшла і фатаграфія. Цябе аб’явілі ў вышук…

— Падзеі мінулых сутак?.. І часта ты іх праглядаеш?

— Кожны дзень. Гэта мой абавязак… Я, Майя, следчы.

— Што-о-о?..

…Выбух неверагоднай сілы — куды там атамнаму! — разарваў мяне на малекулы. Знішчыў. Спапяліў. Размазаў па рэчаіснасці.

Божа мой! Няўжо ў мяне некалі было сэрца?.. Значыць, вось гэта ўсё… Гэта толькі, каб выманіць… Вось як дзейнічаюць сапраўдныя профі… Памыў перад турмой, накарміў…

Не, усё правільна. Не бывае пачуццяў вось так, адразу. Ну добра, у кагосьці, напэўна, бываюць. Але не ў цябе, дурніца. Хто ты такая, каб з першага позірку цябе пакахалі?..

— Майя… Майка… Паслухай… Не адпіхвай мяне… Я сапраўды следчы. Больш таго, узначальваю следчы аддзел суседняга раёна. Я афіцэр міліцыі і не маю ніякага права хаваць цябе ад правасуддзя… І хаваю… Таму што кахаю... Таму што ведаю: ты ні ў чым не вінаватая…

Словы Дзяніса не пранікалі ў маю свядомасць, я зноў была там, у папяровай схованцы парку. І тады ён апусціўся на калені і моўчкі паклаў сваю галаву мне на калені. Як біблейскі Самсон Даліле — сячы, калі не верыш…

Машынальна я дакранулася да яго валасоў у дарэмнай спробе разгладзіць кучаравінкі — і рэчаіснасць раптам змянілася.

І там, дзе нядаўна былі двое, стала адно. Прарасло, сплялося, адмовілася ад існавання… І зноў, як мільярды гадоў таму, нарадзілася цемра, і аддзяліць ад яе святло было дадзена толькі нам. І мы аддзялілі ды стварылі новае сонца. Куды больш яркае, па-вар’яцку спякотнае. Жыццё аднавілася…

— Майка…

— Што?

— Ты мая…

— Твая..

— А я твой…

— Мой…

— Не знікай больш, Майка, я памру без цябе…

— Я пастараюся, Дзяніска… Хоць ты ведаеш, як шмат усяго супраць мяне…

— Супраць нас…
— Так, супраць нас..
— Майка…
— Што?
— Я памру за цябе… Я гатовы…
— Я ведаю… Спі ўжо…
— Майка…
— Ну што?
— Тое, што ты казала… Нядаўна… Калі мы з табой… Гэта праўда?
— Праўда. Я кахаю цябе, Дзяніс. Як нікога ніколі дагэтуль… Я нават не ведала, што можна кахаць так глыбока, да самага донца…
— Добра тады… Спі, давай. У нас заўтра цяжкі дзень.
— Ага…
— Майка…
— Што?
— Ты такая худая… Відаць, мне давядзецца навучыцца пячы пірагі…
— Прыйдзецца…
— Майка…
— Што?..

## РАНІЦА, ЯКАЯ ДУМАЕ, ШТО МУДРЭЙ ЗА ВЕЧАР

А раніцай мне захацелася стаць гаспадыняй. Шчыра кажучы, я не пераставала здзіўляць саму сябе. Замест таго, каб стрымгалоў імчаць у ванную, мыцца, прычэсвацца, рабіць макіяж, рэпеціраваць выраз твару, каб мужчына не здагадаўся, што мне моцна не па сабе... Я з раскудлачанымі валасамі, ва ўсё той жа мужчынскай кашулі пасунулася на кухню, адкрыла халадзільнік і пачала вывучаць яго змесціва. О! ёсць шпінат… І сардэлькі…

Так, пару каўбасак мы здробнім, абсмажым злёгку на алеі. Цяпер кладзём шпінат, заліваем яго ўзбітым яйкам. І зверху прыцярушым сырам…

Яечня атрымалася выдатная: пышная, духмяная. Канешне, гэта не боршч, і нават не катлеты, але нешта арыстакратычнае ў маёй страве ёсць, думала я, наліваючы ваду ў чайнік.

— Майя, — моцныя рукі прытулілі мяне да сябе. Я спалохаўся… Прачнуўся, а цябе няма. Думаў, ты зноў… Передумала, знікла… А ты… Нічога сабе… Дык ты яшчэ і кулінар!

Мы снедалі наўмысна доўга, потым няспешна пілі каву. Думаю, не згаворваючыся, мы абодва інстынктыўна імкнуліся адцягнуць момант вяртання ў непазбежнасць… Нарэшце «дынаміць» рашэнне надалей стала немагчымым.

— Майя, раскажы мне пра Сідаровіча. Пра Мацвея. Якога складу чалавек? Наколькі далёка можа зайсці, калі яго пакрыўдзіць?

— Чалавек як чалавек, — адказала я. — Працаголік. Не жанаты… Дзівак у некаторай ступені… Я перахоплівала некалькі разоў яго позірк, які ён кідаў на Верачку, калі тая станавілася занадта назойлівай у сваіх заляцаннях да яго… Пагроза там дакладна прысутнічала, але… Не думаю, што Мацвей можа падстроіць усё гэта… І потым… О, як я магла забыцца?! Дзяніс, Сідаровіч сапраўды не мог, бо ён звольніўся з фірмы праз два тыдні пасля таго, як мяне прызначылі кіраўніком аддзела. І ён

выехаў з краіны… Амаль адразу… Ён жыве і працуе, здаецца, у Бельгіі… Так што ў яго неаспрэчнае алібі!

— Каб жа… Учора з раніцы, пакуль ты спала, я сыходзіў… Навёў некаторыя даведкі… Калі ў цябе пачаліся ўсе гэтыя непрыемнасці?

— Шэсць месяцаў таму…

— Вось бачыш… А Сідаровіч вярнуўся ў краіну перад самым Новым годам. Пражывае ў нашым горадзе, дарэчы… Без асаблівых цяжкасцей ён мог наняць жанчыну, якая б даймала цябе званкамі, а потым прыехаць і самому рабіць усё гэта… Спадзеючыся, відаць, што твая псіхіка не вытрымае… Я павінен з ім сустрэцца, Майя, — Дзяніс падняўся з канапы. — Не, ты са мной не паедзеш. Цябе шукаюць па ўсім горадзе, занадта вялікая рызыка…

— Значыць, ты адзін маеш права рызыкаваць? А як жа тваё начное «супраць нас»?

Пасля гарачага абмеркавання мы паехалі разам. Адрас Сідаровіча мой следчы здабыў яшчэ ўчора…

Дзейнічалі па загадзя абмеркаваным сцэнарыі, спадзеючыся, што нечаканасць стане нашым галоўным козырам. Дзяніс націснуў на званок, а калі адчыніліся дзверы, я выслізнула з-за яго пляча і выйшла наперад:

— Прывітанне, Мацвей!

— Майя… — Сідаровіч сумеўся. Спыніў на мне ўражаны позірк. Але ў гэтым позірку не было страху ці нейкай помслівасці. — Праходзь… Праходзьце абодва…

Ён, канешне ж, чуў «навіны» пра мяне — расказала ўсё тая ж Верачка, якая, як аказалася, ўсё ж дамаглася свайго — вось ужо два месяцы, як яны жывуць разам. І ў той злашчасны вечар яны былі на дачы ў сяброў. Ад месца злачынства Мацвея аддзялялі больш трыццаці кіламетраў бяспекі…

— Я не паверыў, што гэта зрабіла ты… — Мацвей прыкурыў ад недакуранай цыгарэты і глыбока зацягнуўся. — Дарэмна ты вырашыла, што цябе ўсе абвінавачваюць… Думаю, мала хто паверыў у магчымасць падобнага. Прынамсі, з тых, хто цябе добра ведае. А што тычыцца мяне… Я б не стаў. Ужо хаця б таму, што паважаю цябе, Майя. Ты — талент. У праграмаванні ты — Моцарт. А я — толькі Сальеры. Так што тое рашэнне кіраўніцтва не было памылковым…

…Мы вярталіся дадому ў поўным маўчанні.

— Яшчэ адзін абрывак ніткі, — сказаў, прыпаркоўваючы машыну, Дзяніс. — І клубок падзей пры гэтым не распутаўся ні на ёту...

— Але… — убачыўшы мае апушчаныя плечы, ён змяніў тон. — Адмоўны вынік, як вядома, таксама вынік. Цяпер мы, прынамсі, ведаем, што Мацвей Сідаровіч па-за падазрэннем…

— Ага… Як жонка Цэзара, — паспрабавала пажартаваць я.

## НЕШТА НЕ СПІЦЦА…

Вечар зацягнуўся: меншая стрэлка гадзінніка ўжо развіталася з лічбай «1», а мы ўсё сядзелі на кухні.

Дзяніс адказаў на пару званкоў. Кудысьці патэлефанаваў сам. Карціна падзей таго дня крок за крокам стала мяняцца.

Падчас вобыску ў пачатым пакеце малака з майго халадзільніка крыміналісты знайшлі моцнае снатворнае. А ў сярэдзіне насценнага гадзінніка — спецыяльнае прыстасаванне з рэле. Так што біў у тую ноч не гадзіннік, спрацавала загадзя

настроеная прылада. Напэўна, калі б я не была такой спалоханай, я б змагла гэта сцяміць…

— Майя, ну падумай… Пастарайся… У каго мог быць ключ ад тваёй кватэры? Ты ніколі яго не губляла? — у дзясяты раз паўтараў сваё пытанне Дзяніс.

І ў дзясяты раз я яму шчыра адказвала:

— Не губляла. Ён у звязцы з іншымі ключамі. Я б адразу заўважыла. І не давала я ключ нікому. Адам? Не. Адназначна. Упэўнена, ён ніколі нават не трымаў у руках ключ ад маёй кватэры...

— Але ж нехта яго мае… Экспертыза паказала, што ніякіх унутраных драпін, якія непазбежна пакідае на замку адмычка, няма. Дзверы адкрывалі «родным» ключом. Майя, думай. Прашу цябе…

Я ледзь не плакала ад дарэмных высілкаў, але нічога прыдумаць не магла.

— Ладна, маленькая, — узяў мяне за руку Дзяніс. — Наваліўся я на цябе…

— Зусім задушыў сваімі следчымі штучкамі, — згадзілася я.

— Пайшлі расслабляцца! — скамандаваў Дзяніс. І пацягнуў мяне ў гасцінны пакой. — Будзем глядзець тэлевізар. Начное кіно… Павінна быць нешта лёгкае.

Але ў гэты вечар нам не суджана было адпачыць ад злачынстваў, бо тэлебачанне дэманстравала дэтэктыў: сваякі душылі адно аднаго за спадчыну…

Я, утульна прымасціўшыся ў абдымках Дзяніса, назірала, як разварочваецца дзеянне.

— Цяжка багачам, — са спагадай уздыхнула я. — Столькі праблем… Нам, галечы, прасцей. Хаця… Пасля смерці бацькоў я не магла ачомацца. Не хацелася жыць. Ведаеш, пакуль ты не з'явіўся ў маім жыцці, сэнсу ў ім не было… Зусім… Я нават думала пра… Я не хацела жыць. Нават склала завяшчанне на карысць Ленкі. Ёй цяжка жывецца…

— Што-о-о? — закрычаў Дзяніс. — Што ты сказала? Ты завяшчала сваю маёмасць Алене Хаменка? Дык чаму ж ты маўчала так доўга? Можа, ты і ключ ёй дала?

— Не, ключа ў Ленкі няма, — прамовіла я. Зрэшты, без асаблівай упэўненасці. — Я не ведаю дакладна. Тады, пасля пахавання, у доме быў такі вэрхал. Я не знайшла маміны ключы… Але гэта ж Ленка. Зразумей, мая Ленка! Сяброўка з дзяцінства… Мая адзіная сапраўдная сяброўка…

Але Дзяніс мяне ўжо не слухаў. Схапіў тэлефон, націснуў на некалькі кнопак і чужым, адстароненым голасам пачаў даваць камусьці адрывістыя ўказанні: прыватны сектар, Хаменка Алена, так, каля інтэрната камвольшчыкаў…

— Дзяніс, гэта немагчыма, — спрабавала спыніць яго дзеянні я. — Яна ж, як палавінка мяне…

**ЯКАЯ РОЗНІЦА!**

…Мая сяброўка Ленка хутка прызналася. Так, наняла жанчыну, якая мне званіла. Сямёнаўну… Ага, грамадзянку Краўцэвіч. Вось чаму мне яе голас на імгненне падаўся знаёмым. Хоць, безумоўна, размаўляючы па тэлефоне, жанчына яго старанна мяняла.

Так, падкладвала мне ўсялякія страшылкі, бо ведала маю палахлівасць, схільнасць да містыкі. Сямёнаўну яна не збіралася забіваць. Дамовілася, што тая пастараецца напалохаць мяне да чорцікаў. А Сямёнаўна нечакана сапраўды штосьці ўбачыла ў маіх вачах. Можа, уласны канец?

Ленка выскачыла з дому ўслед за мной. У іх з Сямёнаўнай была дамоўленасць сустрэцца «пасля аперацыі» за кустамі на пустцы. Мая сяброўка накінулася на экстрасэншу з папрокамі: не выканала заданне… А тая ёй у адказ нагрубіла. Маўляў, няма чаго ўблытваць яе ў свае махінацыі. Сама разбірайся. А калі не супакоішся, дык адпаведныя органы цябе супакояць. Нядоўгая справа паведаміць ім пра твае планы.

І мая сяброўка запанікавала. Азірнуўшыся, убачыла горку камянёў, схапіла адзін з іх і ўдарыла Сямёнаўну па галаве. Экстрасэнша рухнула, як падкошаная. Але тут жа паспрабавала падняцца. І тады Ленка зноў апусціла камень на яе галаву...

Яна біла і біла. Не ведае, колькі разоў. Не лічыла. Спынілася толькі пасля таго, як заўважыла, што Сямёнаўна больш не рухаецца...

— Мне тады моцна пашанцавала, расказвала Ленка следчым. — Я была апранута ў чорныя штаны і гэткую ж футболку, так што давялося спаласнуць у бочцы з вадой толькі рукі і твар… Камвольшчыцы, якія разглядвалі «сэканд», нічога асаблівага так і не заўважылі…

Потым яна наняла таксі і паехала да мяне на кватэру, балазе, мамін ключ з самага пачатку быў у яе. Добра ведаючы маю звычку піць малако на ноч, яна падліла ў пачаты пакет снатворнае, падклала ў гадзіннік даўно падрыхтаванае прыстасаванне, пераваяла яго стрэлкі на лічбу «12» і выйшла. Цяпер засталося толькі пачакаць, пакуль я засну і занесці ў кватэру сумку забітай жанчыны…

Калі Ленка вярнулася дадому, пустка была, як кажа Дзяніс, у распрацоўцы. Следчыя вельмі хутка выйшлі на яе, і мая сяброўка Ленка дала паказанні…

Падчас вочнай стаўкі Ленка патлумачыла свае дзеянні. Яна сказала:

— Я не хацела, каб так усё скончылася. Але, зразумей, мне патрэбны былі грошы. Калі б удалося прадаць тваю кватэру, машыну і дачу, я змагла б спакойна выехаць у Германію. Рыхард убачыў бы мяне, багатую і прыгожую, — і вярнуўся б. Ён жа кахае мяне, я ўпэўнена… Я не хацела табе непрыемнасцей, я дабівалася толькі, каб ты трапіла ў вар'яцкі дом. Каб цябе пазбавілі права распараджацца ўласнасцю… Я думала, што зрабіць гэта будзе няцяжка. Ты ж заўсёды была такой палахлівай, уражлівай… Але аказалася, што ты значна мацнейшая… Майя, я нічога не маю супраць цябе. Я нават люблю цябе. Праўда, праўда… Ты б выйшла, напэўна, з псіхушкі… Ты б выздаравела… Ці не выздаравела б? Якая, уласна кажучы, розніца?!.

…Ленка, якую я паіла валяр'янкай, калі яе кінуў немец… Якая тыдзень не выходзіла з маёй кватэры, калі загінулі тата і мама… Тая самая Ленка, бясконцыя матэрыяльныя калатнечы якой не першы год былі і маёй праблемай… Ленка, якая са словамі «нешта не спіцца...» магла сярод ночы ўваліцца ў кватэру з гарачым пірагом уласнага прыгатавання…

…Праз нейкі час я прадала сваю кватэру. Разам з мэбляй. Збыла нават «маярат» — стары насценны гадзіннік. Пастаралася хутчэй забыць увесь гэты кашмар…

Ды і навошта нам дзве кватэры?! Тым больш, што тая, у якой мы жывём з Дзянісам, знаходзіцца ў больш зручным раёне.

Ага, ледзь не забыла… Я вярнулася на былую працу, узначальваю аддзел. Але, здаецца, гэта працягнецца нядоўга, бо наперадзе адпачынак працягласцю ў тры гады. І мы з Дзянісам чакаем яго з радасным нецярпеннем…

Святлана СЦЕПАНЧУК

# А СЭРЦУ ПЯШЧОТНАМУ МНОГА НЕ ТРЭБА



***Святлана Сцепанчук нарадзілася 2 верасня 1965 года ў вёсцы Выганашчы Івацэвіцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. Працавала настаўніцай, карэспандэнтам газеты «Івацэвіцкі веснік». Аўтар кніг паэзіі «Вясна ідзе», «Залаты праменьчык».***

## І ЗНОЎ ПАЧАТАК

Хваляваннем напоўніцца сэрца,
Успамін цеплынёю кране,
Як унучка пяшчотна ўсміхнецца
І «Бабуля!» пакліча мяне.

Як слабенькай рукой дакранецца
Да матулі, такой маладой, —
Употай сэрца маё акунецца
У гады маладосці былой.

Ненаўмысна я ўнучку паклічу
Імем мілай дачушкі сваёй,
Бо ўзгадаю — у тым жа абліччы —
Жвавай, спрытнай, маленькай такой.

Як няўмольна жыццё пралятае:
Плынь маленства… Бег сталых гадоў…
Прада мной зноў унучка малая —
Прада мною пачатак ізноў.

* * *

У полі шырокім, за вёскай далёка
Бярозка расце на адхоне.
На ёй кожны ўбачыць няўзброеным вокам
Шпакоўню між кронаў зялёных.

Яе змайстраваў хтосьці добрай рукою
Для птушак, што ўвесну да нас
Здалёку ляцяць і шукаюць спакою
На летні прываблівы час.

Хоць птушка за працу рублём не заплаціць
І «дзякуй» не скажа яна,
Але ж сваёй песняю шчыра аддзячыць —
Праявіць свой клопат спаўна.

А сэрцу пяшчотнаму многа не трэба:
Каб быў толькі мір ды спакой,
Былі б толькі сонца, блакітнае неба
І птушкі з іх песняй жывой.

Тады стане ўсё, нібы ў казачным цудзе:
Ні бед, ні маркотнага дня!
І верыцца сэрцу, што так яно й будзе,
Бо вечна жыве дабрыня!

* * *

Заве успамін да вяртання
На свой затуманены плёс.
Гарачая хваля кахання
Гайдае самотна мой лёс.

Калісьці плылі цеплаходы
І клікалі ўдаль гарады.
Люляла жыцця асалода
Мае маладыя гады…

Адхлынула ціха каханне…
Узняўся туман да нябёс —
Як хваля, ў сучаснасць вяртанне
Гайдае самотна мой лёс.

* * *

Я не скажу табе нічога.
Навошта сыпаць соль на рану?
Жыццё — далёкая дарога,
На ёй заўжды развілак многа,
Ты ж не схацеў уперад глянуць.

І, можа, выправіць памылку
Цябе самога сэрца просіць:
Ісці назад, шукаць развілку,
Да дзён былых знайсці адсылку
І зноў убачыць неба просінь.

Ужо не крыўда — жаль палоніць,
Ды не скажу табе нічога,
Бо жаль былое не дагоніць…
А раптам ты на светлым улонні
І не шкада табе былога…

* * *

Ах, колькі зор на небе ноччу!
Бы кветак у садзе веснавым.
Я па Зямлі павольна крочу —
Маленькай кропцы ў небе тым.

А дзесьці там, высока ў небе
Між зорак, на адной з планет
Жыве на роднай яму глебе
Такі ж звычайны чалавек.

І ён кідае вокам зоркім
Угору з думкаю сваёй:
«Які дзівосны свет шырокі!
А можа, на планеце той…»

* * *

Больш не свецяць ласкай
шчырыя спатканні.
Што мільгала шчасцем —
рэчкаю сплыло.
Абяцалі разам
берагчы каханне,
Толькі абяцанне шчырым не было…

*Валерыя САРОТНІК (РАДУНЬ)*

# ВОСЕМ КАЗАК ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

*Жыццяказкі*



***Валерыя Саротнік нарадзілася 27 чэрвеня 1988 года ў Мінску. Скончыла перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Працуе перакладчыкам, выкладае пераклад. Друкавалася ў часопісах «Алеся», «Бярозка», іншых выданнях. Лаўрэат конкурсу апавяданняў газеты «Звязда», конкурсу фантастыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі.***

## КАЗКА ПЕРШАЯ, ПРА ТРАМВАЙ

Зімой рэйкі былі халодныя, як ніколі, і трамвай, ступаючы на іх з раніцы, нібыта ледзь-ледзь троcся, як чалавек, які стаў на плітку ў ваннай. Яму карцела адшморгнуць калёсы ад рэек, скурчыўшы іх, нібы пальцы на нагах. Але праз пару хвілін холад адчуваўся ўжо не так моцна, і можна было ехаць.

Праўду кажучы, ён заўсёды хацеў быць вялікім цягніком. Каб імчаць праз ранішнюю шэрань, а не на чарговы круг па горадзе, які ён ведаў да апошняга павароту. Да новых гарадоў і краін. Вазіць нешта цяжкое і вантробна гусці. Выдыхаць струмені чорнага дыму, як пасажырскі дызель, бардовы з жоўтым. Ён бачыў такі колькі дзён таму, калі праязджаў каля чыгункі.

Але няцяжка, напэўна, здагадацца, што ніякая фея не з'явілася аднойчы перад ім на дарозе, не ўскочыла будзённа ў першыя дзверы, задыхаўшыся, з мокрым ад дажджу чароўным парасонам са зламанымі спіцамі. І неператварыла яго ў цягнік, такі, як на вялізнай рэкламе ўздоўж забітай машынамі шашы. І ён не паімчаў у невядомыя і далёкія краіны.

Але, калі для ўсеісных аўтамабіляў наступаў чырвоны колер святлафора, калі ніводная з гэтых дзіўных пачвар на гумавых колах не думала паварочваць перад ім, трамвай забываўся пра тое, хто ён. І імчаў, як сапраўдны цягнік. І бачыліся яму за паваротам новыя краіны і нязведаныя далі. Ну і што з таго, што гэта горад, ці не падобны ён час ад часу да джунгляў, лесу ці поля? А што ўвесь яго шлях — проста круг, і, што б там ні было, ён той жа дарогай вернецца назад. Гэта наканавана ўсім. І розным цягнікам на розных рэйках, нават людзям.

## КАЗКА ДРУГАЯ, ПРА ДУБ І РАБІНУ

Рабіна не ведала, хто прыдумаў тую недарэчную песню пра яе і Дуб. Не ведала, але ж была гатовая ўпасці на аўтара, шчыра і ад усяго драўлянага сэрца.

Так здарылася, што Дуб у яе быў. Адразу. І перабірацца да яго, каб шаптацца з яго лісцем удзень і ўночы не мелася патрэбы.

Але ад гэтага мала ёй было шчасця. Спачатку, мабыць, але не цяпер, праз доўгія гады побач. Бо сёння ўся яго бяздушная, драўляная натура палезла вонкі. Дуб аніразу не адхіснуў ні адной са сваіх вялізных галін, каб ёй было крыху больш святла, каб яна не задыхалася без сонца ў цені. Ён ніколі не намагаўся адагнаць ад яе варон, што абдзіралі маладое лісце. Да таго ж тая знявага, з якой Дуб да Рабіны ставіўся, даўно прагнала б і чалавека, але дрэву куды збегчы? Мабыць, не ўсе Дубы такія, як яе, мабыць, той, з песні, быўварты таго, каб хацець вырваць карані з зямлі і паўзком, ходам, як заўгодна, але ж дабрацца да яго і быць разам… Мабыць, быў, але, у такім выпадку, лічыла Рабіна, гэта песня не пра яе Дуб.

Кожны ранак Дуб, у якога ўжо гніла сарцавіна, пачынаў з таго, што доўга вінаваціў Рабіну ў тым, што яго жыццё не задалося, што ён не вырас так, як растуць сапраўдныя дубы, што дзеці-парасткі не слухаюць яго. А Рабіна маўчала. Яна заўсёды маўчала цяпер, які сэнс перабіваць яго стогны і лаянку?

А ў адзін дзень яго спілавалі, і ён нарэшце выканаў адну са сваіх штодзённых пагроз: «Калі б мог, збег бы ад цябе!»

Рабіна адчула тады нешта падобнае да свабоды. Канешне, Дуба было шкада, столькі ж год побач, але…

Але пасля, застаўшыся ў адзіноце, Рабіна стала па-сапраўднаму шчаслівая. Яна атрымлівала сонца колькі заўгодна, магчымасць дыхаць паветрам. І ёй зусім не хацелася шукаць сабе новы Дуб, ці каго там яшчэ.

Яна проста шапацела лісцем і ўсміхалася.

Урэшце, не ўсім жа патрэбны дубы.

## КАЗКА ТРЭЦЯЯ, ПРА СТАРУЮ ФЕЮ

Старая фея жыве не адна. Раней яна была маладой феяй, з усімі належнымі справамі накшталт дапамогі прынцэсам, жабкам, вожыкам.

Раней была. Цяпер яна старая і жыве не адна.

У яе ёсць муж — стары Кароль чароўнага Каралеўства. Ёсць дзеці, якія даўно ўжо кінулі бацькоўскі замак, бо ім хацелася мець уласную зямлю, дзе іх ніхто не ведае. Шчыра кажучы, Фея ніколі асабліва не займалася іх выхаваннем.

Прынамсі, замак у феі даволі добры, з садам і возерам, па якім плаваюць лебедзі. Старая Каралева-фея не сядзіць, склаўшы рукі. Яна корміць рыбак у возеры, перашывае фіранкі ў галоўнай зале, часта выходзіць у горад, каб рабіць добрыя справы. І робіць, але ніхто не просіць яе іх рабіць. У яе нават ёсць ордэн з брыльянтамі «За добрыя справы».

Скажам так, у яе ёсць усё.

Яна яшчэ помніць крыху заклёнаў, каб добра выглядаць, не губляць румянец на шчоках і заўсёды мець прыгожую прычоску, ды яшчэ некалькі, каб здзіўляць людзей. А іншыя з цягам часу сталі непатрэбныя. Бо што рабіць феі, калі ў яе каралеўстве ўсе жывуць доўга і шчасліва? Нават вожыкі ў лесе.

За сцяной яе вялізнага замка жыве іншая фея. Маладая і нікому не вядомая. Да таго ж у яе няма ні ўласнага шыкоўнага замка, ні мужа. Старая фея часта прыходзіць да маладой у госці, ніколі не пытаючыся дазволу. І доўга расказвае пра тое, як яе суседка павінна сябе паводзіць, як павінна жыць, апранацца і чараваць. І заўсёды кліча да сябе ў госці, бо ў яе столькі шыкоўных рэчаў, якія ёй ужо непатрэбны, ды

няма каму іх аддаць. Маладая фея доўга слухае яе, праводзіць да дзвярэй, а, зачыніўшы іх, чаруе маланкі і гром у сэрцы. Але, крыху пазлаваўшы, яна глядзіць з акенца на замак Старой Феі, і ёй становіцца шкада суседку. Бо, калі ў цябе ёсць усё, зусім усё, а не толькі пацеркі-сукенкі, ды яшчэ і прыгожыя думкі, калі ўсё гэта ёсць, але няма таго, з кім падзяліцца, то якое ж гэта «доўга і шчаслiва»?

І кожны дзень яна абяцае сабе зайсці да старой. І кожны дзень не заходзіць.

## КАЗКА ЧАЦВЁРТАЯ, ПРА ДВУХ ЖАБАК

У адной сажалцы жывуць двое жабянят.

Жывуць з дзяцінства. З таго часу, як былі ікрой, пасля — апалонікамі, і, нарэшце, жабянятамі. Думаю, вы здагадаліся, што ўсё сваё пакуль не вялікае жыццё яны сябруюць.

Адна маленькая жабка была заўсёды больш палахлівай і ціхай, другая — смелай і рашучай. Яна не баялася скакаць высока і забірацца на доўгія сцяблiны чароту, глядзела на зоркі. А потым расказвала астатнім. Яна выцірала слёзы сваёй сяброўкі, весяліла яе і рабіла ўсё, каб не было сумна, каб яна таксама стала храбрай побач з ёю.

Абедзве яны ведалі, які страшэнны і вялікі свет за чаратамі. І марылі, што рана ці позна яны туды пойдуць вандраваць. А за чаратамі, у нябёсах, была поўня, круглая, бы талерка. І зоркі, толькі зоркі…

Насамрэч, аніякіх зорак, за чаратамі, не было. Гэта абедзве жабкі зразумелі, як толькі патрапілі туды. Там была сажалка, дзікая і дарослая, у якой трэба было і за сябе пастаяць, і ежу знайсці…

І тая жабка, што была заўсёды больш храбрай за сяброўку, раптам змянілася так, што не пазнаць. Яна нічога не хацела рабіць, амаль не вылазіла з-пад ліста кубышкі, з цяжкасцямі лавіла жукоў ды камароў. Але змянілася яе палахлівая сяброўка. Цяпер яна стала моцнай і храбрай. А паступова, нават палюбіла негасцінную сажалку. Не ўсё ў яе атрымлівалася, але трэба было жыць. Ды выцягваць з дрыгвы сяброўку, бо тая ўпіралася, нічога не змянялася доўга-доўга.

А потым яны вярнуліся за чараты: сажалка надакучыла. Усе хвалілі некалі палахлівую жабку, называлі яе моцнай і смелай, а яна ніяк не магла ўцяміць чаму, яна ж проста рабіла тое, што павінна была рабіць. А сяброўка нават за чаратамі працягвала сядзець у дрыгве ці пад лістом кубышкі. Некалі палахлівая жабка не пазнавала яе, і вельмі сумавала з-за гэтага.

Храбрая жабка гаварыла, што, маўляў, у яе такі характар, настрой... і многа што яшчэ. А некалі палахлівай жабцы станавілася ўсё больш і больш сумна. Яна таксама пачала залазіць пад ліст кубышкі, каб зразумець сяброўку. Дарма. Насамрэч яна даўно яе зразумела: зорак за чаратамі не аказалася.

## КАЗКА ПЯТАЯ, ПРА ЧАЦВЁРТУЮ ТАЛЕРКУ

Адна каралева не магла купіць талерку.

Не тое, каб у яе не мелася грошай, густу ці ў крамах каралеўства не было посуду.

Як у кожнай каралевы, якая сябе паважае, у яе было амаль усё: грошы, густ і сотні крам, якія і рады былі б, каб яна ў іх зайшла. Але ж «амаль усё» — гэта не «зусім усё».

У каралеўскім палацы не хапала талерак, бо каралева была вельмі няўважлівая, і, лётаючы дзесьці ў марах, яна даволі часта за снеданнем выпускала талеркі з рук.

— Посуд б'ецца на шчасце, — усміхалася першая фрэйліна.

— Ці на вяселле, — дадаваў першы міністр.

Каралева самотна пасміхалася, бо даўно ўжо ведала, што каралеўству нядрэнна было б мець караля… Але ён так і заставаўся гіпатэтычным.

Кожны раз яна выбіралася ў краму з аховай і ружовымі пялёсткамі пад нагамі. Заўсёды спынялася ля талерак — іх было столькі розных, прыгожых, фарфоравых і гліняных, матавых і бліскучых, аж вачам балюча глядзець. І кожны раз яна брала тры талеркі: для сабе, першай фрэйліны, якая была ёй за сястру, і для першага міністра, які замяніў ёй бацьку.

А потым заносіла руку за чацвёртай талеркай, гіпатэтычнай, але так і не брала яе. Бо, пакуль рука цягнулася, у галаве праносіўся ўраган з думак і пачуццяў, і ўсе яны былі пра тое, што яшчэ рана для яе, для чацвёртай талеркі. Што яшчэ не з'явіўся той, хто будзе варты есці з яе. А мабыць, не рана, а позна ўжо, і яна нікому не патрэбна, нават, з цэлым каралеўствам?..

І зноў каралева ехала дадому з трыма талеркамі.

І зноў усё каралеўства цяжка ўздыхала. Бо чакаць нейкіх змен у жыцці даводзілася ля посудавай крамы. І ганчары з усіх вёсак і гарадоў працавалі дзень і ноч, каб нарэшце, у які-небудзь добры (ці не вельмі) дзень, каралева купіла тую чацвёртую талерку.

## КАЗКА ШОСТАЯ, ПРА ЯБЛЫКІ

Кожны дзень адзін малады вучоны хадзіў на базар па яблыкі.

Што-што, а яблыкі ён вельмі любіў. І, бадай, гэта была адна з трох рэчаў, якія ён сапраўды любіў.

Першай была навука. А трэцяй — вясна.

Навуку ён любіў таму, што проста любіў, яблыкі — бо смачныя, а вясну таму, што вясной да яго заўсёды прыходзілі новыя ідэі.

Малады вучоны быў сапраўдны геній. Але нешта не атрымлівалася паразумецца ў яго з патэнтным бюро, куды ён вельмі часта пісаў. Там яму кожны раз растлумачвалі, што такія вынаходніцтвы, як лесвічкі для пацукоў, вентылятары дзеля сыру і паліва з медуз чалавецтву не патрэбныя. Ды малады вучоны не губляў надзеі, і працягваў вынаходзіць розныя «непатрэбныя рэчы», як гаварыў стары папугай.

Ён жыў разам з вучоным, у вялікай клетцы ля акна. Амаль увесь дзень ён спаў, раз-пораз перастрэсваючы старое пер'е і падымаючы пыл, потым раплюшчваў адно вока, каб крыху падзяўбсці зерне, якое вучоны насыпаў яму, і зноў спаў. Але найбольш непрыемная рыса яго характару была не ў гэтым. У самы нязручны момант ён выдаваў каментарыі ці жарцікі, ад якіх у маладога чалавека проста рукі апускаліся, і больш нічога рабіць не хацелася.

Ён і сам не ведаў, чаму не пазбавіўся ад папугая, мабыць таму, што акрамя гэтай старой птушкі ў яго больш анікога не было. Так яны і жылі: вучоны вынаходзіў, папугай высмейваў.

Але аднойчы вясной да вучонага прыйшла сапраўды геніяльная ідэя.

Ён прыдумаў «генератар надвор'я», як яго адразу і назваў.

Вынайшаў ён гэты генератар выпадкова: не зусім правільна злучыў драціны. Валасы ў яго ад замыкання сталі дыбкі, а на вуліцы нечакана пайшоў снег. Ну і што, сказаў бы нехта, вунь, селетняя вясна яшчэ якая снежная была! Але ў нашага вучонага за вокнамі ўжо быў пачатак мая, зелянела трава і пелі птушкі! Ну і што, зноў упіраецца нехта, пахаладанні здараюцца, асабліва, калі цвітуць сады.

Ды толькі разам са снегам на градусніку стала далёка за мінус дваццать, знікла трава і лісце, нібы карцінку на маніторы змянілі. А калі геній паспрабаваў вярнуць усё, як было, пачалася восень! Невядома адкуль, на зямлю ляцела жоўтае лісце А потым, унутры вынаходніцтва зноў нешта заклініла, і вясенняе надвор'е вярнулася назад.

Малады вучоны панёсся па вуліцы горада, як некалі Архімед, лемантуючы: «Эўрыка!» Выглядаў ён так, што нават паліцэйскі патрульны пабаяўся яго спыніць. Бегучы, малады вучоны прыдумаў ліст у патэнтнае агентства. А калі, набегаўшыся, вярнуўся дадому, яго сустрэў сярдзіты позірк папугая.

— Што? — спытаўся хлопец.

— Ты пойдзеш і пераправерыш, ці працуе твой генератар.

Вучоны, стогнучы, пайшоў. Атрымалася, што драціны разышліся, і, як ні намагаўся геній-небарака, нічога не працавала. Папугаю давялося выслухаць пра сябе мноства непрыемных слоў. Пра тое, што ён можа сапсаваць настрой, забраць усялякую надзею і натхненне, а таксама вывесці са строю тэхніку...

Папугай у адказ маўчаў. Не толькі таму, што прызвычаіўся да «істэрык». Ён шмат год верыў у маладога вучонага, верыў нават больш за яго самога. І ведаў, што аднойчы праз пыл і смецце непатрэбных вынаходніцтваў, спрэчак і падкусак, праб'ецца нешта сапраўды геніяльнае. Толькі трэба дапамагчы яму навучыцца думаць.

Дзеля такога можна выцерпець якую заўгодна лаянку.

## КАЗКА СЁМАЯ, МАРЫ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЦА

Адна фея кожны дзень спазнялася на працу. Ні аўтобусы, ні тралейбусы не жадалі чакаць, пакуль яна, губляючы пантофлі, бегла цераз дарогу на чырвоны колер святлафора да свайго прыпынку. Яны зачынялі дзверы перад яе носам. Фея была добрая, таму ніколі не дазваляла сабе ператвараць гэтых зламыснікаў у жаб. Яна ўздыхала і глядзела на гадзіннік. Канешне, можна было б начараваць нешта, каб апынуцца на працы ў той жа момант, ды гэта было б непрафесійна і сорамна для сапраўднай феі.

Але, акрамя аўтобусаў і тралейбусаў, да яе працы хадзіў і трамвай. Яна выпадкова даведалася пра гэта. Пaглядзела ў расклад руху трамваяў, паставіла чароўны будзільнік, каб прачнуцца на гадзіну раней. І не пачула яго.

А калі бегла на прыпынак, без усялякай надзеі паспець (бо трамвай ужо даволі доўга стаяў на прыпынку), здарыўся цуд. Трамвай чакаў яе, не зачыняючы дзвярэй. Гэта можна было б патлумачыць чым заўгодна: «чырвоным» на святлафоры, нейкімі хібамі з кіраваннем… Але ж яна, як прафесійная фея, магла нават выдаць даведку з пячаткай, што гэта быў самы сапраўдны цуд.

Потым, пасля працы, на якую фея ў той дзень паспела, яна прыйшла да трамвая. Не пытайцеся, як яна яго знайшла, як апынулася ў дэпо, дзе ён адпачываў. На тое яна і фея.

Дык вось, яна прыйшла і сказала, што часцей за ўсё гавораць феі, калі ім нехта дапамагае:

— Ведаеце, я прыйшла, вас аддзячыць.
Трамвай здзівіўся.
— М-мяне? Але за што?
— За тое, што вы пачакалі мяне сёння.
Трамвай здзівіўся яшчэ больш.
— Але ж так павінна быць. Гэта мая праца, чакаць, пакуль зойдуць усе пасажыры, такая ж, як ваша — чараваць.
Фея ледзь не кінулася расказваць пра тое, колькі паперак ёй даводзіцца запаўняць на працы замест таго, каб чараваць, але ж прамаўчала.
— Вы лепш скажыце, ці ёсць у вас якая-небудзь мара.
І тут трамвай успомніў, што заўсёды хацеў быць цягніком.
— Дык гэта ж проста цудоўна! — узрадавалася фея. — Я магу ператварыць вас у цягнік.
Тамвай крыху падумаў, і адказаў:
— Не.
Цяпер здзівілася фея.
— Чаму? Гэта ж ваша мара!
— Мара, — уздыхнуў трамвай, — гэта мара. Але, калі ўсе будуць цягнікамі, хто ж дапаможа вам даехаць да працы? Хто дачакаецца тых, хто спазніўся на тралейбус ці аўтобус? Не трэба. Хопіць і простага «дзякуй».
— Дзякуй, — разгублена прамармытала фея. Яны развіталіся, і фея пайшла дадому.
А потым, у цемры дэпо, трамвай доўга глядзеў на поўню ў круглым акне пад дахам, і думаў, а ці правільна ён зрабіў, што адмовіўся ад сваёй мары?

## КАЗКА ВОСЬМАЯ, ЖЫЦЬ, НІБЫ Ў КАЗЦЫ

Вада навобмацак была цёплая. Цёплая і мокрая. Сапраўдная.
Ён сцягнуў красоўкі і зайшоў у ваду ля берага, наступаючы на гладкія камяні, адшліфаваныя вадой за вякі. Возера падавалася вялізным зверам, які спіць. Яно калыхалася ў ранішнім тумане, празрыстае і зеленаватае, нібы шкло старой бутэлькі. І цёплае, неверагодна цёплае, нібы назаўсёды забрала ў палон сваёй шкельна-празрыстай вантробы вечаровае сонца.
Да горада адсюль было блізка: на супрацьлеглым беразе віднеліся рознакаляровыя дахі. Але сёння можна было не спяшацца.
Туман паступова знікаў. Сонца чырвоным, запаленым дыскам выйшла з-за соснаў, пранізваючы прамянямі, нібы дзідамі, воблакі і рэшткі туману на вадзе.
Ветру амаль не адчувалася.
Ён выйшаў на бераг, дазваляючы пяску дробнымі, вострымі крупінкамі ўразацца ў ступні. Потым, падняўся да соснаў, сеў на траву і зноў стаў глядзець на возера.
Ці ж не гэтага хацелася так доўга? А чаго хацелася? Ён жартаваў: «Жыць, нібыта ў казцы». Смешны жарт, сказалі яму не так даўно. Бо, калі пачынаеш жыць у казцы, яна — пух! — і ператвараецца ў «проста жыццё». Да таго ж, казкі бываюць розныя. Жахлівыя, напрыклад.
Не, смеючыся, матлянуў ён галавой. Не трэба жахлівую. Жыццё і так да яе падобнае.

Ён заплюшчыў вочы. Выпрастаў ногі, і, прыхінуўшыся да сасны, паглядзеў угору, на вітраж з голля і неба, сіняга, як ніколі. Мабыць тое, што сказаў той дзівак, праўда! А калі так, то трэба застацца хаця б яшчэ на гадзіну ў гэтай саснова-азёрнай раскошы. Проста пасядзець.

Ён прыедзе. Тут недалёка. Маці званіла ўчора. І пазаўчора. Ён прыедзе. Прыедзе. Ужо едзе. Бо гэта ж так блізка.

* * *

Прыступкі халодныя. Дзіўна, ён заўважыў гэта толькі цяпер. Ці здалося? Мабыць, і тое возера, і сосны, і цэлы дзень, без самалётаў, тэлефонаў і машын таксама прымроіўся. Вось і гэтыя крокі, якія знянацку разарвалі цішыню.

— Што вы тут робіце?

— Сяджу.

— Ха, вядома ж, сядзіце, не ляжыце, — побач на прыступку прысеў дзядзька ў форме МНС, і агледзеўшы яго, перайшоў на «ты»:

— Але ж, ішоў бы ты адсюль, хлопец. Нечага тут глядзець, пажар, людзі загінулі… журналіст ты, ці хто…

Дзесьці ўнутры таго, што было кватэрай, па спаленай мэблі хадзілі людзі, нешта гаварылі, фатаграфавалі праводку, запісвалі нешта на планшэты, кашлялі. З-пад вокнаў ад'язджала «хуткая».

— Гэта мая кватэра, — перапыніў ён «ратавальніка». І тут жа выправіўся, сутаргава зглынуўшы сліну. — Маіх бацькоў.

Не адчувалася болю ці шоку, не было аніякай магчымасці нешта адчуваць.

«Ратавальнік» не адказаў. Ён уздыхнуў, і, выцягнуўны невядома адкуль жудасную фіялетавую насоўку ў клетку, працёр ёй твар.

— І што ты цяпер? — спытаў ён.

— Кажуць, не засталося нікога ў жывых.

— А ў мяне больш нікога няма.

Дзядзька зноў памаўчаў, хістаючы галавой, абмахваючыся насоўкай.

— Шкадуеш?

Ён здрыгануўся.

— Ш-то?

— Што цябе тут не было? — і ён паглядзеў хлопцу ў вочы.

— Але… адкуль?..

— Я размаўляў са спадарыняй, якая тут жыла, учора… яны з мужам чакалі вас. А мы абыходзілі з электрыкамі дом, праводка старая, — МНСнік акуратна склаў насоўку і схаваў яе. — Я ім казаў, што мяняць трэба. А яны адмовіліся.

…Яму хацелася закрычаць — не ад болю, ці жалю — яны, адчувалася, прыйдуць потым — ад бессэнсоўнасці. Гэтага не павінна было здарыцца, грукала ў галаве пульсам. А «ратавальнік» гаварыў яшчэ нешта. Потым, злёгку паляпаў яго па плячы:

— Ну… ты гэта… трымайся, хлопец. Трымайся. Але, цябе там міліцыянеры клічуць…

Потым, МНСнік падняўся да іншых у спаленую кватэру. А ён яшчэ доўга сядзеў на лесвіцы.

Калісьці здавалася, ён гэтага не перажыве. Перажыў. Усё засталося такім, як было — і неба, і вада.

* * *

— …і ўсё, як ты жадаў.
— Я не разумею.
— Не можаш, ці не хочаш разумець?
Вандроўнік паматляў цыгарэтай у тонкіх, пальцах перад яго тварам, нібы малюючы знак «бясконцасць» і пасміхнуўся.
— Ізноў спрадвечная бяда людзей: не ведаюць чаго хочуць.
— Я ведаю, — абурыўся ён. — Я ведаў. Пакуль усё гэта не здарылася.
— Ну, і? Што гэта было?
— Спакой. На некалькі дзён!

Вандроўнік уздыхнуў, і з выгдядам настаўніка, які ў соты раз спрабуе растлумачыць тэарэму двоечніку, палез у кішэню за новай цыгарэтай.
Зноў закурыў, і працягваў сваю «лекцыю», наматваючы кругі вакол хлопца.
— Вы, людзі, часам зусім не цікавыя. Вы забылі, як быць арыгінальнымі, і памыляцца па-свойму, а не як усе.
Хлопец пасміхнуўся, расправіў плечы:
— Добры жарт, толькі ўчора з Твітэра?
— Не перашкаджай, я і так саб'юся без тваёй дапамогі. Так, пра што гэта я? Бачыш, усё банальна. — У меня нават зубы разбалеліся ад таго, як усё банальна атрымалася. Тыповая гісторыя. Сімвал. Архетып, каб яго! Ды ёсць адно «але». Чалавек — гэта паменшаная мадэль свету, у якім усё адбываецца ўпершыню. І што мы маем? Памылкам сотні і сотні год, а ўсё новыя людзі ўпершыню адкрываюць іх. Толькі вось ад гэтых банальных памылак нікуды не дзецца, не схавацца, з імі давядзецца жыць і паміраць. Я што сказаць хачу. Ці гатовы ты да такога зыходу?
Хлопец засмяяўся, напружана, штучна. Рукі, якія ён трымаў дагэтуль у кішэнях, здубянелі, ён некалькі разоў сціснуў і расціснуў кулакі.
— А сам як думаеш?
— Стоп, — вандроўнік падняў цыгарэту ўгору. — Вось гэтага не трэба. Я не думаю. Ты мяне выратаваў — я выконваю. Уся адказнасць на табе, мой юны сябра. Проста ўяві, што я — залатая рыбка, і...
— Там было тры жаданні, — прамармытаў хлопец у адказ.
— У цябе адно, а вынік? — Вандроўнік падняў бровы.
Хлопец нічога не адказаў. Вандроўнік выдыхнуў дым. Моўчкі расцёр цыгарэту аб камень, сунуў рукі ў кішэні, пахістаўся сюды-туды, з пяткі на мысок.
— Добра, — прамовіў ён. — Як ты казаў — «каб усё было так, як павінна было быць?..»

* * *

«Ратавальнік» пасміхнуўся, запіхваючы ў кішэню формы жудасную фіялетавую насоўку.
— Ды што вы, заставайцеся! — жанчына выйшла на лесвічную пляцоўку, выціраючы рукі аб фартух. — У мяне паспеў пірог. І вішня свойская. Ды заходзьце, заходзьце, вы нам жыццё ўратавалі: праводка, пажары, вой, гэта ж такі жах…
Дзядзька крыху паразважаў, і пераступіў парог кватэры.
— А што ж вы раней нас не выклікалі? — нібы пажурыў ён жанчыну.
— Ды сын усё абяцаў...

— А што, не прыехаў?

— Сёння прыедзе, званіў ужо! — на кухню зайшоў немалады мужчына, за руку паздароўкаўся з МНСнікам. — Блізка ад нас.

— Тры гадзіны, — жанчына паставіла перад «ратавальнікам» кубак гарбаты і талерку з пірагом. — А вы ешце, ешце, наш хутка прыедзе…

* * *

— Як гэта здарылася?

Чалавек з цыгарэтай непрыемна пасміхнуўся.

Даішнік уздыхнуў, паправіў фуражку і дастаў чысты лісток паперы.

Мужчына з цыгарэтай неахвотна прамовіў:

— Мы размаўлялі з сябрам. Ён спяшаўся да бацькоў і пабег да аўтобуса… Што было далей вы бачыце зараз на асфальце.

Даішнік скасіў вочы на красоўку, якую закінула на супрацьлеглы бок дарогі.

— Ці так? А мне здаецца, ён сам кінуўся пад колы.

— Не ведаю, — мужчына выцягнуў новую цыгарэту. — Бывае, што чалавек не заўважае аўтобус.

Даішнік пацёр пальцамі вочы.

— Цяжкі дзень? — паспачуваў мужчына.

— Можна сказаць і так. Дык вы сцвярджаеце, што гэта здарылася выпадкова і што ён сам гэтага не хацеў?

Яго суразмоўца пацiснуў плячыма.

— Усё можа быць. Але людзі ў наш час не ведаюць, чаго хочуць.

Святлана КУЛЬ

# ЯН І МАР'ЯНА

*Паэма*



**Святлана Куль нарадзілася 20 верасня 1959 года ў Гродне. Гісторык. Друкавалася ў «ЛіМе», часопісе «Верасень». На старонках «Маладосці» дэбютуе паэмай «Ян і Мар'яна», заснаванай на рэальных падзеях пачатку XVIII стагоддзя і архіўных дакументах, адкрытых гродзенскім гісторыкам С. Данскіх.**

**ПРАЛОГ**

Дзе ад Гародні просты шлях
Стралой нясецца да сталіцы,
Крыху наводдаль у палях
Ляжаць дзве вёсачкі-сястрыцы.

Тут старажытная царква
З чырвонай цэглы збудавана
І ўжо, бадай, стагоддзі два
Аповед ёсць пра пана Яна.

Мой сябар неяк гасцяваў
У вёсках тых і чуў паданне,
Пасля паперы адшукаў
І склаў па іх апавяданне.

Я вам яго перадаю,
Як ад яго калісь пачула.
Дай мне, чытач, руку сваю —
Хадзем знаёміцца з мінулым!

* * *

З цёмнай ночы да дзянька, да дзянька —
Так працуе талака, талака!
Чысцім-мыем да вугла, да кутка,
У нас сёння талака, талака!

Талака-талочанька —
Дзень яшчэ ды ночанька!

Нам паспець бы да пары, да пары,
Каб прыбрацца на двары, на двары!
Не спыняйся, не стамляйся, рука!
У нас сёння талака, талака!

Талака-талочанька —
Дзень яшчэ, ды ночанька!

Місы, куфлі і збаночкі-збанкі
Дачакаліся цяпер талакі!
Будзе чыста да нажа, да збанка!
У нас сёння талака, талака!

Талака-талочанька
Дзень яшчэ ды ночанька!

Хутка-хутка, ды зрання, ды зрання
У гняздзечка прыляціць птушаня,
Ясна пані — да свайго мужыка,
У нас сёння талака, талака!

Талака-талочанька —
Дзень яшчэ ды ночанька!

Едзе, едзе!!!

* * *

Нібы праклятую каню
Кліча жывая вада —
Цягне вяльможную пані
Да радавога гнязда,

Сэрца знясілена смагай —
Йдзе за бядою бяда.
Матчына вена ў пасагу
Быццам жывая вада —

Можа нарэшце спатоліць
Прагу звычайную ўдоў.
Злая-нямілая доля
Двух адабрала мужоў,

Родны фальварак — крыніца
Чыстай гаючай вады.
Каняй ляціць, каб напіцца
З Вільні далёкай сюды.

Вось ужо родныя гоні,
Дом ледзь відочны здаля,
Ногі прытомленых коней
Пульхная лашчыць зямля.

Вось і гняздо радавое,
Брама, драўляны паркан.
Стрэне вазок з удавою
Скарбнік маёнткавы Ян.

* * *

Выйду на спатканне
Да вяльможнай пані
Ў сінім кунтушы
Ды з шаўковым пасам,
Боцікі з кутасам —
Моташна душы!

Эх, як прыедзе!
Эх, каб не ведзьма!
Хто яе знае,
Мо злосная якая?

Птушкай прылятае
Пані маладая,
Лёгкакрылы птах,
Па дарозе пыльнай
Едзе проста з Вільні
Пад радзімы дах.

Эх, як прыедзе!
Эх, каб не ведзьма!
Хто яе знае,
Мо злосная якая?

Па дарозе простай
Пару сотняў вёрстаў
Конік давязе,
Стрэнем як княгіню
Пані-гаспадыню
Ў радавым гняздзе!

Хутка ўжо ночка!
Вунь і вазочак,
Божанька мой, божа,
Як яна прыгожа!

* * *

— Ясна пані — нібы зорка,
Як анёл, пасланнік божы,
Што з’явіўся на падворку
Незвычайны і прыгожы!
Хто на пані толькі гляне,
Не кахаць ужо не зможа,
Стан танюткі, позірк гожы!

— Не жартуйце, пане Яне!

— Вусны — нібыта каралі,
Як чырвоная маліна,
Вейкі сэрца мне працялі,
Шляхціч-зух ужо загінуў!
Закахацца ў ясну пані
Хопіць і адной хвіліны!
Хоць забіце — я нявінны!

— Не жартуйце, пане Яне!

— Ні малітва, ні замова
Ад кахання не ўратуюць,
Трапіў шляхціч шарачковы,
Нібы воўк у пастку тую!
Лук напяты, і каханне
Цеціву парве тугую!
Ручку вашую цалую!

— Не жартуйце, пане Яне!

Хоць прыемны заляцанні,
Абавязак ёсць і справы,
Гаспадыня я і пані,
Будзе час і для забавы,
Пане Яне!

* * *

Пане Яне, пане Яне,
Не глядзі ты ў вочы ёй!
Знак нядобры на Мар'яне —
Тройчы быць ёй удавой!
Не прыходзь штодня ў фальварак,
З ёй сустрэчы не шукай,
Не давай панесці марам
За блакітны небакрай!
І не сёння, і не ўчора
Быў пракляты гэты дом,
Над шляхецкім родам воран
Чорным узмахнуў крылом.
Ні спагада, ні каханне,
Ні малітва да святых
Не ўратуюць, пане Яне,
Двух каханкаў-маладых.
Ёй жыццё наканавала
Чорнай векаваць ўдавой,
Дзве магілы — шчэ замала,
Трэці дол, напэўна, твой.

* * *

Пані мая! Маю слова сказаць... Ды нямею...
Рвецца душа на шматкі ад віны і надзеі!
Пані мая! Ты як зорная кветка лілея!
Ты як віно — ад цябе, закаханы, хмялею!
Як пагляджу на цябе — у грудзях маіх сэрцайка скача.
Кажуць на вёсцы, што лёс мой прымачы — сабачы!
Хай прымаком, бы спатоліць любоўную прагу!
Толькі скажы — я сабакам ля ног тваіх лягу!
Пані мая, ты як пекная белая ружа!
Жонкай цябе б называў, ну а ты мяне — мужам,
Толькі на свеце няма паратунку-аховы —
Роду магнацкага ты,
Я ж — шляхцюк шарачковы...

Я не хачу тваёю быць каханкай,
Жыць патаемна, цешыцца маной,
Не роўня мы з табою, любы Янка,
Ды ці каханне мерыцца цаной?
Маім маёнткам, родам старажытным
Ахвяраваць дзеля тваіх вачэй,
Каб разам быць сумленна і адкрыта —
Што для кахання можа быць лягчэй?!
Ты вочы апускаеш у пакоры,
Баішся зганьбіць любасцю сваёй,
Ды і ў табе жыве шляхецкі гонар,
Герб радавы, услаўлены сям'ёй.
Што мне радня, няхай складаюць плёткі,
Хай бэсцяць і шалёнаю завуць,
Удовін век — як палына салодкі,
Хай самі хоць глыток яго глытнуць.
Ёсць сэрца і пад выцертаю шатай!
Каханы мой, я ўсё зраблю, дазволь!
Ты будзеш лепшым пасярод магнатаў!
Суддзя нам — Бог! Аховаю — кароль!

* * *

Як зімой халодную
Промень шыбку вытапіў,
Нібы вецер з выраю
Падарыў вясну,
Сэрца схамянулася,
На замкі закрытае,
Адшукаў ён ключыкі,
Дзверцы адамкнуў.

Доля адгукаецца
Песняй недапетаю,
Кліча шчасце, просіцца,
Бегне наўздагон.
А за ім няўмольная
Крочыць апраметная,
І дарэмна плачуся ля святых ікон.

Векавуха-нянечка
Нашаптала вечарам:
Чары-зёлкі даўнія
Адвядуць бяду,
Закруціла долейку
Стужкай пакамечанай —
Як ісці той сцежкаю —
Да канца пайду.

## У ВЯДЗЬМАРКІ-ВЯДУННІ

### *Вядзьмарка*

Зёлкі, мае дзеткі,
Завіталі ўлетку
Засталіся, жэўжыкі, гасцяваці тут.
Маюць душы кветкі,
Як прыйду ў паветку —
Нібы спавядаюцца — шэпча кожны кут.

Зелейка святое —
Баркунок ды тоя,
Як русалка клікала, так і я заву,
Абярэг вячысты
Ад істот нячыстых,
А памру — кладзіцеся мне пад галаву.

Белая пяшчотка —
Божая бародка,
Лесавік-гарэзавік футра начасаў,
Белаю лісіцай
Лашчыцца пушыца,
Летуценнем круціцца паміж іншых траў.

Сіненькія ключыкі
Запляталі ручанькі,
Божай маці пальчыкі ў веснавы кілім.
Дзеткі мае, дзеткі,
Зёлкі, траўкі, кветкі,
Шапачыце, любыя, хопіць часу ўсім!

*Мар’яна*

Сцежкаю няпэўнаю, травамі заплеценай
Шараю гадзінаю павяла бяда,
Не садочкам сонечным у лісці і квецені,
А праз пушчу цёмную па ліхіх слядах.
Не ў вазку залочаным гордаю магнаткаю
Прагуляцца ехала з пыхі і нуды,
А з душой залатанай ільнянымі латкамі,
Як дзяўчо вясковае, бегла я сюды.

Туркаўкай гаёваю,
Ластаўкай вясковаю,
Каняю гаротнаю
За жывой вадой
Для душы знясіленай,
З галавой нахіленай
З доляй, перакручанай
Смерцю і бядой.

Яснаю маланкаю любасць загарэлася,
У юрлівым вогнішчы сэрца-галаўня,
Не хапае сораму, не хапае смеласці,
А гадочкі ўдовіны — нібы хто адняў!

Туркаўкай гаёваю, каняю гаротнаю
Прыляцела, цётачка, да цябе ў дамок,
Спее тут між зёлкамі зелле адваротнае,
Мне б яго — хоць кропельку, хоць адзін глыток.

## ВАРАЖБА

— У вачах тваіх чытаю, бы ў палоначцы,
Донца цёмнае, рачулка, камяні,
А яшчэ ніжэй — гарачыя агні,
І груган крычыць, і прывіды апоўначы...
— Што там бачыш? Што ты бачыш? Не цягні!
— Не падманеш, не адужыш апраметную,
Скача, скача за табою на кані!
Не хвіліны, не гадзіны і не дні
Патарочаю нясецца за кабетаю...
— Гаварыцьмеш, што там бачыш, не цягні!
— Лёг благі праклён, даўнейшы, неадмолены,
Ці залоўка ці сястрыца пракляла,
З-за пасагу — што найлепшае ўзяла,
Тры крыжы табе ляглі сіроцкай доляю!

— З-за Мажэйкава! З-за лепшага сяла,
Што калісьці мне матуля аддала!
Што ж рабіць мне — я кахаю і каханая,
Мне смяротны немагчыма ткаць сувой!
Не адмоўлюся ад любасці сваёй!
Мо замова ёсць ці зёлка прыхаваная?
— Як не зробіш, будзеш чорнай удавой!

На цвінтар стары ідзі глухой гадзінаю,
Адшукай на ўскрайку занядбаны дол
І накрый яго, нібы бяседны стол,
Для памерлага, самотнага, адзінага!
Хай самота, што табе на долю ўскладзена,
З ім застанецца навек, як злы праклён!
Да скончэння, да тваіх апошніх дзён.

І маліся! Бо чужая доля скрадзена!

## СПОВЕДЗЬ

Так, айцец, хадзіла на цвінтар,
На стары, закінуты, за вёску,
І аднесла свой удовін дар —
Малако, віно і свечку з воску.
Ноч была, не бачыла сяльцо,
Як шукала даўнюю магілу.
На адзін з аддаленых капцоў
Я ахвяру ўдовіну насіла.
Гаварыла словы я над ёй,
Як вучыла бабка-векавуха:
«Будзь адзін з самотаю маёй,
Забяры праклён, маю прысуху!
Хай з табою застанецца тут,
А каханы мой — са мной адзінай,
Каб замкнуўся круг маіх пакут
У начную гэтую гадзіну!»
Крыжам не пазначыла ілба.
За сабой не ведаю распусты.
Можа быць, паганства, варажба.
Грэшная, ды вартая адпусты,
Бо хачу, каб для мяне збярог
Скарбніка маёнтка, пана Яна.
Хай хоць чорт, калі не зможа Бог!
Будзе пад аховай мой каханы!

**ВЯСЕЛЛЕ**

Сокал ластаўку схапіў,
У гняздзечка пасадзіў,
Пасцяліў пасцелю —
Пі, гуляй вяселле!

Ясны месяц вандраваў,
Зорку-дзеўчыну спаткаў,
Разам паляцелі —
Пі, гуляй вяселле!

А як добрыя паны —
Не пасквапяцца яны,
Каб на іх вяселлі
Мужыкі пад’елі!

— Гэй, Мікіта!
Стол накрыты!
— Гэй, Анэлька!
Дай бутэльку!
— Гэй, Мікалай!
Гарэлкі налівай!

Паляўнічы ў лесе быў
Аленіху ён здабыў
Ды прывёў дахаты,
Эх, гуляем свята!

На вяселлі ў прымака
З’елі госці парсюка,
А пасля і гуску —
Стала ў хаце пуста!

— Гэй, Параска!
Дай каўбаску!
— Гэй, Ігнатка!
Дай букатку!
Гэй, Мікалай!
Гэрэлкі налівай!

Як пайшоў у прымакі
Дык здымай штодня парткі,
Нат як не ахвота,
А рабі да поту!

У паночка ды ў гародзе
Толькі моркаўка ўзыходзіць,

На яе багаты —
Эх, гуляем свята!

— Гэй, Паўлінка!
Дай дзічынкі!
— Гэй, Ганулька!
Дай цыбулькі!
— Гэй, Мікалай!
Гарэлкі налівай!
— Гэй, Апанас!
І да гарэлкі квас!

Гуляй!!!

## ПАВЯТОВЫ СЕЙМІК

— А, мосці пане дабрадзею!
Ці чулі плётку-пагалоску,
Што скарбнік, шляхціч Качаноўскі...

— Ці не з радзіны Ябланоўскіх?
У Віцебскім, за даўніх дзеяў...

— Ды не, ягоны герб — Ляліва,
Род хоць і годны, так бы мовіць...

— З Лялівы? Ці не Адамовіч?
Тарноўскі шчэ, ды Аляховіч...

— Ды не, паслухайце цярпліва,
Той Качаноўскі зух-хлапчына,
Удаву сабе прыдбаў — па Пацу...

— Па гетману? Такі быў зацны,
У Вільні неяк, у палацы..

— Ды не, паслухайце хвіліну!
А з ёй прыдбаў маёнтак пышны,
Ды кажуць, там у іх каханне...

— Ляліва — добры герб, васпане,
Мо, і з Газдавай побач стане...

— А тут маршалак, пан Завіша...

**ЗАВІША**

Ганьба, панове! Разбэшчанасць! Крыўда і псота!
Страціла годнасць швагерка мая, і сумленне, і цноту!
Быў бы ў каханках яе хоць кухмістр, хоць харунжы!
Не! Галадранца з загонавай шляхты схацела за мужа!
Мае па попісу дым, або два! Гэта ганьба! Убоства!
А ўжо яна пасадзіла яго на староства!
Розум згубіла швагерка мая, ашалела!
Нейкаму гіцлю душой аддалася і целам!
Пац і Хадкевіч, і доўг удавою забыты!
Трэ да брыгітак яе, на ваду ды на хлеб! Ды ў хабіты!
Хай у манастве адмоліць дарогу да пекла!
Ну а маёнтак, панове, па праву забраць у апеку!
Я не апошні шляхцюк і ў Літве, і ў Кароне,
Еду на Сейм, на кадэнцыю вечарам сёння.
І патрабую ад вас, як маршалак сеймовы,
Права мне даць, каб пра гэта агучыць прамову!
Ад павятовага сейміка нашага волю мне дайце,
Каб у Гародні на Сейме прамовіць аб гвалце!
Што ж вы маўчыце? Чаму на паседжанні ціша?
Годзе! І так не адступіцца Кшыштаў Завіша!

* * *

Шалёная баба! Ды хітрая, нібы лісіца!
Дарэмна на Сейме крычаў і збіраўся ў сталіцу:
Паўсюль у яе сваякі ці сябры-дабрадзеі,
Каб шлюб скасавалі, няма і падстаў для надзеі!
Як толькі пачну пра шляхецкую годнасць, дык: «Годзе!»,
Бо роўня цяпер шарачковы шляхцюк ваяводзе,
І побач сядзяць ці то ў Сейме, ці то ў Трыбунале,
Даўнейшыя тытулы, званні, чыны скасавалі.
Дарэмна на сейміку мовіў пра гвалт і плебейства,
Пра герб несумленна прыўлашчаны і чарадзейства,
Не вераць, пся крэў! Ды пусцілі яшчэ пагалоску,
Што важуся ўзяць у апеку Мар'яніны вёскі,
Што крык мой ганебны, а корань таго закалоту,
Бо вінны Мар'яне здаўна аж тры тысячы злотых,
Якія (а праўда!) я ўзяў у нябожчыка Паца!
Які ж то сабака аб гэтым паспеў здагадацца!
А грошай шкада. Не аддам! Трэба неяк схітрыцца,
Каб вывезці тую Мар'яну сюды, да сястрыцы,
Нібы гасцяваць, а ўжо гэтага фірцыка-мужа
З маімі баярамі мы патаемна адужым.

* * *

Злавілі птушку на падмане,
Нібы ў сіло на паляванні.
Заплача ў клетцы птушкай каняй
Ізноў Мар'яна.
Вадою горкаю напіцца
З маной напоўненай крыніцы
У доме роднае сястрыцы
Наканавана.
Прымусам — у маёнтак дальні.
Два гайдукі пільнуюць спальню,
Ліст напісалі развітальны
Да пана Яна!
А Ян адважны дый упарты!
Адзін дзясятка ў бойцы варты!
Ды тут узброеная варта —
Халопы пана!
Зманілі лебедзя манкутай,
Лістом падманным, як атрутай.
У пастку трапіць на пакуты
Цяпер каханы!

* * *

Не плакаць. Маўчаць. Ані стогну не будзе, ні плачу.
Праклёны адны, праклёны — навечна, да дня!
Праклятыя Юды! Ды горай! І гэта — радня?
Каб ім падавіцца ў пекле вуголлем гарачым!
Зманіла сястрыца — прыедзь, паміраю, хварэю!
Змяюка атрутная! Зайздрасць і пыха ў душы!
Каб так супраць Бога і роднай крыві саграшыць!
Замкнулі! І ладзяць прыманку з мяне! Ліхадзеі!
Каб свету не бачылі! Шляхціч! Магнат! Радавіты!
Ды шашалем здрады той герб, нібы дошка, пабіты!
Усё прадалі — і Радзіму, і годнасць — за талер!
Каб гэтыя талеры ў пекле да веку глыталі!
Нібы на манкуту прынадзяць саколіка-Янку,
А тут за парканам халопы, мушкеты, пістолі!
Шляхецкі наезд на маёнтак не выйдзе ніколі!
Цяпер яшчэ жонка... А стану ўдавою над ранкам!
Мне б збегчы адсюль. З гэтай яміны страшнай, магільнай!
Тут пастка для Яна! Прынада! Мушкеты і лёх!
Я б птушкай зляцела, каб ён падмануцца не змог!
А потым — на Сейм, ды на суд, ды да канцлера ў Вільню!

**НАЕЗД**

Стужкай-змяёй пад капытам дарога
Рэжа заснежаны лес,
Нібы ланцуг, за канём маладога
Скача шляхецкі наезд.
Сокалам,
Ястрабам,
Коршукам,
Воранам —
Цені кладуцца на снег, —
Рваць на шматкі ненавіснага ворага!
Хорта шалёнага бег
Грукатам,
Тупатам,
Поклічам,
Цокатам
Рэхам заб’ецца ў начы,
Нібы ў наезд са шляхецкай галотаю
Чорная помста імчыць.

* * *

Гонар шляхты — шабля-карабела —
На камень магнацкі наляцела,
На камень нязрушны, акаваны,
На глухія моцныя парканы,
І пад тым узброеным парканам
Палягла дружына пана Яна.
Ледзь жывога, са смяротнай ранай
Вынес конь з-пад стрэлаў пана Яна,
І лязом пасечаным трымцела
У руцэ здранцвелай карабела.

* * *

Пасярэдзіне бясконцых дарог
Упусціў славянскі дуб Жалудок,
Быў не кволы, не малы, не худы —
Моцны, гожы, як усе жалуды.
Вёскай-дрэўкам нарадзіўся на свет,
Стаў мястэчкам і ачоліў павет.
Уладальнікі падданым у дар
Збудавалі храм, заклалі цвінтар,
Каб мястэчка між гасцінцаў-дарог
Не забыў сваёю ласкаю Бог.
З-пад Раготна па зімовым шляху
Бег ля Орлі, цераз Нёман-раку,

Цераз пушчу, праз заснежаны лес
Ад пагоні недабіты наезд,
Смерць вілася, як груган, за спіной,
А наперадзе надзеяй адной,
Паратункам для загнаных ахвяр
Жалудоцкі храм — гасподні алтар.

* * *

Для хцівасці няма радства.
Змяюка — родная сястра
Зрабіла для сястрыцы подласць.
Што засталося? Толькі годнасць,
Яе кладу да алтара.
Такое смешнае дзівацтва —
Патрапіў шляхціч у магнацтва,
Бы сокал на насест арліны.
Ды дзе арлы? Адно — паўліны,
Адвагі, гонару — на грош,
Не твар у твар, не нож на нож —
Як трусы за высокім тынам,
Халопам-ваярам — за спіны!
Ці то магнат? Сумленны рыцар?
Не! Поскудзь, прайдзісвет і гіцаль!
Прабач мяне, Гасподзь-збавіцель,
Ды толькі поскудзь, кат і гіцаль!
Пячэ ў грудзях, праціла куля!
Баліць знявечанае сэрца!
Ды больш пячэ, што падманулі,
Што гонар зганьбілі шляхецкі!
Нібы ў нявернага турчына
Стралялі здрадніцкі з-за тына,
Нібы ў шалёнага сабаку,
У шатуна, у ваўкалака!
Нібы не шляхціч радавіты
У вольнай Рэчы Паспалітай!
Няма на свеце горай ліха,
Чым кроў магнацкая і пыха!
Памру, няйнач, у тым касцёле,
Ды лепш, чым смерць у чыстым полі,
На радасць чорным груганам,
Мо адпяюць. Мо ў дамавіну.
Не думаў, што вось так загіну.
Маёнтак ні дачцы, ні сыну
Сваёй рукой не перадам.
Быў лёс пісаны нешчасліва,
І герб шляхецкі мой «Ляліва»
Калі ад смерці пройдзе год

Сатруць у попісах літоўскіх,
Бо я апошні з Качаноўскіх —
Шляхецкі перарваўся род.
Ды толькі калі хтось Мар’яну
Пакрыўдзіць словам або справай,
Я і з магілы мёртвы ўстану,
І з-пад цвінтарнага дзірвану,
Суддзёю жорсткім і крывавым!

Маліцца буду ў час апошні свой.
Збавіцель Езус, злітуйся над ёй.

* * *

Тупат коней за касцёльнаю брамай.
Сцежка ў касцёл і крывавыя плямы —
Метку пакінуў мушкет,
Конь асядланы, з насечкай страмёны,
Пенай пакрыты ад гонкі шалёнай —
Янам пазначаны след.
Людзі не спяць у дамах навакольных,
Толькі не выйдуць да брамы касцёльнай
Лезці ў чужы закалот.
Зграяй раз’юшанай служкі магнацкія:
Соцкі з Мажэйкава, войт і дзясяцкія
Хмарай стаяць ля варот.
Не прапускае здзічэлую зграю
Двор прыкасцёльны — зямліца святая,
Помстай не ганьбіцца храм,
Бо калі меч узнясеш за парогам
Будзеш бязлітасна выкляты Богам,
Як адрачэнец і хам.
«Станем пакуль што ля храма аблогай,
Будзем чакаць. Пэўна, возьме знямога.
Дзень папільнуем — не год!
Кроў на сцяжыне, мо цяжкая рана...»
Соцкі сказаў: «Дачакаемся пана,
Будзе па волі яго».

* * *

Мястэчковы касцёлік — не храм для магната,
Што там звычай, праклянцце, святая зямля!
Закарцела згуляць у суддзю або ката —
Ні ксяндза не пачуе ён, ні караля.
Галадранец схаваўся ў нару, як лісіца,
Толькі крылаў няма, і адтуль не ўзляціш!
Не пускае халопаў святая зямліца?

Дык прапусціць найлепшага з роду Завіш!
Апасля хай халопы ламаюць запоры.
Не касцёлік для пана — халупа, нара,
Ён пыхліва хадзіў, не здымаючы шпоры,
Па базіліцы рымскай Святога Пятра!
У касцёлік за панам пакрочыла зграя —
«Грэх вялікі! Ды толькі цяпер не на нас!
Пан адпусту ад папы ізноў атрымае,
Калі толькі захоча і знойдзецца час».

* * *

Хацелася б змяніць падзеі, з’явы, лёсы,
Перарабіць жыццё на ўласны густ,
Зрабіць усё прыгожым, светлым, простым —
Такая вось спакуса са спакус.

Суцішыць бы ўсе навальніцы, войны, буры,
Інакш жыццёвы вызначыць маршрут,
Для добрых расцягнуць шагрэневую скуру,
Дадаць ім хай не дзён, дык хоць мінут.

Але ў адну раку, маўляў, не ўвойдзеш двойчы,
Як лёс накрэсліў — з гэтым і жыві,
Ужо не зменіш дні, не пераробіш ночы,
І шаблю не пазбавіш ад крыві.

Не вернеш да жыцця загінуўшага Яна:
У Вензаўцы яго паклалі ў дол,
Як не святці нанова — зганьбаваны
Ніколі не адмыецца касцёл.

* * *

І фундуш на новы звон касцёльны,
І арнаты новыя ксяндзам,
Для плябана дом на грунце вольным
Даў магнат за зганьбаваны храм.

Не было рашэння Трыбунала,
Не была пазначана віна —
Шляхта ўраз дваіх каранавала,
Ды прайшла маланкаю вайна.

Лёс удовін выпіла Мар’яна,
Долы тры, нібыта тры кляйна,
На чацвёрты — дальні, занядбаны
На Дзяды прыходзіла яна.

Не казала скаргі і праклёны,
Над самотным долам між ялін.
Век удовін, як сляза, салёны,
Паратункам стаў маленькі сын.

### НА МОГІЛКАХ

***Мар'яна***

— Не вітаю са спатканнем,
Час не той, не тое месца.
Я табе прынесла камень —
Я сваё прынесла сэрца.
Назаўсёды скамянела,
Як загінуў любы-мілы.
Адзіноту не схацела —
Сэрца забяры ў магілу!

***Вядзьмарка***

— Пэўна, доля-ліхадзейка яснай пані
Загадала выбраць гэта пахаванне,
Ды нашто сюды дары свае насіла?
Гэта, пані, не самотная магіла!
Парадзіха тут прыдбала адпачынак —
З нашай вёсачкі цяжарная дзяўчына,
Гаварылі, што цяжарная ад пана.
Ці не з роду яснай пані той каханы?
Ці не род у гэтай смерці вінаваты?
Горкай стала за мінулае расплата!

***Мар'яна***

— Грэх чужы, а мне — расплата?
Ян плаціў сваёй крывёю!
Не забойца, не з магнатаў.
Дык за што мне гора тое?
Свет пакінуць — сіл не маю.
Папрашуся да манашак,
Смерць чакаць.
За небакраем
Будзе з любым шчасце наша.

***Вядзьмарка***

Не спяшайся ў манастыр. І смерць далёка.
Што было — таго не будзе, ясна пані.
У зямлі ляжыць каханы — ясны сокал,
У цябе ж цяпер другіх турботаў стане.

Ты паслухай, ды не сэрцам скамянелым,
А душою, а каханнем шчэ нязгаслым,
Спее, спее, ды паволі, ды нясмела,
Нібы зерне, каб жыццём адбыцца ўласным,
Там, пад сэрцам скамянелым. Чуеш? Чуеш?
Як надзея, як праменьчык цёмнай ноччу.
Хоць вядзьмарка, ды на могілках звястую —
Будзе дзень і будзе шчасце — ваш сыночак.

**ЭПІЛОГ**

Гады мінаюць, час ляціць, бы вецер,
Аб закаханых пішуцца тамы,
І неяк прызвычаіліся мы:
Сумнейшая з усіх другіх на свеце
Аповесць аб Рамэа і Джульеце.

Але ў жыцця свае для суму шалі,
Свае сюжэты для надзённых драм:
Пра чорную ўдаву, каханне, храм.
Ці меней варты літасці і жалю
Раман, каторы продкі напісалі?

* * *

Сонца сагрэе зямлю,
Прыйдзе пара залатая:
Ноччу купальскай улетку
Вырасце папараць-кветка,
Хтосьці прашэпча: «Люблю!»,
Хтосьці адкажа: «Кахаю!».

Парабку ці каралю
Доля шляхі выбірае,
Нават у пышным палацы
Часам гасцюе жабрацтва,
Бо не пачуеш: «Люблю!»,
Бо не адкажаш: «Кахаю!».

Зерне ўпадзе на раллю,
Тронкам падымецца ў маі,
Коласам выспее ўвосень,
Так на зямлі павялося:
Дзеці падхопяць — «Люблю!»,
Скажуць унукі — «Кахаю!».

*Павел САКОВІЧ*

# МАЁР

*Апавяданне*



***Павел Саковіч нарадзіўся 24 мая 1941 года ў Оршы. Па адукацыі гісторык. Аўтар кніг прозы, паэзіі, сатыры і гумару, твораў для дзяцей. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Віткі і Крапівы.***

Сцяпан дажываў свой век у адзіноце. Усё жыццё ён праслужыў старшыной у аддаленых вайсковых гарнізонах, ды так і не абзавёўся сям'ёй. Пасля службы атрымаў аднапакаёўку на радзіме ў райцэнтры. Некалькі гадоў таму Сцяпан прывёў дадому сабаку, якога падабраў ля шашы. Сабака таксама быў у гадах, пра што сведчылі пасівелыя вусы і поўсць на мордзе. Хутчэй за ўсё нейкія бессардэчныя людзі вывезлі ды кінулі яго.

У той дзень Сцяпан паехаў са знаёмцам на ягонай машыне ў вёску, каб дапамагчы таму адрамантаваць хату. Недзе на паўдарозе яшчэ здаля яны заўважылі на абочыне сабаку. Ён сядзеў ля самай шашы і ўзіраўся ў кожную машыну. Іншы раз ускокваў і ледзь не кідаўся насустрач якому-небудзь легкавіку. Калі яны вярталіся праз тры дні, Сцяпан спачатку не паверыў сваім вачам. Сабака знаходзіўся амаль на тым самым месцы. Прыкметна схуднелы, ён прыціскаў вушы і па-пластунску выпаўзаў на шашу насустрач ледзь не кожнай машыне. Некаторыя рэзка тармазілі, віхлялі, абмінаючы яго, а іншыя загадзя давалі доўгія сігналы. Сабака палохаўся, ускокваў, адбягаў назад, а потым зноў поўз на шашу. У ягоных вачах былі страх, мальба і адчай. Можа, гэтак ён хацеў звярнуць на сябе ўвагу, прасіў падабраць яго? А можа, адчуўшы сваю поўную бездапаможнасць і здрадніцтва блізкіх людзей, рашыў скончыць жыццё самагубствам? Сцяпан падумаў пра гэта, калі сабака адчайна папоўз насустрач іхняй машыне. Яны спыніліся. Сцяпан не вытрымаў, выйшаў з машыны і забраў сабаку.

Ён прывёў яго ў сваю аднапакаёўку і назваў Маёрам. Ці то ў старшыны была некалі мара даслужыцца да гэтага чына, ці строгі выгляд сабакі даў нагоду для такой мянушкі, але хутчэй за ўсё так Сцяпан рашыў пажартаваць над сваёй вайсковай службай. Маёр, аднак, не «лаяўся» на старшыну і з'ядаў тую ж «салдацкую» кашу, якую гаспадар гатаваў для сябе. Яны жылі дружна, але без асаблівых праяў эмоцый. Толькі аднойчы, калі Сцяпан захварэў, а Маёр прынёс забытыя на кухні тапкі, ён расчуліўся і крыху засаромеўся. Яму, закаранеламу бабылю, ніхто не аказваў аніякіх побытавых паслуг.

— Ты што гэта, Маёр, — лагодна прабурчаў Сцяпан, — чаго добрага, яшчэ пачнеш мне боты вылізваць? Не забывай пра сваё званне!

Адчуўшы настрой старшыны, Маёр падышоў і лізнуў яму твар... Яны даражылі адно адным. Пра гэта ведалі ўсе суседзі ў пад’ездзе. Калі здароўе Сцяпана пагоршылася, ён хацеў паклапаціцца пра лёс Маёра. Быў у яго малодшы брат, якому ён завяшчаў кватэру, але той жыў далёка і наўрад ці забярэ з сабой старога сабаку. Да таго ж, у яго ёсць свой Джульбарс. Сцяпан гатовы быў даць грошы таму, хто забярэ Маёра. Аднак п’яніцам, якія хацелі ўзяць сабаку з грашовым «пасагам», не давяраў сам Сцяпан, а прыстойныя людзі ветліва адмаўляліся. Нехта параіў звярнуцца ў сабачы прытулак, але раптам Сцяпан памёр.

Як звычайна, у пахаванні прынялі ўдзел суседзі, падключыўся ваенкамат. Труну паставілі на два шырокія табурэты, якія заслалі пакрывалам. На наступны дзень чакалі прыезду брата, таму нябожчыка пакінулі на ноч у кватэры, а сабаку пакуль забралі суседзі. Маёр, аднак, не захацеў застацца ў чужых людзей. Ён пачаў скуголіць, драпаць дзверы, і суседзі адвялі яго дамоў, да нябожчыка. Сабака лёг каля труны і на нейкі час сцішыўся. Яго бянтэжыла, што гаспадар даўно не падае голасу, не варушыцца і спіць не ў ложку, а ў нейкай скрыні. Зрэдку Маёр пачынаў скуголіць, уставаў, хадзіў па цеснай «хрушчоўцы», зноў вяртаўся, станавіўся на заднія лапы і лізаў твар Сцяпана. Днём, пры людзях, яму не дазвалялі гэтага, а ён прывык так раніцай будзіць гаспадара. І на гэты раз, калі пачало світаць, Маёр спачатку тонка заскуголіў, потым адшукаў і паставіў ля труны тапкі. Сцяпан, аднак, не прачынаўся.

Раніцай, калі прыйшлі людзі, сабака схаваўся пад звісаючым пакрывалам і заставаўся там да вынасу труны. На яго ўсе забыліся, і ён услед за натоўпам выйшаў на двор, дзе стаяў пахавальны аўтобус. Маёр прывык усюды суправаджаць Сцяпана: у магазін, аптэку, на прагулцы ў двары, каля рэчкі. Вось і цяпер, хоць ён яго не паклікаў, але ж і не загадаў застацца, таму сабака рашыў пайсці следам. Звычайна Маёр трымаўся побач, але цяпер было не падступіцца да Сцяпана з-за цеснага гурта людзей. Калі ён памкнуўся прашмыгнуць паміж ног бліжэй да труны, нехта балюча наступіў на лапу. Сабака енкнуў, адсунуўся ўбок, але як толькі труну запіхнулі ў аўтобус, ён скочыў па прыступках следам. Нехта з мужчын цыкнуў на яго, аднак жаночы голас заступіўся:

— Няхай едзе. Што табе, месца шкада? Яму ўсё роўна дзявацца няма куды.

Так, прыціснуўшыся да труны, Маёр прыехаў з усімі на могілкі. Далакопы, адзін з іх быў тутэйшы стораж, чакалі з рыдлёўкамі каля ямы. Па некалькі развітальных слоў з пажаданнем: «Зямля табе пухам» сказалі брат, нехта з суседзяў, і труну апусцілі ў магілу. Усе маўчалі, толькі сабака ціха скуголіў пад шорхат лапат. Нарэшце далакопы зрабілі надмагільны грудок, устанавілі драўляны крыж з прымацаванай таблічкай, а ўнізе паставілі партрэт Сцяпана. Людзі заспяшаліся да аўтобуса. Брат нябожчыка паклікаў Маёра, але той, панурыўшы галаву, толькі глянуў услед натоўпу і застаўся каля магілы. Мужчына пачакаў хвіліну, потым падышоў да стоража, працягнуў яму грошы:

— Гэта вам на памін нябожчыка. І... — ён паказаў на сабаку, — паглядзіце за ім, калі ласка. Каб з голаду не памёр... Шкада Маёра. Гаспадара свайго ён не кіне, ды і ўзяць яго няма куды.

Сторож здзівіўся мянушцы сабакі, але згадзіўся:

— Ладна.

Мацей, так звалі стоража, аказаўся добрым чалавекам. Назаўтра з раніцы ён пайшоў да магілы. Убачанае спачатку яго разззлавала. У галавах магілы, ля крыжа, ляжаў Маёр, а побач з ім — вялікая куча. Усю ноч ён выграбаў зямлю лапамі, каб вызваліць, адкапаць гаспадара. Змораны, пад раніцу сабака заснуў.

— Ну што ты нарабіў, — сказаў стораж строга, з дакорам. — Не ажывіш, не вернеш ты гаспадара. Ніхто не верне... На во, паеш...

Ён паклаў перад Маёрам яду, а сам пайшоў па рыдлёўку. Калі вярнуўся, яда засталася некранутай.

— Э, брат, гэтак нельга, — ужо лагодным, спачувальным тонам звярнуўся да сабакі стораж. — Ці ты рашыў сябе голадам замарыць?

Пакуль ён папраўляў магілу, пачаўся дождж. Мацей паспрабаваў адвесці сабаку ў старожку, каб абсохнуць, перачакаць непагадзь, аднак Маёр заўпарціўся, ашчэрыў зубы. Стораж махнуў рукой і пайшоў да варот.

Дождж быў асенні, халаднаваты. Сабака прамок, пачаў мерзнуць. Тады ён праціснуўся паміж двума састаўленымі домікам вянкамі і прылёг галавой да крыжа. Палова тулава засталася пад дажджом, аднак ляжаць было ўсё ж утульней, нібы ў дзіравай будцы. Прама перад ягоным носам стаяў партрэт гаспадара. Па звычцы Маёр лізнуў твар на халодным Сцяпанавым фота. Сабака не разумеў, што здарылася з гаспадаром. Чаму і куды ён так загадкава знік? Аднак гаспадар недзе тут — Маёр адчуваў яго прысутнасць. Значыць, трэба чакаць, калі ён вернецца ці пакліча адтуль да сябе. І Маёр будзе чакаць, не сыходзячы з гэтага месца, пакуль хопіць ягоных сіл. Ад няяснай трывогі і смутку яму захацелася выць...

У наступны раз Мацей прынёс добрыласкут поліэтыленавай плёнкі і прыладзіў да крыжа. Атрымалася нешта накшталт празрыстага будана. Маёр ляжаў там цэлымі днямі. Але есці адмаўляўся. Адварочваў нос ад усяго, што прыносіў стораж, і нават не зважаў на сініц, вераб'ёў, якія цэлымі купкамі «пасліся» каля яго. Праўда, дватры разы, паддаючыся настойлівым угаворам Мацея, ён узяў з яго рук па кавалачку каўбасы. Праз нейкі тыдзень сабака моцна схуднеў. Вочы патускнелі, прыбавілася сівізны ў поўсці. Асабліва на мордзе.

«Гэта ж форменнае самагубства, — разважаў Мацей. — Адны не ядуць, каб пасля празмернай сытасці пахудзець, некаторыя галадаюць у знак пратэсту, а гэты... Здавалася б, звычайная жывёліна. Хто яду ды прытулак дасць — той і гаспадар. А яму, аказваецца, не проста ўладальнік патрэбны, а сапраўдны сябар, таварыш. Тады дзеля яго сабака на ўсё гатовы. Нават на смерць. І хоць Сцяпана ніхто не крыўдзіў — ад хворасці-старасці памёр чалавек, а Маёр нібы адчувае віну, што не ўратаваў яго ад бяды. Вось і морыць сам сябе голадам. Без Сцяпана яму свет нямілы. А ці многія людзі здольны на такую самаахвярнасць нават дзеля блізкіх сваіх?»

Мацею вельмі захацелася, каб Маёр застаўся жыць і стаў ягоным памочнікам. Хадзілі б разам паміж магіламі, чытаючы надпісы і разважаючы пра лёсы людзей. Ён падмятаў бы і прыбіраў дарожкі, а сабака хадзіў бы следам і слухаў ягоную гаворку. Магільнаму сторажу вельмі патрэбны слухач, бо ў царстве мёртвых гаварыць няма з кім. Наогул, Маёру тут было б добра. Сюды шмат прыходзіць людзей, асабліва на Радаўніцу і Дзяды, а таксама на другі дзень пасля пахавання, на дзявяты, на гадавіну смерці, на дні нараджэння... Памінаюць па звычаю, закусваюць самі і пакідаюць нябожчыкам. І тут, на могілках, таксама бываюць святы...

Мацей, аднак, разумеў, што Маёр зрабіў ужо свой выбар і, відаць, застанецца верны яму да канца. Магільны стораж трохі пазайздросціў нябожчыку, да якога так

самаахвярна прывязалася гэта разумная істота. Дай бог Сцяпану сустрэцца там са сваім Маёрам. Мацей перастаў непакоіць сабаку, які ляжаў на магільным грудку і бачыў, можа, апошнія сны, у якіх быў ён і яго гаспадар. Сторож назіраў за ім, прыносіў ежу, — а раптам Маёр перадумае, пачне есці, — ставіў яе каля магілы і моўчкі сыходзіў.

Апошнія два дні пры з'яўленні Мацея сабака нават не ўзнімаў галавы... У тую раніцу ўпершыню падмарозіла, і стораж, узяўшы ахапак сухой травы, пайшоў паглядзець: як ён там? Наблізіўшыся да магілы, Мацей зразумеў: падсцілка ўжо не спатрэбіцца. Выпрастаўшыся, сабака ляжаў на баку з закрытымі вачамі. Стораж аклікнуў яго, але Маёр не зварухнуўся. Узяў за лапу. Яна была ўжо зусім халоднай.

«Пайшоў да свайго Сцяпана. Можа, знойдзе па следзе, хто ведае... — падумаў Мацей. — Аднак... што цяпер рабіць мне? А, няхай яны застануцца разам», — рашыў Мацей і хуценька прынёс рыдлёўку. На могілках пакуль нікога не было, стораж паспешліва выкапаў побач з магілай новую яму — па даўжыні сабакі. Мацей разумеў, што парушае ўсе адміністрацыйныя, санітарныя нормы і правілы, але маральнае права, здавалася яму, на яго баку. Няўжо нябожчык Сцяпан быў бы супраць, калі б ведаў, як бедаваў па ім ягоны Маёр? Мацей быў узрушаны, але не сумняваўся, што паступіў калі не зусім па-боску, то ва ўсякім разе пачалавечы. Ён загарнуў Маёра ў плёнку, апусціў у яму, закапаў і зараўняў зямлю, каб месца гэта не кідалася ў вочы. Потым пастаяў, прачытаў надпіс на таблічцы... Раптам Мацей палез у кішэню, дастаў хімічны аловак і, паслініўшы яго, дапісаў адно слова. Зноў прачытаў надпіс: «Юшкевіч Сцяпан Пятровіч. Маёр».

Мацей быў задаволены сваёй прыдумкай. Ніхто не здагадаецца, што «прысвоенае» ім нябожчыку афіцэрскае званне на самай справе — мянушка любімага сабакі.

«Усё правільна, усё па-людску», — паўтараў ён, вяртаючыся ў старожку.

*Георгій МАРЧУК*

# УСЁ БУДЗЕ ЗАЎТРА

*Меладрама*



***Георгій Марчук нарадзіўся 1 студзеня1947 года ў Давыд-Гарадку. Вучыўся на Вышэйшых курсах сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве. Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра. Працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», цяпер — сакратар ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі». Аўтар шматлікіх п'ес і празаічных твораў.***

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

**Святлана Богадухава** — вучаніца 11 «А» класа, 18 год.

**Вольга Гаўрылаўна Чарнавус** — настаўніца гісторыі, класны кіраўнік 11 «А» класа, 35 год.

**Аксана Фёдараўна**, маці Святланы, 45 год.

**Арцём Шульга, Віка, Барыс, Аляўціна —** аднакласнікі Святланы.

**Руслан Леанідавіч Валкавец** — далёкі сваяк Арцёма, яго апякун, 52 гады.

**Паэт,** 60 год.

Месца дзеі — горад.

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Зала невялічкага рэстарана. Гірлянды. Два столікі з бакоў. За адным сядзяць Віка і Аляўціна, за другім — Аксана Фёдараўна.

Шум машыны.

**Аксана Фёдараўна** (*у хваляванні*). Гаспадар… Божа праведны, уратуй і дапамажы. Няма апоры, няма. Віка, Аляўціна, хуценька сюды.

Дзяўчаты здымаюць з сябе халаты, застаюцца ў купальніках. На твары чапляюць маскі зайчыкаў, ідуць да цэнтра залы.

Аксана Фёдараўна трымае паднос, на якім нажніцы. Віка і Аляўціна расцягваюць уздоўж залы чырвоную стужку. З глыбіні сцэны ў святло ўпэўненай хадой ідуць Руслан Леанідавіч і Арцём.

**Руслан Леанідавіч**. Смялей, Арцём. Як там у паэта: «Уваходзь у новае жыццё племя маладое, незнаёмае». Музыку.

Аксана Фёдараўна ўключае праз пульт магнітафон.

Аркестр грае танец.

Руслан Леанідавіч бярэ нажніцы і разам з Арцёмам пераразае стужку.

Віка і Аляўціна, задаволена ўсміхаючыся, выходзяць.

**Руслан Леанідавіч** (*да Аксаны*). Ты з кардэбалетам разлічылася?

**Аксана Фёдараўна**. Па два долары.

**Руслан Леанідавіч**. А чаму рукі дрыжаць?

**Аксана Фёдараўна**. Страшна.

**Руслан Леанідавіч**. Чаго так?

**Аксана Фёдараўна**. Няма веры ў заўтрашні дзень.

**Руслан Леанідавіч**. А ў каго яна сёння ёсць. Фінансавы крызіс. Моцныя адалеюць лёс, а слабыя духам няхай ідуць на чорныя работы.

**Аксана Фёдараўна**. Мажліва мне не знойдзецца месца афіцыянткі. Усё ж рэстаран гэта не кафэ ў падвале.

**Руслан Леанідавіч**. Я твайму чалавеку, аднакласніку, абяцаў, што табе буду дапамагаць у межах мажлівага. Супакойся. Займіся справай.

**Аксана Фёдараўна**. Век дзякаваць буду.

Выходзіць.

**Руслан Леанідавіч**. Хоць мы і не нафтагазавыя магнаты, а з капіталізмам знайшлі агульную мову. Прымай салідную ўласнасць. Пакуль рэстаран гэты аформлены на мяне, але па першым сігнале твайго быцькі, дай Божа яму прымнажэння капіталу, запішам на цябе. Раней як было сказана: сыравіну, капіталы і нерухомасць аддайце яўрэям і каўказцам, а цяпер трошкі пацяпленне і наш брат з блакітнымі вачыма не лыкам шыты. Аксана, шампанскага!

Аксана Фёдараўна хутка прыносіць на падносе два фужэры віна і выходзіць.

Тут вечары будуць для багаценькіх, а ў дзень наладзім комплексныя абеды для бедных студэнтаў, школьнікаў, турыстаў. Можна наладзіць пракат веласіпедаў, ролікаў, скейтаў… падвал у арэнду піянерам… няхай там гурток авіямадэльны працуе. Хачу выпіць за твайго бацьку. Пакуль ён з Амерыкі не будзе вяртацца. Геній бізнесу. Ён, акрамя цябе, сына ў Ізраілі падтрымлівае, у Штатах яшчэ адзін пацан расце, аднак ты — надзея. І я, як твой апякун, не пашкадую сіл, каб вывучыць цябе ў Кембрыджы.

**Арцём**. Там дарага.

**Руслан Леанідавіч**. Якія грошы, такая і вучоба. Там дзесяць тысяч долараў за год, а ў нас паўтары тысячы. Заплацім наперад. Чаго без настрою? Не рады ўласнасці? Такі кавалак у цэнтры горада адхапілі. Чаго маўчыш?

**Арцём**. Непрыемнасці.

**Руслан Леанідавіч**. Дарагі мой, ты ж як сыр у масле. На «Мерсе» раскатваеш.

**Арцём.** «Мерс» стары.

**Руслан Леанідавіч**. Не ўсё адразу. Будзе Бугаці і Порш, пачакай толькі. Сотавы тэлефон які? Ха, у мясцовых алігархаў таннейшыя. У чым праблема?

**Арцём**. Асабістага плана.

**Руслан Леанідавіч**. Кажы. Жанчына замешана?

**Арцём** (*не адразу*). Мяне на людзях зняважыла аднакласніца.

**Руслан Леанідавіч**. О-хо-хо. А я падумаў, што амерыканцы зноў кідаюць бомбы на Сербію.

**Арцём**. Яна мне адмовіла ў запрашэнні на танец. На школьнай дыскатэцы.

**Руслан Леанідавіч**. Гэта дробязі, гэта не звязана з фінансамі.

**Арцём**. Для мяне гэта не дробязь. Гэта, як жыццё і смерць.

**Руслан Леанідавіч**. Гонар — добрая якасць характару. Патрэбна ёй указаць на яе месца. Яна з бедных?

**Арцём.** З бедных. Я хачу, каб яе перавялі ў 11 «Б».

**Руслан Леанідавіч**. Жаданне выканаю. Аднак нават у багатых, якія ведаюць законы, не ўсё атрымліваецца.

**Арцём.** Я не павінен пакінуць мой 11 «А» і перайсці ў 11 «Б».

**Руслан Леанідавіч.** Годнасць — добрая якасць характару. Аднак, не пашкодзіць зазірнуць у будучыню грамадскіх адносін. Яна з простага люду.

**Арцём**. Дачка тваёй афіцыянткі Аксаны.

**Руслан Леанідавіч**. Фу-у… З плебеяў, як казалі раней. Табе ў перспектыве патрэбны будуць прыгонныя. Не ўсе ж гандляваць будуць. Нехта павінен валіць лес, ліць метал, здабываць вугаль у шахтах.

**Арцём.** Я не саступлю.

**Руслан Леанідавіч**. Спі спакойна. Козыры ў нашых руках.

**Арцём.** Я не саступлю. Не хочацца званіць бацьку.

**Руслан Леанідавіч**. Навошта турбаваць бацьку. Мы і самі з вусамі.

**Арцём**. Віншую з адкрыццём рэстарана.

**Руслан Леанідавіч**. Нашага рэстарана.

Выпілі віно. Арцём хутка выходзіць.

**Руслан Леанідавіч**. Наглы, як бацька. Грошы паступова разбураюць. Наіўны. Няўжо ён лічыць, што яны ўсясільныя. Маладосць…

Званок сотавага тэлефона. Руслан Леанідавіч дастае апарат.

Што табе? А дзе мне быць, у бардэлі, у рэстаране канешне. Прывязу, прывязу табе грошай, супакойся. Як, хто ты? Жонка… была і ёсць. Не люблю я гэтыя сцэны рэўнасці. Усё. У мяне справы. Аксана!

Уваходзіць Аксана.

Падабаецца табе рэстаран?

**Аксана Фёдараўна**. Як можа не падабацца, вы жартуеце, Руслан Леанідавіч, Мальдзівы.

**Руслан Леанідавіч**. Ты была на Мальдзівах?

**Аксана Фёдараўна**. Была ў сне. Тры гады трэба грошы збіраць, а ў мяне дачка школу заканчвае.

**Руслан Леанідавіч**. Якая да цябе часам заходзіла? Прыгожая з твару… Сціплая нібыта.

**Аксана Фёдараўна**. Дзякуй Богу, сумленная. У яе гады многія кураць, выпіваюць і наркотыкі ўжываюць…

**Руслан Леанідавіч**. Свет перакуліўся. Свабода нораваў не ўсім на карысць… Разумееш, што твая дачка нарабіла. Яна адмовіла ў танцы нашаму Арцёму, свайму аднакласніку…

**Аксана Фёдараўна**. Няўжо? Быць такога не магло. Яна выхаваная дзяўчынка.

**Руслан Леанідавіч**. Здараецца, што і заяц кусаецца… Выхаваная ў доме, а на вуліцы тэрарыст.

**Аксана Фёдараўна**. Як непрыгожа атрымалася.

**Руслан Леанідавіч**. Не тое слова. Пошасць, не ўжывуцца яны ў адным класе. Рашэнне маё такое, пані Богадухава, я даю сродкі на выпускную сукенку, туфлі… угавары дачку перайсці ў 11 «Б». Усё ж аднолькавае: парты, калідоры, настаўнікі… Вялікай трагедыі няма. І мне спакойна, і табе лягчэй жыць у нашым, так званым, ліберальна-капіталістычным грамадстве.

**Аксана Фёдараўна**. Ой, гора на маю галаву, ой гора… Яна ж душа класа, вершы піша, актывістка.

**Руслан Леанідавіч**. Што яна на Марс адлятае? Смешна. Ды вершы ў туалеце пісаць можна, хто іх цяпер чытае, каму яны патрэбны?

**Аксана Фёдараўна**. А калі не змагу яе ўгаварыць?

**Руслан Леанідавіч**. Слова маці закон. І потым… Я таксама цябе, даму ў гадах, трымаю ў афіцыянтках. Да мяне просяцца дзяўчаты, якія згодны бегаць па зале голымі.

**Аксана Фёдараўна**. Я зразумела, усё зразумела. Трэба дзяржаве рабіць асобна школы для багатых дзяцей і бедных.

**Руслан Леанідавіч**. Разумная прапанова. Дзіцячыя садкі ёсць, будуць і школы. Займіся справай.

Аксана Фёдараўна выходзіць.
Руслан Леанідавіч па мабільніку набірае нумар тэлефона.
У промні святла Вольга Гаўрылаўна. Яна ў акулярах.

**Вольга Гаўрылаўна**. Я слухаю.

**Руслан Леанідавіч**. Оля, гэта я.

**Вольга Гаўрылаўна**. Пазнала.

**Руслан Леанідавіч**. Даруй, што даўно не званіў. Справы. А ты дзе?

**Вольга Гаўрылаўна**. У школе.

**Руслан Леанідавіч**. Слухай, а хто там у вас класны кіраўнік 11«А».

**Вольга Гаўрылаўна**. Я.

**Руслан Леанідавіч**. Ты? Мне не падалося? У 11«А» класе?

**Вольга Гаўрылаўна**. Я…

**Руслан Леанідавіч**. О-хо-хо… Сам лёс дапамагае нам. Як бы сустрэцца?

**Вольга Гаўрылаўна**. Сёння не магу.

**Руслан Леанідавіч**. А што так?

**Вольга Гаўрылаўна**. Бацькоўскі сход.

**Руслан Леанідавіч.** У мяне да цябе вельмі тэрміновая справа.

**Вольга Гаўрылаўна**. Можна заўтра?

**Руслан Леанідавіч**. У які час?

**Вольга Гаўрылаўна**. Адразу пасля заняткаў.

**Руслан Леанідавіч**. Цудоўна. Я пад'еду. Машына будзе стаяць, як заўсёды ў завулку ля аптэкі. Да заўтра.

**Вольга Гаўрылаўна**. Да заўтра.

Руслан Леанідавіч адключае тэлефон.

**Руслан Леанідавіч**. Не такі страшны горб, як яго малююць. Аксана, дзяўчаты, усе сюды! Круціцца, круціцца, усім круціцца.

Віка і Аляўціна выносяць рэкламныя шчыты. «Мы адкрыліся». «Нізкія цэны».

**Руслан Леанідавіч**. Ласкава просімо ў наш шыкоўны рэстаран «Сиреневый туман». Гучыць знаёмая ад 60 гадоў XX стагоддзя песня «Сиреневый туман».

***Зацямненне***

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Пярэдняя клуба «Non Stop».

Пад столлю гумавае пудзіла дыджэя, у якога карыкатурны жывот і нос. Пасярэдзіне столік. Два крэслы. На стале шахматы і два шахматныя гадзіннікі. Збоку ў крэсле сядзіць Паэт. Ён у доўгім плашчы і берэце. Чытае газету і не звяртае ўвагі на Віку і Аляўціну, якія балабоняць пра сваё.

**Віка.** Як заўжды, чакаем адных і тых жа. Калі Арцём можа дазволіць сабе спазніцца, дык Барыс… за каго ён сябе выдае… На чыпсы грошай не мае.

**Аляўціна.** А Светка.

**Віка**. Акварэльная дзяўчына з унутраным светам. Ах, што ты, што ты… Прынцэса дацкая. Не прыкольна табе… пах піва, цыгарэт… не твой мачо, адвярні твар убок, дзве хвіліны на танец і аўфідэрзэйн. Навошта ёй было адмаўляць Арцёму?

**Аляўціна.** Нейкі схаваны сэнс ёсць. Маці мне кажа, у кожным слове, у кожным учынку ёсць свой скрыты сэнс. А можа, яна тайна закахана ў Арцёма.

**Віка.** Ты скажы, хто ў яго не закаханы. Багаты ды прыгожы… мара кожнай. А вось у каго ён закаханы?..

**Аляўціна.** Мая маці кажа, што багатым не дадзена кахаць. Можа, і ён пакутуе?

**Віка.** Ад чаго яму пакутаваць. Да яго чарга. Амаль усіх у класе ён спансіруе. Хіба ж Свеце за сотавы тэлефон ён не плаціў? Плаціў. Настроіла супраць сябе ўвесь клас.

**Аляўціна**. Адкуль ты ведаеш, што Арцём праплаціў ёй сотавы?

**Віка**. Ад Барыса. Знешне яны сябры, але чуе маё сэрца, ненавідзяць адно аднаго.

**Аляўціна.** Рэальна, Барыс тайна закаханы ў Светку.

**Віка.** Чорт іх разбярэ. Для мяне першае каханне замуравана. Стану перад люстрам, б'ю сябе ў лоб, прыгаворваючы, закахайся дурніца, лягчэй жыць будзе. Усё міма. Не магу.

**Аляўціна.** Значыць, яшчэ рана. Бог не адкрывае тваё сэрца для кахання.

**Віка.** Што ты валіш усё на Бога. Палова Еўропы ўжо не верыць у твайго Бога. Ты праваслаўная, я каталічка… аднак ні ты ў царкву, ні я да касцёла не ходзім.

**Аляўціна.** Маці кажа, што Бог нам не патрэбен да пары…

**Віка.** Дык нават знакаміты англійскі фізік-інвалід ад Бога адмовіўся. Не мы, адзін Бог утварыў міліярды зор і мільёны планет. А што гэта за тып з газетай? Можа, трансвістыт, які ліпне да моладзі.

**Аляўціна.** Новы сусед Святланы. Пенсіянер. У парку часам у шахматы гуляе. Ён будзе судзіць сустрэчу Барыса і Арцёма.

**Віка**. Я спадзяюся бясплатна? Няхай бы яму Арцём лішні бонус кінуў і нам на кактэйль.

Уваходзіць Святлана, цалуе ў шчаку Віку і Аляўціну.

**Святлана.** Салют, салют. Я не спазнілася?

**Віка.** Прывітанне. Хутка за любы грэх буду браць бабло.

**Святлана.** Шахмацістаў няма пакуль… Грэх мой маленькі.

**Аляўціна.** Маці кажа, што маленькіх грахоў не бывае. Усё альбо разбурае душу, альбо ўлагоджвае.

**Віка.** У цябе не мама, а нейкі Гегель. Вось і яны.

Уваходзяць Арцём і Барыс.

Барыс ніжэй ростам. У акулярах. Апрануты сціпла. Усе цалуюцца, акрамя Арцёма і Святланы.

**Арцём.** Нас чакае клёвая праграма. Сёння ў клубе прэзентацыя новага дыджэя.

**Віка.** Ура-а. Я балдзею ад рэпа.
**Святлана**. Што можа быць новага ў дыджэі. Навушнікі.
**Віка.** Дыскі новыя. У кожнага свой банк.

Барыс праціраe акуляры.

**Арцём.** Дамова як і раней… Пераможцу дастаецца 100 баксаў. Таму хто праіграе — 20.

Арцём і Барыс садзяцца за шахматны столік, да якога падыходзіць Паэт.

**Віка.** Дайце мне патрымаць баксы, я казначэй.

Арцём дае ёй долары.

**Паэт.** Сапернікі гатовы?
**Арцём.** Гатовы.
**Барыс**. Так.

Паэт бярэ дзве пешкі чорную і белую, хавае ў кулаках за спіну. Арцём выбірае правы кулак.

**Паэт.** Белыя.

Віка і Аляўціна ўзнімаюць за спінай Арцёма плакат з выявай амерыканскага долара.

**Аляўціна.** Давай, давай.
**Віка.** Можна, я зраблю першы ход.
**Арцём**. Калі сапернік не будзе супраць.
**Барыс.** Не супраць.
**Віка.** А які?
**Арцём**. Які заўгодна. Пешку сюды.

Гульня пачалася. Гэта хуткія шахматы і таму толькі рукі мільгаюць.
Усе назіраюць за гульнёй вельмі ўважліва.

**Арцём.** Шах.. Яшчэ шах… і мат!

Паўза.

**Віка**. Супер.

Арцём забірае ў Вікі грошы і перадае 20 долараў Барысу.

**Арцём.** Трымай. Як і дамаўляліся…

Паўза.
Барыс лезе пад стол.

**Барыс**. Я засранец.
**Арцём.** Не чуваць.
**Барыс.** Я засранец!
**Арцём.** А цяпер фэйскантроль.

Арцём, Віка. Аляўціна падыходзяць бліжэй да лялькі дыджэя.

**Віка, Аляўціна, Арцём.** О, вялікі і адзіны ўладар дум, мы, рабы тваёй музыкі, просім… адчыні дзверы раю асалоды.

Пачуліся нейкія касмічныя гукі.
Нізкі голас: «Вэя кам ту дэ ада клуб».

**Віка і Аляўціна.** Ура-а!

Арцём, Віка, Аляўціна ідуць у клуб.

**Аляўціна.** Светка, Барыс, а вы? Не бярыце блізка да сэрца яго выбрыкі.
**Святлана.** Сёння не хочацца.
**Барыс.** І я не пайду.
**Аляўціна**. Дарма. Тусоўка будзе добрая.

Паўза.

**Паэт** (*каля шахматнага століка*). Не разумею, Барыс… Растлумач… У цябе ж складвалася выдатная пазіцыя. Нічога не разумею. Навошта было ахвяраваць фігуру. Давай, брат, трэніруйся. Чаму няма прагі перамогі?

Паэт выходзіць.

**Святлана.** Навошта табе ўсё гэта, Барыс?
**Барыс.** Што?
**Святлана.** Шчыры ты. Няўжо цябе не зневажае ягоны здзек?
**Барыс** (*не адразу*). Мне патрэбны грошы… проста грошы… Яны не пахнуць.
**Святлана.** У сэнсе?
**Барыс.** Мяняюцца ў свеце каштоўнасці. Калі галоўным сталі грошы… усё другаснае.
**Святлана**. Як?
**Барыс.** Калі шчыра… у мяне цяжка хворая маці. У яе сахарны дыябет. І мне напляваць на тое, што пра мяне думаюць іншыя.
**Святлана.** Але ж ты мужчына!
**Барыс.** Мне патрэбны грошы. У аднаго філосафа я вычытаў: «Преуспевает тот, чей образ жизни отвечает нравам общества».
**Святлана**. Я не ўсё разумею… Паводзіны, норавы. Хіба гэта не мы самі.
**Барыс.** Мажліва. Мы мусім мяняцца. Міжволі нашай, патрэба часу.
**Святлана.** А абавязак, спачуванне, праўда, адкрытасць.
**Барыс.** На другім плане. Яны ёсць у падсвядомасці, а на першым плане індывідуалізм, прагматызм, карысць. Кожны сам за сябе.
**Святлана.** На цябе дрэнна ўздзейнічае Арцём.
**Барыс.** Ты заўважыла: мы не ўжываем слова — мара. Мы замянілі яго словам план. Я планую. Ты плануеш.
**Святлана.** Чаму? Мне хочацца марыць і я гэта раблю.
**Барыс.** Ты паступова пераходзіш да капіталістычнага духу, у табе яшчэ жыве рамантык.
**Святлана.** Ты разумны, я згодна…
**Барыс.** Сёння крытыкаваць небяспечна. Усе злыя на ўсіх.
**Святлана.** Але ж жывуць сорам, праўда. Хіба ж не?
**Барыс.** Ад сораму я сыты не буду. Прабач, мяне чакаюць (*складвае шахматы і выходзіць*).

Музыка.
Уваходзіць Паэт. Ён забыў свой берэт.

**Паэт.** Старасць… гэта караблекрушэнне, ад якога ніхто не ўратуецца. Альбо ты нічога не разумеш, альбо цябе ніхто не хоча разумець.

Падыходзіць да пудзіла дыджэя.

**Паэт.** О, вялікі ўладар дум, о д'ябл сучаснасці… адчыні дзверы.

Паўза.
Смех.

**Паэт.** Не хочаш… Не той голас, ці не тыя словы… казаў. Вочы выкалю, адчыні кажу…

Паўза.

**Паэт.** На д'ябла не рэагуеш, а анёлам цябе назваць не магу…

Паэт выходзіць.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Дэкарацыі першай карціны.

За столікам сядзіць Святлана. Аксана Фёдараўна рушнічком працірае фужэр. Святлана ўключае плэер. Гучыць знаёмая песня XX стагоддзя, якая калісь была музычнай застаўкай да тэлеперадачы «У свеце жывёл». Грае аркестр Поля Марыя. Гучыць пераклад на рускую мову:

«Пусть замерзает роза в снегу
Ведь всё равно тебя я найду
Ты не печалься и не грусти.
Все впереди…»

Аксана Фёдараўна задумалася пра нешта сваё. Песня кранае яе сэрца.

**Святлана.** Гэта табе, мама, маё музычнае прывітанне ў дзень твайго Анёла.

**Аксана Фёдараўна**. Дзякуй, дачушка. Ты ведала, што гэта мая любімая мелодыя. Калі яе слухаю, то душа лётае недзе высока. Не існуе непрыемнасцей, крыўд, хочацца танцаваць як у школьныя гады. Божа мой, я гадоў дваццаць не танцавала.

**Святлана.** Гэта навіна.

**Аксана Фёдараўна**. На сустрэчы з аднакласнікамі не ездзіла. Не было чым хваліцца. Бацька твой з'ехаў недзе на Поўнач, а потым асеў у Хабараўску. Я ўсё чакала. На адных руках… садзік, праца, магазіны, кухня, садзік, праца. Так што было не да танцаў.

**Святлана.** Даруй, матуля, гэта не тактычнае пытанне. Ты ж магла другі раз выйсці замуж? Я не была б супраць.

**Аксана Фёдараўна**. Па-першае, фактычна я ў шлюбе. Па-другое, не жадала больш жыць дзеля мужчыны, жыла і жыву для цябе. Не пастүпіш на бюджэт, застанешся на платным. Буду жыць па-жабрацку, эканомна, а цябе вывучу. Хутка ўсе інстытуты ды ўніверсітэты будуць платнымі. Нам, дачушка, патрэбна выкруціцца з гэтай непрыемнай гісторыі з Арцёмам. Падумай над маёй прапановай.

**Святлана.** Мама, ніякіх падстаў для пераходу ў 11 «Б» няма. Гэта процізаконна і амаральна. Гэтым крокам я добраахвотна запісваю сябе ў рабы.

**Аксана Фёдараўна**. Разумею, ластаўка мая, усё разумею, і я ў маладосці была занадта ганарлівай, максімалісткай была… Жыццё вучыць, даводзіцца змагацца за

кавалак хлеба і цярпець. Можа, саступім фанабэрыстаму дурню? Нам трэба трымацца рэстарана.

**Сваталана.** Ён зняважыў мяне.

**Аксана Фёдараўна**. Як? Калі?

**Святлана.** Раней. Ён сказаў, што я нікуды не паступлю і мне наканаваны лёс прастытуткі ў Стамбульскім гарэме.

**Аксана Фёдараўна** (*пасля паўзы*). Няўжо так і сказаў?

**Святлана**. Ды яшчэ і паўтарыў.

**Аксана Фёдараўна** (*пасля паўзы*). Трымайся свайго. Няхай мы бедныя, але ж з прыстойнага роду... Вось што. Трымай пяць долараў і ідзі да рэпецітара. Не трэба губляць час.

**Святлана.** Просяць ужо сем.

**Аксана Фёдараўна** (*дае грошы*). Няхай так… Рукі, ногі ёсць — не памром.

Святлана выходзіць.

Божа, за што мне такое выпрабаванне? Калі маю грэх, падкажы лекі ад граху. Умацуй сілы маёй дачушкі.

Уваходзяць Віка і Аляўціна.

**Віка**. Аксана Фёдараўна, а мы да вас. Арцём прасіў перадаць вам, што мы ад яго і што нас пачастуюць абедам.

**Аксана Фёдараўна**. Які прыткі. А грошы?

**Віка.** Так уся справа ў тым, што бясплатна.

**Аксана Фёдараўна**. Тады пачакайце. Гэта грошы. Я не вырашаю. Пайду раіцца з гаспадаром.

Аксана Фёдараўна выходзіць.

**Віка.** Ну, ты вызначылася? За Арцёма ці за Светку?

**Аляўціна**. Не магу я выбіраць… Я баюся вострых вуглоў, абыходжу іх. Мая хата з краю. Я ні на што не прэтэндую. Я сераднях і ніколі не зразумею, яе можна вызначыць тэмпературу ядра зямлі і як так шмат інфармацыі можна запісаць на флэшку. А можна трохі за яго і трохі за яе. Я сябрую са Светкай з пятага класа.

**Віка**. Дабрабыт важней за сяброўства.

**Аляўціна.** Не тузай ты мяне, і без таго на душы мутарна, не ведаю, куды падацца пасля школы.

**Віка.** Туды, дзе будзе недабор. Як кажа мая маці, лепшая прафесія для жанчыны — жонка багатага.

Уваходзіць Аксана Фёдараўна.

**Аксана Фёдараўна**. Дазволілі. Ідзіце за мной.

**Віка.** Як табе? Значыць, ён мае тут уладу.

Аляўціна і Віка ідуць за Аксанай Фёдараўнай.
Уваходзіць Паэт, садзіцца за столік, дастае газету.
Уваходзіць Аксана Фёдараўна.

**Аксана Фёдараўна**. Добры дзень.

**Паэт.** Добры дзень, Аксана Фёдараўна.

**Аксана Фёдараўна**. Як заўжды?

**Паэт.** Калі ласка каву і попельніцу.

Да другога століка падыходзяць Руслан Леанідавіч і Вольга Гаўрылаўна. У промні святла застаюцца толькі яны адны.

**Руслан Леанідавіч**. Я разумею, Вольга, што сітуацыя непрыгожая асабіста для цябе. Класны кіраўнік — абаронца справядлівасці, служыць прыкладам. Згодны. Аднак ёсць свае нюансы, за якімі няма трагедыі. Часам абставіны і канчатковая мэта, прымушаюць чалавека ісці на кампраміс.

**Вольга Гаўрылаўна**. Я, Руслан Леанідавіч, усё разумею.

**Руслан Леанідавіч**. Гэта прыемна чуць.

**Вольга Гаўрылаўна**. Не магу адмовіць вам, не магу паступіцца прынцыпамі. Мінулы год толькі замацаваў нашы адносіны. Ваша ўвага, клопат… да гэтага прывыкла. Прызнаюся, было сорамна, але калі вы сказалі, што афіцыйна развяліся з жонкаю… з палёгкай уздыхнула…

**Руслан Леанідавіч**. Цяпер не пра тое гаворка. Арцём нахабны тып, як і яго бацька, якому ён можа сёе-тое данесці. Не сакрэт, што на адкрыццё рэстарана ён выдзяліў шмат грошай, вось… дык дзеля дабрабыту нашай будучыні… Я хапануў сваю долю… Я турбуюся пра заўтрашні дзень… Шкада, калі ён можа не адбыцца з-за гэтай дробязі.

**Вольга Гаўрылаўна**. Няма… няма аніякіх аб’ектыўных прычын, каб яе перавесці ў іншы клас.

**Руслан Леанідавіч**. Нагадваю яшчэ раз — для нас абодвух гэты крок істотны і важны. Сёння гадавіна нашага знаёмства. Вазьмі канверт. Прыкупі сабе золата і зімовыя боты.

**Вольга Гаўрылаўна** (*бярэ канверт*). Дзякуй... да таго ж крэдыт выплочваецца... Якое ў вас сэрца. Фантастычна.

**Руслан Леанідавіч.** Падлеткі носяць золата, а вы... Бярыце канверт... Гэта не амаральна. Я не за паслугі плачу, а за пачуцці ад душы.

**Вольга Гаўрылаўна**. Ёсць яшчэ адно выйсце.

**Руслан Леанідавіч.** Ну, ну...

**Вольга Гаўрылаўна.** А калі яна ў наступны вечар запросіць яго на танец сама.

**Руслан Леанідавіч.** Рабі ўсё, што лічыш патрэбным. Арцёма трэба супакоіць (*цалуе ёй руку*). Не хачу губляць узровень жыцця... Да сустрэчы.

**Вольга Гаўрылаўна.** Да сустрэчы.

Руслан Леанідавіч выходзіць.

Вольга Гаўрылаўна пільна сочыць за Паэтам, прыглядаецца да яго. Устае і падыходзіць да століка, за якім сядзіць Паэт.

**Вольга Гаўрылаўна**. Добры дзень. Даруйце, калі ласка.

**Паэт.** Добры дзень.

**Вольга Гаўрылаўна**. Я вас пазнала. Вы Паэт. Памятаеце, гадоў пятнаццаць таму вы выступалі ў нас на гістарычным факультэце ва ўніверсітэце? Я яшчэ задала вам нетактоўнае пытанне: хто ваша муза?

**Паэт.** Памыляецеся. Я не пішу вершы.

**Вольга Гаўрылаўна**. Больш не пішаце?

**Паэт.** Наогул не пішу... і не пісаў.

**Вольга Гаўрылаўна**. Дзіўна. Пэўна, я памылілася. Вы так падобны да таго Паэта... Дзіўна.

Вольга Гаўрылаўна выходзіць.
Уваходзяць Аксана Фёдараўна і Руслан Леанідавіч.

**Руслан Леанідавіч** (*Аксане*). Што гэта за тып?

**Аксана Фёдараўна**. Наш сусед па доме. Пенсіянер. Зусім нядаўна пасяліўся.

**Руслан Леанідавіч**. У нас не сталовая для бамжоў. Заказвае толькі каву... Месца займае, а прыбытку няма. І яшчэ... не бачу актыўных дзеянняў... Дык ці перайшла яна ў другі клас?

**Аксана Фёдараўна**. Не. Я...

**Руслан Леанідавіч**. Кепска. Горш усім, а найбольш табе. Кажы што-небудзь у адказ. Пратэстуй.

**Аксана Фёдараўна**. Позна. Партыя не бароніць, прафсаюзы спяць.

**Руслан Леанідавіч**. Праўда твая. Няма справядлівасці. Значыць усё залежыць ад кожнай асобы. Думай. Усё. Свабодна.

Аксана Фёдараўна выходзіць.
Уваходзяць Віка і Аляўціна.

**Руслан Леанідавіч**. Ну як, птушкачкі, паспявалі трошкі?

**Віка**. Супер.

**Аляўціна**. Класна. Дзякуй.

**Руслан Леанідавіч**. Сушы заказвалі?

**Віка.** Аб’еліся нават.

**Руслан Леанідавіч**. Трэба дзякаваць Арцёму. Спадзяюся, вы яго сапраўдныя сябры. Калі не здолееце паступіць у інстытут, не палохайцеся. Прыходзьце да мяне, вазьму на працу.

**Віка.** Клёва. Кім?

**Руслан Леанідавіч**. А хто цяпер у модзе — топ-мадэлі. Вывучым на стрыптызёрш.

**Аляўціна.** Мы жартаў не разумеем.

**Руслан Леанідавіч**. Дык я і не жартую. Добра плаціць буду. Багаты які, ды яшчэ каб замежнік, клюне... удала замуж выскачыць можна.

**Віка.** Мы падумаем.

**Руслан Леанідавіч**. У мяне жадаючых процьма. Так што думаць трэба хутка.

Аляўціна і Віка выходзяць.
Тэлефонны званок.

**Руслан Леанідавіч** (*дастае мабільнік*). Кажы, я слухаю. Цішэй, цішэй... Не так агрэсіўна. Білеты ў мяне... Не хвалюйся так. У якой я пасцелі? Здурнела. У рэстаране я... Трэба нервовую сістэму падлячыць, факт. Хутка буду. Не сядзі без справы. Пакуй рэчы. Усё. Свабодна. Пакуль. Жонка, як чамадан, і несці цяжка і кінуць шкада. Праўду кажуць.

***Зацямненне***

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Аўтобусны прыпынак. Віка, Аляўціна і Святлана.

**Віка.** Хоць бы які іншапланецянін прыляцеў ды боты новыя падарыў.

**Аляўціна**. А мне норачку.

**Віка.** Учора на клёвае кіно хадзіла. Не памятаю назвы.

**Аляўціна**. І што? Аб'елася папкорнам?
**Віка.** Карацей, зялёныя там усе бегаюць з пукатымі вачыма і з хвастамі...
**Святлана.** А што прыкольнага ў гэтых хвастах?
**Віка.** Табе ўсё амерыканскае непрыемна. А я ў захапленні. Эфекты супер.
**Святлана.** Дурань жыве гэтымі казкамі.
**Віка.** А табе падавай філасофію «Братоў Карамазавых». Ды я не ў сілах пяць старонак адолець. Цяжка, галава пухне.
**Святлана.** Мне няцяжка.
**Віка.** Ты ў нас патрыётка.
**Аляўціна.** Ай, супакойцеся. Няхай кожны чытае тое, што на сёняшні дзень падабаецца. Маці кажа, пакахаеш, дык «Вайну і мір» адолееш.
**Віка.** Я не жадаю любіць радзіму, калі яна нічога ўзамен не дае. Няма перспектывы, упэўненасці. Бясплатную адукацыю забіраюць. На Захад трэба.
**Святлана.** Нібыта там ўсё бясплатна.
**Віка**. Не трэба корчыць з сябе Мендзялеева. Ты лепш з Арцёмам разбярыся.
**Святлана.** Гэта мае праблемы.
**Віка**. Не толькі.

Шум аўтобуса.
Аляўціна і Віка спяшаюцца да транспарту.

**Аляўціна.** Светка, а ты?
**Святлана.** Пачакаю наступны.
**Аляўціна**. Як хочаш.

Спяшаецца да аўтобуса і Вольга Гаўрылаўна, аднак не паспявае.
Святлана і Вольга Гаўрылаўна застаюцца адны.

**Вольга Гаўрылаўна**. Нібыта сурочыў хто. Калі не шанцуе, дык не шанцуе паўсюдна. Аднак... я чакала моманту, каб пагаварыць з табой.
**Святлана.** Слухаю.
**Вольга Гаўрылаўна**. Сама не здагадваешся?
**Святлана.** Не зусім.
**Вольга Гаўрылаўна**. Не дае спакою гэта непрыемная гісторыя з Арцёмам. Пакуль не пярэч. Я на тваім баку і вельмі цаню нашы сяброўскія адносіны. Мы ж у нейкім сэнсе калегі. Я — гісторык, і ты марыш пра гістарычны факультэт... адна з усяго класа. Кіраўніцтва школы прапанавала адну цябе цягнуць на залаты медаль.
**Святлана.** Цяжкавата.
**Вольга Гаўрылаўна**. І срэбны добра будзе. Гэта ж мой першы выпуск. Разумееш, лёс жанчыны ў свеце, як паказваюць прыклады гісторыі, наогул трагічны. Мы слабыя духам, залежым ад мужчын. Не стану хлусіць. У мяне ўзніклі цёплыя адносіны з апекуном Арцёма Русланам Леанідавічам. Пакуль табе не зразумець... Калі доўга жывеш гэтым самым чаканнем жаночага шчасця і раптам атрымліваеш падарунак лёсу... Мне ж за трыццаць... Не маладая дзяўчына на выданні. Трэба выплочваць крэдыт за пабудову кватэры... Паступіся нязначным, уратуй спакой у класе, у школе. Даруй малы грэх, каб ён не перарос у вялікі, недаравальны. Вось што... Я не хачу, каб ты пераходзіла ў другі клас. Запрасі яго на танец сама... у наступную суботу... і канфлікт будзе вычарпаны.
**Святлана.** Я слухаю, Вольга Гаўрылаўна.
**Вольга Гаўрылаўна**. Я ў гэтым горадзе адна... У мяне няма апоры... Я ж, як і ты, расла без бацькі, у інтэрнаце.

**Святлана.** Вольга Гаўрылаўна, я вас паважаю і люблю... Вы таленавіты настаўнік. Дзякуючы вам я палюбіла гісторыю, горад, радзіму... Магу запрасіць яго толькі дзеля вас.

**Вольга Гаўрылаўна**. Родная мая, харошая... я не настойваю, крый Божа... табе адной вырашаць. Гэта як прапанова, каб нам усім было спакойна.

**Святлана.** Абяцаю, што я сур'ёзна падумаю.

Шум аўтобуса.

**Вольга Гаўрылаўна**. Дзякуй. Ну што, пабеглі. Людзей багата, каб уціснуцца.

І яны разам пабеглі да аўтобуса.
Пачаўся дождж.

***Зацямненне***

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Дэкаратыі першай карціны.
За столікам Барыс і Паэт, яны гуляюць у шахматы.

**Паэт.** Думай, думай... не спяшайся. Пять разоў падумай, калі пралічыў варыянты...

**Барыс.** Вам шах... і, па-мойму, мат.

**Паэт** (*з радасцю*). Канешне ж мат... І чаму ты яму прайграеш, не магу зразумець. Партыя цудоўная, хоць у падручнікі дасылай.

Уваходзіць Аксана Фёдараўна.

Можа, мы займаем чыйсці столік?

**Аксана Фёдараўна.** Сядзіце, сядзіце. Гаспадар з'ехаў на два тыдні адпачываць на нейкія астравы.

**Барыс.** Сейшэльскія астравы.

**Аксана Фёдараўна.** Чорт іх запомніць.

**Барыс.** Аксана Фёдараўна, Арцём у рэстаране?

**Аксана Фёдараўна.** Тут. У більярднай.

**Барыс.** Вам няцяжка запрасіць яго сюды?

**Аксана Фёдараўна.** Няцяжка (*выходзіць*).

**Паэт.** Не спяшайся гуляць, ты стаміўся.

**Барыс.** У мяне да яго іншая справа.

Уваходзіць з кіем у руцэ Арцём.
Уваходзіць таксама з кіем і Віка.

**Арцём.** Белы, што ты хацеў?

**Барыс.** Адыдзем убок.

Яны ідуць да авансцэны.

**Барыс** (*дастае з кішэні грошы*). Вось, Шэры, тут дзве сотні баксаў, якія я з тваёй дапамогай у цябе ж і выйграў.

**Арцём.** Стары, яны твае. Я не жлоб.

**Барыс.** Прашу, вазьмі. Не чапай больш Свету з-за гэтай дробязі, навошта ты яе са свету гатовы звесці. Я разумею... ты круты, гаспадар жыцця, лідар, алігарх... пабудзь яшчэ джэнтльменам.

Паўза.

**Арцём.** Грошы браць не буду. Мажліва, ты новы Рубін Гуд, абаронца бедных і зняважаных... Мажліва, тайна ў яе закаханы... Твае правілы, але ж у мяне іншы кодэкс паводзін.

**Барыс.** Я прыношу прабачэнне за яе.

**Арцём.** Пакінь гэта для мульціка. Яна мусіць на каленях прыпаўзці і прасіць прабачэння. Ведаеш, цікава будзе назіраць за табой, скажам, праз два-тры гады, калі яна тут будзе вакол шаста стрыптыз круціць. Я такую карціну ўяўляю.

**Барыс.** Ты жахлівы чалавек.

**Арцём.** Проста я паспеў зачапіцца за новыя рэаліі, мне шанцуе... Я вольны і наталяю свае жаданні. Усё?

**Барыс.** Усё.

Арцём ідзе да Вікі і нешта ёй паведамляе. Барыс вяртаецца да століка Паэта.

**Паэт.** Я частую. Аксана Фёдараўна, кавы.

Аксана Фёдараўна прыносіць каву.

**Паэт.** Можа, табе чай?

**Барыс.** Не. Нічога не хочацца.

**Паэт.** Ён сапсаваў настрой?

**Барыс.** Усё нармальна.

**Паэт.** Аксана Фёдараўна, падайце, калі ласка, чай.

**Барыс.** Навошта. Я не буду.

Уваходзіць узбуджаная Святлана.

**Святлана.** Барыс, можна цябе на хвіліну?

Яны ідуць да авансцэны.

Скажы, Барыс, ці прасіла я цябе ўмешвацца ў мае справы?

**Барыс.** Не.

**Святлана.** Толькі што мне пазваніла Віка і данесла, што ты прапанаваў Арцёму грошы... каб адкупіць мяне. Свае праблемы я вырашаю сама. Ты даў яму падставу зняважыць цябе лішні раз. Навошта?

**Барыс** (*пасля паўзы*). Я яму ўсё адно адпомшчу.

**Святлана.** Смешна... Ён найме бандзюкоў, і цябе паб'юць.

**Барыс.** Не лічы мяне за баязліўца. У мяне свой план.

Барыс выходзіць.
Святлана ідзе да століка Паэта.

**Святлана.** Даруйце, я не павіталася. Добры дзень.

**Паэт.** Добры дзень. Куды ён?

**Святлана.** Не ведаю. Апошні час ён нейкі нервовы, узбуджаны.

**Паэт.** Нешта падобнае і я заўважыў.

**Святлана** (*пасля паўзы*). Наша класная... Вольга Гаўрылаўна, прасіла пацікавіцца... чаму вы хаваеце ад яе, што вы Паэт і выступалі ва ўніверсітэце, калі яна вучылася там?

**Паэт** (*не адразу*). Я вырашыў адмовіцца ў нейкім сэнсе ад мінулага... закрэсліць. Расчараваўся ў паэзіі, у тым, што яна здольна ўзнімаць чалавека да духоўнасці. Цікавасць да кнігі ў наш час нулявая... Паэты — ізгоі, якія непатрэбны грамадству. Ніхто нашых вершаў не чытае.

**Святлана.** Чаму? Вашы вершы ўключаны ў хрэстаматыю для сёмага класа.

**Паэт.** Няўжо там за іншавершамі і нашым знайшлося месца.

**Святлана.** Іх трэба размясціць у інтэрнэце.

**Паэт.** Гэта ўжо не грэе душу... Сэнс жыцця згублена. Шукаю новую апору.

**Святлана.** Вы адзінокі. Можа, дарма кінулі працу ў інтэрнаце.

**Паэт.** Як настаўнік я сёння нікчэмнасць.

**Святлана.** Даруйце, не зусім разумею.

**Паэт** (*не адразу*). Табе магу адкрыцца... Твае вочы не гараць святлом д'ябла, зайздрасці і нянавісці. Людзі ад згубы каштоўнасцей падурэлі, грызуць адно аднаго, як ваўкі. З майго былога інтэрната амерыканская пара забрала на ўсынаўленне любімага вучня — васьмігадовага Ваньку Мішчэніна — таленавіты быў, у сем гадоў пачаў пісаць вершы... Я не паўстаў, не змагаўся, не пісаў Прэзідэнту... Па сутнасці, я яго прадаў у рабства. Там гэтыя вылюдкі з яго здзекваліся так, што забілі да смерці. Ён мне сніцца амаль кожную ноч. Не... не маю права на паэзію, не маю права быць настаўнікам... Пакаянне, толькі пакаянне. Перадай настаўніцы, што я яе пазнаў... Дзякуй, аднак ні ў вашу школу, ні ў іншую на сустрэчу не пайду. Я здраднік. Я не надзелены сам тым ідэалам, да якіх заклікаў у сваіх вершах. Гогаль малайчына, расчараваўся ў людзях, спаліў усё, разумеючы, што гэта ім не патрэбна. Аднак ты не паддавайся майму песімізму... Я пажылы чалавек, у дыпрэсіі... А ты не будзь рабом чужой волі і памятай: новыя Ванькі Мішчэніны, калі ты станеш настаўніцай, будуць шукаць у цябе абароны. Даруй... Я расхваляваўся. Нешта не хапае паветра. Даруй. Пайду на вуліцу.

**Святлана.** Я разумею. Можа, вады?

**Паэт.** Не. Дзякуй.

Паэт дастае грошы, кладзе іх на стол, выходзіць.

***Зацямненне***

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Зала рэстарана.

Гучыць песня ў выкананні В. Абадзінскага «Эти глаза напротив». Арцём танцуе з Вікай, Аляўціна сядзіць за столікам і п'е кактэйль. Арцём пакідае Віку і запрашае на танец Аляўціну. Праз нейкі час Арцём зноў запрашае Віку. Апошнія акорды мелодыі.

**Віка.** Брава! Я і не ведала, што ёсць такая песня.

**Аляўціна.** Ды ёй гадоў сто... мая маці часта спявае.

**Арцём.** Хачу на свой дзень нараджэння сабраць увесь клас у маім рэстаране.

**Віка.** Геніяльна.

**Аляўціна.** Не ўсе маюць грошы на падарунак.

**Арцём.** Без падарункаў.

**Віка.** Выдатна.

**Арцём.** Вы ў мяне самыя лепшыя... Не ведаю, каго з вас больш... хто больш падабаецца. Вы абедзве — топ-мадэлі.

**Віка.** А то (*задзірае спадніцу*), ногі растуць ад вушэй.

Арцём цалуе Аляўціну, пасля Віку.

**Арцём.** Чулі навіну? Увесь інтэрнэт гудзе. Настаўніца с суседней школы перамагла на гарадскім конкурсе «Міс грудзі» У яе пяты нумар.

**Віка.** Ух...

**Аляўціна.** Не прагналі са школы?

**Арцём.** А якія падставы. У нас свабода нораваў. Але самае дзіўнае... ніхто з бацькоў мужчын на бацькоўскія сходы не хадзіў, а як прачулі... валам валяць. Гатовы да апоўначы сядзець. Іх жонкі ходзяць пад вокнамі, раўнуюць. Міліцыянеры дзяжураць, каб жонкі не набілі міс.

**Віка.** А дырэктарка што?

**Арцём.** Запісалася на чаргу. Будзе селіконам падкачваць свае грудзі.

**Аляўціна.** Клёва...

**Віка.** А баксаў ёй колькі заплацілі?

**Арцём.** Каму?

**Віка.** За яе пяты нумар.

**Арцём.** Ды далі адчэпных дзесяць баксаў. Поспеху ўсе прагнуць, рэкламы, на вокладку глянцавага часопіса ўсім хочацца.

**Аляўціна.** Аднак мілая.

**Арцём.** Дзіву Амерыкі Хілтан застукалі з наркотыкамі. Поўны аблом.

**Віка.** У іх мільёны, адкупяцца.

**Аляўціна.** Што яны ўсе бесяцца. І што ў гэтых наркотыках, акрамя бяды здароўю.

**Арцём.** Яшчэ партыю на більярдзе?

**Віка.** З табой хоць на Кіпр.

**Арцём.** Хоп, хоп.

Ідуць у більярдную залу.
Уваходзіць Аксана Фёдараўна, а праз хвіліну і Вольга Гаўрылаўна.

**Аксана Фёдараўна.** Добры дзень, Вольга Гаўрылаўна.

**Вольга Гаўрылаўна.** Няўжо будзе ранняя зіма?

**Аксана Фёдараўна.** І ў жыцці хаос, і ў прыродзе. Вам каву?

**Вольга Гаўрылаўна.** Так.

Нейкі час Вольга Гаўрылаўна адна. Аксана Фёдараўна прыносіць каву.

**Вольга Гаўрылаўна.** Дзякуй... Турбуецца мая душа, Аксана Фёдараўна. Я прапанавала Святлане адзін варыянт... і адчуваю сябе мярзотна. Вы ёй перадайце, каб усё ж не прыслухоўвалася да маіх рэкамендацый...

**Аксана Фёдараўна.** Перадам. Ды яна ў мяне вельмі ўпартая, аж занадта. Можа, такі характар сёння і на шкоду.

**Вольга Гаўрылаўна.** Сумленным заўсёды цяжка. А Руслан Леанідавіч у рэстаране?

**Аксана Фёдараўна.** А хіба ж ён вам не казаў?

**Вольга Гаўрылаўна.** Што?

**Аксана Фёдараўна.** Дык ён жа на два тыдні паляцеў адпачываць на Сейшэльскія астравы.

**Вольга Гаўрылаўна.** Адзін?

**Аксана Фёдараўна.** Не. Сям'ю ўзяў. І жонку, і дзяцей. Хацеў напачатку іх у Амерыку перапраціць, але нешта пакуль не атрымалася... Чорт іх ведае, усё робіцца тайна... скрытна ўсё.

**Вольга Гаўрылаўна.** Вось навіна, дык навіна.

**Аксана Фёдараўна.** І рэстаран у спешцы прадае, задатак нават у аднаго мясцовага алігарха ўзяў. Які гандлюе мінеральнай вадой. Можа, ведаеце?

**Вольга Гаўрылаўна.** Не. Упершыню чую.

**Аксана Фёдараўна.** Увесь квартал ведае. Яны ж на барышах жывуць. Купіў і даражэй перапрадаў. Праўда, часам і ён, Руслае Леанідавіч, не благі чалавек. Жонку не кінуў. Не падаў на развод.

**Вольга Гаўрылаўна.** Як? Ён мне паўгода таму казаў, што развёўся!

**Аксана Фёдараўна.** Казаць можна што заўгодна, а на справе...

**Вольга Гаўрылаўна.** Выходзіць... падман. Хлусня.

**Аксана Фёдараўна.** Выходзіць так.

**Вольга Гаўрылаўна.** Можна я закуру.

**Аксана Фёдараўна.** А чаму ж нельга. Курыце.

**Вольга Гаўрылаўна.** І чаму, чаму паміж мужчынамі і жанчынамі пастаянна вісіць падман.

**Аксана Фёдараўна.** Так лягчэй абодвум.

**Вольга Гаўрылаўна.** Калі падман выплывае... стрэс.

**Аксана Фёдараўна.** І ў асноўным на нашых сэрцах. Чалавек слабы, яшчэ больш слабым робіцца, калі забывае сем смяротных грахоў: гардыню, зайздрасць, ненасытнасць, сквапнасць, журбу...

**Вольга Гаўрылаўна** (*больш сабе*). І чаму не прызнацца... Я ж не чужая. Я ж ніколі не ставіла ўмовы ажаніцца на мне.

**Аксана Фёдараўна.** Ды яму бегчы трэба адсюль, каб аж пяты мільгалі. Падаткі ж не плаціў...

**Вольга Гаўрылаўна.** Збег. Мусіць, я запатрабую адступных. Божа, якой дробнай і эгаістычнай я выглядаю ў вачах Святланы.

**Аксана Фёдараўна.** Вы нешта сказалі?

**Вольга Гаўрылаўна.** Не. Прынясіце бакал чырвонага сухога віна...

**Аксана Фёдараўна.** Жанчыны адны не п'юць, гэта алкагалізм... і я з вамі.

Налівае ў фужэры віно.

**Вольга Гаўрылаўна.** За долю нашу горкую.

**Аксана Фёдараўна.** Ды гары яна гарам, каб за яе пілі. Вып'ем за тое, што мы, жанчыны, трымаем на плячах свет. За тое, каб вы знайшлі сваё шчасце, яно будзе, яно заўсёды ходзіць побач, чакае свой час. Я ўпэўнена.

Выпілі.
Аксана Фёдараўна ўключае плэер. Гучыць знаёмая песня «Эти глаза напротив».

***Зацямненне***

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Аўтобусны прыпынак. Першы снег.

**Віка** (*нервова*). Я сказала, адчапіся.
**Аляўціна.** Віка, даруй…
**Віка.** Адчапіся.
**Аляўціна.** Віка… (*ледзь не плача*).
**Віка.** Ты абяцала, што не будзеш за мной паўтараць тату.
**Аляўціна.** Дык у цябе ж матылёк на сцягне, а ў мяне на плячы.
**Віка.** Той, хто за кім-небудзь паўтарае, не варты павагі, ён несамастойны.
**Аляўціна.** Даруй, больш гэтага не будзе.
**Віка.** Табе колькі наш секс-сімвал даў на іграваыя аўтаматы?
**Аляўціна.** Пяць баксаў.
**Віка.** У вочы глядзі!
**Аляўціна** (*вінавата*). Сем баксаў.
**Віка.** Не абувай мяне ў лапці. Ён мне амаль усё расказвае. А за свой падман напішаш мне сачыненне пра вар'ята Чацкага. Я не прымаю яго філасофію: «Вон из Москвы. Сюда я больше не ходок». Ад чаго бегчы? Ад раскошы. Людзі разбагацелі, памножылі свой капітал, прыстойна жывуць: дарагі парфум, дарагія віны… Куршавель, замежныя лекі, а ён пратэстуе, кліча ўсіх у жабрацтва, галечу. Сам не працуе, а толькі асуджае ўсіх… дэмагог. Начорта мне яго ідэі. Паглядзі на дарогу. Зноў бландзінка за рулём. Адкуль у яе грошы на «Лексус»… вузкалобая…
**Аляўціна.** Спонсар падарыў.
**Віка.** За што ёй дарыць. Морда пластыкі хірурга просіць. Разумееш, спакуса хутка разбагацець не дае мне спакою… Я толькі пра долары і думаю.
**Аляўціна.** І ў мяне пад лыжачкай вуркоча.
**Віка.** Гэта ад голаду, а не ад прагі багацця. Мы з маці сытыя галечай па горла. Ад палучкі да палучкі ледзь дацягваем. Даўгі.
**Аляўціна.** І мы таксама.
**Віка.** А я лічыла, што твая маці ў прэстыжнай фірме добра зарабляе.
**Аляўціна.** Іх гаспадар трымае ўсіх у чорным целе. Ён, бухгалтар, ды яго радня жыруюць.
**Віка.** Свая фінансавая тройка. Слухай, ты ж па пашпарце Валянціна. А чаму ўзнікла Аляўціна?
**Аляўціна.** Прыкольна.
**Віка.** О, наш аўтобус. Пабеглі.

Шум аўтобуса. Дзяўчаты выходзяць. Асцярожна ўваходзіць Вольга Гаўрылаўна і прыклейвае аб'яўку на шчыт прыпынку.
Уваходзіць Святлана.

**Святлана.** Як закон, аўтобус адыходзіць з-пад самага носа.
**Вольга Гаўрылаўна.** Падыдзе наступны. Калі ў вас вечар у клубе?
**Святлана.** Заўтра. Я памятаю… мне маці перадала вашы словы. Я сама прыму рашэнне.
**Вольга Гаўрылаўна.** Жанчыны жывуць эмоцыямі і я не выключэнне… Пасля толькі я ўсвядоміла, што паступаю няправільна.
**Святлана.** Я разумею.
**Вольга Гаўрылаўна.** Дзякуй. Прымай заўсёды такое рашэнне, якое падказвае сумленне… Праўда, сёняшнія цынікі насміхаюцца над гэтым словам. Я развешваю аб'яўкі, шукаю новую кватэру, каб ніхто не ведаў мой адрас.

**Святлана.** Я выканала вашу просьбу, пагутарыла з Паэтам.
**Вольга Гаўрылаўна.** І што?
**Святлана.** Ён пазнаў вас, аднак ухіліўся ад падрабязнасцей.
**Вольга Гаўрылаўна.** Не асуджаю. Мне было васямнаццаць, а яму за сорак… Божа, якія цудоўныя вершы чытаў ён тады ва ўніверсітэце. Я закахалася ў яго з першага погляду. Знайшла тры ягоныя невялічкія зборнікі, чытала, чытала. Шмат ведала на памяць. Бегала ў інтэрнаты рабочых кварталаў, дзе ён выступаў — табы было модна. Я саромелася папрасіць у яго аўтограф. У мяне нават не было спадзявання на нешта большае. Гэта была рамантычная закаханасць. Гэтыя тры зборнікі ў мяне дагэтуль на паліцы.
**Святлана.** Можа, якраз і былі побач са сваім жаночым шчасцем.
**Вольга Гаўрылаўна.** Не. Розніца ва ўзросце вялікая. Норавы тады былі трошкі іншыя. Сёння дзед жэніцца на сваёй унучцы па ўзросце. Люблю мокры снег.
**Святлана.** І мне падабаецца.
**Вольга Гаўрылаўна.** Да заўтра. Пайду.
**Святлана.** Можна і мне з вамі. Пагуляем па бульвары.
**Вольга Гаўрылаўна.** Канешне. З задавальненнем. І гэта нават добра.

***Зацямненне***

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Хол у клубе «Non Stop».
Пудзіла дыджэя. Столік з шахматамі пасярэдзіне, на ім гадзіннік.
Віка і Аляўціна ў кароткіх спадніцах ля століка.

**Віка.** Які час?
**Аляўціна.** Каля пяці.
**Віка.** Дакладна адказвай.
**Аляўціна.** Без пяці пяць.
**Віка.** Чакай іх у холадзе, калі ўжо ацяпленне ўключаць.
**Аляўціна.** У мяне ад раніцы кепскі настрой. Нядобрае прадчуванне.
**Віка.** Пляваць на тваё прадчуванне. Арцём гразіўся забраць пасля школы долю Руслана Леанідавіча і ўсё тут загнаць у еўрарамонт.
**Аляўціна.** У яго апетыт, як у маскоўскіх вараціл.
**Віка.** Не зайздросці. Яго словы не разыходзяцца са справамі.

Уваходзіць Паэт.

**Паэт.** Даруйце, я спазніўся.

Паэт садзіцца да століка збоку і гартае газету.
Уваходзіць Святлана. Цалуе ў шчаку Віку і Аляўціну.

**Святлана.** Усім прывітанне.
**Віка** (*убок*). Добра, што Арцёма няма… забараніў з ёй цалавацца.
**Аляўціна.** Салют.
**Віка.** Наступны раз буду штрафаваць.

Уваходзіць Барыс.
Ён у касцюме, пры гальштуку.

**Віка.** Дыпламат. Можа, у лато выйграў.
**Аляўціна.** Брэд Піт.
**Віка.** Джэймс Бонд.
**Барыс.** У мяне няма куміраў. Я хачу быць Барысом Сталетавым.
**Аляўціна.** Чэхаў быў правы, калі сказаў, што адзежа, з французскага буціка ўпрыгожвае чалавека.
**Барыс.** Ён сказаў, што не адзежа ўпрыгожвае чалавека, а наадварот.

Уваходзіць Арцём.
Як ні дзіўна, але і ён у шыкоўным касцюме, пры гальштуку, цалуе Віку і Аляўціну.

**Віка.** І гэты, як Баскаў.
**Аляўціна.** Як Кіркораў. Усё чорнае і сарочка, і гальштук. Мая маці кажа…
**Віка.** Змоўкні ты са сваёй маці…
**Аляўціна.** Я баюся чорнага колеру ўсё жыццё.
**Віка.** Жабу табе на язык. Знімі сурок. У мяне суседка за дваццаць долараў лепей любой цыганкі дурыць галаву, і што… чарга… жах, колькі дурноты ў галовах нашых жанчын.
**Паэт.** Можа, пачнём? Гатовы?
**Арцём.** Да барацьбы за справу партыі і камсамола заўжды гатовы.
**Паэт.** Прашу сапернікаў да стала.
**Арцём.** Адну хвіліну. Пакольki я ўпэўнены ў сваіх сілах, я мяняю стаўкі. Той, хто праіграе атрымае дзвесці долараў, а пераможца дваццаць. Барысу патрэбны грошы на рэпетытара, трэба думаць пра будучыню.
**Віка.** Як шанцуе Барысу. Навучыце мяне перастаўляць фігуры, я таксама хачу праігрываць і атрымліваць баксы.
**Арцём.** Ты згодны?
**Барыс.** Мне ўсё адно. Мне патрэбна гульня з нашай умовай…
**Арцём.** Малайчына. Чалавек-павук.

Садзяцца за столік.

**Віка, Аляўціна.** Шэры, Шэры… давай, да-вай!
**Святлана.** Белы, Белы, пакажы клас.
**Паэт.** Сапернікі гатовы?

Бярэ дзве пешкі і хавае іх у руках за спіну.

**Арцём.** Я даю фору… Выбірай любы колер.
**Барыс.** Навошта. Няхай будзе ўсё як раней.

Барыс выбірае чорны колер.

**Святлана.** Чорныя.
**Віка.** Не шанцуе.
**Аляўціна.** Злы рок.
**Паэт.** Паціснiце адно аднаму рукі.

Арцём і Барыс паціскаюць рукі.
Арцём робіць першы ход.
Паэт уключае гадзіннік. Гульня пачалася.

**Арцём.** Віка прынясі ўсім па кактэйлю… Суддзі сто грам гарэлкі…

**Барыс.** Я не п'ю, мне не трэба.
**Арцём.** А раптам захочацца… Прынясі ўсім.

Віка выходзіць.
Ідзе гульня. Мільгаюць толькі рукі. Нарэшце Барыс робіць галоўны ход.

**Барыс.** Шах і мат.
**Арцём** (*не паверыў вачам*). Не зразумеў.
**Барыс.** Тут і разумець не трэба. Мат.
**Паэт.** Парушэнняў не было. Партыя завершана перамогай чорных. Віншую.
**Арцём** (*адводзіць Барыса ўбок*). Я не зразумеў, стары… Табе не трэба бабкі?
**Барыс.** Не.
**Арцём.** Мы ж дамовіліся, што ты за грошы будзеш заўсёды праігрываць.
**Барыс.** Не памятаю.
**Арцём.** Ты адмовіўся ад двухсот баксаў? Гэта ж месячны заробак тваёй маці.
**Барыс.** Давай, як дамовіліся.
**Віка** (*нясе паднос з кактэйлямі*). Віншую з перамогай.
**Арцём.** Сціхні, дурніца.

Паўза.

**Барыс.** Я чакаю. Усе чакаюць. Пад стол!
**Арцём.** Стары, не гані хвалю. Я дам табе яшчэ пяцьдзясят баксаў і забудзем гэты выпадак.
**Барыс.** Не купіш і за тысячу долараў. Пад стол!
**Арцём.** Ты пашкадуеў пра гэта.
**Барыс.** Я не з баязліўцаў. Давай. Усе чакаюць.

Арцём неахвотна залазіць пад стол.

**Арцём** (*не адразу*). Я засранец.
**Барыс** (*ён усхваляваны і злы, амаль губляе над сабой кантроль*). Не чую. Ніхто не чуе. Гучней!
**Арцём.** Я засранец.

Святлана падыходзіць да Барыса.

**Святлана.** Барыс, што з табой? Божа, ты збялеў усвесь. Супакойся.
**Барыс.** Гучней! Яшчэ.
**Паэт.** Барыс, вазьмі сябе ў рукі… Што вы грызіцё горла адно аднаму. Ад гэтага толькі выйграюць тыя, хто вас не любіць.
**Святлана.** Дайце вады.

Барыса пасадзілі на стол.

**Арцём.** Псіхапат (*бярэ кактэйль і залпам выпівае*).
**Святлана.** Усё добра. Супакойся (*падае ваду*).
**Віка.** Каму кактэйль?
**Аляўціна.** Не чапай іх.

Віка і Аляўціна выходзяць.

**Святлана.** Ты як?

**Барыс.** Нармальна.

Нечакана Арцём затрымліваецца.

**Арцём.** Давай яшчэ адну. Вось грошы. Шмат зялёных… Трыста баксаў праіграўшаму.

**Барыс.** Я гатовы сыграць з табой дзесяць партый, але на твой «Мерседэс» і ўсе дзесяць партый выйграю. Згодзен?

**Арцём.** Не магу. «Мерседэс» не мой. Я карыстаюся ім па даверанасці.

**Барыс.** Больш пытанняў няма.

**Арцём.** Неўрастэнік.

Арцём ідзе ў клуб.
Уваходзяць Віка і Аляўціна.

**Віка.** А дзе Арцём?

**Паэт.** Пайшоў у клуб.

**Віка.** Блін. Як мы патрапім у танцзалу?

Віка і Аляўціна становяцца тварам да дыджэя.

**Віка.** О, вялікі ўладар нашых дум, усемагутны, адчыні дзверы.

Паўза.

**Віка** (*становіцца на калені*). О, вялікі, наймагутнейшы, цар нашых жаданняў, адчыні дзверы. Аля, станавіся на калені і прасі.

**Аляўціна.** Што я дурніца апошняя. Хадзем адсюль.

**Віка** (*праз слёзы*). Не магу. Я не магу жыць без тусоўкі.

**Аляўціна.** У наступную суботу прыйдзем.

Аляўціна і Віка выходзяць.

**Паэт.** Я цябе віншую, Барыс. Калі будзеш яшчэ больш працаваць, шлях да міжнародных спаборніцтваў адкрыты. Мне прыемна, што ты зразумеў: самае страшнае для чалавека — быць рабом чужой волі. Бывайце.

**Святлана.** Да пабачэння.

Паэт выходзіць.

**Барыс.** Пойдзем разам. На вуліцы цёмна. Ты не супраць?

**Святлана.** Не. Я не спяшаюся дамоў. Люблю мокры снег. А ён, Арцём, помсціць не будзе?

**Барыс.** Не. У душы ён баязлівец. Яго смеласць да пары. Трымаецца на грошах і толькі.

**Святлана.** Цікава, ці прыйдзе ён у панядзелак у школу?

**Барыс.** Ён непрадказальны.

**Святлана.** Паверыш, калі ён сядзеў пад сталом, здавалася б, я павінна была атрымаць асалоду. Але ж недзе ў глыбіні душы мне зрабілася яго шкада.

**Барыс.** Ён нас не пашкадуе.

**Святлана.** І ўсё ж цікава… ці прыйдзе ў школу ў панядзелак?

Яны выходзяць.

***Зацямненне***

## КАРЦІНА ДЗЯВЯТАЯ

Рэстаран. За столікам сядзяць Святлана, Вольга Гаўрылаўна. Стаіць побач Аксана Фёдараўна. Уваходзіць Аляўціна.

**Вольга Гаўрылаўна.** Як там, Аляўціна?

**Аляўціна** (*хукае на рукі, грэе*). Суседзі не ведаюць. Два дні яго няма. Чулі, у Віцебску дзве дзяўчыны кінуліся з дзявятага паверха. Нешчаслівае каханне ці што?

**Аксана Фёдараўна.** Не клікай бяду.

**Аляўціна.** Сувязеў з суседзямі не падтрымліваў. Жыў замкнёна. Часта начаваў у катэджы Руслана Леанідавіча.

**Вольга Гаўрылаўна.** Аксана Фёдараўна, патэлефануйце, калі ласка, Руслану Леанідавічу на Сейшэлы. А раптам ён паляцеў туды да іх?

**Аксана Фёдараўна.** Я званіла. Багаты, а роўмінг не ўключыў.

**Вольга Гаўрылаўна.** Больш чакаць нельга. Пайду, падам заяву ў міліцыю.

Вольга Гаўрылаўна выходзіць.
Уваходзіць Віка. На ёй форма афіцыянткі.

**Віка.** Як вам мой прыкід? Клёва. Аксана Фёдараўна вас кліча да сябе новы гаспадар.

**Аксана Фёдараўна.** Кліча ці загадвае прыйсці?

**Віка.** Не паддаецца расшыфроўцы. Слізкі ўвесь.

**Аксана Фёдараўна** (*перахрысцілася*). Уратуй Божа і дапамажы.

Выходзіць.

**Барыс** (*да Вікі*). Цябе не пазнаць.

**Віка.** І што дзіўна. Адразу ўзяў на палову стаўкі. У макдональдсе студэнты за дзвесце долараў бегаюць, як вар'яты… а тут камфорт…

**Аляўціна.** А як жа школа?

**Віка.** Ды я толькі ў суботу і нядзелю буду працаваць і ў чацвер вечарам.

**Аляўціна.** А гаспадар як?

**Віка.** Пузаценькі, на шыі золата. Гадзіннік за пяць тысяч баксаў. Усе сцены кабінета абвесіў фоткамі з «Плейбоя». Вам кавы?

**Аляўціна.** Калі пачастуеш, не адмовімся.

Віка выходзіць.

**Святлана.** А ты?

**Аляўціна.** А я не прайшла кастынг.

**Святлана.** Не ўбівайся. Болей часу будзе рыхтавацца да экзаменаў.

**Аляўціна.** Мажліва і так.

**Святлана.** І дзе ён можа быць?

**Аляўціна.** Можа, наўмысна схаваўся, каб усіх напалохаць.

**Святлана.** А яго «Мерс» ля пад'езда стаяў?

**Аляўціна.** Не заўважыла. Здаецца, не.

Уваходзіць Аксана Фёдараўна. Яна без настрою.
Святлана падыходзіць да яе. Яны застаюцца ў промні святла адны.

**Святлана.** Ну што?

**Аксана Фёдараўна.** Нічога добрага. Поўны разлік. Кажа, даруйце, але нам патрэбны сексапільныя афіцыянткі.

**Святлана.** Былі і горшыя часы. А што прапанаваў?

**Аксана Фёдараўна.** На кухню, мыць посуд. Хачу параіцца… ці не будзе сорамна табе перад сябрамі, што твая маці на чорных работах.

**Святлана.** Любая праца, ні чорная, ці занадта чорная, не здольна прынізіць цябе ў маіх вачах. Ты ўсё жыццё сумленна зарабляла свой хлеб, я ганарылася і буду ганарыцца табой.

**Аксана Фёдараўна.** Дык мне даваць згоду?

**Святлана.** Згаджайся.

**Аксана Фёдараўна.** То і добра.

**Святлана.** А што гэта ў цябе?

**Аксана Фёдараўна.** Гэтую папку пакінуў Паэт. Прасіў перадаць табе. Тут рукапіс вершаў падрыхтаваных да друку.

**Святлана.** А сам ён дзе?

**Аксана Фёдараўна.** Сёння раніцай пакінуў горад. Падараваў кватэру далёкай родзічцы. А сам падаўся на Салаўкі.

Святлана бярэ папку.

**Святлана** (*чытае*). «Лекі ад граху». Вершы апошніх гадоў.

**Барыс.** Што ў цябе, Святлана?

**Святлана.** Наш паэт з’ехаў.

**Барыс.** І ён прапаў. Можа, іх іншапланецяне крадуць?

**Святлана.** Паехаў у манастыр.

**Барыс.** На экскурсію?

**Святлана.** Не. Пастаянна.

**Аляўціна.** У іх з узростам дах едзе. Пачынаюць уцякаць ад смерці, як кажа мая маці.

**Святлана.** У Паэта гэтыя ўцёкі свядомыя.

Уваходзіць Віка, прыносіць каву.

**Барыс.** А ў папцы што?

**Святлана.** Рукапіс ягоных апошніх вершаў.

**Барыс.** Прачытай што-небудзь.

Святлана дастае з рукапісу старонку. Чытае.

**Святлана.** Патрыятызм — гэта ўпрыгожванне радзімы талентамі і справамі. Калі мы марым пра лепшае заўтра, лепшае сёння неўпрыкмет і мінае. Адзін дзядок заходзіць у аптэку і пытае: «Ці ёсць у вас лекі ад граху»? «Ёсць» — адказвае аптэкарка і чытае дзядку рэцэпт складзены Серафімай з Шамардзінскага манастыра: «Нарой корней прощания, собери цветов душевной щедрости, нарви лепестков терпения…»

У промні святла Паэт, які працягвае чытаць сам.

**Паэт.** Собери плодов нелицемерия, не упиваться прелюбодеянием, все это посуши постом воздержания, вложи в кастрюлю добрых дел, добавь воды и слез покаяния, посоли солью братолюбия, добавь щедрость милостыни.

Паэт знікае.

**Святлана.** Да все посыпь порошком смирения, принимай по три ложки в день. Более, одевайся в одежду праведности и не входи в пустословие, а то простудишься и заболеешь грехом опять.

Паўза.

**Аляўціна.** Гэта вершы ў прозе. Без рыфмы. Можа, цяпер так модна.
**Барыс.** Гэта модна заўсёды, калі разумна і таленавіта.

Уваходзіць Вольга Гаўрылаўна.

**Вольга Гаўрылаўна.** Дзяўчаты, Арцём знайшоўся.
**Аксана Фёдараўна.** Дзякуй Богу.
**Віка.** Дзе?
**Вольга Гаўрылаўна.** Патрапіў у аварыю.
**Віка.** Мама родная.
**Аксана Фёдараўна.** Божа міласцівы.
**Вольга Гаўрылаўна.** Быў без прытомнасці. Пералом рукі… Магло быць і горш… значна горш…
**Віка.** Я ж званіла… разбіў, відаць, сотавы.
**Аляўціна.** У якой бальніцы ён ляжыць? Ці можна праведаць?
**Вольга Гаўрылаўна.** У гарадской. Перавялі ў агульную палату.
**Святлана.** У агульную палату пускаюць.
**Аксана Фёдараўна** (*дае грошы Святлане*). Дачушка, купіце па дарозе садавіны, сок і шакалад. Абы жывы, дзякуй Богу.

Святлана бярэ грошы.

**Аляўціна.** Ты ідзеш?
**Святлана.** Усе пойдзем, праўда, Барыс?
**Барыс** (*не адразу*). Можа, праўда.
**Аксана Фёдараўна.** Гэта па-хрысцінску. Я заўсёды адно прашу ў Бога, няхай вам пашле светлую дарогу і клопат адно пра аднаго, каб абышлі вас боль, жорсткасць і зайздрасць.
**Барыс.** Мы ж не святыя.
**Віка.** І я з вамі (*здымае фартух афіцыянткі*).

Вольга Гаўрылаўна, Аляўціна, Віка выходзяць.

**Аксана Фёдараўна** (*да Вікі*). Ідзі, ідзі, я пабуду тут.

Ідзе за астатнімі.

**Барыс** (*пасля паўзы*). Пачакайце, я з вамі.

Аксана Фёдараўна застаецца адна.
Моцны вецер. Мяцеліца на дварэ. Яна ўключае музыку. Вецер нібыта забірае час юнацтва, першых крыўд, турбот, злосці, а музыка кліча да надзеі і любові. Гучаць знаёмыя словы на мелодыю Поля Марыя:

«Пусть замерзает Роза в снегу
Ведь все равно тебя я найду
Ты не печалься и не грусти
Все впереди, все впереди».

***Заслона***

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# НЯДОЛЯ КУЛАКОЎСКАГА: ЛІСТАВАННЕ З ПЕРАКЛАДЧЫКАМІ

Гісторыя пасляваеннай беларускай літаратуры пакуль што не знаходзіць шырокага асвятлення. На жаль, далёка не заўсёды прыцягваюцца архіўныя крыніцы пры напісанні юбілейных артыкулаў пра творчасць тых ці іншых пісьменнікаў, мала выкарыстоўваюцца магчымасці для інтэрв'ю з літаратарамі старэйшага пакалення, для якіх тыя ці іншыя літаратурныя «загадкі» 1950—1980-х з'яўляюцца простымі выпадкамі з жыцця, забаўнымі ці, наадварот, трагічнымі эпізодамі.

Збольшага, калі пачынаюць гаворку пра пэўнага пісьменніка, адштурхоўваюцца ад адной (найчасцей) дэталі, якая «ўвайшла ў аналы» і пастаянна артыкулявалася. У выпадку з празаікам Аляксеем Кулакоўскім (1913—1986), першым рэдактарам нашага часопіса, гэта, безумоўна, гісторыя з шальмаваннем ягонай аповесці «Дабрасельцы», апублікаванай на старонках «Маладосці» ў 1958 годзе. Аднак, калі падысці да першакрыніц і звярнуцца да найбольш аўтарытэтных сведчанняў настрою і «дум выражэння» — лістоў пісьменніка, то адкрыецца, што сумным для Аляксея Кулакоўскага быў не толькі 1958 год. Ад самага пачатку 1950-х гадоў, калі меркаваць па лістах, празаік сутыкаўся з тымі ці іншымі праблемамі публікавання і выдання сваіх твораў.

Трэба адзначыць, што біяграфія Аляксея Кулакоўскага ў параўнанні з біяграфіямі іншых пісьменнікаў 1950-х была дастаткова ардынарнай. Нарадзіўшыся ў беднай сялянскай сям'і, якая ледзь-ледзь вылазіла з няграматнасці, Кулакоўскі не мог прэтэндаваць на сур'ёзную адукацыю, бо ў 1930 гады ў Беларусі былі вынішчаны ўсе тыя, хто мог яе даць. Кулакоўскі прыйшоў у літаратуру з найбольш няўдзячнай, «чорнарабочай» прафесіі: раённай і шматтыражнай журналісцкай работы. Што рабілася ў 1930-я гады ў мясцовай прэсе, лёгка можна сабе ўявіць. Тым не менш, здольнага юнака заўважылі: пасля Клімавічаў і Жлобіна ён пераходзіць на працу ў сталічную «Чырвоную змену» (1934—1936). Ці то з уласнай ініцыятывы, ці то дзякуючы нечай падказцы, на перыяд «Вялікага тэрору», другой паловы 1930-х, Аляксей Кулакоўскі практычна «ўцякае» павышаць сваю адукацыю ў Мінскі настаўніцкі інстытут і пасля да канца Другой сусветнай вайны ў журналістыку не вяртаецца, працуе настаўнікам. І гэта не дзіва, бо склад раённых, акруговых і цэнтральных рэдакцый (у прыватнасці, той самай «Чырвонай змены») тады знаходзіўся пад пільным наглядам спецслужб і мяняўся-«чысціўся» неаднаразова. Сыход з журналістыкі ўратаваў Кулакоўскаму жыццё. Віхура найстрашнейшай у гісторыі чалавецтва вайны таксама пашкадавала яго. Тройчы паранены, ён вярнуўся на радзіму маладым, але дарослым чалавекам, поўным надзей на лепшае жыццё і ў той жа час прынцыповым, з багатым досведам, з веданнем людзей. У 1945 годзе ён апублікуе сваё першае апавяданне, а ў 1947-м выдасць першую кніжку.

Зразумела, што для другой паловы 1940-х, і наогул для савецкага часу словы «апублікуе і выдасць» не зусім правільныя. Публікаваў не аўтар, а часопіс. Выдаваў не аўтар, а выдавецтва, і тое пасля галоўлітаўскага дазволу. Зразумела, што, разважаючы пра тагачасную літаратуру, трэба рабіць на гэта спасылку. Тым больш, гаворачы пра Аляксея Кулакоўскага, які не раз трапляў у расстаўленыя сістэмай пасткі.

Трэба сказаць, што з нешматлікай выяўленай эпісталярнай спадчыны Кулакоўскага мы выбралі толькі лісты да яго замежных, а менавіта маскоўскага і ленінградскага, карэспандэнтаў: Яўгена Мазалькова і Паўла Кабзарэўскага. Мінскім паплечнікам

Аляксей Мікалаевіч лістоў не пісаў, бо мог гутарыць з імі непасрэдна. Таму найбольш цікавымі сведчаннямі пра яго погляды з'яўляюцца лісты да рускіх перакладчыкаў. З імі пісьменнік мог адкрыта падзяліцца некаторымі непрыемнымі для яго фактамі.

Пацверджаннем служыць ягоны ліст да Яўгена Мазалькова ад 1 чэрвеня 1954 года:

*«Многоуважаемый Евгений Семенович!*

*Василий Иванович через Михеева просил меня узнать у Вас, не могли бы Вы позвонить или зайти в Воениздат, поговорить там насчет переиздания книги. Михеев говорит, что во время недавнего пребывания в Москве ему сказал редактор, что в Издательстве есть намерение переиздать книгу. Очевидно, там ждут слова от нас с Вами.*

*Переиздание книги было бы актом справедливости и показало бы, насколько опрометчивы те дураки из Белоруссии, которые полностью уничтожили два тиража белорусского издания и весь тираж русского. В низы, к тому же, было спущено письмо, в котором книга объявлялась вредной. Некоторым торговым работникам даже попало за нее.*

*Очень прошу Вас, Евгений Семенович, поинтересоваться этим делом.*

*Напишите мне два слова, как Вы живете, над чем теперь работаете? Сердечный привет*

*Алексей Кулаковский*
*1.VI.54»*[1].

«Цёмны» з першага погляду ліст дэшыфруецца даволі лёгка. Загадкавы «Васіль Іванавіч» — не хто іншы, як Васіль Казлоў (1903—1967), адзін з кіраўнікоў партызанскага і падпольшчыцкага руху ў час вайны, 1-ы сакратар Мінскага гаркама КПБ у 1944—1947 гг., член Бюро ЦК КПБ з 1949 г. і нязменны кіраўнік Вярхоўнага Савета ў 1947—1967 гг. Неназванай «кнігай» выступае сумесная работа Васіля Казлова і Аляксея Кулакоўскага «Людзі асобага складу» — успаміны Казлова пра гісторыю партызанскага руху, літаратурна апрацаваныя Аляксеем Кулакоўскім. Найбольш загадкавым і найбольш цікавым з'яўляецца пасаж пра знішчэнне тыражу беларускага і рускага выданняў. Справа ў тым, што кніга выйшла ў 1952 годзе, у Мінску было два выданні — на беларускай і рускай мовах. У тым жа годзе кніга выйшла і ў Маскве, у выдавецтве «Маладая гвардыя». Трэба сказаць, што апошняе паўторна выпусціла кнігу і ў 1953 годзе. Што было прычынай знішчэння тыражу кнігі аднаго з кіраўнікоў БССР? На гэтае пытанне дае адказ іншы ліст Кулакоўскага да Яўгена Мазалькова:

*«Дорогой Евгений Семенович!*

*Извините за маленькую задержку, был в Королищевичах.*

*Книга В.И. Козлова действительно подготовлена к новому изданию, переработанному и дополненному. Новых глав там мало, но очень много вставок и исправлений. Работа велась главным образом по линии сглаживания культа и изгнания той демагогии, которая проникла под влиянием времени и частично под нажимом основного автора.*

*Книга вышла хорошая, правдивая, с естественным и искренним звучанием на родном языке. Ее действительно следовало бы издать наново и в Москве. Но вот беда! Книгу закончил я в августе прошедшего года, отдал её В.И. и с тех пор лежит она у него не прочитанная. Скоро год! Вот так и работаем.*

*Выйдет книга, пришлю Вам. Можно выслать и главу, есть одна новая глава, имеющая самостоятельное значение. Но это надо согласовать с В. И.*

*Из своих вещей у меня есть кое-что: роман (разошелся уже), две повести, третью написал. По повести «Невестка» сделан фильм, будет на экранах в мае. Ни одно из этих произведений в Москве не печаталось. Бросились люди переводить, подводили, так всё проваливалось. Бог с ними. Теперь я особенно не рассчитываю на перевод, буду писать для белорусов. Печатаю также в «Сов.[етской] Отчизне».*

*Много внимания приходится уделять журналу. Работаю в редакции каждый день.*

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 259. Воп. 1. Спр. 362. Арк. 7—8 адв.

## Збольшага, калі пачынаюць гаворку пра пэўнага пісьменніка, адштурхоўваюцца ад адной (найчасцей) дэталі, якая «ўвайшла ў аналы» і пастаянна артыкулявалася

*Очень опечален, что Вам не здоровилось. Я пока не плохо чувствую себя, борюсь за здоровье: занимаюсь зарядкой, обтираюсь холодной водой, однако чувствую, что начинаю сдавать, раны дают о себе знать. Желаю Вам всегда быть бодрым.*

*Очень, очень прошу Вас, напишите товарищеское письмо В.И. Объясните ему, что книга очень нужна к сорокалетию, что ей может заинтересоваться и Москва. Моих убеждений недостаточно, он думает, что это только мне надо.*

*А у меня уже своих книг, слава Богу, двенадцать, не нужно мне к кому-либо примазываться.*

*Искренний привет Вам*
*Ваш А. Кулаковский*
*18.III.58»*[1].

Такім чынам, можна меркаваць, што знішчэнне тыражу «Людзей асобага складу» было выклікана смерцю Іосіфа Сталіна. Праводзілася яно, як піша Кулакоўскі, на месцах — г. зн. у Беларусі. «Шкодны» яе характар, дэклараваны ўладамі, быў заўважаны толькі пасля змены ўлады, і менавіта ў гэты невялікі прамежак часу было выпушчана выданне 1953 года, якое, магчыма, і было заўважана нагл273днымі органамі. Усхваленне Сталіна, натуральнае і абавязковае ў 1952 годзе, зусім па-іншаму ўспрымалася ў 1953-м. Таму, відаць, і «пайшоў пад нож» наклад кнігі. Цень ад гэтага выпадку наклаўся на аўтара, Васіля Казлова, і літаратара, Аляксея Кулакоўскага. Як бачна з ліста 1958 года, Васіль Казлоў зусім без энтузіязму паставіўся да перавыдання кнігі, якая відавочна прынесла яму нямала непрыемнасцей. Тым не менш, у 1959 годзе маскоўская «Маладая гвардыя» выдала абноўлены яе варыянт. Мінскае беларускамоўнае выданне з'явіцца толькі ў 1967-м — годзе смерці Васіля Казлова. Гэтае ж выдавецтва «Беларусь» апублікуе і рускамоўны варыянт кнігі ў 1973 годзе.

Гісторыя з кнігай Васіля Казлова, напэўна, крыху папсавала рэпутацыю Аляксея Кулакоўскага, аднак толькі на пэўны момант. Відаць, гэта быў той прыкры выпадак, пра які ў час хрушчоўскай «адлігі» не хацелася ўспамінаць ні партыйнаму функцыянеру, ні пісьменніку. Тым больш, што ў апошняга неўзабаве пачаліся праблемы адваротнага характару: Кулакоўскага абвінавацілі ў паклёпе на савецкую рэчаіснасць. Пасля аповесці «Нявестка» (1956), у якой празаік крыху больш рэалістычна за сваіх паплечнікаў расказаў пра ўмовы жыцця ў вёсцы, у часопісе «Маладосць» была апублікавана аповесць «Дабрасельцы» (1958). Адзін з асноўных герояў, старшыня сельсавета Лявон Мокрут, знаходзіць вялікую асалоду ў тым, што падначаленыя панічна баяцца яго. Паніку ён стварае дзякуючы збору кампрамату на кожнага свайго апанента, збірае дасье з інфармацыяй пра нядобранадзейныя «сувязі», «памылкі» ў паходжанні і іншыя смяротныя грахі. Вядомы сваёй вульгарызатарскай крытыкай Якаў Герцовіч пісаў пра твор Кулакоўскага так: «Аповесць “Дабрасельцы” ганіць і прыніжае савецкіх людзей, скажае праўду аб нашай рэчаіснасці. Пісьменнік не здолеў убачыць і паказаць той праўды жыцця, якая характэрна для калгаснай вёскі, і таму твор яго атрымаўся наскрозь фальшывым». Прайшлі абмеркаванні твора і на партыйным узроўні, і на пісьменніцкім. Першы рэдактар «Маладосці» вымушаны быў саступіць сваю пасаду Пімену Панчанку. Тым не менш, пісьменнік працягваў змагацца за свой твор і, як сведчыць наступны ліст да Яўгена Мазалькова, збіраўся «абяліць» аповесць праз надрукаванне яе ў Маскве:

*«Дорогой Евгений Семенович!*

*Мне очень хочется попросить Вас хоть немножечко поддержать меня в моих творческих планах. Я теперь работаю над журнальным вариантом повести “Добросельцы”,*



[1] БДАМЛМ. Ф. 259. Воп. 1. Спр. 362. Арк. 9—10 адв.

*учитывая, разумеется, критику. Не могли б ли Вы прочесть эту повесть и высказать мне свои замечания? Журнал можно взять в издательстве или у М. В. Горбачева. Я готов сделать многое, но чтобы “Добросельцы” остались в плане издания.*

*Скажу честно, что абсолютное большинство наших писателей, а особенно читателей не считают эту повесть идейно порочной. Обсуждение проходило далеко не так сурово, как подано в отчетах (ЛіМ и “Литературка”). Все выступали с уважением к писателю и его труду, а П. Пестрак, А. Осипенко, В. Витка, А. Макаенок, И. Грамович и другие поддерживали повесть. Не считает ее порочной и слабой Иван Шамякин, хотя он и не был на обсуждении, как не были и такие члены президиума, как П. Глебка, К. Крапива, М. Танк, А. Кулешов, М. Калачинский.*

*Перед сдачей повести в печать ее читали двенадцать человек, в т.ч. члены редколлегии Я. Брыль, И. Грамович, М. Аврамчик, И. Науменко, А. Осипенко, затем Макаенок, Василевский и другие.*

*С искренним приветом и уважением*
*А. Кулаковский*

*P.S. Книга В.И. Козлова уже в производстве. Как только выйдет, вышлю её Вам и надо будет подумать о переиздании на русском»*[1].

У лісце заўважна, як Аляксей Кулакоўскі спрабуе выставіць усе магчымыя аргументы на карысць публікавання твора, хоць і разумее, што тэлефонная сувязь з Масквой даўно давяла зусім іншае меркаванне мінскіх вярхоў наконт «Дабрасельцаў». Ліст з’яўляецца і цікавым дакументам таго, як паставіліся да твора калегі Кулакоўскага. У прыватнасці, надзвычай уплывовыя беларускія пісьменнікі 1950-х гадоў Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пятро Глебка, Кандрат Крапіва, Іван Шамякін ухіліліся ад публічнага крытыкавання твора. Сваім нез’яўленнем на абмеркаванне яны выказалі сваю пазіцыю. Зрэшты, паводле такой жа самай логікі, можна сказаць, што ў іх не хапіла адвагі публічна падтрымаць калегу.

Адмысловы характар маюць і беларускамоўныя лісты Аляксея Кулакоўскага да сваіх рускіх перакладчыкаў. Далёка не кожны аўтар наважваўся на гэта. Тым не менш, Кулакоўскі шчыра меркаваў, што перакладчык з беларускай мовы абавязаны разумець і беларускую мову ліста:

*«Шматпаважаны Яўгені Сямёнавіч!*

*Я вельмі дзякаваў бы табе, калі б ты прачытаў гэтае маё апавяданне. Можа і перакладзеш, калі спадабаецца. Паколькі яно звязана з сучаснасцю, то, бадай, можна паказаць якому-небудзь часопісу, ваеннаму ці нават “Огоньку” давайсковай тэмы.*

*Цяпер я сяджу над ваеннай тэмай. Пішу раман і другую кнігу Казлова. Аповесць пра будаўнікоў напісаў ужо і надрукаваў у “Полымі”. Будаўнікамі займуся яшчэ, але пазней.*

*Жадаю табе светлага шчасця ў Новым годзе, вялікіх творчых поспехаў. Жадаю добрага здароўя і радасці тваёй жонцы.*

*З сардэчным прывітаннем А. Кулакоўскі*
*12.I.60»*[2].

Новыя хмары пачалі з’яўляцца над галавой Аляксея Кулакоўскага ў 1963 годзе. Даўно ўжо ён знаходзіўся «на алоўку», пра рэабілітацыю «Дабрасельцаў» не магло быць і гаворкі: у 1959 годзе эміграцыйнае беларускае выдавецтва пры газеце «Бацькаўшчына» выпусціла аповесць асобнай кнігай, што аўтаматычна залічыла гэты бяскрыўдны і «ідэйна правільны» твор у шэраг забароненых, а аўтара — у шэраг дысідэнтаў. Значна радзей сталі выходзіць кнігі — крыніца дабрабыту. Толькі нарысы і празаічныя творы на тэму разбудовы Салігорска, пра якія і ідзе гаворка ў папярэднім лісце, знайшлі прыхільны водгук у кіраўніцтва. З прыемнасцю ўспрыняло яно і аповесць «Тут я жыву», якая была напісана як самаапраўданне пасля «Дабрасельцаў». Тым не менш сумневы заставаліся. У лісце да Мазалькова ад 26 сакавіка 1963 г. Кулакоўскі піша:

[1] БДАМЛМ. Ф. 259. Воп. 1. Спр. 362. Арк. 11.
[2] БДАМЛМ. Ф. 259. Воп. 1. Спр. 362. Арк. 14.

## Калі падысці да першакрыніц і звярнуцца да найбольш аўтарытэтных сведчанняў настрою і «дум выражэння» — лістоў пісьменніка, то адкрыецца, што сумным для Аляксея Кулакоўскага быў не толькі 1958 год

*«Спрашивали Вы об издании романа в Белоруссии. Полагаю, что это реальное дело, только время определить трудно. У меня вообще теперь плохо здесь: юбилейный год пуст совершенно. На следующий что-либо обещают, а что, еще не известно.*

*Очень хотелось бы поместить хоть отрывок какой из романа. Может в "Литературке", может в "Огоньке" или еще где. Но это, наверно, только мечта. А поддержка мне так теперь нужна: меня все бьют, все критикуют на совещании в ЦК. Ведь новая повесть еще не напечатана, а все замечания я учел и переделываю»[1].*

«Раман» тут — «Сустрэчы на ростанях», другая пасля «Расстаёмся ненадоўга» частка дылогіі, скончаная Аляксеем Кулакоўскім у 1961-м і апублікаваная кнігай на беларускай мове ў 1962 годзе. Рускі пераклад сапраўды ў год напісання ліста не выйшаў, хоць і святкаваў аўтар тады сваё 50-годдзе. І наогул ніводнай кнігі не з'явілася, што было на той час нонсэнсам, бо юбіляраў выдавецтвы ўлічвалі ў планах і стараліся парадаваць. Прычыну тлумачыць ліст Кулакоўскага да іншага старэйшага перакладчыка беларускіх літаратараў, Паўла Кабзарэўскага. Ён на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў фактычна курыраваў публікацыю і выданне нашых аўтараў у Ленінградзе. Менавіта ў лістах да Кабзарэўскага Кулакоўскі раскрывае імя «аповесці» і перыпетыі «абмеркавання ў ЦК» у 1963 годзе:

*«Дорогой Павел Семенович!*

*Я не посылал тебе рукопись повести, потому что ждал выхода первого номера "Полымя". Все было готово: вторая корректура вычитана и залитирована, номер подписали в печать.*

*И вдруг команда: снять!*

*Оказывается, я и забыл, что месяц тому назад дал отрывок в "Сельскую газету", Феськo. Упросили хлопцы. И вот целый месяц ни слова, а перед выходом журнала редактор Феськo размножил не понравившийся ему отрывок и разослал всем секретарям ЦК. Там узрели нарушение пропашной системы, и вся повесть полетела, хотя никто всей верстки не читал. Была у меня двухчасовая беседа в ЦК с Шаурой (секретарем ЦК). У них растерянность после совещания, чтоб не рисковать, решили вот так!..*

*Придется много переделывать, а не знаю, как. Может даже и пропадет вещь, уже вторая!*

*Я честно все тебе говорю, чтобы не подводить. Возможно, что тебе и понравилась бы вещь (она многим нравится: Я. Брылю, Шамякину, всем полымяновцам), но ведь все равно отсюда будут пороть и не дадут ей ходу, пока не переделаю, вернее сделаю из своего чужое.*

*Посылаю еще два рассказика. Может можно будет присоединить их к предыдущим?*

*Как твое здоровье, друг мой? Пиши мне. Всей душой и сердцем желаю тебе полного выздоровления, хорошей трудоспособности. Твой Алексей.*

*24.I.63»[2].*

Такім чынам, у 1962 годзе Аляксей Кулакоўскі здае сваю новую аповесць у рэдакцыю часопіса «Полымя», якая аднагалосна ўхваляе яе і падпісвае да друку ў першы нумар за 1963 год. Аднак пільнае вока рэдактара «Сельскай газеты» заўважае недахоп: парушэнне сістэмы земляробства. Тут трэба адзначыць асаблівасць цэнзурнай казуістыкі таго часу: у мастацкіх творах, як і ў публіцыстыцы, не дазвалялася выкарыстоўваць статыстычныя дадзеныя, адлюстроўваць факты, якія маглі быць палічаны



[1] БДАМЛМ. Ф. 259. Воп. 1. Спр. 362. Арк. 19 адв.

[2] БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Спр. 354. Арк. 33—33 адв.

элементам дзяржаўнай ці ваеннай таямніцы. «Рагатак» было выстаўлена настолькі шмат, што ў іх часта блыталіся і самі цэнзары. Прычынай зняцця аповесці Аляксея Кулакоўскага з вёрсткі «Полымя» было парушэнне прапашнай сістэмы: адлюстроўваючы вясковае жыццё і працу на зямлі, аўтар перайначыў некаторыя агранамічныя метады вядзення гэтай самай працы. Гэта было палічана паклёпам на эканамічную палітыку БССР. Прынамсі, так гэта падаў у сваім лісце да сакратароў ЦК названы Кулакоўскім дабрахот.

Пра тое, як перарабляў аповесць, Аляксей Кулакоўскі расказаў Паўлу Кабзарэўскаму ў наступным лісце ад 26 лютага 1963 года:

*«Эти времена плоховато себя чувствую, потому что делаю то, что претит совести: режу сам себя, удаляю находки, детали и вставляю демагогию, декларативные протезы. Вынужден как-нибудь выходить из положения: в ЦК взяли слово, что буду переделывать, престиж журнала также нужно поддерживать. Ведь сняли подписанную корректуру. Если это совсем неудобное произведение, то нужно и редколлегию снимать. А нарушена была только пропашная система»*[1].

Што ж гэта за аповесць? Таямніцу аўтар раскрывае чытачам ягоных лістоў толькі праз 10 месяцаў, у лісце да Паўла Кабзарэўскага ад 29 лістапада 1963 года:

*«За повесть "Тры зоркі", написанной ранее, не обижайся: ее показывали в "Дружбе народов" и там отказались от меня. Кто хочет иметь дело с "опальным" произведением? А ловкачи у нас нашлись, донесли»*[2].

Такім чынам, як і ў выпадку з «Дабрасельцамі», аўтар працягваў змагацца за свой твор да апошняга. Вымушаны кардынальна перарабіць аповесць, Кулакоўскі, тым не менш, так і не змог апублікаваць яе ў рускім, перакладзе (па-беларуску яна выйшла ў № 6 «Полымя» за 1963 год) 2 сакавіка 1964 года ён прызнаецца Паўлу Кабзарэўскаму:

*«Повесть "Тры зоркі" так нигде и не пошла. А ведь я выдвигал там как раз те проблемы, о которых говорит теперь Никита Сергеевич»*[3].

Няцяжка сабе ўявіць, чаго дачакаўся б у 1965 годзе Аляксей Кулакоўскі, каб пачаў публічна апеляваць да Мікіты Хрушчова. Ужо ў кастрычніку 1964-га Хрушчоў быў гвалтоўна адхілены ад пасады, а ягоная палітыка зазнала рэзкую крытыку…

Даволі аб'ёмнае ліставанне Аляксея Кулакоўскага з Паўлам Кабзарэўскім пераважна закранае пытанні публікацыі твораў на рускай мове. Вельмі рэдка пранікаюць сюды абагульненні ці ўспаміны. Толькі аднойчы згадвае вайну Аляксей Кулакоўскі, які ледзь не ўсё жыццё паклаў на ваенную прозу. Непакоячыся пра лёс сына, якога закінулі служыць на поўнач Мурманскай вобласці, пісьменнік прагаворваецца: «Мне вспоминается прошлая война, когда на человека смотрели, как на муху. Боюсь, что, наверно, отрыжки эти живут в армии и теперь»[4] (ліст ад 29 верасня 1962 г.). У тым жа 1962 годзе, пакуль яшчэ адносна шчасным да яго, Кулакоўскі атрымлівае чарговую поўху: «Как ты уже догадался, в "Правде" рассказы не прошли. Мне всю жизнь так везет: только собираюсь переступить какой-то порог, — и дверь перед носом захлопывается. Хорошо еще, что нос пока не прищемило»[5] (ліст ад 28 снежня 1962 г.).

Ён яшчэ не здагадваецца, якія мітрэнгі чакаюць яго літаральна праз некалькі тыдняў, калі будзе падпісаны ў друк студзеньскі нумар «Полымя» з аповесцю «Тры зоркі».

[1] БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Спр. 354. Арк. 34—35.
[2] БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Спр. 354. Арк. 42.
[3] БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Спр. 354. Арк. 44.
[4] БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Спр. 354. Арк. 28 адв.
[5] БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Спр. 354. Арк. 30.

# ЗАБЫТАЯ ПРАЦА

***Імёны беларускіх літаратуразнаўцаў 1920-х гадоў сёння мала што гавораць паспалітаму чытачу. І справа не толькі ў тым, што іх працы не выдаюцца кніжкамі. Справа яшчэ і ў агульнай занядбанасці беларускай тэорыі (можна і не дадаваць «літаратуры», «мовы» і г. д.), для якой надышлі не самыя лепшыя часы. Інфармацыйнае поле пашыраецца штохвіліны, аднак, як той казаў, не ў каня корм: назапашваецца дурное багацце фактуры, з якой, фактычна, нічога не выкрышталізоўваецца.***

Тыя ж гераічныя ўчынкі, якія працягвае рабіць акадэмічны аддзел тэорыі літаратуры (маю на ўвазе іх калектыўныя і аўтарскія манаграфіі), застаюцца збольшага незаўважанымі, бо плён гэтых учынкаў не трапляе ў сферу стылістычна лёгкага чытва, не аналізуецца і не крытыкуецца. Універсітэцкая ж навука рэдукуе саму сябе да практычных патрэб студэнцтва.

Найбольш запатрабаванымі сёння ў гуманітарыстыцы з’яўляюцца гістарычныя дысцыпліны, якія аднаўляюць дэталі, не даючы каларыту. Бадай, менавіта каларыт — справа тэарэтыка, і не самая ўдзячная, дарэчы. Хто заўгодна можа абвінаваціць цябе ў суб’ектыўнасці і схематызме, калі ты раптам наважышся на абагульненне, дэфініцыю ці класіфікацыю. Ды і традыцыя самаагавору нікуды не знікае, а менавіта дзякуючы ёй, трэба адзначыць, савецкае беларускае літаратуразнаўства сёння выглядае зборам нічога не вартай макулатуры (першы дэканструктывісцкі погляд) і слаўнай жыватворнай спадчынай, дзе кожны «знавец» унёс свежы струмень і гэтак далей (другі міфалагізатарскі погляд).

Насамрэч, усё не так проста, і тое самае беларускае літаратуразнаўства ад пачатку свайго існавання (з 1920-х гадоў) рэзка распадалася на пэўныя групоўкі і зацікаўленні. Апошнія на той час не скідваліся «зверху» ў выглядзе плана фундаментальных даследаванняў, а прыходзілі ад саміх навукоўцаў. Менавіта таму тэматычная разнастайнасць літаратуразнаўчых работ 1920-х гадоў даволі багатая. І амаль усе яны так ці інакш закраналі (ці спрабавалі закранаць) тэарэтычныя праблемы.

Справа ў тым, што сам час дыктаваў тады своеасаблівую цягу да метадалогіі. У гэтым плане тагачасны наробак можа і сёння лічыцца эталонам адносін да прадмета даследавання. Хаця б тым, як ашчадна, акуратна і няспешна даследчык падыходзіў да аналізу літаратурнага твора можна завабіць да чытання гэтых тэкстаў кожнага сучаснага філолага. Канешне, справа не толькі ў акуратнасці ці, лепш сказаць, культуры аналізу твора, але і ў свабодзе выказвання, той свабодзе, якая пачала выкараняцца напрыканцы 1920-х, у 1930-я стала падставай для расстрэлу, а пасля вайны была падставай для страху і інстынктыўнай самацэнзуры. Калі казаць пра асабістае стаўленне, то я лічу, што менавіта і выключна 1920-я гады для нашай тэорыі былі блаславёнымі, бо пасля іх скандэнсаваную еўрапейскую культуру думкі, што прайшла праз горан арыстоцелізму, кінулі ў кацёл ідэалогіі, і нават сёння, калі пад гэтым катлом, скажам так, ужо не гарыць агонь, дэфармацыі ў метадалогіі даюцца ў знакі. А інфармацыйная віхура, пра якую вышэй гаварылася, дабівае беларускую тэорыю канчаткова.

Вось чаму вельмі важным з’яўляецца вывучэнне спадчыны беларускіх гуманітарыяў часоў беларусізацыі. Вось чаму часопіс «Маладосць» вырашыў апублікаваць маладвядомую сёння работу «Параўнанне ў мастацкай літаратуры» Яўгена Барычэўскага,

130-годдзе са дня нараджэння якога адзначаецца ў снежні.

Некалькі слоў пра саму працу. Шлях яе да чытача быў даволі пакручасты. Зрэшты, менавіта яна, «дзякуючы» сваёй прыналежнасці да тэорыі, да сённяшняга часу засталася невядомай, а пра нявыдадзены зборнік «Працы кафедры гісторыі літаратуры БАН» ужо не раз гаварылі навукоўцы. Найбольш падрабязна пра гэты выпадак пісаў Генадзь Кісялёў у кнізе «Радаводнае дрэва», якая была перавыдадзена сёлета выдавецтвам «Лімарыус» у складзе шмат у чым новай кнігі Кісялёва «Смак беларушчыны». Раздзел «Паслухайце, браткі, Навума старога!..» Кісялёў прысвяціў гісторыі тэксту «Быліц, расказаў Навума» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якія ўпершыню былі апублікаваны ў 1945 годзе сумнавядомым крытыкам і шырокавядомым калекцыянерам Лукою Бэндэ. Даследчыка літаратуры XIX стагоддзя зацікавіла, якім чынам да Бэндэ патрапілі невядомыя тэксты Беларускага Дудара. Выявілася, што ў архіве крытыка-вульгарызатара, які пасля ягонай смерці трапіў у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, знаходзілася вёрстка тома «Працы кафедры гісторыі літаратуры БАН», які быў падрыхтаваны акадэмічнымі вучонымі ў 1929 годзе і, відаць, «завіс» у друкарні пасля шырокамаштабнага пагрому нацыянальнай культуры ў 1930 годзе. Менавіта з гэтага тома, а дакладней, з артыкула акадэ-міка Івана Замоціна, Бэндэ і апублікаваў тэксты Дуніна-Марцінкевіча, не пагрэбаваўшы далучыць да свайго ўступнага слова цэлыя фрагменты з замоцінскага артыкула (зразумела, без спасылкі на рэпрэсаванага акадэміка, а выключна ад сваёй асобы). Вёрстка акадэмічнага зборніка захавалася ў фондзе Бэндэ не цалкам, але Генадзь Кісялёў знайшоў у архіве Акадэміі навук пратакол ад 18 кастрычніка 1929 года, згодна з якім на кнігу адводзілася 15 друкаваных аркушаў, а 21 кастрычніка быў зацверджаны ягоны змест:

1. Фрычэ. Артыкул аб яго літаратурных працах (Барычэўскі).
2. Літаратуразнаўства і марксізм (Вальфсон).
3. П. Трус (Чаржынскі).
4. Творчасць Рыпінскага (Піятуховіч).
5. Палуян (Мачульскі).
6. Літаратурная спадчына Петрашкевіча (Замоцін).
7. Аб новых рукапісах Дуніна-Марцінкевіча (Замоцін).
8. Інтэрмедыі (Мачульскі).
9—10. Артыкулы аспірантаў.
11. А. І. Барычэўскі. Параўнанне як стылістычны прыём.

У далейшым Генадзь Кісялёў згадвае, што 6 снежня 1929 года было вырашана замест «Творчасці Рыпінскага» паставіць іншы артыкул прафесара Міхайлы Піятуховіча: «Пляханаў і вывучэнне фальклору». Безумоўна, гэтым навукоўцы хацелі ўкласці навуковы зборнік у пракрустаў ложак афіцыйнай ідэалогіі, якая ўжо ў 1929 годзе паводзіла сябе даволі нахабна і бескампрамісна. Аднак, відавочна, знайшліся людзі, якія прасігналізавалі ў адпаведныя ўстановы — ЦК і НКУС — пра немарксісцкі характар зборніка. Гэтым сігналізатарам, дарэчы, мог быць і сам Бэндэ, які ў той час заканчваў акадэмічную аспірантуру.

Як бачым, работа Замоціна была збольшага ўведзена ў навуковы ўжытак. Публікаваўся ў томе ягоных выбраных прац і аналіз даробку паэта-нашаніўца Альфонса Петрашкевіча. Працам Яўгена Барычэўскага (а яны захаваліся абедзве) пашанцавала менш і, думаецца, таму, што яны мелі выключна тэарэтычны характар і не мелі ў сабе ўнікальнага гісторыка-літаратурнага матэрыялу, як у выпадку з Замоціным. Па вялікім рахунку, можна гаварыць, што менавіта Яўген Барычэўскі (1883—1934) быў у 1920-я гады наймагутнейшым тэарэтыкам літаратуры ў Беларусі. Энцыклапедычная падрыхтоўка, вучоба ў Георга Зімеля і Макса Дэсуара ў Берлінскім універсітэце, а потым перакладчыцкая праца для маскоўскіх неакантыянцаў, безумоўна, далі яму выдатней-

**Хто заўгодна можа абвінаваціць цябе ў суб'ектыўнасці і схематызме, калі ты раптам наважышся на абагульненне, дэфініцыю ці класіфікацыю**

## Навукоўцы хацелі ўкласці навуковы зборнік у пракрустаў ложак афіцыйнай ідэалогіі, якая ўжо ў 1929 годзе паводзіла сябе даволі нахабна і бескампрамісна

шыя веды і ў галіне агульнай эстэтыкі, і ў сферы практычнай паэтыкі. Перад тым, як вярнуцца ў родны Мінск у 1922 годзе, Барычэўскі больш за дзесяць гадоў пражыў у Маскве. Яго добра ведала ўся вялікая сям'я Брусавых, паэт Уладзіслаў Хадасевіч, акадэмічны асяродак Масквы 1910 гадоў. Вяртанне ў Мінск было адначасова і імкненнем да лепшага жыцця, і магчымасцю згладзіць старасць бацькоў. У той жа час ніякага дачынення да нацыянальнага руху Барычэўскі не меў, таму прыстасавацца да новых умоў яму было дастаткова складана. Зрэшты, добра, што гэтую складанасць разумелі ў БДУ і Інбелкульце, дзе працаваў Барычэўскі. Ён не быў выключэннем: рускамоўнай прафесуры без шавінізму ў галаве шмат дапамагалі, перш за ўсё ў перакладзе прац на беларускую мову, падборам ілюстрацыйнага матэрыялу, прыкладаў з беларускай літаратуры. Так, «Паэтыка літаратурных жанраў» Яўгена Барычэўскага мае пазнаку, што апрацоўваў кнігу на беларускім матэрыяле маладзейшы крытык Уладзіслаў Чаржынскі.

Цалкам магчыма, што і ў працы пра параўнанне, якая друкуецца ніжэй, Барычэўскаму дапамагалі. Аднак гэта толькі гіпотэза, бо ў самім тэксце згадкі пра гэта няма. Да таго часу ён і сам мог зацікавіцца беларускай літаратурай, самастойна рабіць адпаведныя выпіскі з твораў, тым больш што сама праблема, відавочна, яго вельмі цікавіла. Як вынікае з аналізу архіва Яўгена Барычэўскага, вучоны доўгі час рыхтаваўся да напісання гэтай працы, аналізаваў арыгінальныя замежныя — нямецкія і французскія — навуковыя працы пра гэты мастацкі сродак, выпісваў цытаты, перакладаючы іх адначасова на рускую мову. Такіх выпісаных цытат пра параўнанне і афарызм (яшчэ адна нязздзейсненая публікацыя) набраўся ў яго вялікі стос, і трэба сказаць, што яны і цяпер не страцілі сваёй цікавасці. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што так глыбока літаратуру па гэтым прадмеце не аналізаваў ніхто ні ў рускім, ні ў беларускім літаратуразнаўстве XX стагоддзя.

Гэта паказвае, наколькі важнай была падрыхтоўчая праца для Яўгена Барычэўскага. Яго маскоўскі сябра Канстанцін Лок прыгадваў пра існаванне пушкінскага гуртка, які збіраўся на кватэры Барычэўскага ў першай палове 1910-х. Там ёсць адна паказальная фраза: «з друкаваннем не спяшаліся». Так і было: не спяшаючыся з друкаваннем, Барычэўскі застаўся для беларусаў аўтарам дзвюх кніг: «Тэорыя санету» і «Паэтыка літаратурных жанраў» (абедзве выйшлі ў 1927 годзе) і фактычна, як і ў Маскве ў 1910-я гады, заставаўся ў цяню сваіх больш пладавітых калег. Тым не менш, даробак яго і сёння яшчэ не актуалізаваны і далёка не цалкам апублікаваны, пра што сведчыць ягоны фонд у БДАМЛМ, зборы музея Максіма Багдановіча і архіў сям'і вучонага. Ды і не ацэнены належным чынам, а гэта варта зрабіць. Пра што, зрэшты, і сведчыць філіграннае даследаванне параўнання, якое публікуецца ніжэй з адзінага адбітку з фонду Бэндэ (БДАМЛМ. Ф. 66. Воп. 1. Спр. 1045. Арк. 1—14). Работа гэтая з'яўляецца, магчыма, падступам вучонага да кнігі па агульнай стылістыцы, пра што ён ускосна прагаворваецца. Нельга не папярэдзіць чытача, што даследаванне друкуецца з захаваннем моўных асаблівасцей арыгінала. У тэксце захаваны і своеасаблівыя «пацёмкінскія вёскі» — рэверансы ў бок марксісцкай ідэалогіі, якія вучоны быў вымушаны рабіць, каб убачыць сваю работу апублікаванай.

***Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ***

*Яўген БАРЫЧЭЎСКІ*

# ПАРАЎНАНЬНЕ Ў МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Сродкам поэзіі зьяўляецца ўдасканаленая ў сваёй выяўленчай і эмоцыянальнай функцыі мова. Сыстэматычны агляд тых эфэктаў, якія ёю могуць быць дасягнуты, зьяўляецца задачай стылістыкі.

Вялікае значэньне стылю трапна выражана ў вядомым выслоўі Бюфона «Le style c'est l'homme». Стыль, сапраўды, передае ўсяго чалавека, яго соцыяльную прыроду і ўсё што з ёю зьвязана, — агульны псыхічны склад, пачуцьці, густы, нават тыя яго імкненьні, якія застаюцца па-за яго сьвядомасьцю. Праз свае творы пісьменьнік выяўляе ідэолёгічную і эмоцыянальную накіраванасьць тэй грамады, сынам якой ён зьяўляецца. Нават творы, здавалася-б, пазбаўленыя ўсякай тэндэнцыі, агітуюць за пэўныя адносіны да жыцьця, прычым гэтая агітацыя можа выконвацца амаль-што нябачна, праз такія элемэнты стылю, якіх ня відаць павярхоўнаму воку.

Ідэолёгія твору, сьвядома і яўна выказаная, гэта толькі частка таго, што передае нам сваім словам пісьменьнік. У тым і вялікая сіла мастацкага слова, што ў ім выяўляецца ўвесь чалавек, з усімі элемэнтамі сваёй соцыяльнасьці, з усёй непасрэднасьцю свайго сьветаадчуваньня, якая раскрываецца то ў буйных хвалях, то ў гармонічных рухах, то ў празрыстай цішыні слоўнага стылю.

Калі ў навуковай і блізкіх да яе відах мовы сьвядома передаюцца тыя ці іншыя погляды, то мастацкая мова передае ўсё багацьце псыхікі, з якой складаецца аблічча пісьменьніка. Але псыхіка пісьменьніка абумоўлена фактарамі соцыяльнымі. Праўда, на яе паклалі пячатку індывідуальныя асаблівасьці жыцьця, спадчыннасьць, паасобныя ўражаньні, здарэньні і г. д., але ўплыў пісьменьніка, яго посьпех, яго соцыяльная значнасьць, яго роля ў літаратуры абумоўлены *ня гэтымі* момантамі, а тым, што яго псыхіка ёсьць выяўленьне псыхікі грамады. Пісьменьнік — прадстаўнік пэўнае групы грамадзтва. Ён дапамагае ёй ідэёва скрышталізавацца самой і падпарадкаваць свайму ўплыву і іншыя больш-менш шырокія соцыяльныя пласты. Такім чынам, можна сказаць: стыль пісьменьніка гэта — голас тае клясы ці групы, якая праз яго гаворыць. Яго мова імкнецца стаць як мага больш моцным сродкам уплыву на чытача, а гэтага чытача ён заўсёды сьвядома ці несьвядома прадстаўляе сабе, як чалавека пэўнага соцыяльнага асяродзьдзя. Такім чынам, стылістычныя асаблівасьці мовы могуць разглядацца як форма, у якой адбываюцца соцыяльныя зносіны між пісьменьнікам і чытачом.

Каб дасягнуць пэўнага посьпеху, пісьменьнік павінен непасрэдна адчуваць псыхіку той соцыяльнай групы, да якой ён зьвяртаецца, а таксама і яе мову. Каб мець уплыў у пэўным асяродзьдзі, ён сам павінен быць пад уплывам гэтага асяродзьдзя. У гэтым дыялектыка ўзаемаадносін між пісьменьнікам і чытачом. У залежнасьці ад гэтых узаемаадносін знаходзіцца і характар слоўных прыёмаў пісьменьніка. У выконваньні сваёй соцыяльнай функцыі ён карыстаецца паасобнымі стылістычнымі сродкамі. Аналіз прыроды гэтых сродкаў, відаў іх ужываньня, магчымай функцыі іх у мастацкім творы, мэтодыка вывучэньня іх у пісьменьніка, увязка гэтага вывучэньня з мэтай выяўленьня клясавай сутнасьці данай творчасьці, зьяўляюцца аднэй з чарговых задач нашага літаратуразнаўства. Разгляду аднаго з гэтых прыёмаў, параўнаньню, і будуць прысьвечаны наступныя старонкі.

## I.

Характарыстыка якой-небудзь зьявы ці стану шляхам супастаўленьня з іншай зьявай ці станам ёсьць мэта параўнаньня. Яно складаецца з трох элемэнтаў: прадмету (A), пункту (B) і вобразу (C) параўнаньня. У наступных прыкладах усе тры элемэнты дадзены: «воля (A) цьвярдзей (B) ад сталі (C)», «конь (A) ляцеў (B) стралой (C)». Пункт параўнаньня можа быць дадзены двойчы: і да аб'екту і да вобразу — «конь

ляцеў, як ляціць страла», але можа слоўна зусім адсутнічаць і толькі падразумявацца: «зоркі (А) — кветкі неба (С)».

У літаратуразнаўчых досьледах адзін з гэтых элемэнтаў, пункт параўнаньня, часам ігноруецца. Так С. Шувалаў, аналізуючы параўнаньні, зазначае ў іх два элемэнты: тэматычны вобраз — тое, што мы назвалі об'ектам — і аналёгічны вобраз[1]. Між тым вельмі важным зьяўляецца і той пункт погляду, з якога робіцца параўнаньне. Пункт параўнаньня, праўда, не заўсёды называецца, але без яго не магло-б існаваць і самае параўнаньне. Справядліва гаворыць О. Фольц, што пункт параўнаньня, tertium comparationis, адыгрывае ў параўнаньні такую самую ролю, якую адыгрывае сярэдзіннае паняцьце ў сылёгізьме: яно зьвязвае тое, што без яго заставалася-б нязьвязаным[2].

Але і названы пункт параўнаньня можа не ахапляць усіх узбуджаных супастаўленьнем об'екту і вобразу асоцыяцый і эмоцый. У поэзіі гэтыя слоўна неўцелясьнёныя элемэнты параўнаньня атрымліваюць, як будзе паказана далей, вялікае значаньне.

Другая памылка, якую часта робяць літаратуразнаўцы пры самым азначэньні параўнаньня, у тым, што яны пад ім разумеюць устанаўленьне між прадметам і вобразам некаторага падабенства. Гэтую памылку робіць большасьць дасьледчыкаў. Але параўноўваньне можа мець два вынікі: ня толькі ўстанаўленьне падабенства зьяў, але і, наадварот, іх *адрозьненьне*. Праўда, параўнаньні-адрозьненьні сустракаюцца радзей, чымсі параўнаньні-ўпадабленьні, але яны існуюць. Вельмі любіць іх прыказка:

Век зжыць — ня лукошка сшыць.
Жонка — ня лапаць: з нагі ня скінеш.

Тое, што параўнаньні гэтага тыпу зьяўляюцца значна радзейшымі, чымсі супрацьлеглыя, пэўна, і прывяло да памылковага атаясьненьня параўнаньняў з іх пераважнай часткай — упадабленьнямі. Другой прычынай гэтай памылкі, пэўна, зьявілася і тое, што самае адрозьніваньне дзьвёх зьяў магчыма толькі як вынік іх некаторага збліжэньня. Параўноўваць гэта значыць ставіць дзьве рэчы на адну дошку. Параўноўваць рэчы, у якіх няма нічога супольнага, немагчыма[3]. Калі мы адрозьніваем з выбранага намі пункту погляду дзьве зьявы, гэта значыць, што мы ўсё-ж знаходзім між імі нешта супольнае, што дае магчымасьць іх параўноўваць і, значыцца, у некаторай меры збліжаць іх[4].

Такім чынам, наяўнасьць у параўнаньнях трох элемэнтаў — прадмету, пункту і вобразу — і падзел усіх параўнаньняў на дзьве групы — на параўнаньні-ўпадабленьні і параўнаньні-адрозьненьні — вось тыя папярэднія палажэньні, якія нярэдка ігнаруюцца і якія трэба мець на ўвазе пры самым азначэньні данага стылістычнага сродку.

Трэцяй магчымай памылкай было-б патрабаваньне ў параўнаньнях-упадабленьнях нейкага об'ектыўнага падабенства супастаўленых зьяў. Здаецца, няма такіх прадметаў, між якімі пры сьмеласьці мыслі і выабражэньня, дасьціпнасьці, арыгінальнасьці падыходу нельга было-б перакінуць мосту. Б. Хрысьціянсэн у сваёй практычнай стылістыцы для пісьмень-

---

[1] Гл. артыкул «Сравнения в поэзии Некрасова» ў кнізе С.В. Шувалава «Семь поэтов». Москва, 1927.

[2] O. Foltz. Die Vergleichung. Ein Beitrag zur Poetik. Langen

[3] Жартаўлівыя параўнаньні часта ставяць сабе задачу сьцвярджаць падабенства між зьявамі, высоўваючы пункт параўнаньня, які зьяўляецца ўяўным і грунтуецца толькі на гульні слоў, дзе да аднэй з параўнаных зьяў слова бярэцца ў асноўным, для другой — у мэтафорычным сэнсе.

[4] Падкрэсьліваючы існаваньне побач з параўнаньнямі-ўпадабленьнямі і параўнаньняў-адрозьненьняў, адзначым, што да апошніх аднак-жа не належаць такія адмоўныя па слоўнай форме параўнаньні, як напрыклад:

Не пад хмарай бліскавіца:
то зірнула сьмерць. *(Ул. Дубоўка).*

Тут адрозьненьне зьяўляецца толькі слоўнай формай. Параўнаньнем як-бы зазначаецца, што даныя зьявы — бліскавіца і сьмерць — падобны, але не супадаюць, дзеля чаго і робіцца адпаведнае папярэджаньне. Мы маем у гэткім выпадку параўнаньне-ўпадабленьне, данае ў сваеасаблівай адмоўнай форме.

## Характарыстыка якой-небудзь зьявы ці стану шляхам супастаўленьня з іншай зьявай ці станам ёсьць мэта параўнаньня. Яно складаецца з трох элемэнтаў: прадмету (А), пункту (В) і вобразу (С) параўнаньня

нікаў[1] раіць не зьвяртаць асаблівай увагі на дакладнасьць параўнаньня: яно можа быць, на яго думцы, вельмі і вельмі прыблізным. Сапраўды, параўнальныя вобразы ня столькі характарызуюць прадмет сам па сабе, колькі сваеасаблівасьць аўтарскага падыходу да яго. Колькасьць і рознастайнасьць параўнальных вобразаў, якія выклікаюць тыя ці іншыя зьявы, не абмежавана. Аб некаторых зьявах, асабліва ўлюбёных у літаратуры, можна было-б скласьці цэлую антолёгію выкліканых імі параўнаньняў.

Шматлікасьць параўнальных вобразаў зьвязана з рознастайнасьцю самых пунктаў параўнаньня: дзякуючы ім і ўдаецца перакінуць мост між зьвамі, паміж якімі, здавалася-б, ня можа быць ніякага падабенства.

Пры ўспрыманьні ўпадабленьня мы адначасова адчуваем і падабенства зьяў і іх рознасьць; чым значней іх рознасьць, чым далей стаяць яны адна ад другой, тым жывей, на фоне гэтай іх рознароднасьці, успрымаецца іх збліжэньне. Прырода параўнаньня дыялектычна[2]. І большае ўражаньне робіць тое параўнаньне, у якім больш востра выступае яго дыялектычнасьць. З гэтага пункту погляду ясна, чаму параўнаньне так любіць уцягваць у сваё кола вельмі далёкія адна ад другой рэчы, як можна бачыць з наступных прыкладаў:

Маланка пляце агнявіцы:
Па небу значкі-бліскавіцы
Пашлі мігацець, сьляпіць вочы;
А гэтыя блескі бяз меры,
Як пісаны верш на паперы,
Чытае пярун і рагоча *(Ясакар)*.

Загудзела піла,
застанала сасна;
пры дарозе,
як сьлёзы, апілкі *(А. Александровіч)*.

Сонца ня грэла яшчэ. Яно велічна і спакойна, як стары сейбіт, расьсейвала пудлівыя заспаныя прамяні, не сьпяшаючы, рэзьмерна, але бязупынна ўсё большымі і большымі жменямі *(Р. Мурашка)*.

Мы выросли,
Но жар не тает,
Бунтарский жар
В нас не ослаб.
Мы выросли,
Как вырастает
Идущий к пристани корабль *(І. Уткін)*.

Параўнаньні маланкі з лістом, а грому з чытаньнем напісанага, апілак з сьлёзамі, сонца з сейбітам, росту грамады з ростам караблю, што падыходзіць да прыстані і г. д. — зьяў вельмі розных па галінах жыцьця, з якіх яны ўзяты — усё-ж суб'ектыўна пераконваюць дзякуючы трапнаму іх збліжэньню, але гэтае збліжэньне ўспрымаецца ў супярэчнасьці з об'ектыўнай рознароднасьцю ўзятых зьяў, рознароднасьцю, якая застаецца фонам, на якім дзейнічае выабражэньне пісьменьніка.

Толькі ў адным выпадку гэтая об'ектыўная рознароднасьць не павінна быць суб'ектыўна пераможана тым збліжэньнем, якое прапануецца аўтарам: гэта ў комічным параўнаньні. Тут мэта іншая: знадворнасьць ці выпадковасьць пункту параўнаньня тут павінна застацца бясьсільнай перамагчы об'ектыўную рознасьць параўнаваных зьяў, што і стварае комічны эфэкт. У поэме «Тарас на Парнасе» палясоўшчык, ад імя якога вядзецца апавяданьне, мала падрыхтаваны да разуменьня Олімпу і яго багоў, жадаючы прыблізіць іх да сябе, параўноўвае іх з зьвамі свайго жыцьцёвага дасьведчаньня, вельмі далёкага ад жыцьця на Олімпе, што і стварае комічны эфэкт:

Як тараканы каля хлеба,
Багі паселі ўкруг стала.

[1] B. Christiansen. Die Kunst des Schreibens. Eine Prosa-Schule. Buchenbach in Baden, S. 243—244.

[2] Гэтая ўнутраная дыялектычнасьць усякага параўнаньня асабліва яскрава ў параўнаньні-адрозьненьні, у якім яно мае тэндэнцыю выступаць у якасьці востра выражанай антытэзы.

Амур выклікае ў Тараса наступнае параўнаньне:

Хлапчына нейкі круглалікі,
Увесь кудравы, як баран.

Таксама два наступных параўнаньні Я. Коласа выклікаюць сьмех поўнай знадворнасьцю збліжэньня зьяў, непадобнасьць якіх гэтым зьбліжэньнем яшчэ больш падкрэсьліваецца:

«Пронька счапілася з Анэтаю, а санітарыха з Вараксаю. Але ў працэсе сваркі пары мяняліся, як часамі гэта робіцца ў некаторых танцах».

«Прачка Грында ўвесь час стаіць у вакне сваёй галубятні і наглядае гэтую бойку. Яна там робіць сама сабе ўвагі, як генэрал-стратэг нэўтральнай дзяржавы, стоячы з боку ад вайны і сочачы за яе разьвіцьцём і за памылкамі генэральных штабаў».

Комічнае збліжэньне на падставе знадворных рысаў сустракаецца і ў Крапівы (напр. у яго малюнку «Вясна» ў кнізе «Людзі-суседзі»).

Да віду комічнага параўнаньня, дзе пункт параўнаньня робіць часта вельмі дасьціпныя, але бясьсільныя і дзеля гэтага сьмешныя спробы перамагчы рознароднасьць зьяў, трэба аднесьці і прыём комічнага збліжэньня дробязнага, штодзённага з грандыёзным. Прыклад:

І вось Эоль галень схапіўшы,
На паншчыну склікаць пачаў,
І ўсе ён ветры распушчаў,
Бурліць ім мора наказаў.
Калі хто відзеў, як Бакціха
Нямецка піва задаець,
Яко яно падымець ліха,
Запеніцца ды розна прэць,—
От так і мора заравела,
Бублілась, пенілась, шумела
*(«Энэіда навыварат»)*.

Дыялектычная прырода параўнаньня, яго ўнутраная супярэчнасьць і тут мае ня меншае значэньне, чымсі ў папярэдніх прыкладах, толькі ўзаемаадносіны між збліжэньнем зьяў і іх непадобнасьцю атрымліваюць у комічным параўнаньні своеасаблівы характар: пункт параўнаньня сваёй поўнай знадворнасьцю знаходзіцца ў контрасьце з істотнай непадобнасьцю зьяў, якія параўноўваюцца, што і робіць комічнае ўражаньне.

Рознастайнымі зьяўляюцца ня толькі пункты і вобразы параўнаньня, якія можна было-б назваць яго зьместам, але рознастайна і яго форма, пад якой мы будзем разумець слоўныя конструкцыі. Найбольш частымі зьяўляюцца, як вядома, злучнікавыя параўнаньні. Кожная мова мае для гэтай мэты шэраг злучнікаў. Вось пералік беларускіх злучнікаў у параўнаньнях: як, бы, як-бы, нібы, быццам, быц, быццам-бы, як-быццам, як быццам-бы, што, маўляў, моў, моўся, мэрам, накшталт, рыхтык, адыстар, акурат, прычым гэты сьпіс, магчыма, не зьяўляецца вычэрпваючым. Злучнікі, якімі карыстаецца параўнаньне, больш-менш сынонімічны. Многія з іх па сэнсу настолькі блізкі, што поэта-вершатворца, выбіраючы той ці іншы злучнік ў параўнаньні, кіруецца ня столькі сэнсавым адценьнем, уласьцівым данаму злучніку, колькі мэтрыкай і фонэтыкай вершу. Але, як вядома, слоў зусім сынонімічных няма; між двума словамі, што маюць аднолькавы сэнс, заўсёды ёсьць некаторае сэнсавае адрозьненьне. Не заўсёды такое адрозьненьне можна лёгка заўважыць. Часамі яно адчуваецца, але яго трудна формуляваць. Гэта датычыць і параўнальных злучнікаў[1].

Асобную групу складаюць параўнаньні, у якіх параўнальны вобраз даецца ў форме канцоўкі і пачынаецца з «так» ці з «такі» — форма, якая выдзяляе параўнаньне з агульнага

[1] Адно назіраньне ў гэтай галіне зроблена нямецкім літаратуразнаўцам Г. Понгсам (гл. H. Pongs. Das Bild in der Poesie. Marburg 1927). Ён спыняецца на двух нямецкіх злучніках: wie і als-ob. Першы адпавядае об'ектыўнаму, другі — суб'ектыўнаму параўнаньню. Злучнік wie не зачапляе ступені рэчаіснасьці вобразу, тады як злучнік als-ob, зьвязаны з умоўным ладам, падкрэсьлівае, што параўнальны вобраз узяты толькі як нашае прадстаўленьне: als-ob падае нам вобраз, як нейкую фікцыю. Панаваньне гэтай формы ў час нэорамантызму (канец XIX веку і пачатак XX) зьвязана, па думцы Г. Понгса, з сьветапоглядам, для якога рэчаіснасьць наогул была гмахам, пабудаваным чалавечымі фікцыямі. Нэорамантыкі, якія глядзелі на жыцьцё з пункту погляду ілюзіёнізму, асабліва часта карысталіся злучнікам als-ob. Найбольш яскрава гэта рыса нэорамантызму выявілася, паводле назіраньняў Г. Понгса, у вершах Гофмансталя.

контэксту, з асаблівай яскравасьцю пераводзіць думку з аднаго пляну ў другі. Прыклад:

Глуха поле, замірала,
Як-бы дух пранёсься злы,
І ў задуме пазірала
Даль з-пад шэрае імглы.
Так на дзетак глядзіць матка,
Як расходзяцца яны
Па ўсім сьвеце з роднай хаткі
На мяжы свае вясны *(Я. Колас)*.

Таксама часта, як і злучнікавыя параўнаньні, сустракаюцца параўнаньні ў форме творнага склону, напр.:

Сыплюцца сьняжынкі матылямі *(А. Салагуб)*.
Бунтуючым прыбоем
Мы вышлі край свой старажыць *(В. Маракоў)*.

Гэтая форма зьяўляецца як-бы скарочанай формай злучнікавага параўнаньня, у якую яе заўсёды можна перавесьці. Двучленнасьць параўнаньня ў ёй менш выпуклена.

Наступная граматычная форма, якую зазначым, гэта — параўнаньне ў форме параўнальнага прыслоўя. Прыклад:

Часта мне гавораць, што жыцьцё астыне
І патухне радасьць, сьцішыць сэрца ўздым.
Я-ж кажу: няспынны бег жыцьцёвай плыні,
Што ў далечу рвецца шпарчэй хваль вады
*(А. Гурло)*.

Звычайна ў гэтым відзе параўнаньня бяруцца такія вобразы, дзе якасьць, што зьяўляецца пунктам параўнаньня, выяўлена ў самай большай ступені, якая магчыма:

Дык зірні непрагляднасьцю дзіўнай,
што цямней глыбіні вазёрнай *(Ул. Дубоўка)*.

Прадмету параўнаньня зазначаная якасьць прыпісваецца ў яшчэ большай ступені, дзякуючы чаму параўнаньне адтрымлівае характар гіпэрболічны. Нядзіўна, што гэткі від параўнаньня радзей сустракаецца ў творах рэалістычнага стылю і часта ў казках, одах, у вершах мадрыгальнага характару, часта ў творах рамантычнага стылю, напр., у рамантычнай поэме.

**І большае ўражаньне робіць тое параўнаньне, у якім больш востра выступае яго дыялектычнасьць. З гэтага пункту погляду ясна, чаму параўнаньне так любіць уцягваць у сваё кола вельмі далёкія адна ад другой рэчы**

Нярэдка сустракаецца параўнаньне і ў форме дадатку да об'екту. Прыклады:

Край лясоў, маўклівых сосен-струн *(П. Трус)*.
На дзірван, неараныя гоні
Ўзойдзе трактар — жалезны аратай
*(А. Салагуб)*.

Вобраз параўнаньня можа быць дадзены ў форме выказьніка. Прыклад:

Громы — водгульле размовы
Бліскавіц і перуна;
Зьнічка — зорачкі кананьне,
А вясёлка — выплываньне
Златадзеннага чаўна *(Я. Колас)*.

Як і ў папярэдняй форме, пункт параўнаньня тут не называецца, але ў той час як там вобраз параўнаньня даваўся як-бы мімаходзь, тут увага пісьменьніка, а за ім і чытача, затрымліваецца. Гэтая акцэнтуацыя дасягаецца тым, што параўнаньню прысьвечаны самастойны сказ, які не нясе ніякіх іншых функцый. Такі від сустракаецца асабліва часта ў творах, дзе параўнаньне, як стылістычны прыём, займае значнае месца. Асаблівасьць гэтага віду, як і папярэдняга, яшчэ і ў тым, што ў іх параўнаньне даецца ня ў форме зазначэньня іх падабенства, але ў форме іх атаясьненьня[1].

Нярэдкай формай зьяўляецца параўнаньне, у якім якасьць — пункт параўнаньня — вызначана ў форме назоўніка, пры якім у родным склоне стаіць вобраз параўнаньня. Прыклад:

[1] Аб формах, дзе падабенства, якім здавальняецца звычайнае злучнікавае параўнаньне, узмацняецца да пераходу ў ідэнтыфікацыю параўнаных зьяў, піша Л. Шпіцэр у сваім артыкуле «Asyndetische Vergleiche im Italienischen und Rumänischen» (гл. Leo Spitzer. Stilstudien, I Sprachstille. München 1928, S. 13—14).

«Зрок, упяты ў яе, адсьвечваў надзіва страшным бляскам пылкага жаданьня, жаданьня ляснога зьвера ў вясновы вечар» *(Р. Мурашка).*

Вобраз параўнаньня можа быць выражаны і ў форме эпітэту да об’екту. Назовы фарбаў — зямлісты, малінавы і інш. — зьяўляюцца такімі эпітэтамі. Прыклад з літаратуры: «цёмназорыя вочы».

Вельмі частымі зьяўляюцца параўнаньні, якія даюцца праз словы: падобны, блізкі, напамінае, здаецца, што і г. д. Да іх блізкі і тыя параўнаньні, дзе аўтар гаворыць аб параўнаньні як усьвядомленай мэце.

Своеасаблівай формай параўнаньня трэба лічыць і так званы паралелізм, дзе даюцца два ці больш самастойных сказы, ня зьвязаных злучнікам, прычым між об’ектамі, іх якасьцямі і дзеямі ёсьць пэўная адпаведнасьць[1]. Нярэдка гэты вобразны паралелізм падтрымліваецца і адпаведнасьцю ў пабудове сказаў (сынтаксычны паралелізм). Гэты від параўнаньня сустракаецца як у форме станоўчай, так і адмоўнай. асабліва часта ў вуснай поэзіі і ў літаратуры, якая знаходзіцца пад яе ўплывам.

Сустракаюцца і злучнікавыя параўнаньні з тэй самай адпаведнасьцю прадметаў, іх эпітэтаў і дзей, якая культывуецца паралелізмам. Прыклад:

«Як той матылёк лёгкакрылы, што вось-вось із маку ўзьвіецца, на вуснах яе трапятала і было ня ў сілах сарвацца адно ціхавейнае слова» *(М. Багдановіч)*.

«Матыльку» адпавядае «слова», эпітэту «лёгкакрылы» — эпітэт «ціхавейны», «маку» — «вусны», дзеі «вось-вось узьвіецца» — «трапятала і было ня ў сілах сарвацца».

Разгледжаныя слоўныя конструкцыі параўнаньняў зьяўляюцца найбольш частымі. Агляд усіх больш рэдкіх форм зьявіўся-б працай цікавай і для стылістыкі, як навукі, і карыснай для мастака слова, але ніколі іх агляд ня будзе вычэрпваючым: заўсёды могуць быць знойдзены яшчэ новыя формы[2].

---

[1] Па думцы А. Весялоўскага, паралелізм — больш старажытная зьява, чымсі параўнаньне. Паралелізм пакоіцца на атаясьненьні чалавечага і прыроднага жыцьця; параўнаньне, наадварот, мае сваім выточным пунктам разьдзельнасьць параўнованых зьяў. Для старажытнага сынкрэтызму маланка была птахам, дрэва — чалавекам. Але гэтаму сьветапогляду прышлося адступіць перад дасягненьнямі пазнаньня, якое навучыла людзей распадзяляць зьявы, і тады ўзьнікліі параўнаньні: маланка н і б ы птах, дрэва нібы чалавек. Гл. А. Н. Веселовскпй. Психологический параллелизм и его формы в отражениях поэтического стиля". (Собрание сочинений. Т. І. Поэтика, ст. 131—140).

[2] Пры аналізе параўнаньняў у літаратурным творы нельга прайсьці міма мэтафар, па-першае, дзеля таго, што існуюць памежныя між параўнаньнем і мэтафарай стылістычныя формы, па-другое, дзеля таго, што мэтафара зьяўляецца таксама вынікам пэўнага супастаўленьня зьяў. Проблема ўзаемаадносін паміж мэтафарай і параўнаньнем нярэдка закраналася як у навуковай літаратуры, так і ў програмных поэтыках літаратурных школ, якія часам імкнуліся сформуляваць свае адносіны да гэтых мастацкіх сродкаў. Рэмі дэ Гурмон паставіў пытаньне аб іх узаемаадносінах з гістарычнага пункту погляду і, апіраючыся, галоўным чынам, на той факт, што Гомэр карыстаецца выключна параўнаньнямі, бароніць думку, што мэтафара характарна для новай поэзіі (Remy de Gourmont. Le problème du style. Paris, p. 86-104). Да яго далучыўся Бальлі, які адрозьнівае дзьве стылістычныя зьявы — вобраз і параўнаньне. Вобраз, па яго азначэньню, гэта атаясьненьне дзьвёх зьяў; напрыклад, назваць каго-небудзь лісам — гэта значыць атаясьніць дзьве зьявы на падставе агульнай рысы. Але пачынаюць з параўнаньня: раней, чымсі атаясьніць дзьве зьявы, гавораць: ён хітры, як ліс. Параўнаньне існавала раней вобразу, і, калі мы цяпер ствараем вобразы без параўнаньня, як папярэдняй ступені, то дзеля таго, што гэты працэс стаў аўтоматычным. Для ўзьнікненьня мэтафары патрэбна агульнае разьвіцьцё, якое больш пайшло наперад, мысьль, больш у сабе ўпэўненая (Ch. Bally. Précis de stylistique, p. 102—106). З імі зусім не згаджаецца Вундт, які лічыць, што ў мэтафары мы маем перанясеньне прадстаўленьня з аднаго об’екту на іншы, тады як параўнаньне складаецца з дзьвёх самастойных зьяў. Азначэньне мэтафары, як скарочанага параўнаньня, Вундт лічыць няправільным. Гэтае азначэньне і прыводзіць да памылковага, па яго думцы, погляду, што параўнаньне ўзьнікла раней мэтафары. Няправільнай ён лічыць і спасылку на Гомэра: па-першае, нямецкі і паўночны гэроічны эпос характарызуюцца зусім іншымі рысамі, па-другое, багацьце параўнаньняў у Гомэра ёсьць продукт пэўнага мастацкага кірунку, зьвязанага з дзейнасьцю рапсодаў і з далёка не прымітыўнай культурай. Wundt. Völkerpsychologie. 2 Band. Die Sprache. 2 Teil. Leipzig 1922, S. 598—603). Аднак-жа, і Вундт згаджаецца з існаваньнем стылістычных форм, што знаходзяцца паміж параўнаньнем і мэтафарай.

**Але параўноўваньне можа мець два вынікі: ня толькі ўстанаўленьне падабенства зьяў, але і, наадварот, іх адрозьненьне. Праўда, параўнаньні-адрозьненьні сустракаюцца радзей, чымсі параўнаньні-ўпадабленьні, але яны існуюць.**

Вышэй было зазначана, што параўнаньне складаецца наогул з трох элемэнтаў, але пункт параўнаньня ў некаторых відах слоўна адсутнічае і толькі падразумяваецца. Разьмяшчэньне элемэнтаў у параўнаньні можа быць розным. Нормальным, найбольш звычайным зьяўляецца разьмяшчэньне, дзе прадмет (А) стаіць на першым, пункт параўнаньня (В) — на другім і вобраз (С) — на трэцім месцы. Адступленьне ад гэтай нормы ўспрымаецца як інвэрсія. Так, напр., пастаноўка пункту параўнаньня на першым месцы ёсьць яго стылістычнае падкрэсьленьне:

«Вясёлыя, шпаркія, цікавыя, як свавольныя дзеці, згукі музыкі на хвілінку сьціхлі, прыслухоўваючыся: што далей?» *(А. Гарун).*

«Быў чысты, нібы шкло, абшар-прастор нябёс». *(Ясакар).*

З мастацкага пункту погляду асабліва цікавым зьяўляецца такое разьмяшчэньне элемэнтаў, дзе пункт параўнаньня займае апошняе месца (АСВ ці САВ). У гэткага тыпу параўнаньнях пункт погляду, з якога зроблена збліжэньне дзьвёх зьяў, застаецца таямніцай, што раскрываецца толькі ў канцы. Калі ў параўнаньні такога тыпу супастаўленьне дзьвёх зьяў даецца з зусім нечаканага пункту погляду, гэта можа быць сродкам дасьціпнасьці[1]. Прыклад з Генрыка Гэйнэ: пішучы аб аднэй жанчыне, якая быццам лічыла сябе пакрыўджанай ім і паклялася загубіць яго, ён піша: «Такая сьмяртэльная нянавісьць зьяўляецца вельмі прыкрай для мяне, бо гэтая дама вельмі мілая. У ёй вялікае падабенства да Вэнэры Мэдыцэйскай, а менавіта — яна таксама вельмі старая і таксама ня мае зубоў».

Параўнаньні, у якіх пункт збліжэньня даецца ў канцы, асабліва прыгодны для эпіграм. Ён выконвае ў іх ролю так званага пуанту[2]. Прыклад:

К бюсту Николая I.
Оригинал похож на бюст —
Он также холоден и пуст *(А. Пушкін).*

Іронія ў параўнаньні дасягаецца ўжываньнем такіх параўнальных вобразаў, якія прымушаюць зразумець пункт параўнаньня ў сэнсе адваротным названаму. Прыклады іх у прымоўках: «патрэбен, як пятае калясо ў возе», «выйграў, як Заблоцкі на мыдле». Прыклад іранічнага параўнаньня з літаратуры:

Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у валадцы,
Як у мосьце дзірка,
Як з гразі зацірка,
Як скула-балячка *(Я. Колас).*

Зроблены намі морфолёгічны агляд розных пабудоў параўнаньня мае толькі папярэдняе значэньне. Параўнаньне існуе, каб служыць пэўным мэтам. Гэтыя мэты падзяляюцца на агульныя, якія ставяцца ў самых розных відах мовы, і на спэцыяльныя, зьвязаныя менавіта з мастацкай літаратурай, у якой параўнаньне можа выконваць тую ці іншую функцыю, абумоўленую агульнай соцыяльнай накіраванасьцю данага твору. Да гэтых пытаньняў мы цяпер і пяройдзем.

***Працяг будзе***

[1] Дасьціпнай пабудовай параўнаньняў, у якіх ужыты гэты прыём, вызначаецца верш Пушкіна «Туманский прав»... Пушкіну, як вядома, вельмі дакучалі просьбы жанчын пісаць ім вершы ў альбомы. «Трымціць на вуснах эпіграма, а мадрыгалы ім пішы», прызнаваўся ён. У адзначаным вышэй вершы ён далучаецца да параўнаньняў красуньні з вясёлкай, з ружай, з ключом, якія ён, відаць, знайшоў у альбоме ў раней напісаным вершы, прычым пункты параўнаньняў зазначае ў канцы і кожны раз дае іх два — першы мадрыгальны, другі — эпіграматычны.

[2] А. І. Барычэўскі. Поэтыка літаратурных жанраў. Менск 1927, ст. 38—39.

# ЭКСЛІБРЫС СЫРАКОМЛІ

## *Да 190-х угодкаў са дня нараджэння «Вясковага лірніка»*

***Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, несумненна, захоўвае спадчыну беларускага і польскага паэта, драматурга, перакладчыка, літаратурнага крытыка і краязнаўца Уладзіслава Сыракомлі. Прыжыццёвыя выданні і тое, што друкавалася адразу пасля смерці творцы, кнігі з яго аўтографам і суперэкслібрысам прадстаўляе навуковы супрацоўнік аддзела Алена ДЗЕНІСЕНКА.***

Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Францішак Уладзіслаў Кандратовіч) нарадзіўся 29 верасня 1823 года ў фальварку Смольгаў Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер гэта Любанскі раён). Паходзіў са шляхты, з апалячанай беларускай сям'і. У 1840 годзе Кандратовічы перабраліся ў Залуча над Нёманам (цяпер Стаўбцоўскі раён). Там сямнаццацігадовы Людвік уладкаваўся ў Нясвіжы на службу ў канцылярыю кіраўніцтва парадзівілаўскімі маёнткамі. У гэты перыяд былі напісаны першыя творы: «Пісьмо Крышталевіча з Елісейскіх палёў да Раймонда Бараноўскага», «Да паламанай гітары Р.Рамбовіча» і іншыя.

У Нясвіжы адбылася падзея, якая вызначыла далейшы асабісты лёс Кандратовіча. 16 красавіка 1844 года ён узяў шлюб з 16-гадовай Паўлінай Мітрашэўскай. Паэт абаснаваўся ў Залучы і стаў арандатарам. Ён працягваў пісаць вершы, менавіта верш «Паштальён» быў напісаны ў гэты час, яго надрукавалі ў шостым нумары часопіса «Athenaeum» за 1844 год. У ціхім Залучы паэт працаваў многа і плённа. З-пад яго пяра выйшлі гутаркі «Дабрародны Ян Дэмбарог», «Хадыка» і шмат вершаў, сярод якіх «Вясковы лірнік», «Немаўляці», «Прысвячэнне літвінам народных гутарак» і іншыя. Адначасова ён перакладаў творы лацінскіх паэтаў эпохі Рэнесансу, тады ж напісаў «Гісторыю літаратуры Польшчы» (два тамы).

Вядомасць Сыракомлі ў Беларусі і Літве расла з кожнай публікацыяй. Творы яго перапісваліся ў альбомы і завучваліся на памяць. Прыйшло прызнанне ў літаратурных колах Вільні. У верасні 1852-га ён пераехаў туды на сталае жыхарства, бо прабыванне ў Залучы было азмрочана раптоўнай смерцю дачок. Потым паэт перабраўся ў фальварак Барэйкаўшчына, што па дарозе з Ашмян на Вільню. У межах сённяшняй Беларусі Сыракомля пражыў 30 гадоў. Тут акрэсліліся яго творчыя схільнасці, тут ён прасякнуўся глыбокай любасцю да родных мясцін, якая стала асноўным матывам многіх яго твораў.

Уладзіслаў Сыракомля пісаў гавэнды (гутаркі), паэмы, гісторыка-краязнаўчыя нарысы, якія або змяшчаліся ў перыёдыцы, або выходзілі асобнымі кнігамі. Пра яго творчасць напісана параўнальна шмат. Біяграфічна-літаратуразнаўчы нарыс Крашэўскага «Уладзіслаў Сыракомля» выйшаў адразу пасля смерці паэта і паклаў пачатак вывучэнню яго творчага шляху.

Першыя водгукі на творчы даробак паэта з'явіліся ў друку ў 1847 годзе на старонках часопісаў «Atheneum» і «Tygodnik Petersburski». Віленскія крытыкі надзвычай высока ставілі творчасць свайго земляка. Але ж упершыню ў беларускім друку імя Сыракомлі згадваецца на старонках «Нашай нівы» (1908, № 21), дзе быў надрукаваны артыкул, прысвечаны 85-годдзю са дня нараджэння паэта. Таксама ў сувязі з 50-годдзем са дня смерці Сыракомлі «Наша ніва» змясціла артыкул, дзе аўтар звяртае ўвагу чытачоў на беларускую аснову творчасці паэта і яго беларускамоўную паэтычную спадчыну. Аўтар піша: «Кондратовіч пісаў па польску, але дух яго твораў чыста




*Верш-прысвячэнне з аўтографам Сыракомлі ў экзэмпляры першага выдання песні «Lirnik wioskowy».*

мейсцовых, беларускі… Апрача польскіх вершаў, Кондратовіч для нас беларусоў даў ешчэ і творы на чыста беларускай мове. Беларускіе творы Кондратовіча апрача двох-трох кавалачкаў дагэтуль ешчэ не друкаваны. Часць рукапісоў беларускіх твораў Кондратовіча мае п. Коротынскі у Варшаве, і кажуць, бытцым гэтые вершы маніцца выдаць адна з варшаўскіх кнігарэнь… мы ведаем, што Кондратовіч многа пісаў па беларуску і пісаў хораша.» («Наша ніва», 1912, № 36).

Да сталецця ад нараджэння Уладзіслава Сыракомлі прысвечана сціплае выданне з кнігазбору П. Ф. Глебкі, які ўладкаваўся ў мемарыяльным кабінеце паэта, што знаходзіцца на шостым паверсе ЦНБ НАН Беларусі. Гэта непрыкметная брашурка беларускага і расійскага публіцыста, аднаго з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук», Сулімы (Уладзімір Самойла (1878—1941)) «Праф. Зьдзехоўскі аб беларускай душы». Віленскае выданне з Друкарні «Левін і Сын» (1924) змяшчае крытычныя заўвагі на лекцыю вядомага прафесара, польскага літаратуразнаўца Здзяхоўскага Мар'яна (1861—1938), якая была прачытана ў Віленскім універсітэце. Трэба дадаць, што прафесар быў ліберальным кансерватарам, праціўнікам бальшавізму, выступаў супраць права беларусаў на самавызначэнне, за далучэнне ўсіх беларускіх зямель да Польшчы. Разам з тым ён заклікаў надаць усходнеславянскім народам статус нацыянальных меншасцей, быў патрыётам «малой» Айчыны (нарадзіўся ў вёсцы Ракаў Мінскага павета). У 1924 годзе выйшаў яго нарыс «Уладзіслаў Сыракомля: Літоўска-беларускі элемент у польскай творчасці». Здзяхоўскі сцвярджае, што галоўны пафас беларускай душы паэта ў яго «пачуцці прыроды», быццам і паэт пазнаваў наднёманскія сенажаці па іх паху, а дрэвы — па шуму лістоў… «Паэзія Сыракомлі становіць духоўную граніцу паміж Літвой (Беларусьсю) і Каронай (Польшчай)», — так лічыць польскі літаратуразнаўца. Пра такіх,


NASZA NIWA

WŁADYSŁAU SYROKOMLA.

Ab usiom pa trochu.

Hutarki ab haspadarcy.

*Упершыню ў беларускім друку імя Сыракомлі згадваецца на старонках «Нашай нівы» (1908, № 1).*

як Сыракомля, кажуць: «Ад сваіх адстаў, але да чужых ня прыстаў». Але ж гэта індывідуальная думка аўтара, з якой можна і не згаджацца.

У польскім, рускім і літоўскім друку Сыракомлю называюць «літоўскім лірнікам», «літоўскім паэтам», «песняром Літвы». У XIX стагоддзі паняцце «Літва» суадносілася з колішнім Вялікім Княствам Літоўскім, гэта значыць, і з этнаграфічнай Літвой, і з Беларуссю. «Літоўскімі» называліся Віленская, Гродзенская, Мінская губерні, а Віцебская і Магілёўская — «Белай Руссю». Гаворачы пра Літву як сваю радзіму, паэт меў на ўвазе менавіта беларускія землі. Літва Сыракомлі — гэта перш за ўсё беларускае Палессе з вёскай Смольгаў, дзе нарадзіўся паэт, гэта Капыльшчына, Нясвіжчына, Стаўбцоўшчына, дзе прайшла асноўная частка яго жыцця. Пераезд з ціхага прынёманскага фальварка Залуча ў Вільню, а затым у суседні з ёю фальварак Барэйкаўшчына паскорыў напісанне яго краязнаўчых прац. Як сцвярджае даследчык творчасці паэта У. Мархель, твораў, тэматычна звязаных з этнаграфічнай Літвой, у яго вельмі мала. Перш за ўсё гэта паэма «Маргер», якая расказвае пра барацьбу літоўскага народа з крыжакамі ў першай палове XIV стагоддзя. У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваюцца тры экзэмпляры, з іх адно прыжыццёвае — 1855 года, выдадзенае ў Вільні, пазнейшае выйшла з друку ў Варшаве ў 1903 годзе. На паданні, узятым з гэтай жа працы, заснаваў паэт і сваю «аповесць з літоўскай гісторыі» «Дачка Пястаў». У бібліятэцы захоўваецца выданне, якое выйшла ў віленскай друкарні Ю. Завадскага ў 1855 годзе накладам Р. Рафаловіча. У кнізе змешчаны музычны твор польскага кампазітара, сябра паэта, Станіслава Манюшкі «Паходная песня ліцвінаў» на словы Сыракомлі. Гэты твор — адзін з варыянтаў арыгінальнай старадаўняй песні, які пераносіць нас у далёкія часы. Весела шуміць лес, ліцвіны выступілі ў паход, спяваюць бадзёрую песню пра свае подзвігі. Заўтра будзе бой. Каб толькі коні не падвялі і стаялі смела! У добры час…

Сярод іншых твораў Уладзіслава Сыракомлі, да якіх пісалася музыка Станіслава Манюшкі (каля дваццаці песень), у біблія-

тэцы ёсць экзэмпляр першага выдання песні «Lirnik wioskowy» на верш «Вясковы лірнік», выдадзены накладам Ю. Завадскага ў Вільні ў сярэдзіне XIX стагоддзя. На адвароце тытульнага ліста напісаны верш-прысвячэнне з аўтографам Сыракомлі. Дванаццацірадковы верш паэт напісаў, на думку даследчыка Мархеля, экспромтам у час адной з літаратурна-музычных вечарын. На гэта паказваюць адна папраўка і непасрэднасць зместу твора. Верш адрасаваны аднаму з прысутных на вечарыне — «добраму Фаустыну» з просьбай прыняць падарунак ад прыхільнікаў ягонага таленту і памятаць пра сваё прызванне — іграць на віяланчэлі. Гэты твор змешчаны ў сёмым томе збору паэзіі Сыракомлі (1872) як прысвячэнне Фаустыну Лапатынскаму. Пад вершам-прысвячэннем, напісаным рукой паэта, услед за Сыракомлем падпісаліся Баляслаў Навінскі (акцёр Віленскага тэатра), Мікалай Акялевіч (вядомы літоўскі пісьменнік), Эміль Дэрынг (акцёр Віленскага тэатра) і іншыя. Калектыўны подпіс пад вершам Сыракомлі ў зборніку замыкае Паўліна Кандратовіч, жонка паэта.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваецца яшчэ адзін нотны запіс з песнямі і баладамі на словы Сыракомлі. Гэта нотны зборнік сялянскіх песенек пад адзінай назвай «Nad Nidą» («Над Нідай») з віленскай друкарні Завадскага. Прыжыццёвае выданне Станіслава Манюшкі, якое змяшчае песні і балады на словы Сыракомлі, Вольскага, Чачота. У зборніку музычныя творы на тэксты вершаў Сыракомлі «Каласок», «Песня войта», «Перапёлка», «Вечаровая».

На музыку Манюшкі паэт напісаў лібрэта да оперы «Вешчы сон» (у трох актах). У бібліятэцы захоўваецца віленскае выданне 1854 года з друкарні Завадскага, у якое, апрача лібрэта, увайшла прадмова Сыракомлі.

Тэма Літвы «гучыць» і ў гістарычна-краязнаўчых працах — «Экскурсіі па Літве вакол Вільні» (1857), «Манаграфія ракі Нёмана ад вытокаў да Коўна» (1861); драме пра абарону Ольштына «Каспар Карлінскі» (1858). Экзэмпляр «Каспара Карлінскага» (Вільна, 1858) з дарчым надпісам на авантытуле. Кніга падаравана рэдактарам гэтага выдання Паўліне Кандратовіч, жонцы паэта.

«Манаграфія ракі Нёмана ад вытокаў да Коўна» была апублікавана ў кнізе «Нёман ад вытокаў да вусця» (Вільна, 1861). У кнізе змешчаны звесткі па гісторыі, геаграфіі, «этнаграфіі наднёманскага народа». Напрыклад, аўтар распавядае пра тагачасны гандаль, пра асаблівасці быту прынёманскіх гарадоў, мястэчак і вёсак, такіх як Даўгінавічы, Кручкі, Пясочнае, Стоўбцы, Залуча, Масты, Гродна і іншыя.

Уладзіслаў Сыракомля часта падарожнічаў як па этнаграфічнай Літве, так і па беларускіх мясцовасцях. Вынікам гэтых экскурсій з’явілася кніга дарожных нарысаў «Экскурсіі па Літве ў радыусе ад Вільні» у 2-х тамах, першы з якіх выйшаў у 1857-м, другі — у 1860-м. У кнізе аўтар скрупулёзна апісвае помнікі гісторыі і культуры, якія сустракаліся яму ў дарозе, асаблівасці быту, мовы, культуры ў той ці іншай мясцовасці. Для беларускай этнаграфіі маюць цікавасць пададзеныя ў кнізе звесткі пра міграцыі і склад насельніцтва на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, сведчанні пра сучасны на той момант быт сялян і гараджан на беларуска-літоўскім пагранічччы, што знайшло сваё адлюстраванне асабліва ў раздзеле «Дарога з Вільні да Ашмян». Праўда, каштоўнасць кнігі, на думку даследчыка творчасці пісьменніка К. Цвіркі, зніжаецца тым, што быт і культура літоўцаў паказана вельмі павярхоўна. Прычынай гэтага, як неаднаразова прызнаецца аўтар, было тое, што ён не ведаў літоўскай мовы і не мог размаўляць з літоўскім насельніцтвам.

Пачынаючы з 1856 года Сыракомля некалькі разоў наведваў Польшчу, знаёміўся з Варшавай, Вроцлавам, Кракавам, Познанню. У выніку гэтага ў друку з’явіліся вершаваныя ўражанні пра падарожжы і празаічныя нататкі, якія разам са знойдзенымі рукапісамі былі выдадзены У. Каратынскім у 1914 годзе ў Варшаве асобнай кнігай пад назвай «Падарожжа сваяка па сваяцкай зямлі». Тут аўтар увесь час параўноўвае асаблівасці быту палякаў з бытам беларусаў і часткова літоўцаў. У раздзеле «Розніца паміж Каронай і Літвой» ён гаворыць, што «тут, на польскім баку Нёмана, усё не такое, як у нас…». У ЦНБ НАН Беларусі ёсць два экзэмпляры гэтага выдання з экслібрысамі




*Паэтычныя зборнікі Сыракомлі.*

Мікалая Біржышкі (1882—1962) і Міхаіла Брэнштэйна (1874—1938), археолага, гісторыка літоўскай культуры.

Свае матэрыялы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі Сыракомля змяшчаў і ў перыядычных выданнях. У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца віленскі часопіс «Teka Wileńska» (1857, № 1, 2), у якім надрукавана яго манаграфія, прысвечаная гісторыі горада Мінска. Над гэтым творам паэт працаваў працяглы час, прынамсі з 1853-га да 1859-га. У «Teke Wileńskiej» друкавалася толькі адна частка апісання Мінска (паводле сведчання жонкі паэта Паўліны Кандратовіч). Другая частка засталася ў рукапісным варыянце. У першай частцы пад назвай «Агульны погляд на сучасны стан Мінска» аўтар апісвае асобныя мясціны горада (каштоўныя, напрыклад, апісанні мінскіх касцёлаў і цэркваў, іх інтэр'ераў і асабліва карцін, якія там захоўваліся), падае звесткі пра гандаль, стан асветы, заняткі жыхароў горада, пра медыцынскае абслугоўванне і тое, як адпачывалі мінчане болей чым сто гадоў таму. Найбольшую цікавасць мае адзін з раздзелаў: «Даследаванне над даўнімі крывічамі», дзе аўтар падае арыгінальную інтэрпрэтацыю міфалогіі, звычаяў, побыту продкаў беларусаў. Свае вывады даследчык рабіў на аснове ўласнага назірання і даследавання вераванняў, паданняў, песень, звычаяў і абрадаў («Каляды», «Купалле», «Дзяды», «Дажынкі») беларускага народа.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваецца дзесяцітомнае выданне (Варшава, 1872), у якім надрукаваны вершаваныя творы паэта. Прынамсі, чацвёрты том «Паэзіі Людвіка Кандратовіча» пачынаецца з паэмы «Стэла Фарнарына» (1859) — пра светлае каханне Рафаэля да дачкі рымскага пекара Стэлы, якая натхніла мастака на стварэнне славутай «Сікстынскай мадонны». Гэта адзіны твор Уладзіслава Сыракомлі, які быў надрукаваны ў Мінску. У зборніку таксама змешчаны лібрэта да оперы «Маргер» (1853), драматычны твор «Хатка ў лесе» (1855), верш «Ілюмінацыя» (1856), адзін з найбольш яскравых, якога баяліся царскія цэнзары. Дарэчы, гэты верш пераклаў на рускую мову Васіль Быкаў.

По правененцыям, якія ёсць амаль што ў кожнай кнізе гэтага дзесяцітомнага выдання, можна згадаць, каму яны належалі. Напрыклад, у чацвёртым і сёмым тамах на форзацы выдання прыклеены герба-

вы экслібрыс Міхаіла Станіслава Корвін-Касакоўскага (1883—1962), графа, уладальніка маёнтка Нідока ў Ковенскай гіберні. А на тытульным аркушы восьмага тома ўладальніцкі штамп кнігазбору ксёндза Юстына Сямашкі. Прысутнічаюць таксама штампы бібліятэк: Азербайджанскай Цэнтральнай Дзяржаўнай Бібліятэкі, Бібліятэкі Дому Польскага ў Баку, Бібліятэкі польскай гімназіі ў Коўне, Бібліятэкі «Seminarii Samogitiensis» і іншых.

У ЦНБ НАН Беларусі захоўваюцца два экзэмпляры першага тома пасмяротнага двухтомнага выдання 1879 года выбраных вершаў Сыракомлі, у перакладах на рускую мову Д. Мінаева, Л. Пальміна, М. Пятроўскага, Л. Меема, П. Вейнберга. Зборнік вершаў выйшаў у друкарні Маскоўскага ўніверсітэта. Гэты зборнік — прысвячэнне Сяргею Юр'еву (1821—1888), вядомаму рускаму літаратурнаму дзеячу XIX стагоддзя. Тэматыка вершаў цесна звязана з беларускім народным побытам. У зборнік увайшлі паэмы Сыракомлі, сярод якіх «Дабрародны Ян Дэмбарог». Творчасць Сыракомлі не надта шчодрая на пейзажныя замалёўкі. Больш таго, узнаўляючы карціны роднай прыроды, ён скупіўся на выяўленчыя сродкі. Паэт далёкі ад яе ўсхвалення, але ганарыцца адвечнай прастатой сваёй зямлі. Пераканацца ў гэтым дапаможа ўрывак з паэмы «Дабрародны Ян Дэмбарог»:

Святая Літва мая, краю мой родны,
Пустэчай пяскоў, дзірванамі ты плодны!
Не кінецца воку глухмень твая надта,
Не тое ў табе, што на поўдні прынадным…
Твой выгляд панурай акрасай напоўнен,
Малюнкаў цябе не пакажаш на поўдні…
(Пераклад У. Мархеля)

У бібліятэцы захоўваецца некалькі выданняў паэмы «Дабрародны Ян Дэмбарог», самае ранняе было надрукавана на польскай мове ў Пецярбургу ў 1852 годзе. Апрача яго, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў захоўвае яшчэ восем выданняў, якія выйшлі ў Варшаве, Лодзі, Кракаве, Вільні і Львове. Самае позняе друкавалася ў віленскай тыпаграфіі «Зніч» у 1928 годзе. Кніга аздоблена дзевяццю гравюрамі з малюнкамі вядомага мастака Міхала Эльвіра Андрыёлі.

З твораў, напісаных паэтам на беларускай мове, наша літаратура атрымала ў спадчыну ўсяго два вершы: «Добрыя весці» (1848) і «Ужо птушкі пяюць усюды…» (1861). Верш «Добрыя весці» быў апублікаваны яшчэ пры жыцці аўтара ананімна ў другім выданні брашуры «Гутарка старога дзеда» (1862). Верш «Ужо птушкі пяюць усюды…» ўпершыню быў апублікаваны ў 1912 годзе пад назвай «Беларускі верш» і з заўвагай «Вільня, 1861 г.» у перыядычным выданні «Kurjer Litewski».

Творчасць Сыракомлі вельмі высока ацэньваў Максім Багдановіч. У сваім артыкуле «Белорусское возрождение» (1914) ён зазначыў, што гэты «багата адораны "краёвы" паэт», які праславіўся сваімі польскамоўнымі творамі, шмат пісаў і па-беларуску, «але не мог замацаваць у друку гэты апошні бок сваёй творчасці (за выключэннем рэвалюцыйнага верша "Заходзіць сонца")». Максім Багдановіч зазначаў, што беларускія рукапісы Сыракомлі «дасюль чакаюць свайго выдаўца». У тым жа 1914-м сын беларускага пісьменніка і перакладчыка В. Каратынскага (у 1850—1862 гадах быў сакратаром Сыракомлі) Уладзіслаў здаў у набор двухтомнік неапублікаваных раней твораў паэта. Кніга так і не выйшла, і, паводле агульнапрынятай версіі, рукапісы Сыракомлі, якія захоўваліся ў Каратынскіх, загінулі падчас Варшаўскага паўстання 1944 года.

Трэба сказаць яшчэ пра адно выданне, якое мае самае непасрэднае дачыненне да Уладзіслава Сыракомлі, хоць гэта і не яго твор. На паліцы кнігасховішча аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі стаіць сціплая тоненькая кніжка камедый Аляксандра Варановіча, выдадзеная ў Вільні ў 1857 годзе. Сёння гэта рарытэт, які захоўвае памяць пра Уладзіслава Сыракомлю. Гэта выданне з яго кнігазбору, на вокладцы якога выціснуты суперэкслібрыс «Władysław Syrokomla». У кнізе захаваўся дарчы надпіс аўтара. Пра яго кнігазбор многа пісалі вядомыя даследчыкі, у тым ліку А. Мальдзіс, Г. Кісялёў, У. Мархель, К. Цвірка. У. Мархель сцвярджае, што ў кнігазборы сустракаліся кнігі з суперэкслібрысам. Нашай бібліятэцы пашанцавала, таму што адна з іх трапіла да нас.

# ПАСЯДЖЭННЕ НУМАР СЕМ




***Прывітанне, студэнт. Чаму сядзіш такі пануры, нос на квінту павесіўшы, як казаў Андрэй Лабановіч? Разумею: сесія на носе, і зусім не радуюць цябе калядкі, блінцы ды аладкі, каўбаскі ды шынкі, ламанцы ды разынкі, скокі жвавай казы і падарункі Дзеда Мароза, па-наску Зюзі.***

***А ўся прычына ў тым, што даўно вы, вучаная публіка, не наведвалі клуб студэнцкага гумару. А ён разнасцежвае свае дзверы для вас, у пярэдадзень Каляд (Віват!), Новага году (Віват! Віват!!!) і зімовай сесіі (тры сціплыя віваты!..).***

***Не сумуйце, студэнты! Усмешка, што застанецца на вашых вуснах па наведванні «Трэцяга семестра», адыграе сваю ролю і ў адвечным узаемапаляванні прафесара і студэнта…***

### ЧАЦВЁРТАЕ ПАДАРОЖЖА Ў ХХ СТАГОДДЗЕ

*І вось жа мы даўно з табою ўмовіліся, мой юны сябра, што альтэрнатыўную гісторыю нашай літаратуры складаеш ты — сваімі выказваннямі на семінарах, заліках, іспытах. Я ж выконваю сціплую ролю канстататара. І так, у творчым тандэме дабраліся мы да канца былога стагоддзя ды і такую стварылі гісторыю, што невядома што рабіць: смяяцца над ёю ці плакаць.*

☺ Андрэй Макаёнак напісаў вельмі актуальную і сёння п’есу, якая называецца «*Загроханы* апостал».

☺ Цярэшка Калабок больш хітраваты за сваю жонку. Яна ў яго простая.

☺ Герояў паэмы Аркадзя Куляшова «Цунамі» ўвесь час пераследуюць прадукты чалавечай жыццядзейнасці.

☺ Пімен Панчанка напісаў паэму *«Гады»*.

☺ У творы Янкі Брыля праводзіцца глыбокая думка, што птушак цягне да свайго гнязда, а людзей — да сваіх дамоў. Адсюль можна зрабіць вывад, што людзі — не птушкі.

☺ Янка Брыль напісаў цэлую кнігу пра вясковых жартаўнікоў, падманшчыкаў і жулікаў, а называецца яна «Ніжнія *Бадуны*».

☺ «Пісьменнік Іван Шамякін нарадзіўся ў сяле Карма.

☺ Іван Шамякін напісаў раман «Злая *жонка*».

### ☺ БІЛЕТ НУМАР ТРЫНАЦЦАЦЬ

*Гэты павучальны выпадак адбыўся не на заліку, а пасля яго, калі я, стаміўшыся ад студэнцкіх разваг пра беларускую літаратуру ХХ стагоддзя, прыйшоў адразу ў Дом літаратара на пісьменніцкі з’езд.*

**«Нарабіў людзям клопату…»**

Да пачатку з’езда я не паспеў, але ў кулуарах напаткаў самога Івана Брыля. Ён, цікаўны да кожнай творчай асобы, у свой час прачытаў маю першую кніжку, пахваліў і даў рэкамендацыю ў СП. І на гэты раз завязаў гутарку:

— Якія навіны, Пятро? Як там твае студэнты?

— Добра студэнты, — адказваю я. — Сёння залік прымаў.

— Якія ж вынікі?

— Нічога. Але дваіх адправіў дахаты.

— Завошта?

— Ды Брыля не прачыталі, «Ніжнія Байдуны».

— О-хо-хо, — засмуціўся пісьменнік, — нарабіў людзям клопату.

Такі вось ён быў, разумны і добры. А не прачытаўшы «Ніжнія Байдуны» ўсё адно на залік лепш не прыходзіць!

### ☺ ПОКАЗКІ СТАРЭНЬКАГА ПРАХВЕСАРА

**Самы першы мужчына**

Экзамен па рэлігіязнаўстве. Здае блакітнавокая і даўganогая бландынка, прымае прафесар, неабыякавы да белагаловых. І хоць студэнтка, што называецца, ані ў зуб нагою і блытае Абрагама з Майсеем, выкладчык не схільны паставіць такой красуні нездавальняючую адзнаку. Таму ён пачынае яе ратаваць.

— Дзяўчына, — кажа ён, — я вам самае што ні на ёсць лёгкае пытанне задам, толькі вы ўжо, зрабіце ласку, на яго адкажыце. Згода?

— Пастараюся, — кажа студэнтка.

— Дык як звалі першага мужчыну?

Дзяўчына апускае вочкі, пунсавее і адказвае:

— Яго звалі Ігарок…

# Змест часопіса «Маладосць» за 2013 год

## КЛУБ РЭДАКТАРАЎ



## АД РЭДАКЦЫІ



## АПЫТАНКА



## ЖЫРОВІЦКІ ДЫЯРЫУШ



## COSMOpoLITan-exPRESS



## КУХНЯ МАШЫ ДУБРОЎСКАЙ



## АД РУКІ

## ПАЭЗІЯ

## ПРОЗА

## ДА ЮБІЛЕЮ ЧАСОПІСА



## KATHEDRA



## АГЛЯД



## АБСТАВІНЫ МЕСЦА І ЧАСУ



## ГІСТОРЫЯ І ПОСТАЦІ



## РЭЦЭНЗІЯ



## УСПАМІНЫ



## ПАДЗЕЯ

## ПАЛЕМІКА



## З НАГОДЫ



## ПРАЛОГ



## БІБЛІЯГРАФІЯ



## ЭСЭ



## РЭПАРТАЖ



## З ВАНДРОЎКІ



## РАЗВАЖАННІ



## КАМПЕТЭНТНА



## АСАБІСТАЕ



## ПІСЬМЕННЫЯ ЛЮДЗІ



## ЖЫЦЦЁВАЕ

***Падрыхтавала да друку Кацярына ГОЛУБ***

# Змест часопіса «Бярозка» за 2013 год

## БЯРОЗКА № 4/2013 (1019)

*Верасок*. Супраць ветру. **Уладзіслаў КАЛЕСНІКАЎ**.
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Расціслаў КОЛБ**. Казка-апавяданне пра хлопчыка Зміцера. **Аляксандра УТЛІК.** Тата, мама, я і кніга.
**Любоў МЕЙСАК**. Калі спыніўся час.
**Святлана СМЫК**. Родная мова — лепшая спадчына.
**Вераніка ГАМЗЮКОВА**. Дзякуй за цяпло ў кватэрах!
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Барадаты, музычны, без узросту.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**. «Re1ikt» і яго пост-металкрыніцы.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

## БЯРОЗКА № 5/2013 (1020)

*Верасок*. Еўрапейскіх прастораў аздоба... **Віялета ГАРДЗЕЙЧЫК**, **Аляксандра БОНДАР, Ганна ТКАЧЭНКА, Анастасія КАЗАК, Юлія ПАРФЕНЦАВА, Анастасія АЎЧЫННІКАВА.**
**Ягор ЛОБАЧ**. Мы помнім вас, дзеці вайны!
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Лізавета ГАТАТУЛІНА**. І забаўляльная, і інтэлектуальная кніга. **Кацярына СІДСКАЯ.** Кнігі — сябры.
**Паліна БУЧЭЛЬ**. Шэдэўральнае анімэ ад Хаяо Міядзакі.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

## БЯРОЗКА № 6/2013 (1021)

**Дзяніс ВАЛЯНСКІ**. Чалавек і ўніверсітэт.
**Андрэй ГОЛУБ**. Захапляльна дасціпныя сюжэты.
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**. Блаславёная зменлівасць Каці.
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Таццяна САФРОНАВА**. «Калабок», Остэр, Чэхаў — неўміручыя хіты. **Марына АСТРАВЕЦКАЯ.** Раней кнігі ўпрыгожвалі каштоўнымі камянямі... **Мікіта СТЕШЫЦ.** Я з кнігай па жыцці іду ў нагу.
**Настасся СКРЫЦКАЯ**. Пра маё першае каханне.
**Таццяна КАРПЕКА**. Што там, за сімпатычнымі дзверцамі?
**Вераніка ГАМЗЮКОВА**. Пакуты вулічнага дварняка.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**. «Мумий Тролль» заспяваў па-беларуску.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

## БЯРОЗКА № 7/2013 (1022)

**Вераніка СОНІЧ.** «Дарогі становяцца вузейшымі, калі мы вырастаем…»
**Ганна ШЫБУТ.** Самы добры ў свеце тата.
**Кацярына ЛЯСУН.** Яе чарговы дзень народзінаў.
**Ганна КАЛІНОЎСКАЯ.** Тутэйшая ідэнтычнасць.
**Святлана СМЫК.** Спявалі ля вогнішча піянерскія песні...
**Ян МЯЛЬНІЦКІ.** Цудадзейнасць гістарычнай мастацкай мапы.
**Юлія СТРЫГА.** «Зрабі гучней!»
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

## БЯРОЗКА № 8/2013 (1023)

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** «Зубронак»!!!
**Анастасія ХУРСЕВІЧ.** У цябе ўсё атрымаецца.
**Аліна ЛІТВІНЕНКА.** Шпацыр з філасофскім настроем.
**Кацярына ЛЯСУН.** Мой улюбёны Дзядзя Сцёпа. Яго трагедыя.
**Паліна БУЧЭЛЬ.** Шчаслівая пятніца.

**БЯРОЗКА № 9/2013 (1024)**



**БЯРОЗКА № 10/2013 (1025)**



**БЯРОЗКА № 11/2013 (1026)**



**БЯРОЗКА № 12/2013 (1027)**



***Падрыхтаваў да друку Генадзь АЎЛАСЕНКЛА***

# Бярозка

№ 12/2013(1027)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





● **Верасок**

# Хай зіма да нас прыходзіць, хай падорыць людзям смех...

***Вядомы беларускі пісьменнік Мікола Чарняўскі не толькі шмат піша для дзяцей. Ён яшчэ і дапамагае юным талентам у іх творчых пошуках, спецыяльна стварыўшы для гэтага літаратурную суполку «Купалінка», якая аб'ядноўвае літаратурныя гурткі многіх школ Мінскага раёна.***

***На старонках «Бярозкі» (№ 2 за 2010 г.) ужо апавядалася пра суполку «Купалінка», там жа, у «Вераску», была надрукавана вялікая падборка вершаў гуртkoўцаў. Але час прайшоў, і мы рады вітаць новых юных творцаў з «Купалінкі».***

## Вальс восені

*(Трыялет)*

Каляровым вальсам восень
Басанож плыве над намі.
Вабіць жоўтымі лістамі
Каляровым вальсам восень.
Зачаруе восень снамі,
Шлях засцеле туманамі...
Каляровым вальсам восень
Басанож плыве над намі...

*Паліна ЕЎЛАШЭЎСКАЯ,*
*Ждановіцкая СШ*

## Восеньскі сум

Бярозка апошні лісточак трымае,
На волю яго адпускаць не жадае.
Шкада ёй расстацца з уборам сваім...
Мы з сумам на золата гэта глядзім...

Хацела б бярозка і ўзімку прыгожай
У лесе стаяць. Ды вось толькі не можа:
Лісточкі з бярозкі ляцяць і ляцяць
На дол, на сцяжынку, на чорную гаць.
Хацела б пабегчы туды, дзе вясна.
Не пусціць карэнне...
Сумуе яна...

***Аляксандра НОВІК,***
***Ждановіцкая СШ***



## Чакаю снег

Хай зіма да нас прыходзіць,
Хай падорыць людзям смех!
Хай мароз нас карагодзіць,
Абуджае санак бег.
Я каляднага настрою
Так чакаю — не магу,
Лыжы шпаркія настрою
І па хатах пабягу.
Панясу вітанне ў хаты:
«Добры дзень, Пан-гаспадар!»
І дадому я багаты
Прынясу, напэўна, дар.
Будуць у мяху цукеркі...
Толькі б лёг на поле снег —
На плячах, без санак, цяжка
Прыцягнуць мне будзе мех!

***Вікторыя МЫСЛІЦКАЯ,***
***Самахвалавіцкая СШ***

## Надыход зімы

Самотна сяджу ля аконца.
Знадворку, за шклом — снегавей.
Зіме не хапае сонца
Для птушак і для людзей.
Трасе завіруха хмары:
Нічога вакол не відаць.
На вуліцы, на тратуары
Сняжынкі ляцяць і ляцяць.





І ў гэтым завейным танцы
Сцяжынак, шляхоў не відно...

І як не згубіцца ў казцы —
Зіме вядома адной.

***Кацярына ВАЙЦЯХОВІЧ,***
***Самахвалавіцкая СШ***

## Месяц

Зоркі расплюшчылі вочкі,
Цемра паўзе па сцяне.
Месяц вітаецца з ночкай,
Хітра падміргвае мне.

Гляне таемна мне ў вочы,
У сэрца маё зазірне...
Месяц да жартаў ахвочы...
Ох, зачаруе мяне!

***Дар'я САЛАНІНКА,***
***Ждановіцкая СШ***

● **Погляд**



# Як добра, што ўсе мы розныя!

Чалавек — не проста істота. Перш за ўсё, ён мае розум. Чалавек — гэта асоба. Кожны з нас мае свой характар, асаблівыя рысы і якасці, выглядае і паводзіць сябе па-рознаму.

Сярод людзей існуе меркаванне, што «супрацьлегласці прыцягваюцца». «Гэта як плюс і мінус», — кажуць яны. Сапраўды, вельмі часта супрацьлеглыя асобы ўмеюць знаходзіць агульную мову. Да прыкладу, я і мая лепшая сяброўка Надзя. Я цёмнавалосая і гаваркая дзяўчына, яна бландынка з блакітнымі вачыма, якая любіць разважаць пра сэнс жыцця. Калі я «генератар вар'яцкіх ідэй», яна вучыць мяне цярпенню і разважлівасці.

Ды і ўсе мае сябры розныя. Міша — сціплы хлопец, які грае на гітары і любіць глядзець прыгодніцкія баевікі. Ксюша не можа прайсці міма бяздомнага кацяняці. Ягор ні дня не абыходзіцца без свайго велабайка. У кожнага з нас свой характар і свае захапленні, але разам нам вельмі добра і весела.

Нават вонкавае падабенства яшчэ не гаворыць пра тое, што людзі аднолькавыя ўнутры. Узяць хаця б блізнят. Выглядаюць яны як дзве кроплі вады, але характары ў іх часта кардынальна адрозніваюцца. Адзін з дзяцей у маленстве крыклівы, другі — спакойны. Так і ў далейшым жыцці: хтосьці з іх стане інжынерам, а хтосьці — пісьменнікам. У маёй сям'і ёсць таму доказ: маміны сёстры — блізняты Вольга і Ліля. Першая — вельмі акуратная і спакойная, другая — таварыская і крышку забіяцкая.

У той жа час у школе настаўнікі прымушаюць нас насіць форму, у якой усе вучні выглядаюць аднастайна. Мне здаецца, з-за гэтага мы губляем сваю індывідуальнасць. А тут яшчэ бацькі...

— Аня абрала на выпускны бальную сукенку, і табе такую абавязкова трэба купіць, — кажа мне маці.

— Але мне бальная сукенка, ды яшчэ з гарсэтам, зусім не падабаецца! — спрабую выказаць сваё меркаванне, але безвынікова.

Задумайцеся, калі б мы ўсе былі аднолькавыя — аднолькава прыгожыя, разумныя, апранутыя — нам проста стала б сумна. Свет быў бы падобны да велізарнай цацачнай крамы.

Але ж мы не цацкі. Мы жывыя людзі. Мы адчуваем і дзейнічаем! Мне здаецца, трэба заставацца сабой, і гэтым ты ўжо будзеш адрознівацца ад астатніх. У грамадстве, у якім выказваюцца сотні тысяч розных думак і ідэй, жыць значна цікавей. Таму вельмі добра, што ўсе мы розныя!

*Аліна ЛІТВІНЕНКА,*
*школа журналістыкі «Маладзік»*

## Фарс пад назвай «сяброўства»

Думаю, у кожнага ёсць чалавек, якому можна даверыць свае сакрэты, расказаць пра планы або жаданні, падзяліцца радасцю альбо сумнай навіной. Напэўна, у кожнага ў памяці ўсплыве нейкае імя. Імя таго, хто падтрымае, не кіне, выслухае і дасць параду.

Магчыма, для кагосьці самымі блізкімі сябрамі з'яўляюцца бацькі, але часцей за ўсё — гэта аднагодкі, якія перажываюць тыя ж праблемы.

Сяброўства... Здаецца, звычайнае слова, але колькі ў ім сэнсу. На мой погляд, пры добрых узаемаадносінах кожны ўносіць у сяброўства павагу і разуменне. Без гэтага яно проста несапраўднае. Менавіта такое сяброўства я яшчэ зусім нядаўна называла верным, мяркуючы, што яно будзе доўжыцца заўсёды.

На працягу многіх гадоў усе тыя, з кім я вучылася ў школе, заставаліся для мяне толькі аднакласнікамі. А ў 8 класе пачала сябраваць з адной дзяўчынкай. Віка была даволі мілая, усмешлівая, здавалася вельмі шчырай. На той момант я была выдатніцай, а вось яна вялікай цягі да вучобы не мела. Сышліся мы на тым, што я буду ёй дапамагаць у гэтым. Новая сяброўка вельмі ўзрадавалася маёй прапанове, хутка мы зразумелі, што з задавальненнем праводзім час разам. Гулялі па горадзе, глядзелі фільмы, смяяліся, дзяліліся навінамі, размаўлялі вечарамі па тэлефоне. Усё было добра, пакуль Віка не перайшла ў іншую школу.

Стала заўважаць, што мая сяброўка мяне пазбягае. Калі я ёй тэлефанавала з прапановай пайсці пагуляць, яна адмаўлялася, казала, што вельмі занятая. А ў тэлефоннай трубцы чуўся смех новых сяброў, з якімі яна праводзіла час. Мае стаpанні зблізіцца з яе кампаніяй ні да чаго не прывялі. Віка крыўдзілася на ўсялякія дробязі. Калі мы сварыліся, першыя крокі да прымірэння заўсёды рабіла я. У час рэдкіх сустрэч сяброўка была побач, але думкамі дзесьці далёка. Да таго ж за спінай прыніжала мяне, высмейвала, распавядала мае таямніцы па сакрэце ўсяму свету.

У хуткім часе мне ўсё гэта надакучыла. Усведамленне, што Віка сябравала са мной толькі з карысці, прымусіла мяне спыніць фарс пад назвай «сяброўства». Канчатковай кропкай разрыву стаў дзень майго нараджэння, на які яна не прыйшла і не змагла патлумачыць прычыну сваёй адсутнасці.

На дадзены момант я шчаслівая, бо маю чатырох сапраўдных сяброўак, якія заўсёды дапамогуць і падтрымаюць. Не шкадую пра тое, што са мной адбылося, бо гэты выпадак зрабіў мацнейшай. Як кажуць, што ні робіцца — усё да лепшага.

*Серафіма ЖУКОЎСКАЯ,*
*школа журналістыкі «Маладзік»*

***А вы як лічыце? Ці згодныя з меркаваннямі Аліны і Серафімы? Ці, можа, у вас ёсць што ім запярэчыць?***

***Калі пажадаеце выказацца на гэтыя і іншыя тэмы, напішыце нам. Артыкул на адну-дзве старонкі ці ўсяго некалькі радкоў...***

***«Бярозка» чакае вашых лістоў!***

● **Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***

## Цуд у Новы год



Жыў-быў у адной сям'і кот, дакладней, зусім яшчэ невялікае кацяня. Звалі яго Чарныш, яго вельмі любіла дачка гаспадароў Каця. І ён яе таксама вельмі любіў...

Аднойчы, напярэдадні Новага года, калі ўсе людзі рыхтаваліся да свята, з Чарнышом адбылася неверагодная, казачная гісторыя.

У сям'і, дзе жыў Чарныш, з самай раніцы ўпрыгожвалі хату, запакоўвалі падарункі, рыхтавалі святочную вячэру, прыбіралі ёлку. Навагодняя ёлка была апранута ў дзіўны ўбор з рознакаляровых шарыкаў, шышак, цацак. І вось, калі прыемныя клопаты былі скончаны, усе члены сям'і адправіліся ў свае пакоі, каб апрануць святочнае адзенне. А Чарныш застаўся адзін...

І тут кацяняці не спадабалася, як вісела на ёлцы адна срэбная шышачка... Ды так не спадабалася, што ён вырашыў крыху паправіць гэтае ўпрыгожанне. Заскочыў на ёлку, а яна вазьмі ды і паваліся.

На шум і грукат прыбеглі бацькі Каці і не паверылі сваім вачам. Перад імі было такое відовішча: ёлка на падлозе, амаль усе цацкі разбіты, і Чарныш сядзіць сярод калючых яловых лапак і вінавата на іх пазірае.

Маці не вытрымала і закрычала: «Што гэта такое?! Хутка яго на вуліцу, і каб больш я гэтага ката ў нашай хаце не бачыла!» І так разышлася, што, нягледзячы на ўсе просьбы Каці, Чарныша выкінулі на вуліцу.

Небарака зусім гэтага не чакаў. Адзін, на холадзе, ды яшчэ і ў навагоднюю ноч, калі ўсе вакол весяляцца! Сумна пабрыў ён уздоўж вуліцы і хутка сустрэў двух такіх жа беспрытульных кацянят. Гэта былі браты Рыжык і Сняжок. Яны ўтрох залезлі ў нейкую драўляную прыбудову, прыціснуліся адно да аднаго



і паспрабавалі заснуць, але ад холаду і голаду ім ніяк не засыналася.

Бліжэй да поўначы Чарныш успомніў пра Новы год і паведаміў сваім сябрам пра Дзеда Мароза, што ён усім дорыць падарункі і выконвае жаданні, і што менавіта ў навагоднюю ноч можа адбыцца нешта незвычайнае. Тады кацяняты загадалі свае жаданні. Рыжыку і Сняжку больш за ўсё хацелася смачна паесці, а Чарныш загадаў, каб браты-кацяняты набылі дом і сям'ю, а ён сам вярнуўся да дзяўчынкі Каці. Пасля гэтага кацяняты яшчэ шчыльней прыціснуліся адно да аднаго і, нарэшце, заснулі.

Чарныш прачнуўся ад рыпення снегу і звону бубеньчыкаў. Ён зразумеў, што гэта Дзед Мароз едзе на санях, і пабудзіў Рыжыка і Сняжка. У гэты час Дзед Мароз, разам са сваёй унучкай Снягуркай, пад'ехаў да кацянят на размаляваных прыгожым узорам санках, запрэжаных тройкай белых коней.

Дзядуля выканаў жаданне Рыжыка і Сняжка: смачна накарміў кацянят, а потым прапанаваў ім пакатацца на санях. Чарныш, Рыжык і Сняжок адразу ж згадзіліся. Яны аб'ехалі ўвесь свет, дапамагаючы Дзеду Марозу развозіць дзецям падарункі і выконваць усе дзіцячыя жаданні.

Вось быццам бы мяшок Дзядулі стаў зусім пусты, але Чарныш ведаў, што ягонае жаданне засталося нявыкананым, і цярпліва чакаў. І ў гэты самы час Дзед Мароз, Снягурка і тройка коней з санямі раптам зніклі, быццам іх і не было, а кацяняты апынуліся на тым самым месцы, дзе сустрэліся з Дзедам Марозам.

Сумныя кацяняты вырашылі, што казка скончылася, і што Дзед Мароз проста забыўся пра іх трэцяе жаданне. Не ведаючы, што далей рабіць, яны павольна ішлі па снезе і горка плакалі, як раптам на іх шляху з'явіліся тры дзяўчынкі-сяброўкі. Яны жылі непадалёк і выйшлі пагуляць. Адной з гэтых дзяўчынак была Каця, якая ўсюды шукала свайго Чарныша. А дзве яе сяброўкі таксама хацелі займець кацянят.

Як дзяўчынкі ўзрадаваліся, калі ўбачылі Рыжыка, Сняжка і Чарныша! Яны вырашылі, што адбыўся цуд і іх жаданні здзейсніліся, а Чарныш думаў, што гэта ягонае жаданне споўнілася. І ніхто з іх не здагадваўся, што часам жаданні могуць супадаць. Адна з дзяўчынак узяла да сябе Рыжыка, другая — Сняжка, а шчаслівая Каця падхапіла на рукі Чарныша. А пакуль яна несла яго дадому, Чарныш думаў, што Дзядуля Мароз заўсёды выконвае жаданні і ніколі пра іх не забывае. Трэба толькі верыць і чакаць!

***Святлана БУРВІН,***
***вёска Стайкі, Івацэвіцкі раён***

## Зімовыя казкі

***Мядзведзь і Заяц***

Жыў-быў мядзведзь. Як і ўсе яго суродзічы, кожны год клаўся ён на зімовую спячку. Так было і на гэты раз. Падрыхтаваўся мядзведзь ды і залёг у сваім берлагу. Спіць сабе, пасопвае, лапу смокча ды смачныя летнія сны бачыць.

Аднойчы ў час такога прыемнага занятку ён пачуў грук. Мядзведзь расплюшчыў адно вока, потым другое ды як зараве: «Хто мяне разбудзіў?!» Вельмі не любяць гэтыя звяры, калі нехта парушае іх сон.

— Гэта я, заяц! — пачулася звонку. — За мною галодны воўк гоніцца! Схавай мяне ад лютай смерці!

Мядзведзь быў добры і пусціў зайку да сябе. І не толькі пусціў, але і запрасіў да стала піць гарбату з мёдам. Доўга яны так сядзелі, размаўляючы пра надвор’е і цяжкасці зімовага жыцця-быцця.

Але потым мядзведзь захацеў спаць. Дамовіліся яны зноўку вясной сустрэцца, развіталіся ды адправіліся кожны па сваіх справах: мядзведзь у ложак, а заяц — корм шукаць.

Прыйшла вясна. Мядзведзь расплюшчыў вочы, пацягнуўся ды выбраўся з берлагу. Адчуўшы голад, ён падумаў: «А ці не схадзіць мне да зайца ў госці?»

Сказана — зроблена! Адправіўся мядзведзь да зайцавай хаткі.

Гаспадар быў вельмі рады госцю і пачаставаў яго смачнай зайцавай капустай.

Так яны сталі сябраваць і хадзіць адно да аднаго ў госці. Нездарма ж кажуць: «Аднаму і ў кашы не спорна».

***Навагодняя ёлка***

Адна лясная ялінка вельмі марыла стаць навагодняй ёлкай. Яна хацела, каб яе забралі з гэтага сумнага халоднага лесу, упрыгожылі бліскучымі шарамі і гірляндамі. Але кожны раз выбіралі для навагодняга балю іншыя ёлкі... і так крыўдна стала ад гэтага нашай ёлачцы, што яна заплакала.

Убачыла гэта вавёрка, залезла на дуб, паклікала звяроў.

Сталі яны думаць, як ператварыць ёлачку ў сапраўдную навагоднюю прыгажуню. Дружна ўсе ўзяліся за справу. Сарокі са сваіх куфэркаў дасталі бліскучыя цацкі, якія збіралі на працягу многіх гадоў. Снегіры павесілі на ялінку гронкі рабіны і каліны, а вавёрка папрасіла ў больш сталых ялін крышачку шышак і развесіла іх побач з гэтымі чырвонымі гронкамі. Ноччу Дзядуля Мароз пасерабрыў усё гэтае ўбранне прыгожым бліскучым інеем.

Пасля гэтага ў лесе пачалося сапраўднае свята. Лясныя звяры вадзілі вакол ёлачкі карагоды, птушкі ахвотна садзіліся на яе бліскучыя галінкі. Усе спявалі і весяліліся, а больш за ўсіх весялілася сама ёлачка, бо яе самая запаветная мара спраўдзілася.

Свята скончылася і ёлачка засталася ў лесе расці ды радавацца сонцу і святлу.

А дзе ж яе «шчаслівыя» сяброўкі, якіх людзі забралі з сабой на навагодні баль? У лес яны так і не вярнуліся...

***Паліна ЮРЧАНКА, Барысаў***



## Чароўныя фарбы

Жыла ў лесе разам з бацькам леснікам дзяўчынка Аленка. Летам яна ніколі не сумавала: гуляла па лясных сцяжынках, збірала, ягады і грыбы, любавалася прыгожымі кветачкамі. У яе было шмат сяброў сярод звяроў і птушак. Аленка разумела іх мову, расказвала лясным жыхарам пра свае справы, усяляк клапацілася пра іх. Але, калі надыйшла зіма, бацька забараніў Аленцы хадзіць у лес, і дзяўчынка часта сумавала дома адна. Даведаліся пра тое звяры з птушкамі і папрасілі Лесавіка, ляснога гаспадара, каб той дапамог іх маленькай сяброўцы.

Згадзіўся Лесавік, пачараваў трошкі і вось прачынаецца аднойчы Аленка, а на стале ляжыць каробка з фарбамі.

Раскрыла дзяўчынка каробку, а фарбы такія яркія, бліскучыя. Узяла яна пэндзаль і задумалася: «Што намаляваць?» За акном холадна, пахмурна, сонейка ўжо даўно не заглядвала ў акенца. Міжволі ўспомнілася лета, таму вырашыла яна намаляваць лясную палянку ўлетку. Намалявала сонейка — і ў хаце адразу стала светла. Потым намалявала елачку — і адчула пах яліны. Спачатку Аленка не звярнула на гэта ўвагі, але потым зразумела, што ў яе не звычайныя фарбы, а чароўныя. Што б яна ні намалявала, малюнак ажываў.

Дзяўчынка нікому пра гэта не сказала, бо ўсё роўна ніхто б не паверыў. Гэта была яе таямніца.

Тым часам набліжаліся Каляды. Аленка вызірнула ў акенца, за якім ліў моцны дождж, і здзівілася: «Як так? — падумалася ёй. — Што ж за свята без снегу?»

І вырашыла Аленка дапамагчы Дзядулю Марозу: узяла свае чароўныя фарбы і намалявала некалькі прыгожых сняжынак. Потым прыадчыніла фрамужку і выпусціла іх на вуліцу. Сняжынкі закружыліся ў віхоры, іх раптам пачало станавіцца ўсё больш і больш... Хутка ўся зямля пакрылася белай пушыстай коўдрай.

Аленка апранула футра і выбегла на вуліцу. Яна зляпіла снегавіка, які ўсміхнуўся дзяўчынцы і ветліва памахаў ёй рукой-галінкай.

А ва ўсіх бліжэйшых вёсках гулялі ў снежкі і радаваліся зіме дзеці. Але ніхто з іх так і не здагадаўся, хто дапамог надыходу сапраўднай зімы.

*Аліна КУРУНТУ, Барысаў*

# «Зубронак» сабраў юнкараў

***«Ох, якое ж свежае тут паветра», — падумалася мне, як толькі выйшла з аўтобуса «Мінск — Нарач». Свой першы прыезд у Нацыянальны дзіцячы цэнтр «Зубронак» буду памятаць яшчэ доўга. Накіравалася ў такое цудоўнае месца, якое называюць «краінай шчаслівага дзяцінства», па рэдакцыйным заданні. Уражанняў ад паездкі засталося шмат, таму лепш па-парадку.***



*Знаёмства з «Пераходным возрастом».*

## Загадкавае месца

У «Зубронку» ёсць легендарны камень, на якім маецца надпіс: «Тут 17 жніўня 1969 года адбылася першая зубраняцкая піянерская лінейка». Пад ім піянеры закапалі капсулу з пасланнем для наступных піянераў і іх важатых. Паглядзець пасланне плануецца ў далёкай будучыні. А пакуль усе дзеці, якія прыязджаюць сюды адпачываць, дакранаюцца да каменя і загадваюць сваё запаветнае жаданне.

— Зубраняты паважаюць традыцыі і законы, якія закладзены здаўна, — заўважыла педагог-арганізатар Юлія Мысько. — Безумоўна, у першаю чаргу, гэта песні, а таксама правіла вітаць усіх, хто знаходзіцца на тэрыторыі лагера: Добрай раніцы, добры дзень, добры вечар.

Мяне прывабіла такая цікавая і не зусім традыцыйная адметнасць: у дзвярах сталовай стаяць два чалавекі — яны кажуць табе: «Прыемнага апетыту. Шчаслівага дня!» і... «даюць пяць». Юлія Мікалаеўна расказала, што адзін хлопчык вітаўся толькі з тымі дзяўчынкамі, якія былі па яго меркаванні найпрыгажэйшымі. Вось такія рэчы сустракаюцца ў лагеры. Увага надаецца ў «Зубронку» і сваім законам.

«Закон зяляніны». Калі дзеці ходзяць па газоне, то павінны будуць падысці да жырафа, які знаходзіцца на сцяне, і папрасіць у яго прабачэнне, а сысці толькі тады, калі жыраф ім міргне — гэта будзе азначаць, што ён прабачыў.

— Але, зразумела, жыраф не міргне і не прабачыць іх, таму дзеці ў нас па газоне не ходзяць, — кажа Юлія Мысько.



*Прэзентацыя перыядычных выданняў, створаных да фестывалю-конкурсу «Свежы вецер».*

**Кацярына ВАСІЛЕНКА, Лельчыцы:**

**— У стварэнні зубраняцкай газеты выконвала ролю фотакарэспандэнта. Гэты занятак мне да душы, бо фатаграфія — маё хобі. Але ў будучай прафесіі перавагу аддаю інжынернай спецыяльнасці.**

**Дзіна МІХАЛАП, Магілёў:**

**— Пры стварэнні газеты «Exclusive» падрыхтавала «Падслухана ў «Зубронку», працавала над матэрыялам, які тычыўся спартыўнага жыцця лагера, а таксама ўдзельнічала ў журналісцкім даследаванні «Вядомыя асобы «Зубронка». Канешне ж, усе заданні выконваліся ў мабільным рэжыме, бо гэта частка работы журналіста, таму да гэтага трэба прывыкаць.**

**Крысціна БУДЗІЛОВІЧ, Гродна:**

**— У «Зубронку» створаны ўсе ўмовы, каб мы адчулі, хто такі журналіст, з якімі цяжкасцямі яму даводзіцца сутыкацца, як правільна задаваць пытанні падчас інтэрв'ю і г. д. У маім разуменні, журналіст — гэта той чалавек, які збірае праўдзівую інфармацыю, каб паведаміць людзям пра тыя ці іншыя падзеі.**

«Закон правай рукі» прадугледжвае, што, калі рука павернута адкрытай далонню да людзей — гэта знак пашаны, калі ж чалавек узнімае правую руку, значыць яму ёсць, што сказаць. На выкананне рэжыму накіраваны «Закон дакладнасці»: своечасова класціся спаць, уставаць, наведваць сталовую, не спазняцца на ўрокі і розныя мерапрыемствы.

## Пляцоўка талентавітых

Падчас майго прыезду ў дзіцячым лагеры дзейнічала змена «Зубрацкі карпункт», якая ладзілася з 17 кастрычніка па 6 лістапада.

— Удзельнікамі змены «Зубрацкі карпункт» з'яўляюцца дзеці, якія прайшлі адборачны тур IX рэспубліканскага фестывалю-конкурсу дзіцячых СМІ «Свежы вецер», — падкрэсліла куратар змены Таццяна Швайко. — Прагучала лічба 9, гэта азначае, што ўжо дзявяты раз запар, кожны год праходзіць журналісцкая змена. Цяпер у «Зубронку» адпачывае 326 юнкараў, якія цікавяцца журналістыкай і, магчыма, плануюць стаць журналістамі. Фестываль «Свежы вецер» уключае ў сябе конкурсы газет і часопісаў, радыё- і відэапраграм, фатаграфіі.

На маю думку, такія разнастайныя праекты ў сферы журналістыкі для дзяцей, якія імкнуцца спасцігнуць усе тонкасці гэтай прафесіі, будуць мець вынікі. Прыярытэтныя, як кажуць, задачы «Зубрацкага карпункту» накіраваны на тое, каб садзейнічаць фарміраванню навыкаў пошуку, адбору, перапрацоўкі, ужыванню і крытычнага асэнсавання інфармацыі пры дапамозе ўдзелу ў модульных праектах «СЛОва!» і «КОРПУС». У насычанай праграме змены прысутнічаюць заняткі па інтарэсах: «Акадэмія юнага журналіста», факультатыў «Юны аратар»... «Школа рэпарцёра» — добрая падстава для арганізацыі творчых сустрэч, майстар-класаў ад прафесіяналаў рэспубліканскіх СМІ.

Сёлета ствараць газеты, радыё- і відэапраграмы юнкарам з розных куткоў Беларусі дапамагалі без пяці хвілін дыпламаваныя спецыялісты — студэнты 4-га курса Інстытута журналістыкі БДУ Любоў Каспяровіч, Яраслаў Лыскавец, Вікторыя Міцько, Кірыл Шантыка. На некаторы час усклаўшы на сябе абавязкі галоўных рэдактараў трох карпусоў, яны накіроўвалі юнкараў у выбары тэм, дапамагалі вырашаць спрэчныя моманты, падказвалі, як і з чаго пачаць гутарку з чалавекам для атрымання неабходнай інфармацыі.

*Дар'я ШОЦІК,*
*фота Кацярыны ВАСІЛЕНКІ*

● **Літаратурныя старонкі**

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# Навагодняя Сняжынка

Доўга не прыходзіла зіма. Ужо і снежня прайшла палова, а снегу ўсё не было. Сумавалі без снегу дзеці, дрэвы ў лесе, сумавала матухна-прырода, і таму, пэўна, была яна нейкая незразумелая: ні зіма, ні восень... так, сярэдняе штосьці...

Але напаўзлі з поўначы шэрыя калматыя хмары, пасыпаў з іх на зямлю першы снег. Спачатку рэдкі і нясмелы, ён паступова ўсё мацнеў і мацнеў, і, нарэшце, пайшоў так густа, што ўсё навокал адразу ж пабялела. А снег усё ішоў, усё падалі і падалі зверху маленькія прыгожыя сняжынкі. Іх было такое мноства, і ўсе яны былі такімі рознымі... і не было сярод іх і двух аднолькавых...

Пра адну з гэтых сняжынак і будзе наша казачная гісторыя.

Сняжынка гэтая, як і ўсе яе сяброўкі, нарадзілася ў тоўшчы халоднай паўночнай хмары. Як гэта адбылося — Сняжынка не памятала. Яна памятала толькі, як расплюшчыла вочы і ўбачыла вакол сябе вялікае мноства іншых сняжынак. І ўсе яны паступова пакідалі хмару і павольна апускаліся кудысьці ўніз. І наша Сняжынка таксама адчула раптам, што не можа ўжо трымацца за хмару, што яе таксама цягне ўніз нейкая сіла... а што чакала яе там, унізе, гэтага Сняжынка пакуль не магла ведаць...

«Можа, ухапіцца за што-небудзь і паспрабаваць затрымацца тут?» — у роспачы падумала Сняжынка, але ўхапіцца не было за што, а тут яшчэ аднекуль наляцеў Вецер і, падхапіўшы сняжынкі, пацягнуў іх за сабой.

— Што гэта вы робіце?! — закрычала Ветру абураная Сняжынка, бездапаможна куляючыся ў паветры. — Куды вы мяне цягнеце?! Адпусціце!

Але Вецер яе не пачуў, бо вельмі ўжо маленькай была Сняжынка ў параўнанні з ім. Доўга нёс Вецер сняжынкі, спачатку над белымі дахамі вясковых хат, потым над полем, лесам... Тут ён павярнуў кудысьці ўбок, а Сняжынка разам са сваімі сяброўкамі пачала паціху апускацца ўніз.

«Куды гэта я патраплю? — падумала яна занепакоена. — І куды б мне лепш было патрапіць?»

Але пра тое Сняжынка пакуль не ведала. Ды і не толькі яна, аніводная са сняжынак не ведала далейшага свайго лёсу. Яны проста ляцелі, а дакладней, павольна падалі ўніз...

Самы незайздросны лёс адведзены тым сняжынкам, якія дасягнулі зямлі першымі. Апускаючыся на вільготную, не прамерзлую канчаткова зямлю, сняжынкі гэтыя імгненна знікалі, ператвараючыся ў дробныя кропелькі вады. А зверху на іх падалі ўсё новыя і новыя іх сяброўкі... і, нарэшце, надыйшоў такі

момант, калі сняжынкі ўжо не раставалі, а клаліся адна на адну, утвараючы бялюткае снежнае покрыва. Можна сказаць, што гэтым сняжынкам пашанцавала...

Нашай Сняжынцы пашанцавала больш. Яна не ўпала на зямлю, а павольна апусцілася на зялёную разлапістую галінку ёлкі, якая стаяла сярод невялікіх бярозак і асінак, і не проста стаяла, а прыкметна ўзвышалася над імі. Так што маленькай Сняжынцы, якая па волі лёсу апынулася на адной з самых верхніх галінак ёлкі, адкрываўся шырокі далягляд.

«А тут зусім няблага! — вырашыла Сняжынка, уладкоўваючыся зручней. — Тут і буду жыць!»

І яна сапраўды засталася жыць на яловай галінцы, не адна, праўда, а з некалькімі сваімі сяброўкамі, якія таксама апусціліся побач. А снег зверху ўсё ішоў і ішоў... усё апускаліся і апускаліся на зялёную яловую галінку новыя сняжынкі. І хутка іх зрабілася так шмат, што яловая галінка пачала нават хіліцца пад іх цяжарам. А сняжынкі ўсё ляцелі і ляцелі зверху...

— Што вы робіце?! — абурана закрычала на іх Сняжынка. — Шукайце сабе іншае месца, нас тут і так занадта!

Але ў іншых месцах сняжынак таксама было больш, чым занадта. Ды і не маглі маленькія сняжынкі выбіраць месца для сваёй вымушанай пасадкі. Умеючы толькі падаць, яны, на жаль, зусім не былі прыстасаваны да самастойнага палёту...



І нашай маленькай Сняжынцы давялося змірыцца з прысутнасцю на яловай галінцы іншых сняжынак. А іх сабралася тут так шмат, што ёлка з зялёнай паступова ператварылася ў белую. І добра яшчэ, што снегапад нарэшце спыніўся і з-за хмар вызірнула нясмелае зімняе сонейка.

І адразу ж сняжынкі, і на зямлі, і на дрэвах, весела заіскрыліся, заблішчэлі, пераліваючыся ўсімі колерамі вясёлкі. Але наша маленькая Сняжынка нічога гэтага, на жаль, не бачы-

ла. Прыціснутая да галінкі мноствам сваіх сяброvак, яна не магла нават паварушыцца, не тое, каб зірнуць уверх...

«Ну, што ж! — сумна падумала Сняжынка. — Галоўнае, што я не растала і не зламалася. А цяпер паспрабую заснуць!»

І яна заснула. Праспала ўвесь дзень, і наступны, і дзень, які надыйшоў услед за ім...

Наша маленькая Сняжынка і сама не магла сказаць, колькі ж часу яна праспала. Можа, тры дні, а можа, і ўсе дзесяць. Але прачнулася яна таму, што яловая галінка раптам здрыгнулася, ды так моцна, што не менш за палову сняжынак сарвалася з яе зялёных іголачак і пасыпалася ўніз. І адначасова пасыпаліся ўніз сняжынкі з усіх суседніх галінак, ахутваючы белым халодным пылам чалавека з сякерай, які стаяў пад ёлкай.

Але чалавек не звярнуў на гэта аніякай увагі. Ён зноўку ўзмахнуў сякерай... і ялінка зноўку здрыгнулася ўсімі сваімі галінкамі.

Яшчэ адзін узмах сякеры... і Сняжынка зразумела, што засталася на галінцы ў поўнай адзіноце. З аднаго боку гэта было не так і кепска... але чалавек з сякерай зноўку ёй узмахнуў — і на гэты раз ялінка не проста здрыгнулася, а даволі адчувальна нахілілася набок.

— Эй, там, унізе! — усхвалявана выгукнула Сняжынка, звяртаючыся да чалавека з сякерай. — Хопіць свавольнічаць!

Чалавек з сякерай яе, вядома, не пачуў. Ён яшчэ некалькі разоў ударыў сякерай — і ялінка ўпала. А разам з ёй упала і маленькая Сняжынка, але, што самае дзіўнае, яна па-ранейшаму працягвала моцна трымацца за галінку, якую пачала лічыць ужо родным домам.

Так, разам з ялінкай, маленькая Сняжынка патрапіла ў горад, дзе ялінку ўстанавілі пасярод плошчы і багата ўпрыгожылі бліскучымі рознакаляровымі шарамі і гірляндамі.

Назіраючы за ўсім гэтым, Сняжынка ніяк не магла зразумець, навошта гэта робіцца. А вечарам, калі на плошчы зайграла музыка і ёлачныя гірлянды засвяціліся яркімі рознакаляровымі агеньчыкамі, маленькая Сняжынка вырашыла, што нічога прыгажэйшага яна ў сваім кароценькім жыцці яшчэ не бачыла. Вакол смяяліся і танцавалі людзі: дзеці і дарослыя. Яны вадзілі вакол ёлкі вясёлы карагод і віншавалі адно аднаго са святам. І Сняжынка са сваёй галінкі таксама віншавала ўсіх з Новым годам, хоць і не ведала, што гэта такое. І нават тое, што ніхто з людзей так і не змог пачуць яе віншаванне, Сняжынку ні кропелькі не засмуціла.

А потым начны ветрык раптам калыхнуў галінку і Сняжынка, не ўтрымаўшыся, паляцела ўніз.

«Што ж я нарабіла! — спалохана падумала яна. — Вось звалюся пад ногі і мяне растопчуць!»

Але атрымалыся так, што Сняжынка апусцілася на чырвоную рукавічку маленькай дзяўчынкі, якая стаяла побач са сваёй мамай і глядзела на зіхатлівыя агеньчыкі. Магчыма, таму яна не адразу разгледзела на сваёй рукавічцы Сняжынку.

— Мама, паглядзі! — радасна ўсклікнула дзяўчынка, убачыўшы, нарэшце, сваю маленькую госцю. — Што гэта?

— Гэта сняжынка! — сказала мама дзяўчынцы. — Бачыш, якая яна прыгожая!

— Вельмі прыгожая! — згадзілася дзяўчынка. — А давай возьмем яе дадому!

«Правільна! — згадзілася ў думках з дзяўчынкай Сняжынка. — Вазьмі мяне да сябе і мы будзем сябраваць! І разам гуляць у вясёлыя гульні!»

Але мама дзяўчынкі толькі засмяялася, пачуўшы словы дачкі.

— Сняжынка не можа жыць у доме, — сказала яна. — Там для яе занадта цёпла.

— І што? — спыталася дзяўчынка.

— А тое, што яна проста растане!

— Не жадаю таяць! — з жахам ускрыкнула Сняжынка. — Не хачу да вас! Хачу назад, на сваю галінку!

Але ні мама дзяўчынкі, ні сама дзяўчынка не пачулі галаску Сняжынкі.

— Я прыдумала! — усклікнула раптам дзяўчынка. — Мы пакладзем сняжынку ў халадзільнік, і тады яна будзе жыць доўга-доўга! Да самага лета!

«Выдатная ідэя! — ухваліла Сняжынка. — Ведаць бы толькі, што такое халадзільнік і лета?»

Але мама дзяўчынкі толькі адмоўна пахітала галавой.

— Не выдумляй! — сказала яна дачцэ. — Халадзільнікі існуюць зусім не для гэтага! А сняжынку мы лепш зноўку вернем на елку.

— Правільна! — згадзілася дзяўчынка. — Бо гэта ж не простая сняжынка! Гэта — навагодняя сняжынка!

І яна, ушчыльную падыйшоўшы да елкі, асцярожна страсянула Сняжынку са сваёй рукавічкі на адну з ніжніх галінак.

А ноччу пайшоў снег і ў Сняжынкі зноўку з'явілася шмат сяброваk-сняжынак, і яна ім вельмі ўзрадвалася...

Але гэта ўжо зусім іншая казачная гісторыя

## ЗВЯРТАЕМСЯ ДА ЮНЫХ МАСТАКОЎ!

***Калі хочаце ўбачыць свае малюнкі ў часопісе — дасылайце іх нам. Можна паштоўкамі на адрас «Маладосці» (з пазнакай «Бярозка»). Ці па электронных адрасах: BJAROZKA@MAIL.RU альбо MALADOST@BK.RU. Запрашаем усіх, хто любіць маляваць, высылаць на нашы адрасы свае малюнкі да «Казак са школьнага ранца». Для гэтага трэба перачытаць казачныя гісторыі, надрукаваныя ў восеньскіх нумарах часопіса і ў снежаньскім. Не забывайце паведамляць свой хатні адрас і тэлефон, а таксама назвы казак, да якіх створаны тыя ці іншыя малюнкі. Лепшыя малюнкі ўпрыгожаць старонкі будучай кнігі.***



● Мерапрыемствы

# Урокі — на ўсё жыццё

***Кажуць, што няма нічога бліжэй за заўтрашні дзень і далей — за мінулы, які ўжо ніколі не вернецца. І ў мяне іншым разам бывае настальгія па колішніх часах і школьных мерапрыемствах, калі нас выхоўвалі і вучылі не толькі бацькі і настаўнікі, але і людзі-суседзі ды землякі, справы якіх былі для нас прыкладам. Пры ўсёй занятасці дарослыя не шкадавалі часу, каб прыйсці на пазашкольнае мерапрыемства, падзяліцца жыццёвым і прафесійным вопытам, даць старшакласнікам разумны наказ ці параду. Можа таму нас і не палохала будучыня, што мы ведалі пра «сто дарог, якія рассціраліся перад намі», і былі ўпэўнены, што на адной з іх — калі пастараемся — абавязкова дасягнём сваёй мэты і знойдзем месца пад сонцам. Надзея на добры заўтрашні дзень надае ўзнёсласці і ўпэўненасці!..***

Пазней, у сталым узросце, мне вельмі хацелася, каб і ў маіх дзяцей, цяперашніх старшакласнікаў, недзе між клопатамі пра кантрольныя зрэзы і тэставыя заданні, між зносінамі ў інтэрнэт-прасторы з віртуальнымі сябрамі былі шчырыя, аптымістычныя, павучальныя сустрэчы з рэальнымі людзьмі, словы якіх краналі б, а справы — захаплялі. Гэта збылося.

На зыходзе восені ў актавай зале СШ № 2 Драгічына прайшло мерапрыемства, якое стала адной з самых запамінальных і яркіх падзей сучаснага школьнага жыцця. На сустрэчу з прадстаўнікамі навучальных устаноў раёна — педагогамі і старшакласнікамі — прыехалі дастойныя прадстаўнікі нашай мясцовасці — героі кніг «Землякі» і «Стваральнікі», аўтарам якіх з’яўляецца ўраджэнец вёскі Гутава Уладзімір Сітуха.

## Перадгісторыя

Зрэшты, менавіта адтуль, з Гутава, усё і пачалося. З гэтай вёскі выйшаў вядомы беларускі паэт Мікола Федзюковіч, пад апякунствам якога выпроставалі крылы для творчага палёту многія тутэйшыя аматары мастацкага слова. У іх ліку быў і яго аднавясковец Валодзя Сітуха.

Мікола Федзюковіч не дажыў да гэтага дня, але памяць пра яго застаецца. Гэтай вясной яго ўдзячны сябра, загадчык рэгіянальнага прадстаўніцтва рэдакцыйна-выдавецкай установы «Выдавецкі дом «Звязда», старшыня абласнога прадстаўніцтва Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Уладзімір Мікалаевіч Сітуха разам з настаўнікамі роднай Гутаўскай школы арганізавалі літаратурнае мерапрыемства, прысвечанае светлай памяці земляка-паэта Міколы Федзюковіча. Падчас размоў з педагогамі і ўзнікла ідэя зрабіць такія сустрэчы больш масавымі. Пазней ініцыятыва знайшла падтрымку

ў «Выдавецкім доме «Звязда», у абласным Саюзе пісьменнікаў і на ўзроўні мясцовай улады. Увасобіць задуму ў жыццё і правесці маштабнае свята дапамагла выкладчыца беларускай мовы і літаратуры СШ № 2 Драгічына, таленавіты і творчы чалавек Таццяна Наумчык, а таксама яе калегі і вучні. І сустрэча стала сапраўдным гімнам любові да роднага слова і бацькоўскай зямлі, да людзей-землякоў і абранай прафесіі...

## Героі нашага часу

Мерапрыемства пачалося з вершаваных радкоў Уладзіміра Сітухі, якія добра перадавалі настрой прысутных:

Да драбніц на Зямлі ўсё разлічана
Мы дамоў прыбаўляем хады.
Хараство і дзівосы Драгічына
Ў палон узялі назаўжды...
Тут падгоены яркім мурогам
Пазнаю землякоў я здалёк...
Да ўрослага ў сэрца парога
Сам сабой прыбаўляецца крок.

На гэтым самым прыстанку, які завецца роднаю старонкай, да якога заўжды хочацца вяртацца, у той суботні дзень сабраліся землякі, сярод якіх — прадстаўнікі ўлады, гаспадарнікі і вытворцы, літаратары і дзеячы культуры. Для кожнага з іх — і для тых, хто прыехаў, і для тых, у каго па нейкай прычыне не атрымалася наведаць родны куточак, — у кнізе Сітухі знаходзіцца добрае слова.

Час на сэрцы загойвае раны
Не адзіны рубец ужо знік.
Вельмі рана стаў партызанам
Хлопчык Вася з мястэчка Галік...

Такое прысвячэнне ён адрасаваў старэйшаму ўдзельніку сустрэчы, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Васілю Літвінчуку. Сам жа Васіль Андрыянавіч расказаў прысутным пра нялёгкае дзяцінства і пра тое, як пазней пісаў дакументальную кнігу «Там, за Днепрабугам», у якой узгадваецца больш за 2 000 імёнаў патрыётаў.

Добрую славу сваімі працоўнымі поспехамі заслужыў сельгаскааператыў «Імянінскі», які ўзначальвае ўраджэнец вёскі Малінаўка Уладзімір Сухарэвіч. Але ж у кнізе «Землякі» адзначаны не толькі працоўныя дасягненні, але і іншыя заслугі Уладзіміра Аляксандравіча:

Ходзіць слава такая ў народзе
(чуў ад многіх пра гэта я сам):
Быў рабочым, прарабам Валодзя,
Калі дружна ўзводзілі храм.

Пры непасрэднай падтрымцы старшыні сельгаскааператыва на тэрыторыі СВК «Імянінскі» закладзены сквер у гонар 2000-годдзя Хрысціянства і пабудаваны дзве новыя царквы: Богаяўленская — на цэнтральнай сядзібе, і Свята-Троіцкая — у вёсцы Зёлава. Не вельмі даўно Уладзімір Сухарэвіч аба-

раніў навуковую працу і стаў кандыдатам сельскагаспадарчых навук, а сёлета сельгаскааператыў пад яго кіраўніцтвам трапіў у лік пераможцаў рэспубліканскіх «Дажынак». Калі ў Сухарэвіча запыталі пра сакрэт яго поспеху, ён зазначыў, што яшчэ ў школе, пачынаючы з сёмага класа, вырашыў, што стане аграномам. І з цягам часу ўсё больш пераконваецца, што «ёсць адзіны шлях да поспеху — палюбіць сваю прафесію і справу, якой займаешся. Бо да чаго ляжыць душа — да таго і рукі прыложацца».

З асоб, якія істотна паўплывалі на яго жыццёвы выбар, Уладзімір Аляксандравіч адзначыў свайго аднавяскоўца Мікалая Крывецкага. «На той час ён толькі скончыў дзесяцігодку і ўзначаліў нашу Малінаўскую брыгаду. І мае бацькі, гледзячы на яго сялянскую гаспадарлівасць, спраўнасць і ўвішнасць, неаднойчы мяне настаўлялі: «Бяры з яго прыклад», — зазначыў Уладзімір Сухарэвіч.

Жыта сеяў шчэ са жмені
Ды так хораша спяваў...
Ён пад песні ўсе ступені,
Кажуць людзі, перабраў...

Гэты ўрывак з кнігі «Землякі» прысвечаны Мікалаю Крывецкаму, які працаваў на розных сельскагаспадарчых, а пазней — і дзяржаўных пасадах, быў намеснікам старшыні аблвыканкама, узначальваў свабодную эканамічную зону ў Брэсце. Аднак на сустрэчы са школьнікамі Мікалай Анатольевіч акцэнтаваў увагу на іншым: няма найвышэйшага абавязку, чым дапамагчы кожнаму, хто мае ў тым патрэбу. Хаця некаторыя, як заўважыў прамоўца, «імкнучыся выбіцца ў людзі, настолькі выбіваюцца з сілы, што ім ужо не хапае сілы, каб застацца чалавекам». Таму прысутным школьнікам ён даў наказ не забываць пра свой галоўны выбар: на ўсякай жыццёвай дарозе заставацца добрымі, спагадлівымі людзьмі.

Гісторыю пра тое, як бацька — вясковы селянін — падахвоціў да вучобы, расказаў сваім юным слухачам былы пракурор раёна, аўтар некалькіх кніг Анатоль Дзенісейка. Яго сям'я жыла ў Вульцы Антопальскай, і да пэўнага ўзросту асаблівай ахвоты да вучобы, па-ўласным прызнанні Анатоля Іванавіча, ён не праяўляў. «Не хочаш вучыцца — ідзі працаваць», — сказаў яму бацька, і на лета ўладкаваў сына на бліжэйшы цагельны завод. «А я нашу тую цэглу, напрыканцы дня ледзьве ногі перастаўляючы ад стомы, і зайздрошчу трактарысту, які сядзіць і кіруе тэхнікай. Так вось і прыйшло ўсведамленне, што трэба больш сур'ёзна брацца за навуку», — падсумаваў Анатоль Іванавіч.

А вось пра тое, як ён стараўся збегчы ад свайго таленту, школьнікам распавёў тутэйшы мастак Пётр Мыслівец. Нягледзячы на схільнасць да малявання, першапачаткова Пётр пайшоў вучыцца на трактарыста, працаваў на цаліне, потым вярнуўся ў родныя мясціны і ўладкаваўся вадзіцелем у ветлячэбніцы. Але паўсюль, дзе ён ні ездзіў, меў пры сабе блакнот, у якім занатоўваў упадабаныя пейзажы. Урэшце творчасць узяла верх над сумненнямі, і ў далейшым жыцці Пётр Сцяпанавіч паспеў намаляваць больш за 4 000 карцін. Апошнім часам, па прызнанні мастака, кожны свой юбілей ён адзначае не шырокім застоллем, а выставай новых работ, адна з якіх і сёння праходзіць ў гарадскім Доме культуры.

На сустрэчы прысутнічалі і выступілі землякі-літаратары: старшыня абласнога Саюза пісьменнікаў, рэдактар Іванаўскай раёнкі «Чырвоная звязда» Анатоль Крэйдзіч; паэт, стваральнік літаратурнага альманаха «Гоман» Мікалай Трафімчук; аўтар твораў, прысвечаных беларускім касманаўтам, журналіст і пісьменнік Мікалай Панасюк.

Удзельнікі мерапрыемства мелі магчымасць пазнаёміцца з заслужаным дзеячам культуры, мастаком-эмальерам, лаўрэатам прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», ураджэнцам Вулькі Антопальскай Мікалаем Кузьмічом, якому наканавана было аднавіць страчаную святыню — крыж Еўфрасінні Полацкай, паслухаць заслужанага дзеяча мастацтваў, дырэктара Брэсцкага Акадэмічнага тэатра драмы імя Ленінскага камсамола, дырэктара і арганізатара Міжнароднага фестывалю «Белая вежа» Аляксандра Казака, які родам з Цыбак. А Пётр Масальскі, які нарадзіўся і вырас у Хомску, цяпер узначальвае аб'яднанне «Брэстаблсельбуд», калектыў якога мае дачыненне да будаўніцтва Дома культуры ў райцэнтры, школы ў Бездзежы і многіх іншых аб'ектаў.

Шчырымі апладысментамі прысутныя віталі і свайго земляка Антона Стэльмаха, якому ў вершах Сітухі даецца наступная характарыстыка:

На ўсё Гошава славуты
Быў сваёю дабрынёй,
І цяпер людзей пакуты
Ён здымаць умее ёй...

Антон Сцяпанавіч працаваў на Драгічыншчыне, узначальваў наш раён, цяпер ён — кіраўнік справамі аблвыканкама. І пры гэтым застаецца такім жа добразычлівым, спагадлівым і даступным для землякоў чалавекам.

На рахунку гэтых людзей нямала добрых спраў. А галоўная задача — адказнасць за будучыню грамадства, вартасці якога вызначаюцца не толькі колькасцю матэрыяльных набыткаў, але і духоўнасцю грамадзян. Дзеля гэтага нашы паважаныя землякі знайшлі час прыехаць, пазнаёміцца, пагаварыць са сваімі юнымі нашчадкамі, настроіць іх на спагадлівыя, душэўныя адносіны да іншых, на стваральныя справы. І для многіх прысутных старшакласнікаў гэта вечарына спрыяла не толькі далучэнню да літаратурнай спадчыны, роднай мовы і нацыянальных каштоўнасцей, але і пераасэнсаванню маральных прыярытэтаў і жыццёвых арыенціраў. Сустрэча ў школе дала маладым падставы ганарыцца, што яны родам з Драгічыншчыны, адкуль выйшла нямала знакамітасцей.

## Замест эпілога

Арганізатары мерапрыемства ў сваю чаргу паабяцалі, што такія сустрэчы стануць традыцыйнымі. «У Лунінецкім раёне ёсць "Лунінская восень", а ў нас няхай будзе "Драгічынская вясна"», — зазначыў Уладзімір Сітуха. І гэтая навіна — цёплы астравок надзеі напярэдадні халоднай зімы...

***Галіна ШАФРАН,***
***фота Івана ЛЯОНЧЫКА***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 46 800 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 19 100 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 59 300 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 13 500 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.12.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 13,88. Тыраж 2329 экз. Заказ . Кошт нумара ў розніцу 16 600 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**